*...бо дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша.*

*Ад Мацвея. VI, 21*

# Над фотаздымкам

Зроблены ён улетку трыццаць шостага года, пра што гаворыць надпіс на адвароце, у вёсцы Рачка́ны на Ляхавіччыне, што дадам цяпер.

Гэтую вёску тады я ўжо ведаў: мы з братам хадзілі туды на год раней.

Маці казала, што ў нашых з Мішам паводзінах «усе свечкі загараюцца ад яго, старэйшага». Так было з нечаканым вяртаннем з гімназіі і захапленнем філасофіяй Льва Талстога, з дзіўным і смешным для вёскі вегетарыянствам, так было і з паходам у тыя невядомыя Рачканы, на спатканне з малёванцамі. Уладзімір Кот, наш намнога старэйшы сябар з Міра, добратакі нагаварыў нам пра тых рачканскіх «аднадумцаў», з якімі ў яго была такая ўжо дружба, што «панская» паліцыя ў сваіх пратаколах, якія захаваліся ў архівах, і самога яго называла малёванцам. Да «свечак», якія і сапраўды шмат у чым загараліся ад схільнага да захапленняў Мішы, трэба дадаць і маё ўзроставае падпарадкаванне яго аўтарытэту, а яшчэ і тую ўласцівасць майго характару, якая праяўлялася ў сяброўстве не толькі з братам: я лёгка, а то і залішне лёгка паддаваўся ўплыву таго, з кім сябраваў і хацеў сябраваць. Так было і паўтаралася пазней, у розных жыц-

цёвых абставінах, а ў маленстве і раннім юнацтве — быў адзін Міша.

З Рачканамі, апроч ягонага ўплыву і сваёй у мяне цікавасці, было яшчэ і жаданне пабачыць свету, выйсці ў новае, вольнае. Наша жыццёвая прастора ў той час распасціралася ў адзін бок, на ўсход, на трыццаць кіламетраў, да павятовых Стоўбцаў, куды я аднойчы вазіў у бальніцу старую цётку, маміну сястру, на захад — на сорак, да ваяводскага Наваградка, дзе і я пакаштаваў гімназіі, на поўнач — у Налібоцкую пушчу, куды мы за дваццаць — дваццаць пяць кіламетраў ездзілі зімой па дровы, дзеравякі або жэрдзе, а на поўдзень — толькі нейкіх дзесяць да вёскі Крышылоўшчына, дзе жыў наш другі, таксама намнога старэйшы сябар-аднадумец, бацька люднай ды небагатай, працавітай сям'і Якаў Ваўчок, кнігалюб, што вучыўся ў мірскім гарадскім вучылішчы, а потым спакваля сабраў нямала добрых кніжак, якімі шчодра пазычаўся. Ну, а тыя Рачканы, што таксама на поўдні і нешта на шэсцьдзесят кіламетраў далей — колькі яшчэ Беларусі, да таго ж у пышнай красе пачатку пагодлівага лета!..

Што ж да Мішы, дык у яго, апроч агульнага для нас абодвух, было яшчэ і толькі сваё, вельмі нялёгкае, што мы з ім аніяк не маглі падзяліць пароўну. Ён толькі што прайшоў прызыўную камісію, якая «здала» яго ў кавалерыю, а туды бралі ўвосені. Яно, хутчэй за ўсё, можа здарыцца якраз у гэтую восень, а ён цвёрда намерыўся адмовіцца ад вайсковай службы як пацыфіст, за што будзе суд і турма... Задумацца было над чым. І ў гэтым нашым паходзе, які хто-небудзь вясёлы мог бы назваць і прошчай, Міша, старэйшы за мяне на тры гады, адчуваў патрэбу больш чым краязнаўчую...

Тое, што ў нас гэтымі днямі, пасля веснавой работы, перад сенакосам, ішло перасыпанне хлявоў, з на-

нятымі двума цеслямі з суседняй вёскі, не здавалася нам перашкодай. Сёмуха — тры дні свят з дадаткам, «градавой серадой»,— думалі справіцца. На адзін дзень усё ж перабралі, за што нагарэла ад маці, пад справядлівае маўчанне брата Колі, яшчэ не жанатага гаспадара, што ўвосені вярнуўся з вайсковай службы, і пад стрыманае недаўменне цесляў, дарэчы, нашых дваюрадных братоў, старэйшых за нас і сямейных.

Цяпер я тую «распусную» дзіўнасць нашых паводзін бачу нібы нават староннімі вачыма, скрозь пэўную паблажлівасць да юначай наіўнасці думаю, што ў нас тады інакш быць і не магло,— без пошукаў, без імкнення да глыбейшага сэнсу жыцця...

І так — Рачканы.

Секта малёванцаў узнікла ў канцы мінулага стагоддзя на Кіеўшчыне. Душою яе быў Кандрат Аляксеевіч Малёваны (1845—1913), малапісьменны кіеўскі мешчанін-стальмах, рэлігія якога ўся была ў любові да брата-чалавека і да жывых істотаў, адкуль і пайшло і адмаўленне ад службы ў войску, ад удзелу ў любой вайне, а таксама і вегетарыянства. За свае пропаведзі Малёваны доўгімі гадамі пакутаваў у шпіталях для псіхічнахворых, катаваўся царскай паліцыяй, але ў веры сваёй быў нязломны. За яго і ягоных паслядоўнікаў заступіўся Талстой і іншыя прадстаўнікі перадавой рускай інтэлігенцыі, што абумовіла веданне малёванцаў і за мяжою. У чатырохтомным дзённіку «Яснополянские записки» славака Душана Маковіцкага, сябра Льва Мікалаевіча і яго асабістага лекара, Малёваны і малёванцы згадваюцца часта. Талстой высока цаніў этычна-маральны стрыжань веры гэтага прадстаўніка народных нізоў, яго цвярозае адмаўленне ад містыкі, у 1907 годзе ў Яснай Паляне сустракаўся з Кандратам Аляксеевічам, яго вясёлай пявуння сястрой і талковым сынам, шаўцом, ахвотна і

многа, паважліва гутарыў з імі, з прыемнасцю слухаў іх «божественные песни, заунывные, похожие на малороссийские народные». Пры ўсім гэтым вялікі пісьменнік і мысліцель крытычна ставіўся да адмоўнага ў малёванстве, скажам, да іх адмаўлення культуры і да асобы іх кіраўніка, якога паслядоўнікі называлі нават «Спасителем», «Христом», а той не надта супрацiўляўся, а да прарочых «писаний» Малёванага наогул адносіўся іранічна.

На Беларусь, зрэшты, толькі ў Рачканы, малёваншчына прыйшла дзякуючы рачканцу па прозвішчы Болтуць, які служыў салдатам у Фаставе пад Кіевам, сустракаўся з малёванцамі і самім Малёваным, і вярнуўся адтуль настолькі апантаным, што захапіў новай верай ці не большую палавіну вялікай паўночна-палескай вёскі. Імя і па бацьку таго Болтуця, якога ў трыццаць пятым ужо не было, я забыўся. Як быццам Іосіф, Юзік. Затое перад вачыма і цяпер стаіць адна незвычайная паперына — надрукаванае і пропісам запоўненае пасведчанне, выдадзенае Болтуцю пра тое, што ён па сваіх рэлігійных перакананнях сапраўды не можа прымаць удзелу ў вайне са зброяй і таму службу ў Чырвонай Арміі павінен адбываць санітарам у заразным шпіталі. Даведка падпісана ўпаўнаважаным па справах веравызнанняў Уладзімірам Чартковым, адным з найбліжэйшых сяброў і аднадумцаў Л. М. Талстога, а законную сілу гэтай даведцы давала надрукаваная на адвароце спасылка на адпаведную пастанову Савета Народных Камісараў ад 4 студзеня 1919 года — што мне запомнілася дакладна — за подпісамі Леніна і Бонч-Бруевіча. Такая вось гісторыя!..

На даўнім ужо, фармаце паштоўкі, здымку ў цэнтры невялікай групы рачканцаў — іхні высокі госць, Іосіф Вігдорчык, публіцыст Бен-Адам, прадстаўнік на Польшчу сусветнага пацыфісцкага «Интернационала

противников войны». Са свайго Беластока ён спачатку прыехаў у Мір, да Ката, адтуль да нас з Мішам, у Загора, а тады ўжо ў Рачканы. У нас ён спаў у гумне, на свежым сене (чым не раскоша ў параўнанні з душнай хатай!), аднак прастудзіўся, выглядае пасвойму ссутуленым ды яшчэ вусата-панураватым, хоць па натуры ён дабрадушны, нават крыху сентыментальны і вясёлы.

Гаспадар глінабітнай, пабеленай хаты, на рагу якое сабралася група — адзін са старэйшых, актыўнейшых малёванцаў Вінцусь Вінель, з дзіцем на каленях, лысаваты дзядзька з гогалеўскай усмешкай пад вусамі.

Яго маладзейшага брата Пятра, якога мы з Мішам бачылі годам раней, на здымку няма. Інтэлігентны і майстравіты, прыемны ў гутарцы мужчына са сваёй гаспадарлівай жонкай і яшчэ недарослымі дзецьмі, ён падаўся ў Парагвай. Гаварылася — на разведку. Пачаўшы ці не з Баранавіч, а то і з найбліжэйшай чыгуначнай станцыі Рэйтанава,— на сушы, на моры і на месцы ўжо, у пажаданых, вымараных прэрыях поўнай свабоды,— Пятрусь вёў дзённік. Па-гаспадарску грунтоўна расказваючы ў ім пра ўсё, робячы справаздачу і дапаможнік у падарожжы для тых, хто накіруецца следам за ім. Былі там і шчырыя, паэтычныя адхіленні з гумарам і красою ўсяго пабачанага, да парагвайскіх кветак і матылёў уключна. Гэтыя рускамоўныя запісы ён прыслаў брату Вінцусю ці непасрэдна Вігдорчыку, а той размножыў іх на сваёй нястомнай машынцы. Адна гусценькая, на тоненькай паперы копія таго унікальнага дзённіка цалкам у мяне не захавалася, толькі першыя ды апошнія старонкі, сам не магу ўцяміць, чаму іменна так. А вельмі шкада, бо гэта ж цікава было б апублікаваць, балазе ў нас ёсць ажно тры часопісы пра родную гістарычную мінуўшчыну ды спадчыну.

Вінцусь Вінель пазней падасца таксама за акіян. Сын ягоны, падлетак Казік, які на здымку, да таго часу крыху пасталее, а потым і шчасліва ўратуецца ад злачыннага вайсковага абавязку. Быў і такі разлік у братоў Вінеляў наконт лёсу сыноў, у чым яны абодва нам прызналіся.

Чарнявы Міша Ка̀сель, з энергічна складзенымі на грудзях, да лакцёў аголенымі рукамі бондара, стаіць амаль зусім у профіль. Успамінаю наша знаёмства ў той сёмушны дзень.

На малітвенным зборы малёванцаў, якраз у гэтай пабеленай хаце, песні адразу нагадалі мне даўно знаёмае — «сабранія» пяцідзесятнікаў, пасля апісаныя мною ў «Праведніках і зладзеях», іхнія песні і пропаведзі па хатах, у тым ліку і ў нашай вёсцы, а больш у суседніх Маласельцах, дзе ў трыццаць пятым годзе «братья верующие», сярод якіх і добрыя цеслі, столяры былі, пабудавалі ладны малітвенны дом, які, дарэчы, стаіць, на святы гучыць у садзіку і сёння. Толькі ж спявалі рачканцы на свой, як падумалася тады, палескі лад, з большай цягучасцю і пэўным «падвываннем» у канцы. І песні ў іх — не з песеннікаў, якія пяцідзесятнікам прысылаліся з Амерыкі, а са складзенага жонкай Чарткова «Сборника песен и гимнов свободных христиан», там былі, з нотамі, і рускія народныя песні, і даўно любімая мною «Молитва» Лермантава — «В минуту жизни трудную», і ўпершыню пачутая, ледзь не маршава бадзёрая песня на словы Някрасава «Средь мира дольного для сердца вольного есть два пути», і песні на словы іншых, больш ці менш знаёмых паэтаў, рускіх і замежных. Была і песня, аўтар якое не запомніўся,— пра пахаванне Льва Мікалаевіча, што да «мурашак на целе» ўразіла мелодыяй і словамі, найбольш такое страфы:

И роет могилу лопата,
и сыплется желтый песок,

и горем полмира объято —
преставился русский пророк...

Што яшчэ здзівіла тады, дык гэта мноства рабых ад воспы, «е» замест «ёсць», абсечанасць у назвах: «паехаў у Баранавіч», «быў у Ляхавіч» і сёе-тое іншае. Пяцідзесятнікі, напрыклад, вітаюцца словамі «слава нашаму Госпаду», а малёванцы «слава Богу», звяртаюцца таксама: «брат», «сястра», аднак яшчэ і цалуюцца, як родныя пасля доўгай разлукі.

Людзей у хаце, хоць і не малой, было поўна. Душна і потна. Побач са мною дзябёлая дзеўка, рабая ад воспы, рыжая і шчодра потная, у песнях галёкала як за ўвесь гурт. І Міша Касель, праціснуўшыся да мяне, вельмі дарэчы кіўнуў, каб выйсці, а за парогам прапанаваў прайсціся. Ад хутарскога хаты Вінеляў мы памалу, гамонячы, пайшлі ў поле... Ад тых, у каго мы з братам спалі першую ноч, па Евангеллю зайшоўшы ў самую першую ў вёсцы крайнюю хату, я ўжо ведаў, што Касель, на сем гадоў старэйшы за мяне, нядаўна вярнуўся з турмы, дзе адбываў пакаранне за адмову служыць у войску. З яго намёкаў, уздыхаў, усмешак і больш адкрытай шчырасці я адчуў яго пэўнае расчараванне і ў пацыфізме, і яшчэ больш у малёваншчыне, у якой за такімі вось спевамі, братаннем-сястраннем з пацалункамі была і проста вёска, як і ўсе навокал, з шэрай будзённай беднасцю, з нейкім трохі багаццем у адных і зайздрасцю ў другіх, з цемрай і варажнечай, не толькі дробязнай, бабскай, але і больш агіднай у праявах, да боек і судоў уключна...

Праз два гады пасля гэтай гутаркі, наведаўшы Рачканы на веласіпедзе, ды адзін, бо Міша мой сядзеў у турме, я запісаў у блакноце, а дома перапісаў у дзённікавы сшытак, які захаваўся:

«Малёванцаў ужо няма. Засталося некалькі сем'яў вегетарыянцаў, дый то яны спыняюцца толькі на вегетарыянстве, а матэрыяльная няроўнасць ужо не

рэжа ім вочы... Чытаюць мала, дзяўчаты зусім не чытаюць. Многія нават не ведаюць, хто такі быў Малёваны. Бібліятэка разабрана, на руках, добрую частку яе Пятрусь Вінель павёз у Парагвай, частка, як хлопцы кажуць, «у музеі М.» (цяпер, цытуючы запіс, не магу ўспомніць, чыё гэта прозвішча), частка ў Вінцуся Вінеля і патаемна рыхтуецца да вывазу ў Парагвай. Ад дзяўчат і маладзейшых хлопцаў аддае пустатой. Старэйшыя хлопцы выйшлі з абшчыны. Мужчыны крывадушнічаюць. Старыя ад Малёванага набраліся адмаўлення навукі, мастацтва, музыкі. Забубёныя «матэрыялісты» і сектанты...

Словам, прыехаўшы да іх з наіўнай надзеяй адпачыць душою, падмацавацца — робіцца сумна і ўзнікае пытанне: «Чым жа вы адрозніваецеся ад усіх людзей? Ці варта ехаць да вас за 60 кіламетраў?.. Паедзе Міша Касель у Парагвай, Вінель — таксама, толькі з-за Пашкі і буду тут калі-небудзь...»

У брэсцкае «więzienie karne», дзе наш Міша з вясны трыццаць сёмага сядзеў, адмовіўшыся ў баранавіцкім пяхотным палку не толькі ўзяць зброю, але і надзець салдацкую форму, пісаць можна было толькі адзін раз у месяц. Таму мае пісьмы яму былі вялікія, пісаў я іх у свабодны ад работы час, на працягу двух-трох вечароў. Па-журналісцку кажучы, цэлая «хроніка бягучых падзеяў», прытым, для большай зручнасці для пана цэнзара, на рускай мове. Пісаў я свайму пакутніку, вядома, і пра расчараванне ў малёванцах, і пра тое, як я падзяліўся гэтым расчараваннем з Вігдорчыкам і як ён мне адказаў. Цытую ў перакладзе:

«Твае заўвагі пра «растайванне» рачканскай абшчыны, пэўна ж, правільныя. Ды гэта, відаць, і непазбежна, і патрэбна. І тое, што адбываецца ў ёй, мусіць, лепш, чым рабіцца чаму-небудзь штучнаму, з намерам утрымаць у цэласці «шкарлупіну» (абшчыну). Уся справа цяпер у тых нешматлікіх паасобных

птушанятах, здольных выконваць сваё прызначэнне, якія вылупіліся з яйка (абшчыны). Аднак пры гэтым нам не трэба забывацца, што Богава сіла дзейнічае ў людзях і не заўважна для нас».

Да такіх «птушанят» належаў і Пашка, пра якога я пісаў Мішу:

«Слаўна мы з ім гутарылі начамі ў яго каморцы, куды ён заходзіў «прысыпàць» мяне. Ён мяне любіць, што асабліва паказаў пры развітанні».

Дарэчы, у той каморцы, рана прачнуўшыся, я і запісваў пра сваё расчараванне.

Яшчэ адно «дарэчы» — пра рачканскую бібліятэку. Там былі не ат сабе выпадковыя кнігі, што трапілі, як у нашым Загоры, да паасобных сялян у «мікалаеўскую» вайну, пасля афіцэраў-франтавікоў, і не з маёнткавых пакояў у «свабоду» — кнігі малёванцам, асабліва выданні славутага «Посредника», з абедзвюх серыяў: для простага і для інтэлігентнага чытача, прысылаліся па пошце і дастаўляліся рачканскімі хадакамі з Масквы, магчыма, нават з Яснай Паляны, пачынаючы з гадоў далёка перадваенных і да першых савецкіх, з нейкай яшчэ свабодай кантактаў. У гэтым сэнсе з асаблівай павагай і чуласцю старэйшыя рачканскія малёванцы прыгадвалі імя жонкі Чарткова, Ганны Канстанцінаўны, іх апякункі і заступніцы, жанчыны высакароднай, таленавітай і ў слове, і ў музыцы. З тое іхняй, без перабольшання кажучы, бібліятэкі нам з Мішам, а потым ужо мне аднаму, таксама прыйшлося сім-тым пажывіцца. Між іншым, Касель падарыў мне тады, у трыццаць сёмым, пераплецены том нумароў часопіса «Голос Толстого и Единение» за 1918 год. Але ж, на жаль, наша загорская бібліятэка ўся вайны не прайшла...

Ці не назаўтра пасля майго запісу ў Пашкавай каморцы ён пазнаёміў мяне з яшчэ адным аднавяскоўцам, Янкам Патаповічам, рэвалюцыянерам і літа-

ратарам, таварышам Максіма Танка па Вільні, пра што Максім згадвае ў сваіх «Лістках календара». Не толькі ён адзін. У кнізе публіцыстычнай спадчыны вядомага журналіста Якуба Міско «Маё маўклівае сэрца» змешчана цёплае слова пра Патаповіча, «Хлопец з вёскі Рачканы». З ім Якуб Герасімавіч сябраваў і ў віленскай беларускай гімназіі, і ў рэвалюцыйным падполлі. Не надта моцны паэт з псеўданімам Янка Чабор, Патаповіч у самым пачатку 1934 года быў адказным рэдактарам першага і апошняга нумара часопіса «Літаратурная старонка», легальнага органа «Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў», з-за гэтага апынуўся на Лукішках, а ў роднай вёсцы, пакуль ён сядзеў, сёй-той і пасмейваўся: «За ўсё адказвае Янка Патаповіч». У трыццаць сёмым ён ужо быў на волі, не дасядзеўшы сваіх пяці гадоў да канца, дзякуючы амністыі, аб'яўленай пасля смерці Пілсудскага.

Вось як пісаў я Мішу ў вышэйзгаданым пісьме пра гэтае знаёмства:

«Пазнаёміўся ў Рачканах з выдатнай асобай — Янкам Патаповічам. Шчыры, просты, сімпатычны хлопец! Ён друг Максіма Танка па школе і па ідэі. Чытаў у яго нецэнзурныя Танкавы вершы і знайшоў у іх многа сапраўднай красы і сілы. Але правільных, ясных адносін да жыцця няма, штосьці неакрэсленае, што прызнае і Янка. Прагаварылі мы з ім ноч у Мішы Каселя, а ўдзень у канцылярыі іхняга каапературыва «Społem», у чыстым пакоі ў яблынях, дзе Янка жыве...»

Прачытаў я тады «На этапах», выратаваны з канфіскаванага тыражу экземпляр, падараваны Патаповічу з аўтографам. А наконт «чагосьці неакрэсленага» ў Танкавай паэзіі цяпер магу дадаць толькі тое, што і Максім у пазнейшых, мінскіх гутарках са мною пра Патаповіча гаварыў прыблізна таксама, намякаючы

на тое, што сямейны, маляванскі, і шырэйшы, талстоўскі, уплыў на сябра яго маладосці быў усё-такі прыкметны.

Напрадвесні 1988 года мне давялося некалькі дзён пабыць у адной бальнічнай палаце разам з Крапівой. На сваім дзевяноста пятым годзе Кандрат Кандратавіч, зусім аслабелы, сляпы і глухі, любіў пагутарыць пра справу нашага жыцця, па-свойму павольна, удумліва, з яснай галавою. Тады ён мне сказаў: «Зайздрошчу вам, што вы ўсё запісвалі і цяпер запісваеце. А я не запісваў, і вось калі не ўсё, дык большасць усяго і забыўся...»

Запісваў я многа, нямала пісьмаў пісаў і ў юнацтве. Ды вось жа, як на тое, у трыццаць восьмым годзе і дзённік мой заглух, нейкія два-тры кароткія запісы, і пісьмы не захаваліся. Асабліва шкада тых штомесячна-вялікіх ды грунтоўных пісьмаў у брэсцкую турму... І не магу цяпер жыва ўспомніць сваю апошнюю перадваенную паездку ў Рачканы, таксама ў жніўні і на ровары. Каселя ўжо не было, Вінеля таксама, аднак жа былі і Пашка Болтуць, і Патаповіч, былі нашы гутаркі. Я прыязджаў да яго са сваімі рукапісамі, мы іх, трэба думаць, чыталі, абмяркоўвалі маю задуму выдаць зборнік апавяданняў, у чым ён браўся мне дапамагчы, і рэдагаваннем, і віленскімі выдавецкімі знаёмствамі. Ад усяго гэтага ў мяне застаўся толькі рукапіс перакладу апавядання Гаршына «Чатыры дні», які я пасылаў яму і атрымаў, адрэдагаваны па маёй просьбе, з невялічкай рэцэнзіяй у канцы, якую хочацца працытаваць. Як сумна-цёплы напамін пра яшчэ адно сяброўства, абарванае лёсам.

«Паважаны сябра Брыль! Выбач, браток, што так доўга не даваў табе адказу на твой пераклад. Павер, што завалены па вушы рознай работай, ня маю ані хвіліны вольнага часу, проста збоку можна і не паверыць. Але, прачытаўшы тваю сёння паштоўку, адла-

жыў усё другое набок і перагледзеў твой пераклад, робячы сякія-такія папраўкі. Наогул пераклад нязгоршы. Цэлая бяда ў тым, што ты хацеў і хочаш «упростить» Гаршына, хацеў яго, як сам ты выражаешся, «апрацаваць». І вось іменна гэта выйшла не на карысць перакладу. Бо Гаршын такі просты і надзвычай удала апрацаваны, што кажды, хто бярэцца яго ўпрошчваць, толькі скрывіць простае. Найлепш было б для твайго перакладу, каб ты амаль даслоўна трымаўся арыгіналу. А тваё адыходжанне ад арыгіналу было або лішнім, або і не дакладным. Таксама непатрэбна ты ўнікаў некаторых расійскіх слоў, каторыя ўжываюцца і ў беларускай мове, і заступаў тыя словы іншымі, часта горшымі з пункту гледжання таго, што аўтар хацеў імі выразіць. Аб дэталях не буду пісаць, бо на гэта трэба было б шмат часу зужыць. Пры першым спатканні захапі з сабой гэты пераклад, і мы яго абгаворым. На пунктуацыю не зварочваў асаблівае ўвагі з тым намерам, што ты і сам пры перапісцы на чыста — шмат чаго зменіш. Я хацеў бы толькі пачытаць пераклад тады, калі ты ўжо здэцыдуеш друкаваць, г. зн. у апошняй яго рэдакцыі.

Ну і на тым канчаю. Навін асаблівых няма. Пры аказіі перадай прывітанне Кату.

З пашанай

Р-ны, 10 сакавіка 1939 г. Янка Патаповіч».

Праз тыдзень пасля атрымання гэтага рукапісу з рэцэнзіяй-прыпіскай дробненькім почыркам я пайшоў у войска. Пішучы мне, Янка не ведаў, што якраз у адзін з тых дзён, калі ён мною займаўся, я атрымаў «kartę powołania». А ці пісаў я яму з казармаў — не памятаю.

Увосень сямідзесятага года мы з Уладзімірам Каленікам ездзілі ў Рачканы на машыне,— шукаючы слядоў таго «шчырага, простага, сімпатычнага» хлопца. Пасля вайны я дачуўся, што ён быў вывезены

з акулачанымі бацькамі і родзічамі ў саракавым ці сорак першым годзе на ўсход і там, у ссылцы, загадкава прапаў. З дзвюх сем'яў вярнуўся толькі ягоны дзядзька з жонкаю. У іх па-простаму, па-шчыраму гасціннай хаце з прыемным здзіўленнем пачулася, што яны, Патаповічы, на выгнанні пасябравалі сем'ямі з Алесем Пальчэўскім і яго Тамарай Цулукідзе. Хораша гаварылі добрыя, працавітыя людзі, Богу душой невінаватыя пакутнікі, пра іншых, таксама невінаватых, пакутнікаў — пісьменніка-беларуса і артыстку-грузінку. А потым у Мінску і ад Алеся Восіпавіча я пачуў пра гэтых былых малёванцаў словы прыязныя, з ягонай усмешкай належнага разумення. А вось пра Янку дзядзька ягоны, бацькаў брат, нічога асаблівага, не вядомага мне не расказаў.

У нуднаватых восеньскіх Рачканах, распытаўшы Патаповічаў пра рэшткі знаёмых, мне захацелася ўбачыць адну з найбольш мілых, пявучых рачканскіх дзяўчат, Пашкаву сваячку Настуню. Познім адвячоркам мы з Валодзем наведалі яе хутарок, дзе я з ёю, загараванай, запрацаванай удавой, трохі паўспаміналі. А цяпер вось зноў прыгадалася, як мы пад ручку з семнаццацігадовай Настуняй у гурце расспяванай моладзі ішлі з Вінелевага хутара ў вёску, палявой дарогай каля сцяны высокага ельніку, пад буйнымі зоркамі і нашай маладосці...

Але вярнуся да здымка.

Пакуль ехаць у Парагвай, перад гэтым ажаніўшыся, разбагацеўшы на сына, Міша Касель некалькі дзён гасцяваў у нас зімою, на пачатку трыццаць шостага. Паспеў зрабіць хвацкі цабэрак, які яны майстравалі з Мішам удвух, больш гаворачы ды смеючыся, чым тыя клёпкі габлюючы ды складаючы ў абручы. Удвух яны і паспрачаліся з папом і дыяканам, якія прыехалі з Турца «па калядзе» і самі, похапкам адмаліўшыся ў нашай хаце, навязалі «заблудшим толстовчикам»

спрэчку на рэлігійныя тэмы. Абодва гарачуны, бондар і памагаты, спрачаліся з бацямі без мяне,— я не любіў такога, тым больш і нашай набожнай маме сынава ды госцева задзірыстасць не спадабалася. «Ну, калі ўжо ты адзін з другім лоба перахрысціць не хочаш, дык хоць жа памаўчы, перачакай...» Так, мне здалося, думала яна на мяне, хоць і я не хрысціўся, крыўдуючы менш. Потым, калі маці, надарыўшы «калядінікаў», кудысьці сышла, мне лепш было пасмяяцца з таго, як наш Касель удала імітаваў то здаравеннага, вахлакаватага бацюшку, то танклявага прыгажуна дыякана з яго падкрэслена рускімі, частымі «допустим» ды «положим», у што мы, рагочучы над стружкамі, укладвалі іншы сэнс, з улікам папоўскіх, не ўсюды зручных, апрана́хаў...

Потым, калі сказаць карацей, мы некалькі гадоў перапісваліся, Касель пісаў нам і з Рачканаў, і з Парагвая, спачатку абодвум у Загора, потым, адзін раз, Мішу ў турму, калі я ўступіў яму свой месяц, а мне дахаты і ў войска, пакуль нягодніца-вайна не перашкодзіла, пакуль ён у той экзатычнай далечы без пары не памёр, пра што мы пачулі выпадкова і з вялікім спазненнем.

Цяпер, нарэшце, больш пра Пашку, які на здымку ва ўсёй сваёй шаснаццацігадовай сталасці. З Настуняй ён дваюрадны па матках, а па бацьку пляменнік таго Болтуця, з якога пачалася рачканская малёваншчына. На тры гады маладзейшы за мяне, светлы, шчыры хлапчына, якога, як і Каселя, воспавая падзюбанасць не рабіла брыдчэйшым. Мы перапісваліся, ён двойчы наведаў наша Загора, першы раз удвух з Віналевым Казікам на веласіпедах, а другі раз адзін. На адным з фотаздымкаў, зробленым у Міры, Пашка бачыцца паміж мною і паэтам Алесем Мілюцём,— я рады быў іх пазнаёміць. У канцы сорак чацвёртага года Пашка ваенным трохкутнікам цераз Загора

знайшоў мяне ў Мінску, пісаў мне зрэдку, як падпаручнік артылерыі Войска Польскага, а потым пісаў і з Польшчы, дзе застаўся. Напрадвесні семдзесят трэцяга года, гасцюючы ў Лодзі, у свайго польскага сябра, пісьменніка і перакладчыка Мацея Канановіча, я наведаў Пашку ў недалёкім Александрове. І тая наша сустрэча, праз трыццаць дзевяць гадоў, кажучы шчыра ды сумна, прыемнага ўражання на мяне не зрабіла. Ах, вайна,— скажам яшчэ раз,— колькі яна накруціла ды накарэжыла!.. Колішні весела адкрыты, сардэчны Пашка, ляхавіцкі паляшук, ушчэнт ды павярхоўна апалячаны,ператварыўся ў брава-банальнага **камбата́нта,** бяздзетнага ветэрана-пенсіянера, якім яго ў тым гарадку, на той вуліцы ведалі ўсе, у чым мы пераканаліся, распытваючы па назве ды нумары.

Гады праз два мне напісалі пра яго смерць...

У тым самым пісьме, цераз Польшчу, упершыню праз мноства гадоў быў згаданы і той падлетак на фотаздымку, Казік Вінель, які ў Парагваі стаў заможным ранчаўладальнікам, з гордым зямляцкім пералікам раскарчаваных гектараў і багатага пагалоўя. Пра бацьку і дзядзьку Пятра з яго сям'ёю там не было напісана...

Яшчэ аднаго рачканца на здымку, ладнага з выгляду дзецюка, па-будзённаму босага і з прастадушнай усмешкай, не магу прыпомніць.

І вось, яшчэ раз — нарэшце, будзе ў мяне і той, з-за каго і захацелася пісаць гэты ўспамін,— дзевяцігадовы Вігдорчыкаў Уладзік, «плод грешной любви» Іосіфа з нашмат маладзейшай за яго, прыгожай і мілай Нюсяй, машыністкай, што стала яго другою жонкай.

Уладзік, названы так па дружбе бацькі з Уладзімірам Катом, прыгожанькі па маме. Галоўку нахіліў, прыкленчыўшы спераду на адно калена. У нашай

хаце з ім спачатку быў клопат — зусім няежны. Пакуль пытанне не вырашылася вельмі проста — славутымі наваградскімі аладкамі (згадаем «Новую зямлю»), якія так прыйшліся гарадскому адзінцу даспадобы, што ён прасіў іх у «бабушки» кожны дзень. Да мяне ён лашчыўся — і цяпер вось жыва адчуліся яго малечыя пацалункі.

У студзені трыццаць восьмага я гасцяваў у Вігдорчыкаў, з Брэста, пасля спаткання з Мішам у турме, «заглянуўшы» ў Беласток. Некалькі дзён зачытваўся то ў Іосіфавым рукапісным архіве, то каля кніжных паліцаў. Гутарыў з ім, ужо ляжачым, глыбока ў душы, шчасліва і сцішнавата ганаручыся тым, што вось жа і не баюся яго туберкулёзу. Удзень Нюся была на працы, Уладзік на вучобе. Калі яны вярталіся, мы ўтраіх пазнавата і сціпла абедалі, а потым гаспадыня пасылала нас удвух прайсціся так сабе або ў кіно. Ён ужо быў першакласнікам-гімназістам, у акуратнай сіняй форме, прыемна і цікава шчабятлівы. І маме дапамагаў. Падмятаючы неяк у суседнім пакоі, ён памалечы крыкліва спяваў: «И кто со щеткой по квартире шагает, тот никогда и нигде не пропадет!..» І ў Польшчы моднае тады, савецкае «Легко на сердце от песни веселой». На слове «квартире» спявак, як сёння чую, спатыкнуўся і крыкнуў маме ў кухню, спытаўся, як па-руску «mieszkanie», на што пачуў спакойны адказ сваёй нястомнай, мужнай мамусі. Дома ў іх мова была руская, але ж і польская школа рабіла сваё.

Тры дробязі з дзён іхняга гасцявання ў Загоры.

Калі я адвозіў гасцей на станцыю Гародзей, мы з Іосіфам «восседали» на чорна-цыратавым сядзенні з металічнымі парэнчыкамі, а Уладзік прымасціўся ў перадку, на сене, засланым святочнай дзяругай-перабіранкай. Каля павароткі на гасцінец былі тады старыя глінішчы, парослыя нізенькай густой травою,

дзе наша палавіна вёскі пасвіла свіней, з чаго, калі напісаць па-анкетнаму, і я пачынаў сваю працоўную дзейнасць. Убачыўшы статачак, белы, чорны, рабы і розных узростаў, а тым больш тое, як адзін з пастушкоў, нібы спецыяльна, каб пахваліцца перад намі, з'ехаў на сваёй, не задаволенай гэтым, дзюдзі з зялёнага ўзгорачка верхам, Іосіф расчуліўся: «Какая прелесть! Как в сказке братьев Гримм!..» Праз чвэртку веку, пазней, калі ўжо я купіў сваім дачушкам тоўсты грымаўскі том, казкі той не знайшоў, дый не надта шукаў, а расчуленасць помніцца.

Другое — як наша мама гаспадыніла з гарадскімі, шаноўнымі гасцямі. Па адэскай памяці, былі і варэнікі, з вішнямі і з тварагом. І калі я перабраў у сваёй ветлівасці — пачаў накладаць тых варэнікаў на талеркі, яна кіўнула мне выйсці ў кухню-бакоўку і там шапнула: «Гэта ж павінен рабіць кожны сам сабе!..» Не злосна, але з дакорам, строгая ва ўсім.

І трэцяе. У поле мы хадзілі цераз двор Паўлюка Ламана, якога я паапісваў багата: ён і Ячны ў «Забалоцці», і Алісей Цівунчык у «Ніжніх Байдунах», і сталары Пятрусь у «Глядзіце на траву». Чалавек каларытны, дасціпны, аптыміст у сваёй шматпакутнасці. У адзін з тых вігдорчыкаўскіх дзён я вяртаўся з поля, а ў Паўлюковым гумне, дзе ішла малацьба ў два цапы, якраз надарылася паўза, відаць, пераварочвание снапоў у пасадзе. Пачуўся голас дзядзькавага сына Колі, па мянушцы Цюліка. Бацька кніжкі чытаў, браў у нас, чалавек бывалы і на службе ў царскай арміі, і на франтах «мікалаеўскай», а Цюлік, трохі старэйшы за мяне, пяць гадоў запар, пакуль зусім не абрыдзела і самому яму, і настаўніку, шнураваў у першы клас. А так ён быў дзяцюк спакойны, цягавіты. Дык вось у паўзе — мне на хаду пачулася з гумна — Цюлік спытаўся: «Тато, а праўды гэто, што кажуць, што гэты, што ў Брылёвых,— жыд?» Бацька або не

пачуў яго, або адказаў яму цішэй, а то і адмахнуўся нечым падобным на «ну і хрэн з імі!». Зразумей тут, хто гэта і чаго ён у іх, у гэтых святых дзівакоў. Дый няма калі разбірацца. Цапы загупалі зноў. Работа важная дый неадкладная — падсушанае на прыгуменным сонцы жыта акалочваюць на першы, доўгачаканы хлеб...

Што ж, дробязі ў мяне. У параўнанні з тым, што трэба гаварыць далей.

Толькі ўлетку сорак сёмага года ў Скідзелі я пачуў, як загінулі Уладзік і Нюся. Іосіфа ўжо не было трэці год, калі прыйшоў той векапомны чэрвень сорак першага, і, на шчасце, не было — каб яму не бачыць таго, што адбылося.

Нейкаму немцу не спадабаўся ў натоўпе сагнаных яўрэяў прыгожы юначок, і ён вельмі проста, звычайна застрэліў яго.

А маці ў роспачы кінулася на забойцу...

•••••

Гэта было б і ўсё над даўнім фотаздымкам, каб у мяне, апроч яго, не захаваліся яшчэ і тры старонкі, запоўненыя знаёмым, цяжкаразборлівым почыркам чалавека, у якога ўжо ад нямогласці трэсліся рукі. Тры старонкі чырвоным чарнілам, а тады яшчэ некалькі старонак хімічным алоўкам, дзе мой почырк, тады яшчэ з правым нахілам,— рускія тэксты першых апавяданняў з чырвонай, нязначнай праўкай.

Хочацца напісаць, што Іосіф — нейкі сваяк вядомага рускага скульптара Марка Антакольскага і савецкага паэта Паўла Антакольскага. Калі пра сваяцтва з першым я чуў перад вайной, дык пра другога, што ён таксама скульптару радня, даведаўся толькі ў пяцідзесятых гадах. Нават збіраўся, праўда, не вельмі настойліва, пазнаёміцца з масцітым Паўлам

Рыгоравічам, каб спытацца ў яго пра Вігдорчыка. Не сабраўся.

Перад вайной аўтарытэт нашага беластоцкага сябра як літаратара быў для нас з Мішам і так, без спасылкі на знатнае сваяцтва, дастаткова высокі. Ягоны і Валянціна Булгакава, апошняга сакратара Талстога. А ўсё ж і знатны скульптар, пра якога мы чыталі і рэпрадукцыі ягоных твораў бачылі, ■ тым больш недасяжна вялікі і такі любімы Леў Мікалаевіч значнасць нашых жывых аўтарытэтаў хвалююча падмацоўвалі. З Булгакавым Вігдорчык перапісваўся, пісаў яму ў Чэхаславакію і пра нас, копіі гэтых пісьмаў я бачыў у яго архіве. Ён жа наладзіў нашу перапіску з Валянцінам Фёдаравічам, якая ў мяне працягвалася і пасля вайны, да яго апошніх дзён у Яснай Паляне.

І мне, калі я пачынаў, вельмі хацелася пачуць аўтарытэтнае і, вядома ж, пахвальнае слова пра мае спачатку вершы, а потым і апавяданні. Брата Мішы і сябра Мілюцё было мне замала, і ■ даваў свае рукапісы Ваўчку. Аднак Якаў Марцінавіч, заўсёды важнавата спакойны, сказаў мне толькі пра «некаторыя граматычныя памылкі». Даваў і Кату, але ён, чыгуначны тэхнік па адукацыі, быў ці глухаваты на мастацкае слова, ці вартым чытання лічыў толькі рэлігійную мудрасць. Пасылаў я вершы і на Скідзельшчыну, былому грамадаўцу Данілу Скварнюку; адмысловы пячнік, весела-мудры кнігалюб, ён па-сяброўску арыентаваў мяне на Багдановіча, пра што я ўжо ўдзячна згадваў у «Сваіх старонках» за 1973 год.

І вось у пачатку трыццаць сёмага года — да знаёмства з Янкам Патаповічам — я асмеліўся звярнуцца са сваім дабром і да Вігдорчыка. Паслаў яму першыя варыянты таго, што даўно ўжо друкуецца ў маіх кнігах — апавяданні «Як маленькі», «Проста і ясна», «Сустрэча», для большай зручнасці пераклаўшы іх на рускую мову. Можа, толькі для самога Іосіфа, а то,

чаго добрага, і з далейшым прыцэлам — на Булгакава...

Працытую, не перакладаючы, водгук толькі на апавяданне «Як маленькі», якое спачатку называлася «Хараство».

«Красота» — очень хорошо,— пісаў ён.— Очень трогательна жалость к живому существу, хотя бы такому отдаленному от человека, как паук, и душевная боль от того, что приходится разрушать такой огромный труд этого существа. Написано просто, хорошим народным языком. Очень хороши, правдивы слова Ганны, и потому картина вполне естественна, художественна... Очень возможно, что у тебя, Ваня, дарование художественное более всего направлено на простое — первым делом для детей — выражение таких вот картинок любви и жалости. И это очень хорошо было бы, если это так. По присланному тобой с радостью вижу, что у тебя есть внутреннее «чутье», ограждающее тебя от сентиментальности и всякой надуманной жалости. Посоветовал бы тебе работать в этом направлении — собирать материал, записывать слышанное, перерабатывать и самому создавать».

Ён распазнаў, угадаў маё запаветнае, якое я ўжо і сам невытлумачальна радасна адчуваў, падтрымаў мяне ў гэтым — з літаратараў першы.

Не збылося толькі яго пажаданне стаць мне дзіцячым пісьменнікам, чаго я хацеў і сам.

*1994*

# Пра наіўнасць

«Наіўны — які не мае, не набыў жыццёвага вопыту, непасрэдны, прастадушны». (Наш Тлумачальны слоўнік.)

«Naiwny — odznaczający się prostotą, szczerością, nie mający doświadczenia, mało uświadomiony, łatwowierny». (Польскі Słownik wyrazów obcych.)

«...Прямой и невинный, простой, простодушный, простосердечный, милый за простоту, привлекательный простотою; ребячески прямой, детски откровенный...» (Непараўнальны Даль.)

•••••

— Ці пан сам разумее тое, што мне гаворыць?

Гэта пачуў я вясной трыццаць сёмага года ў Баранавічах на вакзале, калі з напісаным там заказным пісьмом ткнуўся... у акенца чыгуначнай касы.

Тут, праўда, была ў мяне не святая або цялячая прастата, а вялікае хваляванне, глыбокае абурэнне тым, што ў «арэшце сьледчым» мне не далі спаткацца з братам Мішам. Напісаў яму і пра гэта, і пра тое, што збіраўся сказаць на спатканні, наіўна думаючы, што заказное пісьмо яму не могуць не перадаць.

А месяцы праз два, на судзе, і гэтае маё пісьмо

зачытвалася, далучанае да справы ў якасці абвінаваўчага дакумента.

Наіўным, скажам цяпер, было і маё выступленне на тым вайсковым судзе.

Сведкам абвінавачання выступіў дзябёлы плютановы 78-га пяхотнага палка, у нясвежых «дралі́хах» і начышчаных грукачах-чаравіках. Ён па-службоваму далажыў, што «пабаровы» Брыль Мі̇хал, калі яму было загадана зняць сваё цывільнае адзенне і надзець «со́рты мундуро́вэ», упарта адмовіўся і сказаў, што і зброі таксама не возьме, і ў войску служыць не будзе. Закончыўшы гэтым «не бэндзе», пан плютановы, з не вельмі панскім выглядам, дзергануўся «на ба́чнасць» і, як і раней, усхапіўшыся для даклада, завучана хлёстка ляснуў абцасамі.

Міша ў нязнятай хатняй вопратцы, але ўжо і праз тры месяцы пасля арышту з нейкім сцішнавата няхатнім выглядам,— не памятаю, ці перад плютановым, ці пасля яго даклада,— спакойна, але паволі і неяк трохі напружана расказаў, чаму ён адмаўляецца служыць,— што гэта — яго перакананні.

Пракурор, каротка-тоўсценькі маёрчык, і ў сваёй абвінаваўчай прамове, і ў рэпліках быў калюча-з'едлівы, прыкметна задаволены сваёй дасціпнасцю. Ну, і ківаў на ўсход, не толькі на Талстога, але яшчэ шырэй, далей, сучасней. Мішын расказ ён перабіў і так:

— Сядзеш у крэпасць — гэта будзе не партрэцікі маляваць, там табе зубкі пачысцяць!..

Спатканне ў тым «арышце», дзе Міша сядзеў да суда, мне другім разам дазволілі, і ён перадаў мне некалькі зробленых там малюнкаў, два з якіх дагэтуль захаваліся. Партрэт алоўкам суседа па камеры — грубаваты валявы твар і разгорнутая кніга на дужай далоні; і не пазіруе чалавек, а сапраўды чытае. Другі малюнак — з памяці, прыемна думаецца, што

пра мяне. Каляровымі алоўкамі. Малады сейбіт з поўным хвартухом насення, у белай расшпіленай кашулі, залішне святочных ботах і — яшчэ раз залішне — узнёсла-прыгожы, паэтычны. Даты: 20 і 21 мая. Гэта дапамагло мне ўспомніць, што суд адбыўся ў палавіне чэрвеня.

Малюнкі гэтыя і некалькі іншых, якія памятаю цьмяна, пан пракуратар, вядома ж, бачыў.

Калі мне дазволілі слова, як непрадбачанаму сведку апраўдання (не памятаю, ці быў хоць які адвакат), маё звонка-палкае выступленне ён перабіў таксама:

— Во, будзе яшчэ адзін апостал пана Гандзі!..

Махатму, як і Талстога, Міша называў у сваім выступленні.

Рэплікай карантыш і мяне не спыніў, і смеху ці ўсмешак у важных суддзяў ад гэтага досціпу не прыпамінаю.

Чуецца мне затое голас старшыні таго выязнога (з Брэста ў Баранавічы) суда, пажылога, саліднага палкоўніка, які таксама, як і Міша, спакойна, ды ледзь не са спачуваннем сказаў, што «ў хлопца тут вінаваты яго бедныя пераконанні». Памятаю даслоўна.

Мішу далі васемнаццаць месяцаў вайсковай турмы, роўна столькі, колькі тады служылася ў пяхоце, каб пасля адбыцця тэрміну зноў, як нічога ніякага, паклікаць на службу... Пра гэта на судзе гаворкі не было, з гэтым я забягаю наперад.

Вігдорчык, якому я тое сваё выступленне,— вядома ж, на польскай мове,— па памяці запісанае дома, паслаў, неўзабаве прыслаў мне ў Загора яго машынапісную копію, разам з копіяй па-руску напісанага мною апісання суда, што ён тым часам накіраваў, калі за даўнасцю не памыляюся, у Лондан, дзе быў адпаведны цэнтр «Интернационала противников войны».

Тыя руска-польскія копіі апісання з маім выступ-

леннем, як і нямала другіх значных рэчаў з нашага з братам даваеннага пацыфісцкага архіва, мы ў канцы сорак дзевятага ці ў пачатку пяцідзесятага года, баючыся майго арышту, у які былі прычыны трывожна верыць, спалілі ў Мішынай хаце, дзе ўсё такое ў наіўнай свабодзе захоўвалася.

Праз усю чарнату недарэчных падазрэнняў і «сяброўскіх» паклёпаў я тады шчасліва прайшоў. Колькі ўсё гэта каштавала — тут не буду. Скажу другое:

Як мне хацелася б цяпер перачытаць тую юнацкую наіўнасць!..

•••••

Можа, крыху не да месца, але з усмешкай дадам, што ў тым баранавіцкім прывакзальным рэстаранчыку, дзе я абедаў, здаўшы сваё заказное пісьмо, я ветліва панёс пустыя талеркі туды, адкуль яны былі прынесены не мною. Маладая падавальніца сустрэла мяне якраз у кухонных дзвярах і, засмяяўшыся, спыталася:

— Пан мыслі, жэ так бэндзе та́ней?

Недзе ў шасцідзесятых, з майго сяброўскага расказу пра даўняе, Алёша Карпюк — таксама па наіўнасці? — выкарыстаў гэта ў сваім апавяданні «Афіцыянтка».

*1994*

# З пявучай памяці

Калі б гэта пісаць пра чужое, літаратурна прыдуманае, дык можна было б пачаць апавяданне так:

Стаялі дзве вёскі, большая, што з нізіны крута ішла ўгару, і меншая, што сціпла асела на шырокай роўнядзі. У вышэйшай ды большай добра спявалі мужчыны, не кавалеры, а найбольш жанатыя; вясновымі вечарамі іх чутно было далёка ў наваколле. А ў меншай, нізіннай, галасістыя былі дзяўчаты; іхнія песні таксама ў сваёй вёсцы не ўмяшчаліся.

Можа, і не заўсёды так было, а толькі ў часе, які апісваю, аднак такі падзел пявучасці, на мужчын і дзяўчат, бывае, наводзіць на роздум: заканамернасць тут нейкая была ці выпадковасць яшчэ і такая? У маленстве так не думалася, тады мужчынскія песні на вуліцы, часамі і перад нашай хатай, то аглушалі, то зачароўвалі мяне збоку і зверху, а ў юнацтве, у вёсцы меншай, я ўжо і сам тым дзяўчатам рады быў памагаць. Зрэшты, як і мужчынам, у вёсцы большай...

Так вось яно з «чыстай белетрыстыкай» у мяне і не выходзіць — хоцькі-няхоцькі збіваешся на ўспаміны. Захапляючыся вясняным песнямі і спевакамі-мужчынамі ў Пасынках (у рамане «Птушкі і гнёзды») і ў Ніжніх Байдунах (у вёсцы не толькі з прыдуманай

назвай, як папярэдняя, але сабранай для аповесці з некалькіх у адну), я памятаў перш за ўсё пра сваё Загора, сваіх людзей, здалёк па часе і па адлегласці чуў іхнія галасы, бачыў воблікі. А ў іншых творах, скажам, у «Думках звычайных» ці ў некаторых замалёўках, зямляцкае гаварылася з поўнай адкрытасцю, непасрэдна. Можа, усё ўжо і сказана, што мне трэба і варта было сказаць? Думаецца і так. Але ж на працягу доўгіх, ужо і даўжэзных гадоў час ад часу ў памяці хвалююча і журботна брыніць, паўтараецца галасамі тое, што так і не хоча ісці ў нябыт. Такое проста асабістае, аднак і шчымліва неадчэпнае ў сваім праве на памяць, на нейкі глыбейшы сэнс...

Першы ўспамін, які запісваю,— не пра загорскіх спевакоў, а пра пачутае мною ў той вечар, калі ў нас на вуліцы было ціха, а песня дайшла да мяне з-за гары, дзе гасцінец, а потым могілкі, адтуль, дзе вёска з дзіўнай назвай Церабостынь.

Каля нашага калодзежа, хоць неглыбокага, але з крынічна сцюдзёнай, чысценькай вадой, за плотам — на градах садок, у якім да ранняга рання застыла ў ціхоцці буйная квецень яблыняў. Пасля непазбежнага шоламу, якога я нарабіў тарахценнем кручолкі, боўцем вядра і цішэйшым пад'ёмам ды пералівам вады ў вядро кухоннае, зноў стала так ціха, што захацелася пастаяць, памаўчаць...

І тут якраз пачулася тая далёкая песня. У ціхім юначым здзіўленні, хутчэй недаўменні, што гэта іменна там, у той, можна сказаць, загадкавай Церабостыні, спяваюць тое, што ў нас на вёсцы не гучала ніколі. Нямала песень было ў нас і рускіх, і ўкраінскіх, прынесеных бывальцамі з гарадоў, дзе хто быў у салдатах або на заробках, прынесеных і крыху збеларушчаных, азагоршчаных цераз памяць людзей, ахвочых на песню. А песня, якая пачулася мне як з-за свету, была — перш за ўсё словамі — у нашай хаце, у добра-такі

растрэсеным аднатомніку Лермантава, як верш «Воздушный корабль». Тры браты, мы спявалі яе часамі, кожны сабе, але дзякуючы найстарэйшаму, Мікалаю, якому, пакуль бацькі не прывезлі нас з Адэсы ў Загора, было дванаццаць гадоў, і ён пры старэйшых братах, студэнтах, нямала чаму навучыўся. У тым ліку і песням: «Выхожу один я на дорогу», «Не дождаться мне, видно, свободы», так яны, па першых радках, запаміналіся, без назваў. Як і тая, якою [redacted] заслухаўся,— «По синим волнам океана».

І тады, каля калодзежа, у мяне было, хочацца меркаваць, не проста адно здзіўленне. А сёння, калі я думаю, як у той песні, на беларуска-прасцецкія галасы, так многа спалучылася — ад Францыі (узнёсла-трагічная паэтызацыя Напалеона), цераз Аўстрыю (верш належыць Зэйдліцу, як і напісана ў падзагалоўку) і Расію (свабодны, лёгкі лермантаўскі пераклад), мне хораша і сумна бачыцца, як і ў той далёкі вечар неўсвядомлена глыбока, па-агульналюдску значна, паэтычна ўразіла мяне тая песня — кіламетраў за тры, калі напраскі, палямі...

У гэтым, тады незвычайным, было і зусім празаічнае тлумачэнне. І з Серабостыні мужчыны служылі ў царскім войску, бывалі наездамі і жылі даўжэй у рускіх ці абруселых гарадах. Словам, і кнігі сякія-такія, і памяць былі і там, адкуль чулася песня, і не трэба было мне нават і раўнаваць, чуючы адну з любімых раптам адтуль.

Аднак было для мяне, юнака, у гэтым толькі маім і шчасліва затоеная журба, і прадчувальны сум па высокім, размашыстым на ўвесь свет, куды часамі так хацелася з нашай вясковай... ох, не заўсёды расквечанай ды зорачнай, добранадзейнай рэчаіснасці...

Другі ўспамін, неадрыўны ад першага.

Дзе амаль цэлае, а дзе і фрагменты рускага або ўкраінскага, у той ці ў іншай меры бязгрэшна ўзятага

на беларуска-вясковы лад — гэта было ў той гістарычна далёкі час не толькі ў песнях мужчынскіх, у нашым Загоры. Галасістыя дзеўкі ў найбліжэйшых ад нас Маласельцах спявалі таксама і «па-руску» і «па-ўкраінску».

Цёмна-сіні двухтомнік «Українські народні пісні», сорак гадоў таму назад прысланы з аўтографам, які мне хочацца, можа, і сентыментальна зацытаваць. «Дорогим Іванові Антоновичу і Ніні Михайлівні і всій родині — щоб вам усе життя добре співалося! — Леонід і Ніна Смілянськії». За гэтымі шчырымі словамі старэйшага сябра, кіеўскага пісьменніка,— свае ўспаміны, якія я часткова замацаваў у эсэ «Два штормы». А тут хачу сказаць пра іншае, тут у мяне самаправерка памяці. Пры дапамозе і нашага акадэмічнага тома «Песень пра каханне», таксама саліднага, хоць і не ў святочнай, а ў рабочай, шэрай вокладцы серыйнага выдання скарбаў народнай творчасці.

«Ляціць галка цераз балку». Песня і дастаткова вядомая на абедзвюх братніх мовах, і даўгаватая, каб было і патрэбна і зручна прыводзіць яе поўнасцю. І таму я прывяду з яе толькі адну страфу, узяўшы для параўнання з украінскага і беларускага выданняў.

У іх:

Вийшла, стала над річкою
Тай дивлюся в воду...
Тяжко, мати, важко, мати!
Нащо дала вроду?

І ў нас:

Выйшла, стала пад вярбою
Ды дзівіцца ў воду.
— Цяжка, маці, важка, маці,
Што й дала ўроду.

У слоўніку Грынчанкі: «Урода (врода) — вообще физическое качество, в частности: красота, миловидность».

У нашым Тлумачальным: «Урода — чалавек з фізічным недахопам, з брыдкім абліччам».

Беларускія фалькларысты песню гэтую запісалі на Берасцейшчыне. Украінскае значэнне «ўроды», красы, на нашу Наваградчыну прыйшло, хутчэй за ўсё, не адтуль, а непасрэдна з Украіны, хоць бы і цераз плытнікаў, пра што я чытаў у Шырмы. І ў нас яна, тая «врода», зразумелася па-іншаму, па-свойму. Дзеўкі спявалі так:

Цяжко, мамо, важко, мамо,
Што радзіла ўродай!..

Бачу іх, незабыўных равесніц, як яны, пабраўшыся пад ручкі ўперамежку з хлопцамі, дзе і мне было месца, ідуць па вуліцы, нібы спецыяльна падсохлай і дзеля свята падмеценай. Чую іх галасы, якія, ад песні да песні, спакваля дабраліся і да тое, што пачынаецца са слоў, калі па-мясцоваму, такіх:

Ляціць галка цераз балку
І, лятучы, крача.
Ходзіць дзеўка, дзеўка каля гаю
І, ходзючы, плача...

Чую ўсіх, аднак найлепш — за шэсць дзесяцігоддзяў, ды якіх,— да болю выразна чую дагэтуль голас **адной.** Пранозліва, надрыўна горкае «цяжко, мамо!» гучыць з яе шырока-таўстагубых вуснаў найшчырэй, бо ідзецца тут, пяецца не наогул, не так сабе...

Не памятаю, ці сустракаў дзе-небудзь у кнігах такое акрэсленне: «Ох, непрыгожая, ажно шкада яе». Але адчуванне гэткае знаёма мне даўно і час ад часу паўтараецца, як толькі зноў убачу такую.

Тая мая галасістая не была ажно такою брыдкай, каб толькі па гэтай прычыне шкадаваць яе,— проста найменш прыгожая ў дзявочай чародцы, хоць сама яна, трэба думаць, так не лічыла, а да таго яшчэ

дачка нягеглай, панурай бабылькі, сірата, не вядома, ад якога бацькі, з найгоршай у вёсцы хаціны, у вечнай нястачы і на сякіх-такіх заработках, то ў багацейшых суседзяў, а то больш у недалёкім маёнтку. Цудоўны ж голас яе, на дадатак да горкай долі, толькі жаль узмацняў...

Замуж выйшла яна,— я не ведаю, быў далёка ад дому,— ці таму, што і яе таксама ж нехта ўпадабаў, ці па нейкаму так разліку безвыходнасці, аднак калі я праз гады ўбачыў яе дачку — адразу падумалася, што бацька, мне незнаёмы, красы ёй, беднай, не дадаў.

Мне трэба было дапамагчы гэтай дзяўчыне, выпускніцы вясковай дзесяцігодкі і, як яе мама ў гэтым узросце, таксама сіраце, якая не так па ведах, як па нясмеласці не набрала летась патрэбных балаў. Я не любіў такіх дапамогаў, асцерагаўся ад іх, але мая старэнькая вясковая сястра, нібы з матчыным правам загадваць, сказала мне, што тут якраз трэба. І я зрабіў, што мог, у тым інстытуце, дзе працавалі мае знаёмыя. І прыемна было, нават з пэўнай удзячнасцю, што землякі мяне памятаюць, вераць мне, ды яшчэ ад думкі, што вось табе і нагода паспрыяць адной з сяброўак маладосці.

Бо мне ж і песня тая прыгадалася з балючым «цяжко, мамо», і сама спявачка, якую доля не пашкадавала і замужжам пры хваравекім гаспадару, і ранне-ўдовіным цяжкалеццем. Праўда, тады я самую яе не пабачыў, бо яны жылі ў далейшай вёсцы.

Даўно ўсё гэта было. Не толькі даваеннае, але і тое ўжо, як незнаёмае дзяўчо нясмела пазваніла ў нашы гарадскія дзверы, нават і тое, як яна з дыпломам настаўніцы зноў зайшла, каб ад сябе і ад мамы засведчыць удзячнасць раскошным вясковым букетам. Ужо на пяць сталічных гадоў смялейшая, з вы-

разнымі спробамі папрыгажэць, а то і сапраўды папрыгажэлая ў культурнай сталасці. Ці спявае дзяўчына, як маці спявала, так і не спытаўся, ні першы раз, ні пры другой і пакуль што апошняй сустрэчы.

Даўно ўсё прамінула...

А песня пра галку, што крача, і дзеўку, што плача,— сяды-тады вяртаецца да мяне сваім сірочым, дзіўнагалосым болем.

*1994*

# Тэма

Мы сустрэліся праз дваццаць з нечым гадоў пасля таго, як загінуў яе муж. Пяецца: «У чужым, далёкім полі...» А тут яшчэ, нібы знарок дзеля таго, каб ёй было крыўдней за ўсіх, пахаронка прыйшла пасля перамогі, калі другія мужчыны хто голас жывы падаў, а хто неўзабаве — няхай сабе і праз паўгода — вярнуўся ці пакалечаны, ці і зусім здаровенькі.

Ды тое, ваеннае, калі я трапіў на іх лясныя хутары, было ўжо найгарчэй аплакана. Слёзы ў яе былі ўжо іншыя, навейшыя, хоць таксама ж адтуль, дзе невычэрпна нясцерпная доля.

Пагаварыўшы са мною — у хаце мы былі ўдваіх,— яна пайшла за перагародку, пашамолілася там і выйшла, аберуч трымаючы за краі павялічаны фотапартрэт у белым, пругкім паспарту. Углядалася ў яго і плакала, змогшы сказаць мне адно толькі: «Во...» Хлопец яе, адзіны сын — я чуў пра гэта ад людзей і толькі што выслухаў ад яе,— два гады таму назад, працуючы на балоце, дзе торфазаводскія распрацоўкі, быў уцягнуты ў машыну...

Бацька, калі па той песні, загінуў у чужым, далёкім полі. А сын на сваім, недалёкім балоце. Той богведама як і забіты, і пахаваны. А гэты паміраў адзін-

адзінюткі на ўсім цэлым свеце, як ні крычы... Так мне было адразу ўявілася, калі пачуў пра гэта раней. Ну, а што ўжо там было хаваць, што засталося ад яго — не пасмеў спытацца.

За ўвесь час, пакуль мы сядзелі, спачатку каля стала, а потым за сталом, успамінаючы і нашу маладосць, і потым перажытае, хто дзе і як сваё перажываў, яна адзін толькі раз усміхнулася.

У вайну і адразу пасля вайны на першае гора ў яе быў памочнікам тата. Па гадах ужо не змабілізаваны, але яшчэ ўсё дужы і ўвішны. Ён ці прыходзіў, ці возам або санымі прыязджаў з іхняй вёскі, балазе і не так далёка. Цяпер яго ўжо каторы год няма, не пабачыў, як тут яе другі раз ударыла.

Яна расказвала, за кампанію закусваючы крыху пачатую чарачку.

— Іду я з бабамі і гавару: «Божа мой, Божа, а картопля мая яшчэ ж не абагнаная». А на свой двор ступіла, гляджу — а ўжо ж ён, наш Антось, мыецца каля калодзежа, сарочку зняўшы. Пакуль мы з поліва на абед, дык ён з маёй картопляй і справіўся! Не прошаны, не галошаны!..

Якраз тут яна і ўсміхнулася, хоць і праз слёзы, нібы святлейшыя.

— Кажуць: мужык любіць жонку здаровую, а брат сястру багатую. А ў мяне ж, сам бачыш, ні здароўя таго, ні багацця. А ён, браток, памагае. Усё памагае, хоць і ў самога ж сям'я ды работа. Праўда, і Зося яго — грэх што-небудзь сказаць...

Я памятаю бацьку яе, ведаю брата. Толькі сына вось бачу ўпершыню — з малога здымка не надта ўдала, цьмянавата перацягнутага на вялікі.

Пасля таго наведання я збіраўся пабачыць машыну, што закатоўвала яго на балотнай пустэчы, зрэдку думаў пра тую страшную запаволеную смерць, не ведаючы, як да яе падступіцца...

Пакуль не пагаварыў са знаёмым, які зблізку ведаў той выпадак. Я спецыяльна сустрэўся з ім, каб распытаць, як там было з тым бедным сынам маёй гарапашнай зямлячкі.

І ён адразу нібы абсек маю непрыступную тэму сваёй дакладнай абазнанасцю.

Як мала слоў, каб яно стала бачыцца інакш, чым доўга, прыблізна ўяўлялася:

«Машына ўборачна-фрэзерная...

яго не ўцягвала — яго схапіла і раструшчыла...

ён быў... ну, ведаеце, **выпіўшы**».

Апошняе — каб неяк далікатней, больш зразумела і даравальна па-сучаснаму. Бо ў гэтым мой знаёмы быў, на жаль, не бязгрэшны і сам...

Там, адкуль не вярнуўся бацька, было вельмі людна, смерць або калецтва — для ўсіх аднолькавай доляй.

І тут, дзе адбылося з сынам, таксама бяда або пошасць — амаль усялюдная.

А для маці ён быў і застаўся сыночкам.

*1994*

# Іскрынкі

## ДЗЯДОК

Побач з нашым Загорам, уздоўж яго, з даліны на гару пяўся спрадвечны гасцінец. Цяпер ён ужо не пнецца, яго пакрылі асфальтам, і мноства машын снуе па ім цішэй і няпыльна. А ў дні майго маленства пяўся, глеіста-гразкі, і ніякія шараваркі не маглі яму памагчы стаць прыстойнай дарогай.

Пасля трох класаў Загорскай пачатковай школы я пайшоў у чацвёрты клас турэцкай сямігодкі. (Можна й спаткнуцца на гэтым «турэцкай», а яно ж ад мястэчка Турэц.) Нас, такіх «гімназістаў», як падкусвалі ў вёсцы, было трое, Толік, Ліда і я, наймалодшы. А наш Міхась хадзіў ужо ў пяты клас, на другую змену. Ніхто нас, вядома, спецыяльна не падвозіў, пра гэта і думак не было, ні ў нас, ні ў бацькоў, ні ў «панскай» дзяржавы. Чатыры кіламетры туды і столькі ж назад для быстрых пастушыных ножак, хоць і абутых у школу, гэта было не цяжка. Хоць часамі, узыходзячы на гару, калі мы вярталіся, мне зручней было апірацца далонямі на калені, папераменна, так памагаючы нагам. Ды гэта болей жартам. А яшчэ і гара вінавата.

Гара — не гара, але і ўзгоркам яе не назавеш. Зыходні канец нашай вёскі ўздымаўся высока, а калі

яшчэ выйсці з яе на гасцінец, дык і адчуеш, як ты падняўся над наваколлем. Ва ўсе бакі, так далёка, так хораша ўсё відно — і палі, і вёскі, і мястэчка з шасцю светла-салатавымі купаламі царквы, і лясы, меншы на поўдні, а на паўночным усходзе большы. У меншы мы, школьнікі, мінулай восенню хадзілі па бярозкі, якія саджалі абапал гасцінца, а ў большы лес, які далей на поўнач, за Нёманам, і называецца Налібокамі, пушчай, дарослыя зімой ездзілі па дровы і дзеравякі.

Я і сёння яшчэ люблю сяды-тады, чым далей, то ўсё больш зрэдку, апынуцца на нашай гары. Калі адзін, дык моўчкі пастаю, паазіраюся, а калі з якім-небудзь госцем, бывае і з замежным, дык і спытаюся: «Што, прыгожа?» А ў маленстве я ўмеў радасць ад вышыні яшчэ выказваць і крыкам — тонкім, пранозлівым, доўгім,— лепш за ўсіх сябрукоў і сяброўак. Гэта тады, калі мы пасля заняткаў выбягалі з сумачкамі на школьны двор, адкуль таксама было далёка відно, і крычалі ад радасці, а я — наймацней, «як паравозны гудок».

Стоўбцы былі тады павятовым горадам, Навагрудак ваяводскім, і паміж імі хадзіў аўтобус, самаход. Для 1927 года гэта было дасягненнем, а для нас, «гімназістаў», радасцю. Некалькі дзён.

Аўтобус той быў падобны на таварны вагон, з дошак, толькі значна меншы, карацейшы і цёмна-шэры, а не брудна-белы, як той, у якім мы, наша сям'я, пяць гадоў перад гэтым вярталіся з Адэсы. З абодвух бакоў у яго было па акне, а дзверы ззаду, калі пагода, дык і адчыненыя ўсярэдзіну. А ад парожка ўніз — дзве жалезныя прыступкі.

Калі аўтобус, натужна гудучы ды крэхчучы, паволі пяўся на нашу гару, мы проста беглі за ім, не спадзеючыся, што ён нас возьме, падвязе. Вераснёвая раніца, у якую стаўся цуд, пачалася сонечна, і дзверы

таго крахтуна былі адчыненыя. Усярэдзіне — людзі, паны, якіх ён вёз, а злева каля дзвярэй дзядок. У паліце, пад кепачкай, глядзеў, як мы весела трухаем, а пасля... Гэта нават і падкрэсліць хочацца: пасля ён узяў сваю кульбу за канец і дужку выставіў нам!.. Не прыпомню, хто з нас ухапіўся першы, хто другі, хто апошні. Мы ўсе паспелі, адно за адным, пакарыстацца кульбай, дзвюма прыступкамі, і вось — Бог ты наш добры! — ужо сядзім на падлозе самахода, а ён нарэшце адкрахтаўся, узабраўся на гару, лягчэй пайшоў па роўным, а потым і пакаціўся зверху ў даліну.

Не памятаю, вядома, што гаварылі паны і пані ў аўтобусе. Але і сёння бачыцца, што той дзядок зноў апіраецца на кульбіну дужку і ўсё маўчыць, нават нібы ўсміхаецца. І нам ён, я мяркую па сабе, бачыўся таксама пасажырам, хоць слова гэтае, не ўпэўнены, што ўсе мы ведалі. Прасцей было думаць, што і ён таксама едзе, як і ўсе.

Цуд паўтарыўся некалькі разоў. Не памятаю, ці ўзапар, ці з паўзамі на непагадзь, калі дзверы над дзвюма прыступкамі былі зачынены. У адчыненых дзядок сядзеў на тым самым месцы, таксама з далонькмі на дужцы, таксама выстаўляў сваю кульбу, а потым маўчаў і ўсміхаўся зрэдку ў сівыя вусы над сівой бародкай. І мы ўжо думалі, і гаварылі, ідучы, паміж сабой, што ён або грошы бярэ з усіх за праезд, або і самаход — ягоны.

За апошнім разам са мною здарылася бяда.

Так жа ёмка сядзеў, ускочыўшы пасля ўсіх, і ногі мае на прыступцы, адной рукой трымаюся за вушачок дзвярэй, другая рука свабодная, сумка вісіць на тым плячы. Гляджу сабе, як гасцінец пад намі ўцякае назад. А пасля... Пасля мая сумка з кніжкамі ды сшыткамі ціха шуснула ўніз, на дарогу!.. Я, не паспеўшы нічога іншага падумаць, сігануў за ёю. Аўтобус тым часам ужо скаціўся з гары і ветрам імчаўся па

цвёрдай жвіраванай роўнядзі. А я ж ніколі не скакаў на хаду. Што грукнуўся аб цвёрдае, дык гэта, можа, і не адчуў так страшна, а жорстка перакуліцца ў калючым пыле давялося некалькі разоў.

А ўсё ж мне бачыцца... калі не помніцца, дык чамусьці дагэтуль, праз процьму перажытага, бачыцца, што дзядок наш — смяяўся. Нават і рукі прыўзняў, адна з кульбай, другая так сабе. І смяяўся, я думаў, разам з усімі, хто бачыў маю ганьбу...

Было балюча і крыўдна. Я ўстаў, трохі асцепаўся, даклыпаў да сумкі, падняў, тады вярнуўся да шапкі, абабіў яе аб калена, надзеў на стрыжаную галаву і падаўся ў недалёкае мястэчка. Не плачучы.

...Колькі разоў за два апошнія гады аўтобус той не-не ды зноў загудзе, закрэхча ў маёй старэчай дальназоркай памяці. І ва ўспаміне гэтым бачу, адчуваю — як галоўнае — не тую крыўду і злосць за сваё кулянне падбітым зайцам услед за сумкай, не той, можа, і ўяўны смех, а перш за ўсё — працягнутую дужкай кульбу, а тады маўчанне дзядка, яго таямнічую, дабрадушную ўсмешку...

## ПЯСТОТА

На тры гады раней, зімою, здарылася такое, што наша маці паехала ў госці адна, а мяне не ўзяла, колькі я ні малёкаў.

Госці былі далёка, за семнаццаць вёрст, да Ганны, маёй найстарэйшай сястры, і не так сабе, а на хрэсьбіны — у нас гаварылася: на радзіны — мамінай унучкі, маёй пляменніцы.

Толькі вароты нашы зачыніліся, а я яшчэ не зусім адрумзаўся, калі з мяне пачалі пакепліваць браты. Няхай сабе той, што старэйшы на тры гады, а то ж і той яшчэ, што на сем, вялікі!.. Яны смяяліся: «А не

ўзяла, не ўзяла!», я агрызаўся: «А я паеду, паеду!», і дайшло да таго, што я зноў надзеў зношана-сіні, з чорным каракулевым каўняром гарадскі палітончык, які па праве даношвання пасля старэйшых быў маім, і выбег на двор. З двара — на вуліцу. Ніхто мяне не даганяў, бо ніхто не падумаў, што я гэта напраўду, і я пачаў даганяць сваю маму.

Наша хата ў ніжэйшым канцы вёскі, і мне спачатку трэба было бегчы па вуліцы ўгару. Я спадзяваўся, што за першым узгоркам, дзе жыла Віліта, другая з нашых замужніх сясцёр, мама спыніцца, бо і яны, Віліціны, таксама ж паедуць на радзіны. Але саней, і нашых, і іхніх, на вуліцы ўжо не было. І я далей варухнуўся подбегам, яшчэ не крычучы.

Крычаць пачаў за вёскай, на самай гары, калі здалёк убачыў, як абодва «вазкі», святочныя сані, следам за чорнай і сівой кабыламі, пабеглі з гары ў далінку, каб потым зноў на ўзгорак... Я бег, крычаў адно толькі слова, мой палітончык быў не зашпілены, адліжны снег паміж каляінамі рассоўваўся на бакі, боты чапляліся адзін за адзін, а ўсё ж я ні разу не паваліўся!.. Пратрухаўшы рыссю з узгорка на роўнае, коні пайшлі ступой. І я закрычаў часцей і, мне здавалася, мацней. А яны ўсё не чулі — нават і мама, хоць ехала ззаду, хоць гэта ж і яна!.. Потым коні зноў пайшлі бегма. І я ўсё бег. Да мястэчка было ўсё бліжэй ды бліжэй. А зацятасць мая яшчэ ўсё мяне падганяла, яшчэ ўсё не думаў: а што, а як жа далей?..

Я ўжо бываў у Ганны, ведаў, што вельмі далёка, але цяпер пра гэта як быццам не памятаў.

Коні і сані ўбеглі ў нашу, ад нашага боку, вуліцу мястэчка і пайшлі памалу. Яны былі далёка, аднак надзея мая зноў пачала крычаць, як і раней, вядома, з прыплачам. Вуліца здалёку ўздымалася ўгару, пасля быў паварот управа. І нашы туды схаваліся. А я ўсё бег, неўзабаве — сярод першых двароў. Кагосьці ба-

чыў я, хтосьці мяне, і гэта было незвычайна — як я то клыпаю, то зноў бягу, тут ужо гукаючы зрэдку...

І радасць — нарэшце — прыйшла!..

За адным, пасля за другім паваротам вуліцы распасцерлася рынычная плошча. І там нашы коні і сані стаялі, спыніўшыся каля крамы. Потым на ганак выйшлі мама, Віліта, Юстын. А я падбягаў да іх ужо з усмешкай. Мокры, незашпілены.

Вусаты панурысты дзядзька, што быў маім швагрaм, сказаў:

— Дайце рэспусту пугі і няхай бяжыць назад, як і сюды дабег!..

Штосьці так. Калі ж у словах не зусім дакладна, дык тон я памятаю добра.

А з маміных пазнейшых слоў помніцца тое, што яна тады падумала:

«Скулу табе, таўлу́й! Каб я сваё дзіця...»

Нават заплакала. Але гэта пасля, калі мы ўжо ехалі.

Спачатку мы дваімі санямі павярнулі з плошчы ў бакавую вуліцу, да мамінай цёткі, а там пазычылі кажушок. Мама апранула мяне, каўнер кажушка наставіла і падвязала хусткай. І вось я зноў сяджу ў перадку, спіной да нашай Сіўкі, носам да мамы, і ногі мае не толькі ў сене, але і накрыты коўдзеркам, таксама пазычаным. І мне так добра — і цёпла, і свайго дамогся, і лепш пра гэта не скажаш!..

Маці была, як на мой сённяшні лік, яшчэ не старая, пяцьдзесят другі, і моцная характарам. Аднак і на гэта ў яе хапала цяжару. Года яшчэ не было, як аўдавела, засталася на разбуранай вайною гаспадарцы з трыма хлапчукамі. Старэйшаму толькі чатырнаццаць. А гэты...

Тут я спыняюся, каб не расчульвацца. Бо і не плакала яна, думаецца цяпер,— слёз яе няма ў маёй памяці, яны былі, відаць, толькі ў мамінай душы.

Маўклівай... Самотнай!.. Дачка і зяць?.. Значна пазней я пачаў разбірацца, што да чаго, чаму яна і ехала асобна, на сваім вазку, чаму яна і «скулу табе!», хоць не сказала, а толькі падумала...

Далей была дарога, якая і не здоўжылася, і закончылася цёплай хатай, дзе былі дзеці, пляменнікі, не надта старэйшыя за мяне, і тая, трэцяя, з-за якое мы прыехалі, зусім маленькая, на падушцы. Была сястра, таксама як і Віліта, падобная больш на цётку, і быў яшчэ адзін швагер, дзядзька не толькі вусаты, але і з барадой... Было б што яшчэ расказаць.

Ды мне далей успамінаць не хочацца. Мой дзікі бег і крык, няхай сабе і пястунскі, чатыры зімовыя кіламетры, а потым мама, сані, кажух, перамога — гэта важней за ўсё!

## ДАМАЎНІК

На тры гады старэйшы брат Міхась пасвіў каровы, а я то выганяў свіней на бліжэйшую пашу, то больш дамаўнічыў. У такога дамаўніка былі і абавязкі і, вядома ж, выбрыкі. Абавязкі — ну, перш за ўсё хаты, двара, саду і агарода пільнавацца, бурачання свінням нарваць-накрышыць, укапаць пад вечар бульбы, сустрэць авечак, вылучыць іх з агульнай чарады. А з усіх выбрыкаў мне вось успомніўся той цудоўны напітак, які мы з госцем-сябруком рабілі.

Маці наша была запаслівая. У паграбе, перагароджаным на бульбу і на бочкі, стаяла капуста, шаткаваная і галоўкамі, салёныя агуркі, усё амаль да новага. Так што суседкі прыходзілі «пазычаць», а гаспадыні, пэўна ж, гонар. І была яшчэ бачулка хлебнага квасу. Халодненькага! Пілі мы яго з сябрам і так, рабілі і «віно». Гарэлка тады прадавалася часта ў літровых бутэльках: «Вудка чыста, моцы чтэрдзесьці

пеньць», а то і мàзур у сукмàне, узняўшы кілішак: «Вып'ем, куме, ешчэ раз!» Адна такая і ў нашай каморы была. Там жа, у старой, карычнева-памаляванай шафе, стаялі слоікі з варэннем, а ў кухні на паліцы была сода. У бутэльку, не да самага верху напоўненую, даліваласся на акрасу і солад варэння, радчэйшага. Тады асцярожна, каб без пары не шумнула, усыпалася трошкі соды і туга ўціскаўся корак. Два кубкі і два «рассохлыя» пітакі стаялі напагатове. Галоўны майстар, сам дамаўнік, боўтаў бутэльку нядоўга — шумны выбух выбіваў той тугі корак, пена шугала наверх, кубкі напаўняліся, на верхнія губы надзяваліся пенныя вусы, а потым мы пацмаквалі, выдатна задаволеныя тым, што п'ецца, і тым, што і яшчэ ж у літроўцы маецца — на далію!..

Былі і іншыя выбрыкі — у сірочай распусце.

У старой карычневай шафе і ўлетку было яшчэ, як я ўжо сказаў, трохі леташняга — у нас казалася: такрошняга — варэння, дзе на паўслоіка, а дзе толькі на дне. Вішнёвае, чарнічнае, брусніцы з грушамі. Аднойчы я, ужо без сябра, так раскошна захапіўся рэшткамі вішнёвага ў паліваным слоіку, што не пачуў, як наш Мікола, ужо дзяцюк, не ўбачыўшы мяне на вуліцы, як найчасцей бывала, сам адчыніў вароты і ўехаў з возам снапоў на двор. Як прадчуваючы штосьці, ён спыніўся, лейцы на плот, а сам з сяней у адчыненую камору. «А гэта што?!» — «Як што? — адказаў яму я, ужо заслужаны хатні манюка.— Мама сказала, што слоік трэба апаражніць, даесці». Мікола выйшаў і, пакуль нам скідаць у гумне снапы, узяў на кухні другую лыжку... Праз дзень-два маці заўважыла апусценне слоіка і, ведаючы, з каго пачынаць, паклікала мяне. Мне што — я сказаў, што мы з Колем удвух. Не памятаю, ці маці тады адмахры́ла мяне, ці абышлося ўшчуваннем. Памятаю затое, што Мікалай — «гаспадар, называецца!» — мне не адпомсціў.

Наогул, хочацца сказаць, мне ад яго за ўсё маленства дасталося толькі адзін раз. Дый то не вельмі — проста ляпнуў ззаду па настаўленым кажушным каўняры. Коля быў тады ў мястэчку, чагосьці прыязджаў у санках-вазку, і якраз падышло так, што вучоба ў нас закончылася і нам з Толікам пашанцавала, вярталіся дамоў панамі. Пад горку Міколу спатрэбілася спыніцца, ён перадаў мне лейцы, а сам, сышоўшы з дарогі, павярнуўся ад ветру. Дахаты было зусім ужо блізка ад паваpоткі з гасцінца. Я азірнуўся, і мне чамусьці здалося, што ён, воддаль ідучы за санямі, махнуў мне рукою, каб мы сабе ехалі адны. Паганяць не трэба было, дарога па вуліцы вёскі пайшла, што называецца, спахóва, з лёгкім нахілам, добра адгладжаная санямі. Мы і патрухцелі. А ён, у цяжкай бурцы, дабрыў да нашага двара пехатой і там ужо, пакуль распрагаць, аддаў мне трохі майго — у каршэнь.

Успомнілася цяпер, пішучы, як увосень сорак першага года, ідучы з палону, паміж Бярозаўкай і Наваградкам я сустрэў фурманку. Знаёмае, як для пачатку хвалявання, убачылася ўжо ў кабыле, якая старанна тупала па пяску, а потым і ў двух мужчынах, што драмалі пад казыркамі кепак. І тут я пазнаў у адным з мужчынаў вушаста-заікастага Ваёдзю, загорскага крамніка, і ў той жа момант — нашага Мікалая. Пасля двух з палавінай гадоў суровай, поўнай трывог разлукі я са шчаслівым надрывам гукнуў: «Ко-ля!» А ён, не спыніўшы кабылы, саскочыў з воза...

Яны тады, для поўнай дакладнасці кажучы, ехалі ў Бярозаўку па аконнае шкло, бо завод ацалеў.

Пішу і думаю, што ўжо і яго, Мікалая, няма ажно дваццаць чатыры гады...

І пра тое таксама, як гэта хораша — век пражыць з братам, ні разу не пасварыўшыся, нічым не прымуціўшы светлую памяць...

## ГЛЫБІНЯ

А яшчэ ж і калодзеж, у які так добра і крыкнуць, і заспяваць, у які так неадчэпна, па-дурному хочацца часамі плюнуць...

У двара нашай Віліты, якая замужам так даўно, што першыя дзеці яе старэйшыя за мяне, каля плота, дзе круты ўзгорак ад высокага пераду хаты спусціўся да самай вуліцы, быў найглыбейшы ў вёсцы калодзеж. У шырокім, па баках заплеснелым драўляным зрубе, з круцёлкай, на якой наматаны даўжэзны ланцуг. Зірнеш у тое страшнае прадонне — вада ледзь-ледзь свіціцца, як быццам у самым-саменькім асяродку Зямлі. Пра тое, што яна — вялізна-вялізарны глобус, я ўжо чуў ад старэйшых братоў.

Чуў я таксама, што ў Міры, да якога ад нас дзевяць кіламетраў, куды кожнага панядзелка людзі, і нашы, загорскія, і па гасцінцы, што так недалёка на загуменні, едуць на кірмаш, ёсць калодзеж, пры самым уездзе з нашага боку, а ў тым калодзежы больш за пяцьдзесят ці нават за шэсцьдзесят «трубаў», цымантовых кругоў. От каб туды гукнуў, ці заспяваў, ці плюнуў!..

Што ж, можа, бываюць калодзежы і глыбейшыя. Гэта — калі па-сталаму, у тых размовах старэйшых ды старых, у хаце сваёй, ці ў чужых, ці на вуліцы, калі цёпла. А мне, калі я заходзіў на сястрын двор, павясковаму — да Грыбавых, ці так сабе, каб пагуляць у іх з тымі пляменнікамі, што равеснікі ці меншыя за мяне, ці калі з дому па нешта пашлюць, не адразу хацелася падымацца па вялікіх, плоскіх камянях, такіх прыступках да хаты на ўзгорку. Абавязкова спыняўся каля старога калодзежнага зруба і, з яшчэ аднаго каменя, што падстаўляўся для выцягнутага вядра, успінаўся так, што тварам перахільваўся за першае палена зруба. Зноў са сціхотнай цікаўнасцю

заглядваў у сцюдзёную цемрадзь, вычэкваў, каб вочы прывыклі да яе настолькі, што вада ў бяздонні засвіціцца мне, і думаў так ці адчуваў, ці тое і другое разам,— такое глыбіні, мусіць, нідзе больш не бывае і не можа быць!..

У наш калодзеж на двары, неглыбокі, на дзевяць «трубаў», лічачы з тою, што стаіць наверсе, я аднойчы, калі мне ўжо мала было ці крычаць у яго, ці нешта туды спяваць, ці змагацца з жаданнем усё-такі плюнуць, каб пачуць адтуль плюх, як водгук на сваю нудоту, ці, на мове дарослых, дурноту, я апусціў у вядры да вады, памаленьку, як пачю якую, невялікую жабу з чырвоным рабаціннем на жывоціку. І такія былі ў нашым садзе, у мала таптанай траве. Адпусціў — не так сабе,— была вялікая спёка, поўдзень якраз, і мне захацелася, каб вада ў калодзежы стала яшчэ халаднейшай. Адкуль прыйшла да мяне тая прамудрасць, пачутае гэта ці вычытанае, пра ваду ці пра малако, не памятаю ўжо, толькі бедную жабку запомніў. Як яна неўзабаве засвяціла ў не надта глыбокай для маіх вачэй, супакоенай пасля апускання ды падымання вядра вадзе сваім бела-стракатым сподам, як мне прыйшлося вылоўліваць яе вядром, даставаць амаль нежывую і, па бліжэйшай, пастушынай мудрасці, даступнай ужо і мне, свінапасу, саграваць на далоні са свайго краніка...

Так жорстка мы, падшыванцы, даволі часта практыкаваліся ў сваёй народнай медыцыне — прыб'еш, а потым ажыўляеш.



## ПЕХАТОЮ

Адзін наш стары загорац з нейкай лузгатна-хлёсткай мянушкай Пстэк меў у Турцы брата Міхалку, які, не толькі што з дому выйшаўшы, але

і далей ідучы па вуліцы, усё азіраўся на пяты. То ўлева, то ўправа, то зноў улева, як баючыся, ці не ўступіў у нешта брыдкае.

Пражылося богведама колькі, а той местачковы Міхалка, таксама, як і яго вясковы брат, стары, але бязвусы і безбароды, з нейкім востранасатым ды вяртлявым тварам, успамінаецца мне часамі, калі выйдзеш з дому, там не глянуўшы на калашыны ззаду,— як яны ад учарашняй вячэрняй макрэчы? Каля пад'езда, каб не вяртацца ў яго, азірнуўшыся, ці хто не бачыць, праверыш і ўсміхнешся сам сабе: «Во, Міхалка!..»

А пануры Пстэк, прымак у Загоры, ці ён ідзе, ці едзе куды, абавязкова пра штосьці бубніць сам з сабою.

Неяк зімою, калі мы з Толікам ішлі са школы (Ліда была ўжо ў сваёй турэцкай цёткі «на кватэры»), Пстэк на роўным абагнаў нас і — скупеча! — не клікнуў пад'ехаць. Але неўзабаве, пад круты ўзгорак, яго дэрашаваты конь пайшоў ступою, мы дагналі чорныя санкі-вазок і асцярожненька пасталі ззаду на палазах. Ведаючы пра яго заўсёднае бубненне, пачалі прыслухоўвацца. Ён якраз лаяўся з сынам, які, вярнуўшыся з панскага войска капрáлем і ажаніўшыся з хутарскою шляхцянкай, так апанеў, што анічога не хоча рабіць. Лаяў Пстэк і свайго Геніка, і нявестку, якая таксама ж пані, а заадно і сваю старую, што патурае маладым. Бубніў ён, не толькі брыдзячы хатніх, але і сплёўваючы на бараду. Гэта мы толькі ўяўлялі,— так меркавалася мне па сабе.

Нам бы, дурным, ціхенька ехаць ды слухаць, а мы пераглянуліся разоў колькі і, нарэшце, не вытрымалі — захіхікалі без асцярогі.

Стары — стары, і каўнер кажуха настаўлены, і звягай заняты, аднак пачуў! Азірнуўся, крута павярнуўшыся, і нема ды злосна віскнуў: «Ага!» Пад

крык і спробу аперазаць каторага пугай мы саскочылі з палазоў, а сыты дэраш ад узмаху пугі рвануўся далей рыссю, балазе пайшло з горкі ў даліну.

А нам было так весела, мы так гаварылі, як гэта ён цяпер бубніць ды плюецца — ужо на нас.

...У маім «Алесі», першым варыянце «Сірочага хлеба», напісаным у сорак другім годзе, была сцэнка, якая мне пры пасляваеннай апрацоўцы аповесці здалася лішняй. Выкрасліў, а яна сяды-тады са шкадаваннем успаміналася, хоць ты яе ўшчамі назад у неаднойчы перавыдадзены на розных мовах тэкст.

У сцэнцы той гаварылася, як я аднойчы зімой спазніўся са школы дахаты, бо мне, вясковаму хлапчуку ды ў мястэчку з царквою і крамамі вакол плошчы, што было ледзь не горадам, вельмі ж захацелася паглядзець, як гэта «жыды вянчаюцца на сметніку». Так гаварылі аднакласнікі, якія з мястэчка і ўсё тут ведаюць. Як і ў царкве вянчаюцца, чаго [redacted] таксама ні разу не бачыў, як і такое, «жыдоўскае», адбываецца. І дачакаўся я, паглядзеў. Не адзін, вядома, а ў чародцы такіх самых разявакаў.

І зусім яны не на сметніку нейкім вянчаліся, а на дварэ сінагогі, пад балдахінам на чатырох высокіх ножках. Так незвычайна, цікава было ўсё гэтае вянчанне, і незразумелым голасам рыжабародага рабіна ў чорным капелюшы, з гуртам вясельнікаў ва ўсім святочным на снезе, што мы, малыя, застаяліся да дрыготак. З Загора я быў у той дзень адзін, бо Толік трэці дзень хварэў, а наш Міхась сядзеў на сваёй другой змене.

Пасля чатырох кіламетраў, да якіх я яшчэ не вельмі прывык, і ад хады не надта сагрэўшыся, дома я, распрануўшыся ў цёплай хаце, доўга не мог супакоіцца. Рукі так зайшлі з пары, што я, ушчэнт перláможаны, расплакаўся за сталом.

Маці мяне то ўшчувала, бо я з парога яшчэ раска-

заў, чаму спазніўся, то пацяшала, гаворачы: «Еш, сынок, няманíц!..» Так у нас гаварылася, на нейкі дзіўна польскі лад, што азначала нічога, пройдзе.

А на стале перада мною, для аднаго мяне, стаяла поўная міска гарачай, духмянай пасолі з картопляй і мясам!..

Тады і было канчаткова вырашана ўладзіць нас з братам на кватэру да местачковых сваякоў, пра што гаворка ўжо была.

## ГІМНАСТЫКА

Яшчэ раз пра нашу гару на гасцінцы, за вёскай. Вёска ніжнім канцом адыходзіла ад гасцінца, а чым далей угару, то ўсё ішла да яго бліжэй. Адтуль, з вастрыні таго кліна, уніз, па загараддзі бегла сцежка, па якой хадзілі найбольш на могілкі. Цяпер усё тут забудавана і замест сцежкі вуліца. А тады каля сцежкі быў толькі нізкі зрубік крыніцы. Нават і там, так высока — крыніца? Нас, малых, такое не здзіўляла, як не здзіўляе нічога, што ёсць, бо ёсць яно, і ўсё. Сцежка жыла вясной, улетку, увосень, а зімой яе не пратоптвалі, бо і на могілкі хадзілася па вёсцы. Толькі тая сцяжынка, што збоку, ад крыніцы ў бліжэйшыя двары, была і зімою хаджалая. А замест большай сцежкі, з вострага кліна далёка ўніз, на ніжэйшыя загуменні ды загароддзі, снежная неруш — вечар такі надыходзіў — праразаліся палазамі саней. Тых вялікіх, што называюцца ляснымі.

Сані гэтыя, адняўшы аглоблі, настронкам усцягвалі на гару дарослыя дзяцюкі. На сані іх валілася, і наўздоўж, і наўпоперак, колькі ўлезе і яшчэ трохі больш. Разагнаўшыся на працавітых, слізкіх палазах, сані ад цяжару яшчэ мацней шыбавалі з гары ў далі-

ну, каб там недзе збочыць без рулявога ў сумёт або з маху перавярнуцца пад які адкос. Вясёлая гурба з крыкам ды рогатам валілася ў снег. Уставалі, асцепваліся, а то і не, біліся ў снежкі або закурвалі, а тады зноў цягнулі свае лясныя на гару. Каб зноў — ці поцемку, калі ў адлігу, ці ў пагодлівую ноч пад зоркамі, а лепш пры месяцы адчуць асалоду лёту.

Нам, падшыванцам, не ўдавалася пачапіцца на тыя сані, нас адкідалі, бо месца і так не хапала. Зрэшты, у нас было сваё — ці «козачкі», якія, калі возяць драўніну, падстаўляюцца пад доўгі хвост дзеравякі, то адмысловыя самаробныя санкі, то лыжы, таксама сваёй работы.

Я рос нароўні са сваім пляменнікам, Віліціным Мішам, старэйшым за мяне на паўгода. Разам пасвілі, хадзілі ў школу, кавалерылі, нават у польскае войска нас узялі ў адзін дзень і ў адну часць, разам і ваявалі, і ў палоне былі, і партызанілі пасля ўцёкаў. Усё ў свой час. А на сваім чатырнаццатым годзе мы зблізіліся найбольш. Праўда, найбліжэйшым у мяне быў Міша, брат, але тады ён вучыўся ў наваградскай гімназіі, і вось мы сталі на той час бліжэй, чым было ў нас раней, з другім Мішам, які мяне дзядзькам, вядома, калі і называў, дык толькі жартуючы. Не перашкаджала нам і тое, што, крыху больш, чым я, распусны ды гультаяваты, Міша яшчэ ў Загорскай школе адстаў ад мяне на клас.

Нешта зімой, ён шасці-, я сямікласнік, мы раптам — бывае ж яно і так — вырашылі як след падцягнуцца з вучобай. Школа — школай, а будзем і дома падвучвацца. Распрацавалі план заняткаў, амаль па ўсіх прадметах, апроч «закону божага», але абавязкова з урокам гімнастыкі, у канцы і кожны дзень.

Спачатку энтузіязму, а потым настойлівасці хапіла дзён на некалькі. Потым мы спакваля пачалі ашукваць самі сябе. Гімнастыка з канца заняткаў

стала пераносіцца на пачатак, першы раз толькі на спробу, потым з угаворам, што «на гадзінку, не больш», і нарэшце яна, наша гімнастыка, не толькі выбралася наперад, але і выцесніла ўсё іншае.

Бо ўся яна была проста паходам з лыжамі на могілкі.

Яны ў нас за гасцінцам, на схіле той самай гары. Адтуль на поўдзень — зверху, у разлогую даліну, аж да маёнтачка пана Лісіцкага, распасціраўся бязмежны, некрануты снег. Сюды ніхто не прыходзіў ні з санямі, ні з санкамі, ні з лыжамі. І таму трохі, што могліцы, дзе прыцемкам сцішнавата, асабліва падшпаркам. А мы не баяліся, і нас гэта прыўздымала ў сваіх вачах. Дый на той наш «вучэбны» час лепш было заставацца адным.

Зрэшты, якая там патрэбна матэматыка, фізіка, шпрэхен зі дойч, калі так здорава ляціцца ўніз, потым ідзецца, потна і радасна, зноў угару і адтуль... Дацямна ці да зорак і месяца, пры якіх — яшчэ і яшчэ раз, да шчаслівай, бясконца шчаслівай стомы!..

## ПОЧЫРК

Памятаю юначае чытанне, па-польску, «Станцыі Баранавічы», з цудоўнай канцоўкай — пажаданнем гэтай станцыі згарэць. Чытаў я тыя «Цыгуначныя апавяданні» і пасля, што відаць і па карандашных паметках на палях (збор твораў Шолам-Алейхема выходзіў на пераломе пяцідзесятых — шасцідзесятых гадоў), аднак ён і перачытваецца з жывой цікавасцю, як новае. Ён не спяшаецца, і ў гэтым яго свабода, дзякуючы якой ён многа бачыць, чуе, думае, адчувае, дабрадушна, глыбока ў душы смяецца, а нам стварае добры настрой, вясёлую добразычлівасць абуджае і лёгка падтрымлівае.

Чытаючы яго, жыва ўявіліся сябрукі школьнага маленства. На гэты раз — Бэрка Рэзнік. Танклявы, чорны, вугpаваты, быстры і вясёлы. Ён прыйшоў у наш шосты клас тады, калі ў Турцы будаваўся паравы млын, саўладальнікам якога быў Бэркаў бацька: сям'я іх аднекуль пераехала. Помніцца, а можа, так уяўляецца,— што я застаў яго за сваёй партай, што ён энергічна ўстаў і, падаўшы руку, назваўся. Як мы набліжаліся да сяброўства — не помніцца, як засынанне, скажам, не памятаеш.

Найвыразней прыгадаўся цяпер Бэркаў почырк — быстры, прыгожы. Спачатку я ім з зайздрасцю любаваўся, а потым, асабліва ў сёмым класе, і карыстаўся ім, так сказаць, літаратурна, па-выдавецку.

Бэрка перапісваў мне мае польскія вершы, што бачылася не толькі, не проста прыгажэйшым, у параўнанні з маім почыркам,— тут ужо было штосьці ад іх распаўсюджання, самага першага, хвалюючага, з прадчуваннем шчаслівай перспектывы...

Можна падумаць, і я так падумаў цяпер, пішучы гэта, што ёсць тут таксама штосьці ад старэчага інбэрсання светлых успамінаў, аднак намацваецца і іншае — малечая радасць прадчування, якая ўсё-такі была і праяўлялася не толькі так.

Бэрка перапісваў маё не абавязкова за нейкую паслугу, што, зрэшты, таксама бывала: я вучыўся лепш, лягчэй, і ў пэўнай меры дапамагаў яму, але ён слухаўся і так сабе, перапісваў — абавязкова ў новым сшытку! — хутка і акуратна, а да таго яшчэ і без усякай прэтэнзіі на «сааўтарства». Што праявіў аднойчы яшчэ адзін перапісчык.

Гэта быў Вова Ядлінскі, пераведзены ў наш сёмы з Мірскай школы, адкуль ён быў ледзь не выключаны за паводзіны, якія і ў нашай школе ў яго не надта палепшыліся, хоць і была над ім строгая апека аднаго з настаўнікаў, што сябраваў з Вовавым бацькам, на-

стаўнікам у Міры. Ды я тут толькі пра почырк новага аднакласніка, таксама вельмі прыгожы.

Сказаць, што мы сябравалі з Ядлінскім, нельга, аднак да перапісвання маіх вершаў дайшло, што і прывяло нас да разрыву.

І там, дзе [redacted] перапісваў свае опусы сам і дзе яны былі перапісаны Бэркам, кожны верш быў знізу падмацаваны імем і прозвішчам аўтара. Калі ж Вова аддаў мне яшчэ адзін новы сшытак з перапісанымі ім вершамі, почырк ягоны, можа, нават прыгажэйшы за Бэркаў, мяне зусім не ўзрадаваў. Пад кожным вершам замест Jan Bryl стаяла Włodzimierz Jedliński... Пакуль мы не счапіліся па-сапраўднаму, ён аніяк не згаджаўся ўцяміць, што вершы — мае, што ён іх толькі перапісаў!..

У Бэркі ніякіх падобных прэтэнзіяў не было. Наогул не памятаю нічога дрэннага за гады нашага сябравання. Калі не лічыць расправы з катом.

Побач з вялізным, як тады бачылася, гмахам млына, зробленага з бетонных пустакоў, стаяла «завозніцкая», драўляная прасторная хата, на гарышчы якое было галубінае царства. І вось аднойчы Бэрка павёў нас, мяне і Мішу, майго пляменніка і аднагодка, заядлага галубятніка і жулікаватага спрытнюка, туды, на сваё гарышча. Не толькі каб пахваліцца і галубамі, і пшаніцай, чаго ім хапала,— яму трэба было дапамагчы расправіцца з паповым катом, які панадзіўся на галубяціну. Тут ужо мы ўзяліся за справу пад Мішынай камандай. Не памятаю, за якім разам ды як нам удалося злавіць таго ката,— помніцца тое, як мы начапілі яму рашчэп, кастровае палена, надколатае так, каб, выбіўшы клінок, хвост кашэчы можна было заціснуць у той расколіне надзейна. Кавэнчыць кот пачаў і пры гэтай аперацыі, і пакуль мы зносілі яго на край зааранага агарода, а калі пусцілі — ён папёр да сваіх старых пападзянак, брэнкаючы пале-

нам па мёрзлай, яшчэ не пакрытай снегам раллі, глуха і адчайна вякаючы. А мы — пераможна смяяліся...

Ды гэта ж ішло не толькі ад Бэркі, гэта мы рабілі разам, так, як па даўняй завядзёнцы трэба было распраўляцца са шкоднымі катамі, і калі разуменне суровасці нашага прысуду і выклікàла ў душы няёмкае, шчымлівае сумненне, дык гэта ўжо ў кожнага з нас па сабе, у адзіноце, тады або пазней, як у каго...

Пасля заканчэння школы мы бачыліся вельмі рэдка, бо неўзабаве ён пераехаў у Мір, дзе «пры першых саветах», у 1939—1941 гадах, працаваў пісарам у судзе. Міша — ужо не пляменнік мой, а брат — дзеля цікавасці зайшоў неяк у той народны суд, на «смешную» справу: прысуджалі аліменты нашаму скрыпачу, глухаватаму, вусатаму Калініку. Бэрка заўважыў Мішу ад свайго сакратарскага стала, прывітальна ўзняў руку, а тады яшчэ спрытна і весела паказаў, нібы нямко, як падкручваецца вус, як іграецца на скрыпцы і як прыйдзецца — шматзначнае пстрыканне шчопцямі — плаціць за раман на пятым дзесятку беднага халасцяцтва.

Вось і ўсё. Не памятаю, калі і чуў што тады, вярнуўшыся з палону, пра далейшы Бэркаў лёс. Ці ён прапаў у вайну, ці яшчэ жахлівей загінуў ад гітлераўскага пагрому...

Цяпер, чытаючы Шолам-Алейхема, вясёлы, быстры Бэрка прыгадаўся перш за ўсё з тым перапісваннем.

Хоць і не толькі...

## ЗДАЛЁК

Аўтапартрэт — не абавязкова любаванне сам сабою. Прынамсі, мастакоў ніхто ў гэтым не папракае.

А ўсё ж бачыць самога сябе ў маленстве, здалёк,— гэта ўжо і пэўнае любаванне. І не толькі сабой ва ўсеагульнай абаяльнасці маленства: прыемна згадваюцца і свавольствы. «Эхе, брудэр! — як гаварыў старэнькі генерал у «Капітанскай дачцэ».— Так он еще помнит стары наши проказ?» Помніць і маралі ніякай выводзіць не хоча.

Скажам, з такога.

Адзін з філіялаў нашай сямігодкі быў у старым панскім доме — рэшта сякога-такога маёнтачка на ўскраіне мястэчка. Стары драўляны дом, стары калодзеж з блізкай, крынічнай вадой.

Неяк мне, сямікласніку, захацелася напіцца. Можа, не так напіцца, але ж напіцца проста з калодзежа. Два таварышы ўзялі мяне за ногі і апусцілі да вады. Я там пачаў чэрпаць далонню і смактаць. Варанае яйка, дадзенае мамай «з сабою», было ў верхняй кішэньцы пінжака. Яно вылузалася адтуль і боўтнула ў ваду.

— Што там у цябе? — пачулася мне зверху.

— Чарнільніца ўвалілася!

Так было больш па-маладзецку.

А паблізу ад калодзежа, за бэзавым кустам, стаяла збялелая ад жаху, цяжарная настаўніца. Аказацца баялася,— каб тыя два, спуджаныя, не пусцілі трэцяга ў ваду.

І такое яшчэ.

Зімовым познім вечарам, пасля школьнага спектакля, дзе мы, чатыры сямікласнікі, выступалі ў ролі «падхаронжых» — юнкераў з паўстання 1830 года, вельмі ж нам не захацелася расставацца з кардоннымі, абклеенымі каляровай паперай ківерамі (па-польску — ча̀ка), а яшчэ больш з дзвюма сапраўднымі шаблямі. І «падхаронжыя» ўцяклі з імі дадому. Уласна кажучы, у той бок трэба было толькі мне, тры іншыя былі з мястэчка і пайшлі мяне праводзіць. Бо

так жа нам не хацелася разыходзіцца, нібы чакаючы чагосьці незвычайнага.

І вось яно прыйшло. У вялізных санях-развалах, са званочкам пад дугой, аднекуль ды кудысьці ехалі яўрэі-«цялятнікі», тыя, што купляюць па вёсках не толькі цялят, але і адкормленых быкоў. Сані вось-вось даганялі нас яшчэ ў канцы доўгай местачковай вуліцы. Мы пасталі абапал дарогі па двух і, калі тыя сані параўняліся з намі і нават неяк запаволілі бег, дружна гукнулі: «Стой!» Ківеры-чака рабілі нас высокімі, купчыкам мы здаліся, відаць, дарослымі разбойнікамі, тым больш што пасля першай каманды пачулася другое,— хтосьці з нас крыкнуў: «Сячы дугу!» Чамусьці не гужы, а іменна дугу. Дзве шаблі жыхнулі з похваў і ўзняліся над нашымі галовамі. І тут на пустыннай, цьмяна аснежанай вуліцы мястэчка пачулася — з некалькіх дарослых горлаў — адчайнае: «Па-лі-цы-я!!»

«Падхаронжыя» спахапіліся амаль адразу. Бо і трэба было,— на дапамогу людзям, якім быў зроблены «заступ дарогі», з некалькіх бліжэйшых да крыку двароў ужо беглі мужчыны.

«Падхаронжыя» джгалі ў поле, яшчэ ўсё з голымі шаблямі, гразнучы ў снезе, задыхана, а ўсё ж лягчэй, як пагоня, якая, зрэшты, хутка спынілася. Сані, поўныя «цялятнікаў», рушылі далей, патрэнькваючы званочкам.

Хлопцы правялі мяне амаль да самай павароткі ў маё Загора.

Назаўтра мы, здаючы шаблі і чака, апраўдаліся сяброўскімі праводзінамі, а самі, вядома, баяліся з тым «заступам»... Але ніхто пра нас не заявіў.

## ПІСУЛЬКА

Памёр Алесь Руля̀к, мой даўні сябар па кнігах, нашмат старэйшы за мяне настаўнік-пенсіянер. Праз паўгода наведаўшы яго самотную ўдаву, знаёмлюся з тым, што засталося ад яго архіва, перабіраю змесціва старога чамадана. Я не сабраўся прыехаць раней, і гаспадыня паспела ўсе пісьмы спаліць. А іх, [redacted] ведаю, было нямала. З такой далечыні, як Польшча, Англія, Аўстралія, ад сваякоў, якіх віхураю вайны разнесла па вялікім свеце, ну, вядома, і бліжэйшыя пісьмы, ад сяброў па наваградскай беларускай гімназіі, ад іншых людзей, у тым ліку і мае, за ўсе пасляваенныя гады.

Часта такое паўтараецца — спальванне, «чтобы не захламлять квартиру», як пісала мне з паўночнага Урала дачка абруселага педагога Сяргея Гайко, у трыццаць трэцім годзе сасланага туды беларускага пачынаючага літаратара, інтэлігентнага, высакароднага чалавека, з якім я перапісваўся больш за дзесяць гадоў.

Ды вось жа ў старым чамадане, сярод сякіх-такіх рукапісаў і кніг, якія не толькі на этажэрцы, ацалела запіска. Цытую дакладна:

«Каханыя! Прыехалі за позна, разлучились, не пажагнаўшыся з Вамі. Просьба: беражыце здароўе! Бывайце — цалуем Вас усіх моцна-моцна — Кахаючыя Вас Сярожа і Аня. 21.VI.41».

Беларуска-руская малапісьменнасць з польскім ухілам — kochani, kochający, żegnać się — зразумелая таму, хто ведае, што аўтары гэтай пісулькі — абое з польскай сярэдняй асветай, мясцовая моладзь, якая з восені трыццаць дзевятага да палавіны сорак першага перараблялася на беларускі савецкі лад. Палавіна сшыткавага ліста, складзеная ў восем столак, на станцыі Гародзей нейкім цудам перададзеная ў адзін

з бясконцых запыленых таварных вагонаў тымі, што асмеліліся праводзіць. А гэтыя яшчэ ж і спазніліся. А дата, дата якая — адзін толькі дзень да пачатку Вялікай Айчыннай, да працягу другой сусветнай вайны ў яе далейшым, найбольшым напале...

З тымі, каму яна была адрасавана, каму так удала трапіла ў рукі, запіска гэтая вярнулася з далёкай ссылкі пасля вайны. Сябру майму, можна сказаць, пашанцавала: з бацькамі, жонкай і маленькім сынам Алесь апынуўся ў Пензенскай вобласці, працаваў у саўгасе, спачатку загадчыкам гаспадаркі, потым бухгалтарам. Смяяўся неяк у ацалелай бацькавай хаце, што павінен дзякаваць Богу,— каб не выслалі (з-за малодшага брата, які жыў у Польшчы), дык праз нейкі месяц, а то і хутчэй акупанты з памагатымі расстралялі б, або павесілі як актывіста, або пазней уцягнулі б сілай у сваю паліцыю, як гэта здарылася з некаторымі сябрамі, знаёмымі і мне.

Швагра яго, Сярожу, я ведаў вельмі мала. От, акуляры, студэнцкая шапка. А жонка ягоная, Аня, у сямігодцы вучылася на клас раней за мяне і сябравала з маім братам Мішам. У іх нават больш было трохі, чым сябраванне. Смуглявая, высокая, вясёлая красуня.

Над пісулькай успомніўся чэрвеньскі дзень ажно трыццатага года. Аня чамусьці не з'явілася ў школу ў гэты дзень, калі сямікласнікі ладзілі развітальны вечар. І вось мяне — так, іменна мяне! — з адным сямікласнікам, на чатыры гады старэйшым, паслалі з Турца цераз наша Загора, а потым голаю пашай, няскошаным лугам, па сезонным гарбатым мосце цераз Вушу, зноў лугам і ажно ў леснічоўку — за добрых сем кіламетраў ад школы. Што такое казённы ляснік для вясковага хлапчука, што такое казённы лес у тыя гады? Грозная таямніца. За якою і стрэльба, і сабака, і крык, і штраф бацькам, калі вясковы пасту-

шок паткнецца за нябачныя межы той таямніцы. Аднак мы, пасланцы, не засталі ў тым бярэзніку, што клінам уразаўся ў высокатравяністы луг над звілістай Міранкай, ні самога лесніка са стрэльбай, ні яго дарослага сына, ні іх сабакі, а толькі прыемна смяшлівую Аніну маму, якая частавала нас малаком, пакуль яе красунечка прыбіралася на выхад. А потым мы ішлі ўтраіх, пра штосьці, вядома, гаварылі, з чагосьці смяяліся, ды я не буду цяпер нічога прыдумваць. Годзе таго, што гэта мне светла помніцца.

Мне было трынаццаць, Аня старэйшая на два гады, аднак і я, услед за братам, якому было шаснаццаць, адчуваў сябе закаханым у нашу Аню па-свойму. А значыцца, і шчаслівым у той, такі сонечны дзень. Хоць і без рэўнасці, нават, можа, шчаслівы за брата.

На развітальны вечар сямікласнікаў, у хату аднаго з вучняў, запрошаны былі некалькі дзяўчынак і хлапчукоў з шостага, у тым ліку і я, заслужаны пасланец. У абодвух класах была бадай палавіна пераросткаў, што з-за бясконцых войнаў (царскай, грамадзянскай, бальшавіцка-польскай) вучыцца пачалі хто ў сем, хто ў восем, а хто і ў дзесяць або дванаццаць гадоў. Я быў даволі бойкім смехуном, а ўсё ж ушчэнт збянтэжыўся, калі старэйшая сястра майго аднакласніка і сябра Абрашы (потым Зяма ў «Золаку, убачаным здалёк»), прыгожая Шэйна, пакуль мы штосьці елі-пілі (не гарэлку і нават не піва), устала над сталом, перахілілася і, смеючыся, сказала: «Ану, Ясь, калі ўжо ты такі храбры, пацалуй мяне! Збаішся?..» І я збаяўся, пад дружны рогат, а потым вусны тыя, раскрытыя ў смеху і ўсмешцы, і вялікія карыя вочы, і грудзі не давалі спакою маёй адзіноце.

А каб жа Аня так сказала, так засмяялася!..

Над чамаданам, з пісулькай у руцэ, як і цяпер, запісваючы, я яе, мілую Шэйну (і сапраўды, на ідыш імя Шэйна — красуня) — не магу не бачыць інакш,

як праз тое, што адбылося на адзінаццаць гадоў пазней за той дзіцяча-юнацкі вечар. Увосень сорак першага і яна, ужо маладая маці, была па-зверску забіта ў нашым мястэчку. Як і іншыя з тых, каго я ведаў, з кім сябраваў, каго сёння — праз цэлую вечнасць — бачу на выцвіла-старой фатаграфіі пятага і чацвёртага класаў, на фоне густое лістоты, што акружала высозную, прыгожую царкву, за якою ціха стаяла наша старая драўляная школа.

Ані на тым здымку няма, яна прыйшла ў нашу школу на адзін толькі год, у сёмы клас, калі бацьку яе перавялі аднекуль у казённы лес за нашаю Вушай. Можа, таму і ўспамін такі востры, што толькі адзін год, што толькі адна сустрэча была пасля, калі яна, студэнтка Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, светла-зялёнай павай праплыла па летняй, нядзельнай вуліцы нашага Загора, ідучы ў Турэц, і мы сустрэліся, пагаварылі. Брату было дзевятнаццаць, ёй на год менш, а мне яшчэ на два. Яшчэ не надта, чым перад Шэйнай, смялейшы. Яна была ў самым дзявочым росквіце, яе чароўная смуглявасць, мілы, іскрысты смех яе мне помняцца...

Пасля бацькі пасаду лесніка, на сваю галаву, заняў Анін брат. У саракавым, калі яна была ўжо замужам, жыла ў мястэчку, брата з сям'ёю вывезлі. Цераз армію Андэрса ён трапіў пасля ў Англію, куды пазней, з Польшчы, аўдавеўшы, пераехала і Аня з дзецьмі. А ўжо адтуль, за сынам, рушыла ў Аўстралію. Пісала адтуль залоўцы і швагру, майму Алесю.

Ды вось і тых пісьмаў няма...

А зрэшты — ці сказалі б яны мне больш за гэтую пісульку?..

*1982—1994*

# З людзьмі і сам-насам

## ДЗЕВЯНОСТА ТРЭЦІ

Калі мы з ім, госцем-унукам, засталіся ўранні адны, я даў яму спаць колькі захоча. Бо і самому тым часам вальней, спакайней за пісьмовым сталом. Устаўшы ў адзінаццаць з мінутамі, румяны дзесяцігадовы філосаф на маё вясёлае здзіўленне адказаў:

— І нармальна!

Падумалася, што дзеці законна лічаць: сплючы, яны жывуць. А мы, старыя,— што трацім столькі часу.

•••••

Перачытваючы запісы восемдзесят пятага года, як прыемнае адкрыццё — Бог мой, толькі праз сем з палавінай гадоў! — убачыў тое, дзе і як мы пазнаёміліся з Міхасём Ткачовым. Каля магілы нашай агульнай любові — Валодзі Караткевіча.

І гэта бачыцца цяпер, ужо і цераз Міхасёў заўчасны адыход, не так сабе...

•••••

Над старонкамі Віктара Астаф'ева не адзін раз паглыблена ўзнікала думка, што іменна так павінен паводзіць сябе пісьменнік — пісаць, і добра пі-

саць, а не лезці ў палітыку. «Прокляты и забыты» напісаны добра. А ў раздзеле, дзе расстрэл братоўблізнюкоў, ажно жудасна стала ад агульналюдскай сілы напісанага.

Прачытаўшы ўсё, думалася, па нашай даўняй прывычцы, і пра пэўныя недахопы, аднак тут — не да іх.

•••••

Танк, наш трэці народны Максім, у адказ на маё тэлефоннае прывітанне ды віншаванне з сонечным днём, сказаў, што ён якраз бінтуе сваёй Любе нагу. І возіць яе ў калясцы па вялікай, пустой кватэры...

Пахваліў Калеснікаў уступ да дзённіка Мядзёлкі, дарэчы, як і Вялюгін днямі. Я не стаў адкладаць да вечара, пазваніў Валодзю з гэтай весткай ад двух сур'ёзных чытачоў.

Максім расказваў таксама, што Любоў Андрэеўна памятае, як яна, вучаніца першага класа віленскай беларускай гімназіі, бачыла развітанне Гарэцкага з выкладчыкамі перад яго ад'ездам у Мінск,— як яны цалаваліся і які ён быў прыгожы. Можа, Максім запіша пра гэта, а то і не, хоць ён, думаецца, піша дзённік, не абмежаваўшыся «Лісткамі календара».

•••••

Зранку пайшоў у архіў, занёс кнігі сяброў з аўтографамі і пацікавіўся сваімі пісьмамі ў фондах Забэйды, Гарбука і Васілька. Не толькі прыемна было такім чынам вярнуцца ў мінулае, ажно да саракавых гадоў, але ж і думалася, што гэта — пісьмы — таксама ж літаратурная праца, якой нельга так сабе прападаць.

Смяюся ўвечары, успамінаючы, як я ў саракавых пісаў Васільку: «Если ты не хочешь, чтобы козлиное горло твое было залеплено горячей кутьей...» Так пачынаецца пісьмо, у якім я прасіў штосьці абавязкова і неадкладна прыслаць, у яго ж інтарэсах. Гэта — гогалеўскае, з «Вечера накануне Ивана Купалы» (толькі што зверыў), а то ў нас з Міхасём і царкоўнай мовы было для гумару шмат, што пачалося з палону і працягвалася пры сустрэчах. Рыхтуючы свой першы савецкі зборнік, ён даўгавата жыў у мяне, мы нямала смяяліся. Было крыху такога і ў пісьмах.

Сур'ёзныя пісьмы Вісарыёну Гарбуку, і нямала іх, і неяк прыемна, што з Мінска яны пабывалі ў яго Пяцігорску і вярнуліся адтуль, каб застацца памяццю пра нашу завочную дружбу.

•••••

Званіла дачка Колі Бразоўскага, хоць праз пару месяцаў пасля яго смерці, і гаварыла, між іншым, што ён прасіўся ў бальніцу, а яму нельга было сказаць, што браць яго туды лічаць ужо дарэмным, і крыўдзіўся на родных, гаварыў: «Пазваніце Івану, ён мяне паложыць!..»

У нейкай сувязі з гэтым адчуваннем чалавечай ды партызанскай блізкасці згадаю, як на з'ездзе ТБМ сімпатычная маладзічка, зусім незнаёмая, расказала, што, калі яна была малая, я начаваў у іхняй хаце, спаў на іхняй канапе. Аказалася, яна з тых Казлоў на Нясвіжчыне, дзе мы — Лойка, Аўрамчык, Барадулін і я — выступалі ў школе. А было гэта, боская моц, у маі 1966 года. Бацька тае дзяўчынкі, свядомы педагог, яшчэ жывы-здаровы, і я папрасіў перадаць яму прывітанне, забыўшыся спытаць, хто яна цяпер, дзе, кім працуе,— тая ціхая дзяўчынка.

•••••

Калі мы, група пісьменнікаў, што прыехалі ў Горкі на юбілей Максіма Гарэцкага, стаялі ў холе гасцініцы, чакаючы, пакуль нас паселяць, і ажыўлена гаманілі на роднай мове, нейкі «муж средних лет» па-руску нягучна спытаўся ў мяне, найбліжэйшага, адкуль мы. А пачуўшы, сказаў:

— И у нас, в Бобруйске, такие есть.

Не літаратары, як мы, пра што я не сказаў, а іменна **такие**. Нібы дзівакі.

•••••

У выступленні на саракагоддзі «Маладосці» Алесь Асіпенка нечакана расказаў, як у лютым 1953-га Машэраў хацеў паставіць мяне рэдактарам гэтага часопіса. Гаварылася тады: ён не ведаў, што я беспартыйны. Алесь, рэдактар «Чырвонай змены», член бюро ЦК камсамола, «ведаў нямала закуліснага» (словы ягоныя) і сказаў, што гэта Патолічаў выказаў недаўменне: камсамольскі часопіс і беспартыйны галоўны рэдактар?..

Прыемна было мне чамусьці ад гэтага Алесевага расказу, а таксама і ад той дэталі, пра якую я зусім забыўся. Як Машэрава папракнулі зверху за тое, што работнікі абодвух ЦК прыходзяць на працу ў дзевяць гадзін, а наша рэдакцыя, ды ў новым доме ЦК камсамола, у дванаццаць. Пётр Міронавіч выклікаў нас на гутарку па гэтай прычыне, а я там прыгадаў вайсковае, капральскае: «Можаце ботаў не чысціць, абы толькі яны блішчэлі!» Ён засмяяўся, і на гэтым справа закончылася.

І такое яшчэ. Пакуль дайшло да Аляксея Кулакоўскага, быў намер паставіць на «Маладосць» універсала Паўла Кавалёва, нават па сумяшчальніцтву, бо ён жа сакратарыў у Саюзе пісьменнікаў. Калі,

пасля асечкі з маім рэдактарствам, я быў зноў запрошаны да Машэрава, там былі Асіпенка і Кавалёў. Павел Нічыпаравіч па-сталінску ды панамарэнкаўску пакурваў ці так пасмоктваў люлечку і шматзначна ўсміхаўся. Стаць адказным сакратаром рэдакцыі я адмовіўся, згаджаўся толькі на загадчыка літаратурнага аддзела, а прыязна, па-свойску ўсмешлівы партызанскі Герой, камсамольскі важак ветліва муліўся, што «менш як другое месца ў рэдакцыі прапанаваць вам нязручна». Крыху пазней была зроблена такая камбінацыя: загадчык літаратурнага аддзела быў адначасна і намеснікам галоўнага. А мне прыемна згадваецца і такое, як я, гледзячы на адказную люлечку, спытаўся ў Машэрава: «Што — кіраваць ужо ёсць каму, а працаваць — няма?..» Ён, Пётр Міронавіч, і тут пасвойску засмяяўся.

•••••

Раптам жыва і сцішнавата ўявілася леташняе. Па залітым спякотным сонцам маскоўскім тратуары мы ішлі ўтраіх — Алёша Карпюк, яго заўсёды разважлівая, з добрай усмешкай Іна Анатольеўна і я. Каля сцяны аднаго з дамоў, у цяньку сядзеў з баянам ці паўнапраўны жабрак, ці нейкі, як палякі кажуць, zarobkiewicz*. Насустрач нам ён рэзнуў полечку. І тут Алёша — худы пасля асенняй аперацыі, небывала раней маўклівы, у светла-шэрым касцюме і белай шапцы — раптам... затанцаваў!.. Яшчэ зводдаль ад баяніста. За паўтара месяца, як потым аказалася, да смерці... А далей, ужо ўсміхнуўшыся, пайшоў побач са мною, зноў амаль не прымаючы ўдзелу ў размове.

---

* Чалавек, які толькі й думае, як бы найбольш зарабіць.

•••••

Прачытаў дзённік Варлена Бечыка. І сум, і святло ад яшчэ аднаго сутыкнення з чыстай душой таленавітага пакутніка, і ўдзячная радасць ад таго, што ў гэтай душы бываў сяды-тады і я.

Маці Варленава, выкладчыца Кароткая, якую толькі чуў разоў колькі па тэлефоне, а выгляду не ўяўляю, перадала мне ягоную кнігу «Радкі і жыццё» па дзіўнай сціпласці без надпісу. Пазваніў ёй учора, яшчэ раз сказаўшы паважанай Ларысе Лявонцьеўне пра яе святога хлопца...

•••••

Перад сном слухаў Варшаву. Дваюрадны брат Ма́рака Гласкі хараша расказваў і пра свае пакуты ў савецкай ссылцы (сям'я асадніка), і пра Марака-пісьменніка, пра іхнюю дружбу. А на мяне, як ніколі раней,— так жа часта здаецца,— напала сумота ад раз'яднанасці з сябрамі ў Польшчы, на Украіне, у Расіі, у Прыбалтыцы...

Неяк Гілевіч пасля песні ў застоллі сам пачаў пра тое ж,— як балюча паменшала ў яго балгарскіх сяброў. А яму ж на чатырнаццаць гадоў менш, чым мне.

Да ўсіх бедаў нашага ліхалецця — яшчэ і гэтая міжнародная раз'яднанасць!..

•••••

Даў Вялюгіну прачытаць рукапіс «Сваіх старонак» і «Вячэрняга»,— так захацелася талковага позірку збоку. Бо ў рэдакцыі, хутчэй за ўсё, нічога не скажуць. І ўзрост, і пэўны аўтарытэт,— ад гэтага і самотнасць, зусім шчырага слова не пачуеш, як быццам яно табе не патрэбна.

...Пазней, ужо тэлефонна пачуўшы пра ягонае

ўражанне ад прачытанага, выказаў сваё сумненне па адным запісе. Анатоль змахнуў яго, сказаўшы, што гэта ў кожнага з нас «за пазухай чырвоны рэдактарскі аловак».

Дадам: як запàзушны камень — супраць належнай літаратуры?..

•••••

Шамякін здзівіўся, што я — за Ельцына, як пэўную апору рускай, а з гэтым і нашай дэмакратыі, пачаў бэштаць яго і ягоных, а я, засмяяўшыся, нагадаў яму размову Сталіна ці не са Стаўскім, які скардзіўся правадыру на пісьменнікаў і пачуў адказ: «А где я возьму тебе других писателей?»

— Таксама, Ваня,— сказаў я,— дзе ж я табе вазьму другога Сталіна?

•••••

Каляровае фота сусветна мілых дзетак, дзяўчынка і два мальцы, і іхняя мамуся, паглядная кашубка з вялікімі блакітнымі вачыма. Расказваючы пра яе, мой малады польскі госць, сын майго даўняга сябра, сказаў, між іншым, як яна, ягоная Гражына, вярнуўшыся са споведзі, паведамляла яму ў ціхай радасці пра палёгку вызвалення ад грахоў, пра сваё абнаўленне.

Я сказаў яму, што як wolnomyśliciel (якое добрае слова!) не маю такое магчымасці вызвалення ад грахоў, асуджаны пакутаваць ад іх у самоце.

•••••

«Входите узкими вратами» Рыгора Бакланава. Удзячна прачытаў. Знайшоў у шафе «афтографных» кніг ягоную «Пядь земли». «Милому... с давней

любовью, с надеждой, что мы будем дружить. 3.X.71 г.» Гэта — пасля нашага знаёмства ў Дубултах. Чытаючы цяпер яго жывы, таленавіты расказ пра перажытае пісьменнікам і рэдактарам «Знамени», падумваў нават, што можна было і напісаць яму, аднак неўзабаве пахаладзеў: яшчэ адзін камень у ваду?.. А на сустрэчу сёння разлічваць цяжка. Пагаварыць было б, здаецца, лепш.

Во раз'яднанасць!..

•••••

Продкі маліліся, пакланяліся Сонцу. А ці не найлепшы гэта быў Бог — найчысцейшы і найцяплейшы?..

Не дасужая думка ў мяне, а такое было днямі адчуванне перад тэлеэкранам, на якім прыгожа, велічна Яно заходзіла.

•••••

Ад беспрацоўя зранку ўзяўся за Барыса Мікуліча, «Аповесць пра сябе», беларускі перыяд. Як быццам я гэтага не чытаў, спачатку ў рукапісе, потым у «Немане». І не таму толькі, што захацелася прыемнасці, якую адчуў калісьці ад той старонкі, дзе ён гаворыць пра мяне,— зачытаўся, і вось, пасля гадзіннай паўзы, сумна ад гэтага перачытвання. Хоць і ведаю сам, і з Адамовічам у свой час, калі ў гросбуху чыталі, і з Вялюгіным сёння гаварылі пра тое, што вось чалавеку не далі пісаць мастацкай прозы, прымусілі пакутаваць з-за гэтага, а ён пра пакуты свае напісаў, і гэта — найлепшае з усяго, напісанага ім.

•••••

Дапісаў патрэбнае да ранейшага запісу, загарнуў сшытак, палажыў у шуфляду і нават уголас сказаў сам сабе: «Ziarnko do ziarnka i zrobi się miarka»*. Пра тое, што дапісаў.

Калі і будзе ў маім запісванні трохі графаманії, дык што ж — ад гэтага ж не ўсюды, не заўсёды ўсцеражэшся.

•••••

Пачуў, што цыбаты развязны лахмей, рэдагуючы ў маладзёжнай газеце нейкі матэрыял, закрэсліў у сказе словы «вялікія рускія пісьменнікі» і паставіў: «рускія белетрысты» — Талстой і Дастаеўскі... А другі, крыху здальнейшы, прыкметнейшы, сказаў, выступаючы: «Трэба нам вызваляцца ад гэтых барадатых класікаў!»

А сабе эпітэтаў не шкадуюць. Трэці з гэтай змены, можа, найбольш туманны, у надрукаванай аўтабіяграфічнай даведцы ўжо не толькі паэт, але і філосаф. Сам пра сябе.

•••••

Былы сакратар абкома, а потым — так жа нядаўна — і яшчэ вышэйшы на партыйнай лесвіцы, стаіць у царкве са свечкай у руцэ. Не перад Богам — перад тэлекамерай.

Адна з нашых сярэдненькіх рыфма́чак, што і партыйную школу без прымусу закончыла, і на партыйныя сходы хадзіла ўрачыста, як у царкву, цяпер — таксама перад тэлекамерай — істэрычна, як баба-клі-

* Зярнятка да зярнятка і збярэцца мерка.

куша, расчульваецца над апісаннем мошчаў нейкай святое княгіні...

Мода.

•••••

Пасля раённага свята працы і песні ў гарадскім парку — пяцігадзіннае сядзенне за багатым сталом, дзе і госці з суседніх раёнаў, і з «пабратанага» раёна падмаскоўнага, дзе ўсё раённае і калгаснае начальства з жонкамі. Тыя самыя савецкія тосты, тыя самыя рускія песні. Нават ажно такое было сказана адным з раённых кіраўнічкоў, які ў тосце славіў рускіх, гасцей і наогул: «Усё роўна ж вы будзеце нашымі правадырамі...» Не дзіва, што сумна, стомлена было за тым, здавалася, вечным сталом, з некаторымі прасветамі ў перапынках, калі знаёміўся з аднымі ці сёе-тое ўспаміналі са знаёмымі.

•••••

І чытаючы аднаго, і слухаючы з трыбуны другога, думаў, як гэта ўсім нам уласціва — пра самога сябе гаварыць абярэжна, кажучы па-санаторнаму, «в щадящем режиме», больш вінаватых бачачы навокал...

І самому трэба гэтага баяцца.

•••••

«Молодой негодяй» Э. Лімонава. Калі пагруску — **мерзость, скверна,** што па пэўным таленце гэтага літаратурнага хулігана, як па ральгангу, лёгка коціцца ў душы маладых стотысячнымі тыражамі.

•••••

У чорнага маленечкага цюцькі столькі прыязнасці, што ён ніяк не можа выменташыць яе сваім хвосцікам, кожнай раніцы вітаючы мяне, калі прыходжу ў пасёлак па малако. І падхалімствам гэта не назавеш, бо ён жа яшчэ зусім дзіця.

•••••

Як часта гэта бывае, што ў нейчым расказе пра самога сябе харошага не сказаным застаецца такое трошкі не так,— не так было, не так запомнілася тым, хто быў пры гэтым і ведае. Ва ўспамінах, у інтэрв'ю бачыш гэтае не зусім так і не заўсёды хочацца рэагаваць. Каб не разменьвацца на дробязі, а то больш з дабрадушнай ляноты.

А тым пазёрам, ці як тут сказаць, гэта якраз і добра, што хтосьці прамаўчыць.

•••••

Дзве дачныя радасці — прыехалі ўнукі і пачаўся, нарэшце, дождж!

Дзед з бабайператаміліся ад штодзённага шчодрага палівання градаў, а тут і вельмі чаканы, і ўсё ж неспадзяваны працяглы kapuśniak, як трапна кажуць палякі.

І ўспамінаецца народнае: усё падняло вушы. І думаецца, ідучы раніцою па палявой дарозе, накрыўшыся плашч-палаткай, як гэта сёння кожны лісток, кожная травінка — як перамытыя. Што таксама вядома з маленства.

•••••

«Пісаць для сябе». Можа, гэта і ёсць яно — пісанне перш за ўсё для самога сябе — у тым, што я і хвалююся сваім, і ў сумненнях пакутую, і радуюся, дасягнуўшы належнай адпаведнасці. Вось чакаю карэктуры сваёй «Пішу як жыву», як чакаюць прыезду, прыходу кагосьці з найраднейшых, і ўспамінаю, як што пісалася, пра што хацелася сказаць,— маё заўсёды і назаўсёды, у чым прызнаюся, чаго ніяк не магу сказаць, паказаць найбольш удала... Ёсць і такое — пры радасці за тое, што, як шчасліва здаецца, удалося.

•••••

Добра апрацаванае поле, з якім я так даўно знаёмы, цяпер пад бульбай. Каторую ўжо раніцу, калі іду паўз ім, напамінае мне глыбока паэтычны ўступ да «Хаджы-Мурата», гімн вялікага вечнаму. А сёння, светлай, ціхай раніцай, калі ўсё так хораша расце пасля дажджу, я яго, гэтае поле, пакуль што чыстачорнае, з пазнавата пасаджанай бульбай, убачыў і ў такой яшчэ красе:

На зялёным, росным узмежку, які вышэй за дарогу, дзве нябесныя кветкі — валошкі, сціплыя раннія васількі так непаўторна хораша, міла, хвалюючы блакітнеюць на чорным пакуль што фоне чыстай раллі.

•••••

Даўно пачаўшы, думаеш пра штосьці вартае запісу, але ўсё адкладаеш, як быццам з ляноты. А потым і прыходзіць як найбольш дарэчная патрэба запісаць тое нешта па суседству з нечым іншым, і тая нібы лянота робіцца зразумелай самому сабе: гэта ж было шуканне найбольш адпаведнай падачы.

•••••

Шарыка як быццам увечары не было. А тут я ў дарозе ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці, калі ён ціха выперадзіў мяне, фыркнуў чагосьці, нібы пракашляўшыся, збочыў з мокрай пасля начнога дажджу дарогі і элегантна пасікаў на вострры ялаўцовы кусцік. Хвост абаранкам, а пад хвастом ніякага натуралізму. За паўтара кіламетра нашай дарогі ў пасёлак ён «адзначыўся» (па Прышвіну) некалькі разоў, спачатку сур'ёзна пазнаёміўшыся з вартым-нявартым аб'ектам арашэння. А да таго яшчэ адзін раз насцярожыўся і шыбануў у лес, дзе знізу пабрахаў у крону сасны, трэба думаць, на вавёрачку.

Цікава яно ўсё-такі — чацвёртае лета гэты сціплы, з пароды лаек з прымессю, разумны псіна прыбягае да нас за добрых восем кіламетраў лугам ды лесам, ад свайго гаспадара, старшыні калгаса; пагосціць дзён колькі, тады знікае дахаты, а праз месяц, а то і хутчэй — зноў сюды. Не падумаеш, што дома яму галадна. І будка добрая, па-гарадскому кажучы — прэстыжная, і ланцуг пры ёй, на пяску, — сам я неяк бачыў.

Сусед наш кажа, што ў ланцугу тым і бяда: не хочацца быць навязаным. А суседка — з іншай псіхалогіяй падыходзіць: у іх была сучка Лайма, з якою Шарык хораша пасябраваў, а тая потым, у горадзе, трапіла пад машыну, і ён забыцца яе не можа, усё шукае на іхняй сядзібе, прынюхваецца... Праўда, раней прынюхваўся, шукаў, а потым і прывык сюды наведвацца.

Такая вось гісторыя.

Па загаду нашай гаспадыні, якая і так не любіць сабак, а тут яшчэ чужы дзівак па градах будзе тэптацца, мы не кормім Шарыка, так гонячы яго дахаты, а ён усё роўна вяртаецца. І добра было б мець такога і ўнукам сябра, і сабе. Нават сама бабуля часам лас-

кавее, калі ён суправаджае яе ў ягады ці ў грыбы. Але ж чужы, чужое, а на свайго ў нас згоды няма.

Вярнуліся мы з малаком, і ён прылёг за брамкай, на мокрай траве, увесь у сваёй галоднай, самаадданай цярплівасці. Пасля халоднай, мокрай, нішчымнай ночы вартаўніка трэба было б падмацаваць нечым, але я кажу яму:

— Не, браток, не магу з-за цябе сварыцца з жонкай, бяжы ты дахаты!

А ён ляжыць. Праўда, потым не вытрымае, знікне, да каго з суседзяў ці й наогул. Каб потым з'явіцца зноў.

Проста апавяданне, ці што?

•••••

Каб ад свае гаспадаркі, дзе процьма работы, якое няма на каго пакінуць, ехаць на ферму, яна, быстрая, маладжавая ўдава, калгасная даярка, устае ў тры гадзіны. Едзе туды прысланай фурманкай, цэлую гадзіну калываюцца. Калі возчык трапляецца, дзякуй яму, негаваркі, дык яна і падрэмле крыху.

Гаворыць мне пра гэта і ўсміхаецца.

Такі вось айчанашны хлеб на кожны дзень: тройчы на ферму і назад, дахаты, дзе таксама хапае работы.

Калі я зайшоў зранку на яе хутарок і мы, павітаўшыся, загаварылі пра вясну, ад злыдняў-камароў да яблыняў, што так раскошна цвітуць, яна сказала:

— Няхай бы, здаецца, і яблыкаў не было, а каб яны так заўсюды цвілі!

Народнае, ад чалавека цяжкай працы.

Дома запісваю гэта, і хочацца дадаць: а яшчэ ж у мяне за акном белай кашкай расквітнела «сухадрэўка», і бэз нібы не спакваля — увачавідкі так духмяна разбутоніўся!..

А перад сном, ужо без святла, пад ціхую музыку па радыё, убачыў зорачку ў чыстым начным блакіце, побач з графічна выразным нерухомым россыпам ліпавай лістоты. Зорачка тая як быццам ішла насустрач мне, самотна выядрываючыся ў сціплае, пяшчотнае пабліскванне.

І журботна, малітвена падумалася, як гэта чалавеку суджана так мала, так коратка любавацца красой, якую ён лічыць роднай!..

*****

На нядаўнім з'ездзе беларусаў свету Ян Чыквін падараваў мне кнігу Тэрэсы Занеўскай «A dusza jest na Wschodzie», і там амаль незнаёмы Тадэвуш Канвіцкі прыемна здзівіў тым, што ён uwielbia* (скажам прасцей: вельмі любіць) мяне за лірычныя запісы, называе іх пенкнымі і хвалюючымі, а разам з тым абвінавачвае іх аўтара ў «патрэбе падаць на калені і шапкай кланяцца Маскве...».

У такой і падобных прэтэнзіях трэба бачыць шкоду, якую я наношу сваёй нацыянальнай годнасці, пісьменніцкай арыгінальнасці. Але ж чым? Тым, што люблю Талстога, Чэхава, іншых вялікіх рускіх, якіх такой самай, агульналюдскай любоўю любяць на ўсіх кантынентах? Ён не кажа пра Расію, а пра Маскву, і тут вылазяць вушы яго патрыятычнай абмежаванасці, гістарычнага болю, крыўды, нянавісці да Moskwy, як да імперыі, і да Moskali, як прыгнятальнікаў, перад якімі я ніколі не чапкаваў, тым больш на каленях.

---

* Uwielbiać — абагаўляць, схіляцца ў глыбокай пашане.

•••••

Заслугу таго пакалення нашых землякоў, якое тым часам уступіла ці ўступае ў старасць, бясспрэчную заслугу ў захаванні роднага на далёкай чужыне, у іншамоўным асяроддзі, трэба прызнаць, само сабою — не перабольшваючы.

Ды вось жа то адзін, то другі з іх, а ўжо і гуртам прызнаюцца, што перадаваць эстафету свядомай беларускасці маладым ды яшчэ маладзейшым усё цяжэй і цяжэй. Мацнейшыя, пануючыя мовы без асаблівых намаганняў бяруць сваё. Гарачы, рухавы Янка Запруднік папракае мяне ў тым, што ў запісах я «Цыцэрона цытую па-руску» (?), з чым ён, як нацыяналіст (ягоныя гордыя словы), ніяк не згодзен. А дачка яго тым часам піша свае вершы па-англійску. Гэта — яўнае, а колькі ж тайнага?.. І прызнавацца ў гэтым нялёгка.

Але ж і мы тут, няхай сабе і на роднай зямлі, былі і застаемся ў такой магутнай аблозе з абодвух бакоў, у такой усёпранікальнай блакадзе руска-польскай асіміляцыі, што і нас можна і трэба разумець. Хоць застаецца ў кожнага і недаравальнае.

•••••

У «Литературной газете» — пасмяротнае ў Георгія Сямёнава, «Солнечный зайчик». Пане калега Канвіцкі, вось я ізноў «чапкую Маскве». Паважаны спадар Запруднік, вось я ізноў выпісваю ў дзённік без перакладу:

«В дни всеобщей смуты и грызни, проклятий прошлому и полного неверия в возможность выйти из кризиса надо идти своей дорогой, и пусть люди говорят, что хотят. Надо писать рассказы о любви и нелюбви, о красоте божьего мира, в котором страдает человек, не находя себе места или теряя все — на-

дежду, веру, любовь. Надо писать то, что умеешь, делать то, что Бог тебе на душу положил, и не гнаться за политическими, скандальными историями. Как можно дальше от скандалов! И как можно ближе к истерзанной душе человека».

Згадаліся радкі:

> ...И как преступник перед казнью,
> ищу кругом души родной.

І радуюся, калі знаходжу яшчэ адну.

•••••

«Парыць косці», «пухам зямля»...

Прыкра такое, а то і агідна ўяўляецца. Згадваць блізкіх трэба інакш.

•••••

«Я такому не падам рукі».

Як санкцыя зверху, як пазбаўленне ўзнагароды, ласкі? А ён даволі часта гэта паўтарае — то ў друку, то з дэпутацкай трыбуны.

•••••

То прэса, то радыё, то тэлевізар — абы свайго не думаць?

Як у бальніцы, пад штодзённай кропельніцай.

•••••

Учора, пагодлівым адвячоркам, асабліва прыемным пасля вятроў ды макрэчы, даўгавата, усмак лынчыўся — адзін каля цяпельца — вогнішча паміж старымі ліпамі пры дарозе, так успамінаючы Міхася Ціханавіча, нарачанскага вогнепаклонніка, вясёлага, людскага чалавека.

•••••

Папраўіла світарок, не ўстаючы з мяккага, глыбокага крэсла, не спыняючы мілай мне гутаркі, і незнарок, неасцярожна расшпіліла белую кофтачку, верхні гузік. І ці гэта мая старэчая сапсаванасць, ці і спакуслівае хараство тут віною, што вось жа помню, бачу, як яна паправіла сваё міжвольнае дэкальтэ жаночым жэсцікам, з мілым «між іншым», не спыняючыся ў зацікаўленай і талковай гаворцы.

•••••

Усё, што хочаш, а такому ажно паверыць не хочацца!.. Рафаэль Санці,— як піша Крыстафанэллі ў сваім «Дзённіку Мікеланджэла ўтрапёнага»,— ужо ўваходзячы ў славу сусветнага генія, «дагэтуль не пісьменны: не ўмее ні чытаць, ні пісаць...».

•••••

Мы з ім ішлі, і мне захацелася сказаць яму добрае. Сказаў пра тое, што было нядаўна перад гэтым,— як Сяргей Залыгін, седзячы ў парку на лавачцы, чытаў у газеце штосьці ягонае, Мележава, а я спытаўся, як яно, на што Сяргей Паўлавіч адказаў: «Хорошо. И вообще он мужик хороший». Іван задаволена ўсміхнуўся.

І тут мы з ім падышлі да ракі, прадвяснянай. Ён увайшоў у ваду, але пачаў адступацца ад настырлівых хваляў, каб не замачыць ногі... ужо стоячы ў вадзе. Зусім нармальна. Потым з шарошу на рацэ пачало збівацца, як галка масла з крупінак, штосьці падобнае ці то на невялікую тоўстую крыгу, ці то на іншы лодкападобны «наплаўны сродак» (здаецца, так па-сапёрску), які мой Іван асядлаў, з нагамі ў вадзе, і, нібы вяслуючы нейкім кійком, падаўся на другі бераг.

Ён яшчэ не даплыў туды, набліжаючыся да рэдзенькага гурту іншых такіх плыўцоў, а я заклапочана замітусіўся, шукаючы, на чым жа пераправіцца мне. Дарма!..

Ды з гэтым і прачнуўся... адразу перайшоўшы ў пераможны любоўны ўспамін, які захацелася з ланкай адагнаць.

Гэтым пачаўся сонечна-церпкі жнівеньскі дзень.

А ўчора, зусім пад вечар, кінуў у блакнот такое, малавыразнае:

Наперадзе ў мяне штосьці, чаго не растлумачыш нават сам сабе, што толькі адчуваецца. Нейкае радасна светлае воблака на бязмежным блакіце — шчасце, якое чакае мяне. Яно нікому іншаму не зашкодзіць, а мне яно неабходнае, у ім сэнс, надзея, жыццё...

Каб жа я мог гэта належна выказаць!..

•••••

Перачытваючы Караленкава «Лес шуміць», успомніў Васілька — яго чатырохрадкоўе з моцным заключным радком:

Калі насоўваецца мрок пануры,
Ад сполаху дрыжаць адны асіны.
Мы не дрыжым!.. Так перад бурай
Маўчаць дубы ў задуме сіняй...

Гэтую мініяцюру Міхасю вырэдагаваў з даўжэйшага верша Таўлай. Пры маёй дапамозе. Пры аўтару. Захапляліся ўдачай разам, утрох.

•••••

З Ясеніным мяне даверліва пазнаёміў мастак Дзіма Красільнікаў, з якім мы разам працавалі ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну». А з

Грынам, таксама «тайно образующе», Саша Міронаў, крыху пазней, пераехаўшы з Гродна ў Мінск.

Потым я выпісаў Грынаў шасцітомнік. Сказаць зусім шчыра — гэта для мяне не Чэхаў, аднак светлае адчуванне ад ягонага слова жыве. Успомнілася вось, як прыемна было ў яго мазанцы ў Старым Крыме, з мальвамі і сланечнікамі за нізка пасаджанымі малымі вокнамі, дзе ён, як піша ў часопісе «Наука и жизнь» даследчыца Пярвова, жыў і памёр «ад цяжкай хваробы, у галечы і забыцці, але свабодны, застаўшыся сам сабою, сагрэты клопатам і любасцю роднага чалавека — жонкі».

Тую весела-дабрадушную, мажную, у простай белай сукні Ніну Мікалаеўну мы з прыемнасцю слухалі, зняліся з ёю каля той хаціны, і я быў рады, што разам з іншай малечай, якая акружыла мілую бабулю, быў і мой дзевяцігадовы сын.

А як вярталіся ў Кактэбель, шафёр аўтобуса нагаварыў нам столькі змрочнага, бруднага пра гэтую жанчыну («Працавала бухгалтарам у фашыстаў!..»), што толькі ўкраінскія сябры, якія не былі з намі ў Грынавай хаце, асабліва Антон Хіжняк, дапамаглі мне ўраўнаважыцца.

А цяпер — новае ў біяграфіі Грына: як ён не змог быць тэрарыстам, пакінуў кампартыю, пакутліва параўшы з-за гэтага са сваім першым каханнем, «чуднóй» (па Караленку) Кацяй Бібергаль. У кожнага з іх аказалася сваё, што было найвышэй. «Души надо перевоспитывать,— гаварыў гэты «полуполяк»,— а не развращать их страхом». Для «чудной» ён аказаўся баязліўцам («Ты трус!» — уджаліла яна па-жаночы найсуровей), а свет надоўга ды ўдзячна набыў высакародна яркага пісьменніка.

•••••

Недачытаны томік Купалы «Жыве Беларусь», вершы і артыкулы першых паслярэвалюцыйных гадоў. Не мог ■ не думаць, чытаючы далей, што ўсё гэта ў яго, у адрозненне ад пазнейшага (успомнім дзённік Чорнага), напісана самім. Ды такое — між іншым. А большае, глыбейшае ў сваёй трагічнай сутнасці — тое, што яму, Купалу, ох як цяжка было пасля, як нямала падстаў для жудаснага, беспрасветнага страху. Адно самагубства не ўдалося, прыйшло другое — зацяжное самагубства таленту.

Дачытаў, і стала вельмі няўтульна, сумна...

•••••

Успомнілася днямі, як мы з Калеснікам у красавіку пяцьдзесят другога наведалі ў Вільні Пятра Сяргіевіча. Адзін момант успомніўся — адна дзявочая нага, у калене прыўзнята-сагнутая ў недарэчным жаданні кінуцца ў скокі. Ад радасці, што вось яны, маладыя, саджаюць у парку дрэўцы. Такі сабе сацрэалізм. Што нам з відавочнай натугай ды няёмкасцю сяк-так, па-свойму дробненька секучы, намагаўся растлумачыць сімпатычны ды паважаны маэстра.

Натугу тую мы памятаем з таго часу, ведаем і па сабе...

•••••

Жаночая песня па радыё, бойка жулікаватая. Улавіў толькі рэфрэн пасля кожнага куплета:

...И Алла Пугачева, и Рая Горбачева
зовут меня на яблочный пирог!..

Не простае тут зубаскальства, а пэўны народны, гістарычны падтэкст. Наконт Раі, вядома, так нядаўна

ўсесаюзна-глабальнай. Як яна гаварыла — з паўзамі для пажаданага запісвання, як дэманстравала ўсюды, і ў свеце, і ў айчынным убостве, свае «августейшие» ўборы, як векапомна расказвала пра фароскую «трагедыю», як... яшчэ і іншае. Такі тып жанчын — і смешных, калі не пры ўладзе, і страшных, калі ўсё сама.

Успомнілася недзе чытанае ў Талстога: «Все эти глупые бабы и девки, восседавшие на русском троне...» Гісторыя!

•••••

Каля сельмага, пакуль што зачыненага на абед, з бабамі і дзецьмі стаіць нямогла худы, зусім бяззубы дзядок. Калі ён датэпаў сюды, якраз ішла гаворка пра чарговае падаражанне. Пытаннямі падключылі да дыскусіі і старога. Ды ён сказаў толькі, неяк вымалаў у пустым роце:

— Во да-вя-лі!..

Потым язык яго зусім заблытаўся ў маце.

І нічым дзядзьку не разважыш: ён ужо чуў усё.

...Калі ж мы пачнем смяяцца з таго, што робіцца? Праз слёзы, вядома ж.

•••••

Гісторыю будзем таўчы ды перамешваць кожны на свой лад заўсёды. З патрыятычным замоўчваннем сяго-таго ды выторкваннем «патрэбнага».

•••••

Неяк дачка з пахвалой успомніла, як я тут, на дачы, адрамантаваў свае тапкі. А я сказаў, што гэта — ад колішняй вясковай практыкі падшывання

лапцей. «Во время оно» яно ў мяне атрымлівалася нядрэнна. Нават яшчэ і ў гады акупацыі, калі ў мяне адны боты забралі партызаны, а пашыўшы другія, іх трэба было хаваць, зручна ды весела карыстаючыся лапцямі.

•••••

Апавяданнем «Мой зямляк» я пачаў вяртаць свой пісьменніцкі голас у новых для мяне, у савецкіх умовах.

Таму і люблю яго неяк па-асабліваму.

•••••

Цяжкае ўражанне ад пачутага па радыё,— на мінскі «кангрэс народаў» завіталі з Масквы бабурыны, стэрлінгавы, алкснісы. Ажно згадалася само сабою: «Не стая воронов слеталась на груды тлеющих костей...» Зноў гаворыцца, што нам, беларусам, «будет принадлежать честь»... у гэтым выпадку — адступіцца ад сваёй незалежнасці. Галёканне брэсцкіх і барысаўскіх ветэранаў — аблога і такога выгляду. Выступаючы па «Свабодзе», Быкаў разумна паўтарыў Адамовіча з 1991 года: наша дэмакратычная самастойнасць залежыць і ад таго, якія сілы будуць кіраваць Расіяй. Цяжкія прадчуванні...

•••••

А ўчора, правёўшы госцю-дачку на стаўбцоўскі аўтобус, у полі за апошнімі беражэнскімі хатамі спыніўся — паглядзець на сонца.

Яно, як гаворыцца, узышло і пастаяла. Такое добрае, не вінаватае за ўсе зацяжныя дажджы і гвал-

тоўныя навальніцы, нават у палавіне верасня. І захацелася сказаць яму:

— Добры дзень! Даўно ж не бачыліся!..

•••••

Даты жыцця вядомых мне і менш вядомых пісьменнікаў выклікаюць часамі ды міжволі думку: як мала пражыў, а колькі зрабіў! І пераходзіш да самога сябе: больш ужо не зробіш, можна толькі даточваць да ранейшага.

•••••

Ледзь не суткі з транзістарам. «Ледзь» таму, што толькі позна ўвечары 3 кастрычніка от так сабе ўключыў радыё і дачуўся. А тады ўжо было не адарвацца. У асабістай, айчыннай, усясветнай трывозе...

Калі закончылася перамогай — адчуванне тое ж, што і ў жніўні дзевяноста першага, толькі, здаецца, шырэй і глыбей і трывожней.

І нічога больш не магу напісаць, нават пра кроў і пакуты...

...Учора і сёння (пішу ўранку 7-га) у гэтай перамозе змрочна, пакутліва выплывае братазабойства — на пярэдні план...

•••••

Часта бывае такое: толькі прачнешся — адразу ж успамінаецца нешта ўчарашняе, што ці зрабіў, ці сказаў не так. Дакор самому сабе.

Сёння ж, калі прачнуўся перад чацвёртай гадзінай (цяпер без дваццаці шэсць), адразу згадалася пачутае днямі па радыё:

Як салдацікі ўнутраных войскаў, «некаторыя», паразбягаліся былі ад Белага дома, ад мэрыі або Астанкіна, а цяпер бацькі — ужо сапраўды некаторыя — не адпускаюць іх, сваіх васемнаццаці-дваццацігадовых хлопчыкаў, зноў у пекла братазабойства.

Не цяжка мне ўявіць такое — ужо не з сынам, а з унукам, які не на вельмі далёкім падыходзе да салдатчыны.

А суд над такімі бацькамі — якая сучасная тэма!..

•••••

Учора быў вечар «Новай зямлі», які вёў Ніл Гілевіч. Ён і падбіў мяне на імправізаванае выступленне. Што ж, заўсёды ёсць што на гэтую тэму сказаць. Я гаварыў пра вечнасць тэмы, згадаў «веленью божьему, о муза, будь послушна», чым кіраваўся ў гэтай сваёй рэчы Колас, якога ў розныя часы, адпаведна модзе ды пагодзе, лаялі то за адно, то за другое, а яна, гэтая рэч, стаяла на сваім, сапраўды народным, проста і натуральна глыбокім.

А нашы моднікі, учора адзін, а раней другі, падганяюць паэму (раман) пад яшчэ раз новае — прыватызацыю зямлі...

•••••

Ад ранішняй хатняй халоднай няўтульнасці. Калі мы ў дваццаць другім вярталіся з Адэсы, у Мінску быў каранцін, так сказаць, развітальны, а ў Баранавічах — прывітальны. Колькі мы там стаялі, не памятаю, успомнілася толькі маміна адтуль, ад польскіх ці прапольскіх жанчын пачутае:

Хоцяж глодны, хоцяж хлодны,
але жыву свабодны!

Іхняя тады свабода была выразнейшай за нашу сёння...

•••••

На мацыённай праходцы з гаспадаром сабака-баксёр, віслагубы здаравіла, для размінкі напаў на тратуары на бяздомнага дварняка́. Як ён, бедны, якатаў пад ім! Гаспадар баксёра — я гэта чуў ды бачыў зводдаль — перабег цераз вуліцу, адцягнуў свайго, і вось ■ іх сустрэў. Спераду цёпкаў адзін задаволены здаравіла, а за ім, побач з субяседнікам, таксама вясёлым, другі, двухногі, са спецыяльным павадком у руцэ.

І ўспомніўся падобны ў чарзе да натарыуса. Як яму вельмі ж па-дзелавому не стаялася разам з бабамі і дзедам-пенсіянерам, як ён потым з нуды падключыўся да гутаркі жанчын пра злыбяды часу і вылажыў нам сваё крэда.

Бацька яго, аказваецца, «усё хацеў, каб сумленна», і застаўся на старасць «з голай задніцай». А ён вось вырашыў інакш. Для сябе самога — і толькі!..

•••••

З урачыстага перадnavaгодняга вечара ў Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі шаноўных гасцей, ветэранаў культуры, абцяжараных цэлафанавымі торбамі, развозілі на машынах. Першымі ўшанаваны былі найстарэйшыя. Ветлы шафёр дапамог і старэнькай артыстцы, і нямогламу паэту, і зусім ужо разгірачанаму кампазітару і выйсці з машыны, і дайсці да ліфта. А я, наймаладзейшы ў гэтым экіпажы, бадзёранька падзякаваў, адмовіўся.

Назаўтра, абедаючы ў нас, не стары яшчэ, талковы і няблага, як на гэты час, забяспечаны госць-сваяк,

частуючыся кансерваванай вяндлінай з таго нямецкага падарунка, сказаў, што гэта крыўдна і абразліва — уся такая «гуманітарная дапамога».

А я не адчуваў чамусьці крыўды і абразы. Калі атрымліваў ды вёз дахаты тую цяжкую гуманітарнасць, нават прыемна думалася пра launchedатомленую чэргамі і вар'яцтвам цэнаў гаспадыню. І потым не адчуваў, пачуўшы ад госця па сутнасці справядлівы папрок. А назаўтра, раней як заўсёды прачнуўшыся, зноў думаў пра тое «крыўдна і абразліва».

Успамінаўся бязгрэшны пах квакерскай рысавай кашы і какавы ў маім адэскім маленстве. Потым зіма 1944—1945 гадоў, калі мы з рэдакцыйным мастаком, ён франтавік-інвалід, а я забраніраваны для службы ў прэсе партызан, хадзілі на нейкі закрыты склад у даўжэзным панурым бараку, дзе па строгім спісе выдавалася «юнраўская» дапамога вопраткай. А выдаваў яе не проста хто-небудзь, а славуты партызан, Герой Савецкага Саюза, з зоркай і планкамі на афіцэрскім беспагонным кіцелі. Здаравенны і падазрона не зусім цвярозы ці з перапою надзьмуты нядаўні камбрыг браў з адной горбы амерыканскіх неданоскаў порткі, якія трапіліся першымі, потым таксама пінжак, паліто, кідаў нам адно за адным і быў прынцыпова няўмольны на просьбу дазволіць падабраць штонебудзь больш-менш адпаведнае росту. «Обменяешься с кем-нибудь!..» Памятаю сябе, яшчэ маладое пудзіла ў тых неданосках — каротка-вузенькія порткі колеру марское хвалі, пінжак у легкадумную клетку і гаматнае хоць на дзве шырыні паліто,— і мне больш смешна, чым крыўдна, абразліва. У зруйнаваным, картачна-галодным горадзе.

А сёння ўжо і не смешна, і нават як быццам не сорамна. Чаму?!.

•••••

Слухаючы па рускай «Свободе» інтэлігентнага немца, які выехаў з Расіі ў Нямеччыну, успомніў знатную даярку, немку ў тундры, куды мы, руска-беларуская дэлегацыя літаратараў, выляталі з Нарыльска на верталёце да аленяводаў на выпасе, а потым і ў іхні саўгас.

Не старая яшчэ, але вельмі ж зношаная жанчына, калі [redacted] звярнуўся да яе па-нямецку, неяк вінавата ўсміхнулася і сказала, што «ничего уже не понимает». З лета сорак першага да таго нашага жніўня прайшло як-ніяк трыццаць адзін год.

За «все-навсе», калі па Далю, без аніякай рэшты далі ёй, ссыльніцы, цацку пад назвай «Працоўны чырвоны сцяг» — за мову родную, за права адчуваць сябе на сваім месцы, сярод родных людзей, якія так даўно знайшлі над Волгай сваю новую радзіму...

•••••

Неяк Міхась Калачынскі пры мне расказваў Якубу Міско, як ён на сваім дачным участку «ўдала вырашыў справу з угнаеннем». Выступіў з вершамі перад работнікамі мясцовага саўгаса, а дырэктар прыслаў яму машыну доб-ра-га гною.

— Дар за дар! — не стрымаў Якуб. І молада, весела зарагатаў.

Тут я не столькі пра Міхася, у яго ёсць і добрыя вершы, тут — пра Якуба, яго таварыскую весялосць. З ім нельга было не смяяцца. Бо і Міхась жа тады засмяяўся. Амаль зусім бяскрыўдна.

•••••

Вялюгін расказваў, як ён прысеў на скверы, насупраць гмаху былога ЦК партыі. Прыбіральшчыца спынілася каля яго, паспачувала:

— Скучаете? Видимо, работали здесь?..
Сціплы, амаль заўсёды апальны Толя.

•••••

Саракагадовая рагатуха з вышэйшай эканамічнай асветай гаворыць пра жыццё-быццё і дае такі вось фальклор:

— Як убачыў чорную латку, дык забыўся пра родную матку!..

Пра дзевятнаццацігадовага сынка, якому прыспічыла жаніцца.

•••••

Былы палкоўнік, ваенны журналіст, якому добра за восемдзесят, яшчэ нястомна рухавы. Дачка смяецца, што колькі б разоў ні прыйшоў за дзень з магазіна — кожны раз пераапранаецца і на балконе вытрасае порткі.

•••••

Прыпознены жаніх, трохі пісьменнік, больш журналіст, шукаў сабе пары сярод маладзенькіх. Пажылая мяшчанка, у якой была на кватэры дзяўчына, што ў Мінск прыехала з Расіі, расказвала пасля, што вось ён першы раз зайшоў, а яе, дзяўчыны, няма дома.

— Ветлівы, нічога не скажаш, але як зняў капялюш, дык на лысіне толькі адна пружынка падскочыла!..

•••••

Крыклівa модная маскоўская спявачка «растелешилась» так, што больш ужо і выстаўляць няма чаго.

•••••

Во нявестачка!.. Просты, цялюкаваты дзядзька расказвае мне:

— Снедаем усе, а яна счапілася з нашым сынам: «Што мне за табою за жызнь? У цябе ж такі во, як мой мізінец, я нават нічога не чувствую!» А сама ўсё-такі бібліятэкарка...

•••••

Успомніўся касцёл ва Уселюбе. Засыпаны ільняным семем. У сонечным і цяністым парку. І не падумалася тады, у пяцьдзесят першым годзе, што яны, касцёлы, будуць так масава аднаўляцца. Нават ушчэнт разбураныя ды запушчаныя. А той успомніўся чырвона-элегантным, чыста засыпаным процьмай насення з любчанскіх раскошных ільноў.

•••••

Уваходжу ў вёску, ідучы да аўтобуса, сустрэць жонку з Мінска. На адным з двароў, каля хаты сядзіць з жанчынамі мая вясёлая равесніца з хутара, каля якога часта праходжу.

— Антонавіч, добры дзень! — вітаецца яна, першая заўважыўшы мяне.— А куды вы?

— У прымы!

— А чаму ж не да мяне?

— А я й заходзіў, але ж вас дома няма. Во, нават новы капялюш надзеў!

Бо ўпершыню выйшаў у людзі пад сваім бліскучым жытнім брылём, нядаўна купленым у Каневе, на шаўчэнкаўскай ярмарцы.

Добра гэта, калі весела!

•••••

Пра таго, хто любіць вынюхваць, у вёсцы нашай казалі:

«Эх, тыц у хату, нюх у с....!»

•••••

Маладзенькая мама, прыгожая жоначка прымака, сарамліва-важна ідзе па сваім двары. А мне здаецца, што гэта ж так нядаўна яшчэ яе нябожчык бацька, калі сам быў дома за гаспадара і за гаспадыню, зварыўшы абед, клікаў малую:

— Есці ідзі, гадаўка!

Хоць яна і тады была мілая.

•••••

Набокава за яго «Лаліту» трэба судзіць па адным артыкуле з гвалтаўнікамі нялетніх.

•••••

Яўрэйскае: віншуючы з наваселлем, першы раз у новую кватэру трэба прыходзіць з нечым салодкім або мяккім. Тая, ад каго я гэта пачуў, прынесла нам падушачку на канапу, чырвоны «ясік», як гаварылася пры Польшчы.

•••••

Лягчэй было і ад таго, што з панства пакпіш, калі гэта нават закранала і чужую рэлігію. Галоўным было высмеяць тое адмоўнае, што ўваходзіць у гэтае паняцце — панства: пустая фанабэрыя пры невуцтве, пагарда да бяднейшых. Помніцца з маміных расказаў:

Шляхцюк вярнуўся з кірмашу. Дзеці, сустрэўшы яго на двары, пакуль ён распрагаў, убеглі ў хату з радасцю:

— Татусь купіл гонскэ бялон! Гонскэ бялон!..

А пані матка, недачуўшы, што яны пра белую гусь, начную кашулю з сябе ды ў агонь у грубцы, таксама ўсцешана:

— Хоць вонзка, але бяла!

Бо свая даўно нямытая.

Другая пані ў касцёле моліцца, спявае з кантычкі, аднак трымае яе «дагары нагамі». Калі ёй хтосьці звярнуў на гэта ўвагу, яна з важнасцю адказала:

— То дзеці ўдому пшэўруцілы.

І яшчэ адна, таксама з кантычкай, з якое цягне рэчытатывам:

— Яко было... яко было...

А пан, што побач сядзеў, нарэшце падцягнуў:

— А я жрэ-э-бец!..

•••••

Бабуля расказвае:

— Цётка твая, Зося, нарадзіла Анечку ноччу, у тры гадзіны.

Бабін унучак, цётчын любімы пляменнік, якому шосты год, пытаецца:

— А цёцю Зосю тады разбудзілі?

•••••

Сядзі ў сваёй дачнай самоце, пішы ці чытай штосьці значнае, ды вось, як гром з яснага неба, у хату сваячка, дачка якое закончыла педагагічны тэхнікум і яе паслалі на два гады ў вёску. Там яна папрацавала год і вельмі ж хоча ў горад. І вось табе, старому, дваюраднаму дзядзьку мамы тое пакутніцы,

кроў з носа, а конча трэба ехаць у горад, ісці хоць да самога міністра, хоць да прэм'ера, але ж каб Маруську ў Мінск перавялі!.. І як ні тлумач, не паверацЬ, што ты не можаш памагчы. Славутае жаночае: «Каб захацеў, дык памог бы!..» Ну, а маральныя меркаванні — зусім не ўлічваюцца.

•••••

Пасля загаданага зверху «абмеркавання» на прэзідыуме Саюза пісьменнікаў маёй скандальнай публікацыі ў «Немане» (№ 2 за 1978 год), дырэктар выдавецтва, хлопец добры, але ж і вельмі дысцыплінаваны партыйна, усю ноч чытаў падпісную карэктуру кнігі, у якую тая публікацыя ўключана, шчодра выкідаючы ўсё «крамольнае».

На сустрэчу з ім, абараняць мяне і гонар рэдакцыі крытыкі, па якой тая кніга ішла, з аўтарам мужна пайшла загадчыца — Верачка Палтаран. Божа мой! — і рукі ўжо дрыжаць, і ўся такая благенькая, у прытоенай немачы, а ўсё роўна — у бой!..

Нядаўна, у гутарцы з сябрам, закранулі выступленне N. супраць «чорнае сотні»,— добра, што добра ў яго, таленавітага, аднак жа і тон у публіцыста такі, быццам ён заўсёды стаяў толькі на прагрэсіўных пазіцыях, а не быў, скажам, вельмі стараным сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў. Або і такая пацешная сітуацыя,— сваё першае выступленне перад калектывам выдавецтва, калі яго «за примерное поведение» ЦК паслаў туды галоўным рэдактарам, пачаў ён, колішні, даўнейшы вальнадумец, з таго, што адпаведна сітуацыі надзьмуўся:

— Я прыйшоў сюды праводзіць лінію партыі...

І Верачка не стрывала, адразу:

— Яська, а мы чаго сюды прыйшлі?..

Абодвух мужчын не называю, нават імя другому

змяніў, бо справа тут не ў іх, а ў той, у каго талковая смеласць ды шчырасць у роднай справе хораша спалучаліся з абаяльнай жаноцкасцю ды адчуваннем смешнага.

•••••

Збіраючы свой песенны фальклор, Зіна Мажэйка паездзіла па Беларусі многа. Успамінае мне весела, па тэлефоне:

— Пра вяселле пры гарбачоўскай цвярозасці дзядзька гаварыў мне так: «Без гарэлкі вяселле — гэта як з дзеўкай толькі пасядзець, не больш!..» А ў бабулі адной я спыталася, колькі ёй гадоў. І кажа яна: «Ды ўжо ж, мусіць, мая дарагая, з семдзесят будзе. Тут вось у мяне запісана». Пашпарт паказвае. Ну, кажу, бабка, вам ужо цэлых восемдзесят тры. А бабуля: «А Божачка! А на храна ж мне столькі!..» Тут я вам не зусім дакладна — яна сказала мацней.

•••••

Аднавяскоўцы, мастак і філосаф-палітык, пасварыліся так заядла, што мастак пазваніў мне, папрасіў праверыць па слоўніку Даля, што такое «мерзавец». Пачуў ён гэта, трэба думаць, ад філосафа.

•••••

Яшчэ і да майго маленства дайшло здзеклівае пра паўстанне 1863—1864 гадоў:

«Ушысцы панове да лясу і за грубон соснэн!..» «Пан за пана ховай сен!..»

Зрэшты, тое было тады толькі ж праз паўстагоддзя. Як цяпер ад вайны.

•••••

За санаторным сталом са мною — пажылая калгасная заатэхнічка, жанчына і прасцецкая, і па-свойму ганарлівая.

Заказваем меню на наступны дзень, і яна да мяне:

— Ой, Антонавіч, гарохавы суп не трэба, а то будзем буксаваць!

Вяртаецца з пляжа, зімовага, дзе толькі праходжваюцца, а я іду туды.

— Ля возера была,— кажа яна.

— А вы ўсё возера. Гэта ж не возера, а мора.

— Ну, няхай будзе мора.

Як з ласкі якое.

•••••

Пляткарку, зводніцу ў астравецкай вёсцы называюць «Калхозная Праўда». І газета такая, і наогул уся праўда.

•••••

Дзяўчына ці маладзічка пабегла да аўтобуса, раскідаючы ножкамі, не раўнуючы, як карова заднімі раскідае. Толькі што дзяўчына ці маладзіца — як быццам знарок, з какецтва.

•••••

У верасні шэсцьдзесят дзевятага, на Туманянавым юбілеі, іранічна дасціпны Геворг Эмін паднімаў на ўрачыстым урадавым прыёме тост за двух шаноўных землякоў — Мікаяна і Баграмяна:

— Товарищи, выпьем за этих сидящих символов!..

У шчырым патрыятычным запале гаварылася таленавітым паэтам.

•••••

У прозе Івана Шамякіна — фігурнае катанне па гладкім лёдзе злабадзённых незадзірыстых тэмаў.

•••••

Чытаючы ў «Литературной газете» пра барства старога Канстанціна Федзіна, успомніў, як напрадвесні шасцідзесятага года, у Яснай Паляне, Валянцін Фёдаравіч Булгакаў, не толькі рускі інтэлігент, але і еўрапеец, расказваў нам з братам пра тое барства старога класіка пры ўладзе. А Канстанціна Сіманава, наадварот, хваліў. Абодвух ён там, у розны час, прымаў, расказваў пра апошні год Льва Мікалаевіча.

•••••

У канцы сорак сёмага года, увечары мне пазванілі, што зараз па мяне прыедуць — просьба выйсці на двор. Насцярожанасць, страшнавата, хоць і сказана было, што звоняць з Дома ўрада. Я выйшаў, неўзабаве падсунуўся яго вялікасць «ЗІС». На месцы мяне правялі на належны паверх, у патрэбны кабінет, і там страх зусім кончыўся. Там ужо былі Мікола Татур і Піліп Пестрак. Як аказалася, таварышу Панамарэнку спатрэбіліся людзі з веданнем польскай мовы. У цяжкіх тамінах польскіх даведнікаў ці зводаў законаў (не памятаю дакладна) бялела мноства закладак, а на старонках — абведзеныя алоўкам мясціны, якія трэба перакласці. Пад наглядам нейкага клерка мы пачалі. Па стылі таго часу — работа начная, як у самога таварыша Сталіна.

Ды працавалі мы нядоўга. Зайшоў сам гаспадар — Панцеляймон Кандратавіч. Першы раз я вітаўся за

руку з такой высокай асобай. А ён разгаманіўся з намі — па гісторыі Беларусі. То седзячы, то больш ходзячы па вялікім кабінеце, з неадлучнай люлькай то ў руцэ, то ў зубах,— таксама ж сталінскі стыль. Цікава было і дзіўна, як ён разбіраецца. Скажам, у параўнанні з Гарбуновым, нядаўнім сакратарам па прапагандзе, пра якога ён кпліва сказаў:

— Историк! Перепер все у Язепа Найдюка...

На ўвазе мелася «Беларусь учора і сяння», якую я ў гады акупацыі бачыў, трохі чытаў.

І яшчэ што запомнілася,— як ён, Панамарэнка, раіў Пестраку напісаць пра перажытае ўспаміны.

— Пишу роман,— адказаў Піліп Сямёнавіч.

А той:

— Да что роман! Вы бы что-нибудь вроде «Былого и дум».

Дарэчы, у выдадзеным тады першым томе гісторыі Беларусі, у прадмове да яе «гісторык» Цімох Гарбуноў у пераліку найстарэйшых гарадоў нашай рэспублікі назваў ... Баранавічы.

Потым той самы «ЗІС» даставіў нас дахаты, на ўспакаенне стрывожаных жонак.

А дапамога найпершаму на тым вечары і закончылася.

•••••

У раі ў Адама з Евай, відаць, не магло быць такое заедзі — ноччу і днём,— як у нашым тут расквітнелым, вільготным і цёплым прылясным наднёманскім раі.

•••••

Чытаў перад вайной у нейкага польскага вальнадумца пра аднаго з ксяндзоў, які казаў сваім прыхаджанам:

— Wierz sobie choć w kozła, abyś tylko dziesięcinę płacił!*

«Дзесяціна» тая — касцельны налог, які праіснаваў да палавіны XIX стагоддзя.

•••••

Старэнькая артыстка друкуе сваё спрадвечнае фота: сама адвярнуўшыся, валасы даўжэзныя, распушчаныя ледзь не да зямлі. Гэта ўжо не рэкорд красы, а нейкі іншы рэкорд.

Згадалася дамачка ў друскеніцкім санаторыі: багацце светлых валасоў у тоўстых косах, завітых высокай «каронай», на якой бачком і смешна сядзіць недарэчна пацешны капялюшык. А на твары пад тым капялюшыкам на кароне — выразная задаволенасць такою звышкрасой.

•••••

Местачковы калгаснік, добры гаспадар, удачлівы сем'янін. Абое з жонкай сентыментальна шчаслівыя, як «старосветские помещики». Ды вось бяда — ён расхварэўся цяжка. Расказвае мне на чыстым дварэ, на лаўцы пад пышнымі дрэвамі:

— Адно яечка ў мяне ўжо выразалі, будуць, відаць, выразаць і другое яечка.

Жонка, сівенькая і ўвішная, калі прапанавала яму сесці:

— Вось я табе гэта пад попачку падлажу, каб было мякчэй.

Успомніўся Аляксей Кулакоўскі, у якога мы з жонкай гасцявалі ў яго Кулаках, улетку шэсцьдзесят трэцяга.

---

* Вер сабе хоць у казла, абы ты толькі дзесяціну плаціў!

Пяцідзесяцігадовы, прыкметна важны, ён гаварыў старэнькай маці, ідучы спаць у другую, старую хату ў садзе:

— Мамачка, дзе тут кубачак узяць? Вазьму вадзічкі, можа, захочацца роцік папаласкаць.

І наогул там у іх, на Салігоршчыне, «аўёсік», «хатка», «сонейка»...

•••••

У электрычцы дзед сядзеў насупраць нішто сабе дамачкі і бездапаможна, тэарэтычна «прелюбодействовал с нею ■ сердце своем».

•••••

На трохкутным газончыку каля самай панелі, дзе паблізу і машыны гудуць, і людзі ходзяць, пяць сізых галубоў старанна, увішна штосьці дзёўбаюць. А трохі ўзбоч ад іх — галка, чорная, з шэрай хусткай на гарляку, нешта ўсё вякае ды вякае на іх, крычыць ды лаецца, нечым жа так незадаволеная.

•••••

«Сам у тых багатых гасцях піў ды еў такое смачнае, хваліцца, а няма таго, каб і мне што-небудзь хоць за губою прынёс!..»

•••••

Сустрэўшыся ў міжгароднім аўтобусе, колішнія аднавяскоўцы, баба і дзед, прыкметна радыя сустрэчы, дзеляцца ўспамінамі маладосці. Яна — пра свайго:

— Мы ўжо з ім і цалаваліся...

Стары, перапыняючы яе:
— Можа, і падурэлі ўжо трохі?
Яна:
— А што ж!..
І смяюцца абое, ужо бязгрэшныя.

•••••

Праллям-скудзельніцам, што збіраліся, каб весялей працавалася ў гурце, гаспадыня чарговай хаты давала сушаных яблыкаў ці груш — «на сліну».

Падумаць толькі — колькі тое сліны патрэбна было на ўсю зіму прадзення!..

•••••

Здаецца ж, і запісаў ужо гэта калісьці, а яно ўсё памятаецца час ад часу.

Вечар у пісьменніцкім Доме творчасці «Каралішчавічы», з танцамі на сямейным застоллі. У кракавяку — статная дзеўка з кухоннай абслугі. З-за недахопу кавалераў, а то і проста так па-сястрынску танцавала яна з меншанькай сястрой. Абедзве вельмі падобныя, аднолькава чарнявыя ды мілавідныя, аднолькава адзетыя, у аднолькавых гумовых боціках. Старэйшая, ужо зусім нявеста, і малая, як лялька пры ёй. І так жа яна ўдаленька ды сур'ёзна стараецца рабіць усё у тым кракавяку, як старэйшая. І выходзіць жа ў яе — ці не лепш, чым у старэйшай. Прынамсі — для мяне.

Гучыць, тупаціць, радуецца той кракавяк!.. Гадоў ужо добра за трыццаць.

•••••

«Забег — як агню пазычыць». Каб запалак, дык, чаго добрага, і пасядзеў бы ці пастаяў, пагаварыў, а то ж агню, жару бярэ,— трэба несці як найхутчэй.

•••••

У часопісе «Спадчына» — выбар прыказак, зроблены славутым уніяцкім архімандрытам і літаратарам Львом Гарошкам. «Рэлігійны элемент у беларускай народнай творчасці». Бяруся чытаць з зямляцкай цікавасцю: ён жа з вёскі, за два кіламетры ад маёй.

Сярод знаёмага і ў большасці набожнага — трохі жывейшага:

«Набожны, як жыд падарожны».

Тут успомніўся той балагула, што вёз Івана Фёдаравіча Шпоньку і ў далёкай дарозе «шабашил по субботам».

А тут айцец Лёва і зграшыў, нібы калісьці ў родных Трашчычах:

«Набожны, як конь святога Юр'я: святы Юры да касцёла, а конь да кабылы».

«Бог любіць праведніка, а чорт ябедніка».

Ну, а гэта цікавае, «ябедником» сваім хутчэй не наша, а рускае.

•••••

Калі нехта вельмі ж улягаў за нейчай дачкой, не надта каб і прыгожай, у вёсцы казалі:

— Во, недзе іхнюю мазку лізнуў!..

Мазка — ад мазаць — кавалачак скваркі, якім, пякучы аладкі, падмазваюць апаноўку, скавараду. У Тлумачальным слоўніку мазкі тое няма.



Гаспадыня рупліва пытаецца ў суседа-печніка, які робіць ім печ:

— Колькі ж, Адолька, табе яец на яечню?

— Калі будуць плаваць, то тры, а як не будуць, то пяць.

Плаваць, вядома ж, у сале ці ў масле.

## ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦВЁРТЫ

Чытаў другі том Багдановіча, прозу, пераважна рускую. Успаміналася руская проза Шаўчэнкі,— тое самае адчуванне, што і над старонкамі Максіма Адамавіча,— а ці поўнасцю гэта ягоны, толькі ягоны голас? І ў нашым, і ва ўкраінскім варыянце пра рускамоўнае можна сказаць, што яно — толькі тое, што «приложится» да галоўнага.

У апавяданні «Экзамен» — такі самы «слон», як у маім «Сяргеі». У нашай школе ён, значыцца, быў не самымі прыдуманы, а з гімназічных традыцыяў. І ў Турцы, і ў вёсках былі ж рускія гімназісты ў нядаўнім мінулым, у тым ліку і сярод нашых настаўнікаў.

І не перастаеш здзіўляцца, які ён ранні ў сваёй таленавітасці і эрудыцыі.

Чытаючы ягонае пра Шаўчэнку, успамінаў Максіма Рыльскага, як ён, і ў сваім напісаным, і ў гутарцы са мною, высока ставіў гэтыя артыкулы. А там, дзе ён пра Валадзімера Самійленку, я ўспомніў свой салдацка-нявольніцкі блакнот з вершам і гэтага паэта, выпісаным, ужо не прыпомню адкуль. Бо толькі пад упісанай у той патаемны блакнот (простым алоўкам) цудоўнай малітвай палонных запарожцаў: «Ой, визволи, Боже, нас, бідних невільників» памечана: «Грушевский, «Ілюстрована Історыя України».

...З Самійленкам памяць мяне падвяла: верш «Я не боюсь тюрми і ката» належыць не яму, а нейкаму О. Я. Верниволоду, якога ў украінскім энцыклапедычным слоўніку, на жаль, няма.

А Самійленкава, згадаўшы далёка-першае светлае ўражанне, ажно выпісаць хочацца, хоць толькі першую і апошнюю строфы.

Бачив я усяки перли
і коштовні самоцвіти,
але есть одна перлина,
що з усіх найкраца в сьвіти.
. . . . . . . . . . . . . . .

Відібрать іі не зможе
ніяка злоба несита,
есть вона — сльоза сьвятая,
за нещасний люд пролита.

Наколькі тут у мяне ўсё па-ўкраінску — не магу сказаць, перапісваю, як было калісьці выпісана аднекуль. І сапраўды калісьці, бо ў верасні 1940 года, перад адпраўкай са шталага на поўначы ў шталаг на поўдні «Вяліканямеччыны».

А пра шчасце выпадковасцей, пра шляхі і сустрэчы з агульным у сапраўдным слове, можа, сказана трохі ў падтэксце?

•••••

Разоў колькі, гледзячы на паліцы кніжнай шафы, думалася, што мініяцюру «Сувенір» мне можна было б у пераліку мілых дробязей і дапоўніць. Сказаць пра драўлянага Швейка, у маршы, з доўгай абвіслай люлькай, прывезенага з Прагі Караткевічам; пра чарачку, вытачаную з аленяга рога і прысланую з Рагачова Валодзевым дзядзькам па маме, байдуномпаляўнічым ды ўжо зусім нямоглым Ігарам Васільевічам Грынкевічам; пра маленькую саву з горнага кры-

шталю, падараваную Ва́шакам Жыдліцкім да майго 70-годдзя; пра два збаночкі з чорнай гліны, у розны час прывезеныя Васілём Сёмухам з яго роднай Пружаншчыны; нават пра неяк па-малечы прыемную шэрую качку, якую я, як беларуска-канадскі «прэзідэнт», атрымаў ад кагосьці з адтулешніх гасцей...

Заглянуў у «Сувенір», і ясна стала, што туды ўсё пералічанае не кладзецца, бо напамінкі гэтыя не з падарожжаў — яны да мяне трапілі іншым спосабам.

•••••

Слухаючы выступленне таго ці іншага з нашых высокіх і найвышэйшых начальнікаў, не раз думалася:

Ім нібыта здаецца — усё тое, што зроблена і робіцца (развал, інфляцыя) — не яны зрабілі і робяць, а само па сабе зрабілася, робіцца далей... Яны толькі канстатуюць гэта, паведамляюць пра яго, як пра нейкую верхнюю волю, вышэйшую яшчэ і за іх.

•••••

У пачатку 1960-га ў дакладзе на пісьменніцкім пленуме я шчыра хваліў Панчанку, пачаўшы з выдатнага верша «Белыя яблыні». А потым Бярозкін трохі крывіўся, што я «перабраў», і сказаў ён такое, што вось і прыгадалася над старонкамі «Высокага берага»:

«У Пімена зашмат бывае газетнай філасофіі».

Хоць бы такі вось зрыў:

Паміж эпох
Невыразных і шэрых,

Сярод пакутнікаў і герояў
У Беларусі было найвялікшых трое:
Каліноўскі,
Купала,
Машэраў.

І я быў ударaны недарэчнай трагедыяй смерці Пятра Міронавіча, у якога таксама ж было і людскае, але каб ажно так параўноўваць!..

І пра другое думалася, чытаючы:

Гэта ж таксама — у Панчанкі — дзённік старога, нямоглага чалавека, толькі што рыфмаваны ды сям-там залішне «публіцыстычны». Аднак ніхто не скажа яму, паэту, што гэта трэба пакінуць «на усмотрение потомков», як часамі гаворыцца, а то і пішацца пра мае запісы.

•••••

Салжаніцын, «Зэки как нация». Пра той жахлівы свет.

І патыхнула раптам з далёкай вясны саракавога года маёю Афрыкай, убачанай, адчутай толькі так — вялікім, экзатычным светам палонных мараканцаў у гітлераўскім «шталагу». Свет — з іх шынельна-цюрбаннай вопраткай, з тлумным бадзяннем па ўбітым лагерным жвіры, стамлёным ляжаннем у спёку проста абы-дзе, але з настаўленым каўняром французскага шыняля, з іх кавэнчаннем каля кухні, з гнюсным пахам-смуродам яды не надта далёка ад кухні і дзярма з адкрытых «лятрынаў».

Палез у слоўнік: «Latrine — отхожее место, выгребная яма». Як быццам я і прадбачыў гэтую, падкрэсленую ў слоўніку, «выгребную», каб жыва, смуродна ўбачыць-адчуць, як з-пад карытаў для змывання посуду тыя бедныя, ці не найбольш за ўсіх палонных нецярпячыя афрыканцы, выграбаюць рукамі штосьці там, што можна ў рот — яшчэ раз...

•••••

Днямі па тэлефоне пачуў сяброўскае пра Салжаніцына: чаго ён вяртаецца? Каб яго тут абакралі, забілі якія-небудзь «лица кавказской национальности» або свае, айчынныя ўмельцы, у якіх таксама спосабаў дастаткова?.. Пра Горкага ён піша, што таму ў Сарэнта не хапала славы і грошай, і ён вярнуўся, каб праз некалькі гадоў быць знішчаным. У крайняй, няхай сабе і справядлівай, азлобленасці Аляксандра супраць Аляксея настальгія нібыта не бярэцца ў разлік. А сам што, засумаваў? Ці ўсё ўжо там напісаў, што хацеў напісаць? Ці славы яму тут сусветнай і грошай дадасца? А з вялікім запасам ехаць цяпер сюды якраз і вельмі небяспечна. Будзе ахова? А на каго ў гэтым надзея?..

Неяк па тэлевізары паказалі будаўніцтва ягонага дома. Не, будаўніцтва схавана за шчыльным парканам, вышэйшым, чым калісьці ў Вірты, пра што ў свой час многа шумелі, або ў Шолахава, што я сам бачыў. І гэты, трэці, паркан, па тэлевізары, падказаў мне сумненні, нават трывогу...

•••••

Чытаючы ў першым нумары зноў выпісанага «Нового мира» (пасля звыш двухмільённага тыражу — 53 тысячы!..) «Изгнание из рая» невядомага дагэтуль Аляксандра Меліхава, упершыню — пасля такога разумовага напружання і сардэчнай увагі да горкай тэмы «Муштука і папкі» — падумаў, што той загадкава-злавесны М. (Маршак), які прадаў, загубіў нашага Валодзю, толькі праз чатыры-тры гады мог, вельмі верагодна, загінуць у белацаркоўскім геце. Страшнай смерцю, разам з усёй сям'ёй, з усім светам...

І гэта была вялікая несправядлівасць.

Толькі гэта?..

•••••

Незнаёмы, нават нячуты дактарант прапануе анкету:

«I. Як Вы адносіцеся да сучасных грамадска-сацыяльных пераўтварэнняў? Што Вы прымаеце ў іх, што не прымаеце?

Што ў сённяшнім літаратурным жыцці рэспублікі Вас асабліва хвалюе?»

Гэта ў яго «ўводнае» і «на ўсякі выпадак», ці што, бо да тэмы дысертацыі мае аддаленае дачыненне. Тэма — заходнебеларуская літаратура «з вышыні сённяшняга дня».

Сказаў чалавеку, калі ён яшчэ і пазваніў мне, што, столькі напісаўшы пра Купалу, Коласа, Танка, Таўлая і іншых, зусім няма ахвоты паўтарацца. А ў падтэксце — для яго патрэбы, каб менш было яму шукаць ды думаць самому.

А што да толькі аднаго ўступнага пункта, які нават «на ўсякі выпадак», каб я сур'ёзна да яго паставіўся, дык, можа, і ў мяне была б амаль што дысертацыя?.. Працаваць на яшчэ аднаго сухара — няўжо гэта абавязкова?

•••••

Заблытанасць, пераблытанасць межаў можа мець і, на жаль, мае процьму падстаў для духоўнай і крывавай беспрасветнай варажнечы, але ж яна і падказвае думку пра тое, што найбольш разумным і сучасным і радыкальна-перспектыўным павінна быць мірнае вырашэнне гэтых праклятых межавых пытанняў.

У гэтым сэнсе ёсць свае заслугі ў Гарбачова: і берлінская сцяна, і Афганістан, і вывад войскаў з «братніх» краінаў, і скарачэнне ўзбраенняў. У мітусні і калатнечы адмоўнага пра гэта злабадзённа

забываецца, а выплыве яно, устаткуецца ў гісторыі чалавецтва пасля. Скажам, як XX з'езд КПСС — заслуга Хрушчова.

•••••

У тым, што Таўлай за паўгода пакут у бальніцы не дачакаўся нават карэктуры сваёй першай кнігі, вінавацім Клімковіча, злоснага за Валянцінаў слушна разгромны артыкул на яго «Лясное возера». А на таўлаеўскім вечары Вялюгін нагадаў, як рукапіс Таўлаевых «Шляхоў і кратаў» (потым не зусім дарэчы, як для першай кнігі, «Выбранае») быў вернуты Валянціну на дапрацоўку з чырвонаалоўкавымі паметамі Хаіма Мальцінскага. Ужо нават і Вялюгін не памятае, кім ён, Хаім, працаваў тады ў выдавецтве, аднак жа ён чытаў рукапісы і лёс іх у значнай меры вырашаў. У тым адхіленым рукапісе Анатоль бачыў чырвоныя «птушкі» ў такіх месцах:

...і ўсё ў ярме народ,
і над шляхамі — краты.

Або:

Чуваць астрожнай брамы
на ўсю краіну грук.

Не ратавала і дата «1929», і «в. Рудаўка» (на Слонімшчыне). Не падыходзіла і назва кнігі — са шляхамі і кратамі. Што за намёкі?..

У маім «Лазунку» — скажам як для пастскрыптума — Хаіму была не спадабалася мянушка героя апавядання — Цыган. «Парушэнне савецкай дружбы народаў». Пільнасць — дык пільнасць!..

•••••

Позна ўвечары па радыё — Уладзімір Караткевіч, запісы, з 1981-га і 1964-га.

Адчуванне несмяротнасці — яго і справы, якой ён служыў і служыць. Пры таленце — і эрудыцыя, і адназначнасць нацыянальнага і агульналюдскага. Пры чалавечай абаяльнасці, так жыва памятнай, яшчэ і ачышчанай светлай памяццю ад неістотнага.

•••••

Том прозы Яна Райніса.

Нешта не змог адразу ўчытацца ў яго афарызмы, было нават нуднавата, і думалася, што нехта ж таксама нудзіцца над маімі запісамі, чытаючы іх па абавязку. А сёння пайшло лепш, асабліва там, дзе менш развражанняў, а больш паэзіі. Скажам такое, што і перакладзем:

«Белая кветка і белы снег — прырода здольная зрабіць прыгожымі і жыццё, і смерць».

«Яблыня і чаромха.

Чаромха: «Да мяне маладыя дзяўчаты прыходзяць гуляць і весяліцца».

Яблыня: «Да мяне сіротка прыходзіць паплакаць».

Хоць прыгожай у яго бывае і глыбокая строгасць думкі:

«Мы з'яўляемся часцінкамі, вырванымі з вечнасці; пасля смерці нас ізноў прыме вечнасць».

І вастрыня — да ўсмешкі:

«Дзвюх рэчаў ■ не разумею: як можна быць дурнем і як можна сумаваць? Ці гэта адно і тое ж?»

Ну, і яшчэ было б што працытаваць.

...У дзённіку ён цытуе Гётэ. А мне паласнула па сэрцы светла-сонечным ветразем Райнісавага «Пут, вейні!», што неаднойчы, разам з латышскімі сябрамі,

радавала і мяне. Паласнула па сэрцы і мудрым уздыхам нямецкага генія на сусветнай вяршыні:

Warte nur balde
Ruhest du auch!*

Гэта мне, асабліва глыбокае auch, радасна помніцца з палону, не памятаю ўжо, дзе і як прачытанае ў арыгінале, упершыню. Верш гэты я ведаў да таго, толькі ў слабейшым — і ў Лермантава! — перакладзе.

...Закончыў дзённік. Чым ён, аўтар, бліжэй да старасці, тым цікавей чытаецца. Колькі блізкага! Стаць выпісваць тое, што адкрэслівалася, чытаючы, — будзе залішне многа. А ўсё ж:

«Мы павінны шукаць паэзію глыбей, на дне прозы...»

«Я заўсёды казаў: найглыбей разумеюць любоў і дружба; нянавісць блізарукая і востра заўважае толькі тое, што ляжыць на паверхні».

«У нас не прынята пісаць мемуары, успаміны, біяграфіі, і многа тых, што ўмеюць пісаць, проста не ведаюць, на што выкарыстаць свой свабодны час, і трацяць яго, займаючыся эпігонствам тады, калі жыццё, сапраўднае, непрыдуманае жыццё, прапануе столькі паэзіі і безліч падзеяў, і такіх цудоўных, такіх значных».

•••••

Жыва згадалася, як на вясковай вуліцы, пачаўшы з уступнага нюх-нюх ды гаў-гаў, сабакі сталі чагосьці ашчэрвацца, збівацца ў звар'яцелую кулямесу, чортведама адкуль так хутка назбягаўшыся.

Пра гэта гаварылася проста: сабакі кусаюцца. Хоць і не часта такое бывала. Тым больш цікава

* Пачакай, хутка адпачнеш і ты таксама!

паглядзець. Хто нагадзіўся адразу, хто потым, ажно подбегам. А нарэшце ўжо нехта прынясе вядро вады, пляхне ў гэтае разгалёканне, у гэты слепа-куслівы вір — і цуд працверазення адбываецца. А калі два ці тры вядры — дык і яшчэ хутчэй. Ваякі, і пераможцы, і пераможаныя, у чым не разабрацца, пад рогат людзей разбягаюцца — мокрыя, нават як быццам прысаромлена, хоць некаторыя яшчэ і агрызаюцца, немаведама на каго.

Чым бы гэта падобным ды як бы гэта пляхнуць на тыя нашыя чалавечыя «гарачыя кропкі», дзе вірыць, крывавіцца ў адчайным брэху сляпая, палітычна зсабачаная нянавісць?..

•••••

Заўтра будзе тэлеперадача пра Алеся Адамовіча, якую мне ў камандзіроўцы, чаго добрага, не ўдасца паглядзець. Тая перадача, ад удзелу ў якой я адмовіўся. У сувязі з чым згадалася даўняе, вясковае: адна цётка вунь як «хораша галасіла» па сваім, а другой «як заняло ад гора...».

А сёння, зноў жа ў сувязі з Алесем, з казённай гучнасцю і народнай шматлюднасцю — і ў Мінску, і ў Глушы — яго пахаванне, успомнілася пачутае ў свой час, што за труною Юрыя Казакова ішло... трынаццаць чалавек.

...З адным з маладзейшых сяброў даўгавата ішлі з выступлення ў музеі Купалы пехатой, цікава гамонячы пасля даўгаватай разлукі. Між іншым, і пра тое, што раскідацца нам, беларусам, Міцкевічамі ды Дастаеўскімі зразумела было тады, калі не было ім, геніям, дзе і як праявіцца ў сваім народзе. А сёння ж ёсць і родны дом, і родная мова, і грэх яно — талентам ісці супраць такой жыццёвасці...

•••••

Абараняючыся ад п'яніц у нашым літаратурным асяроддзі, я меў права на катэгарычнасць, рэзкасць, нават грубасць, да выкідання нахабы са свайго дома ўключна. Мне трэба было і сёння трэба ратаваць сябе ад іх умяшання ў маё жыццё, ад такіх перашкодаў. Тым больш што ў такіх «несчастненьких» бывае аж занадта самалюбавання, не глыбока схаванай задаволенасці сваёй выключнасцю, таленавітасцю, правам на асаблівую ўвагу, ласку, яшчэ на бутэльку, пасля на пахмелку, на ўсмешку пагарды да тваёй гасціннай прастаты, дурнаватай наіўнасці... Я парываў нават з таленавітымі, а ўжо пра нікчэмнасцей і гаварыць не варта. Тут дазваляецца, як сродак самаабароны, і гордасць чыстаты, цвярозасці.

•••••

У польскіх Татрах, над возерам «Morskie oko», у групе маладых, вясёлых турыстаў — маладзенькая, прыгожа-мілая манашка. Так жа яна старалася быць **як усе**, і так не пасавалі да манаскага ўбору яе wdzięki — жаноцкая краса, якія і строгая вопратка не магла схаваць. Не скажаш: «белая варона», бо для такое назвы яна залішне прыгожая. А ці адчувала яно, тое быстрае, румянае дзяўчо, сваю асуджанасць быць **не як усе** — без шчасця кахання, мацярынства?..

Помніцца са жніўня семдзесят пятага.

•••••

Сюжэт:

Зайшла да яго сама. А ён цяпер, праз пятнаццаць гадоў, успамінае, думае, чаму ж не пасадзіў яе на шырокім падваконні вялізнага санаторнага акна,— каб

ім зручней было глядзець з сёмага паверха на прыцярушаныя беллю верхавіны соснаў і снежную пену прыбою на марскім беразе, каб зручней было пачаць там іхняе шчасце — з пацалункаў...

Ён гэтага не зрабіў, каб быць вышэй, адпаведней свайму паважанаму ўзросту. І вось успамінае з безнадзейным шкадаваннем.

Хоць, можа, і яшчэ раз зрабіў бы таксама.

•••••

Васіль Казачэнка, здаецца, нават пісаў пра гэта, а што расказваў у кіеўскай ці маскоўскай кампаніі, дык гэта ўжо мне памятаецца добра. Як у пяцьдзесят сёмым годзе, калі ён з жонкай гасцяваў у нас на Нарачы, мы вярталіся вясёлай грамадой з возера ў Купу, а насустрач нам — вясковы статак, на пашу. Маладая карова раптам кінулася на мяне, а я, на шчасце, удала хапіў яе за рогі. Патрымаў, так крутануў, што яна аж мукнула і, выпушчаная з рук, нават адбеглася.

«Приятно вспомнить молодость», — сказаў пасля доўгай, трывожнай паўзы таварыш Сталін, калі закончыўся прагляд фільма «Незабываемый девятнадцатый», у якім яго — штосьці незадоўга да канца — паказалі народу на падножцы бронецягніка, з шаблюкай і «міт а шпòрэс»...

•••••

Песні Высоцкага на выбар слухаліся лепш, чым чыталіся ў кнізе, спачатку нават у самвыдацкай недазволенасці. Успомнілася, як у партызанскім лесе, куды ў апошнія месяцы акупацыі газеты з Масквы траплялі на пяты-шосты дзень, фельетоны Эрэнбурга мы чыталі з жывой цікавасцю, а потым, у Мінску,

купіў я кнігу з імі, і вельмі хутка яны апрыкралі сваёю аднастайнасцю. Адзін «отставной козы барабанщик» паўтараўся бясконца, як і іншыя банальнасці славутага вастраслова.

•••••

Беднасць наша, кволы пачатак, калі і пераклад апавядання Гаршына «Сігнал» строга ўлічваецца гісторыяй літаратуры.

•••••

У «Хаджы-Мураце» Мікалай Першы ўспамінае плечы Нялідавай, а айцец Сергій у аднайменнай аповесці — плечы ўдавы, з якою жыў да сватаўства і манаства.

**Дались ему эти плечи!..** — скажам пра паважанага, вельмі патрабавальнага аўтара.

•••••

Можа, гэта таксама тэма — блакноты з адрасамі, тэлефонамі, прозвішчамі, заданнямі для самога сябе, падлікамі зробленага, спісамі падораных табою кніг?.. Элегічна расшыфроўваць сёе-тое, з вобразамі людзей, значнейшымі сустрэчамі, знаёмствамі, разрывамі. Як дапаможнік да фрагментаў перажытага, успамінаў...

•••••

Сякера пад лаўкай! — Скарупкаў двухтомны «Słownik frazeologiczny», які так доўга чакаў маёй пільнейшай увагі. Гартаю першы том, спыняючыся на больш цікавым.

І падумалася, што таксама, як камусьці будзе

шкада назаўсёды расставацца з прыродай, музыкай, кнігамі, так другому з багаццем роднага слова...

Тут мова — чужая, а адчуванне ў мяне — як свая. Настолькі ведаю яе, зжыўшыся з ёю за семдзесят гадоў, пачаўшы з elementarza.

А колькі ў нашых фальклорах блізкага! Скажам, такое: «Bieda w zagrodzie, gdzie krowa wołu bodzie», пра што ў маім Загоры гаварылася так: «На чорта тая дамова, дзе вала бадзе карова». І пагарда тая самая ў кароў да валоў, як быццам гэта яны самі вінаваты ў тым, што не быкі. Або такое: «Dogadza jej, jak ksiądz Magdusi». І прыклад: зімой айцец пробашч загадваў ёй хадзіць басанож, а на лета купіў чаравікі. Змалку памятаю іншае, загорскае растлумачэнне. Ксёндз пробашч паміраe, а ахмістрыня Магдуся абвязала яму, як на паратунак, горла хусткай з цёртым цёплым макам. І пытаюцца тыя, што сабраліся каля ложка, каму ж айцец адпісвае сваё дабро. А ён толькі з прыплачам: «Мак дусі!.. Мак ду-сі-і!..» І выйшла пры сведках, што ён, пры светлым розуме, усё пакідае Магдзе. Было ў мяне і іншае, скарамнейшае растлумачэнне. Калі наш здаравенны чырвоны певень пераможна саскочыў з курыцы, сусед, што быў якраз на нашым двары, пануры дзядзька Ёсіп, сказаў майму бацьку пры мне, шасцігадовым смаркачу, яшчэ ўсё нявопытна гарадскім: «Во дагадзіў, як ксёндз Магдусі!..»

Блізкае ў мовах, у народнай творчасці — не для таго каб тузацца ды папракаць адны адных сваёй вышэйшасцю, а каб думаць пра нармальную суседскую роднасць дзвюх славянскіх моў.

Двойчы было зайздросна:

Біблейскае «плач и скрежет зубовный» палякі, пры ўсёй сваёй ультракаталіцкай набожнасці, з народным перцам дапаўняюць так: «Płacz, zgrzytanie zębów i tarcie dupą o podłogę».

Гэтага ў пана Станіслава Скарупкі чамусьці няма, памятаю з пачутага ў войску.

«Gdzie Rzym, gdzie Krym» ідзе ў яго як польскае. А ўкраінцы дадалі канчатак: «а де попова грэчка» — і загучала па-іншаму. Народныя папраўкі.

Przygruchać — прыбуркаваць дзяўчыну, як голуб галубку. Хараша!

І тое, што яны тую частку іхняй паліцыі, якая ў гады акупацыі служыла гітлераўцам, польскаю не называюць, а па колеру яшчэ даваеннай формы — granatową, сіняй,— policja granatowa, з належнай пагардай.

Нам бы сваіх «бобікаў» не толькі па колеры шуцманскіх неданоскаў, у якія іх апранулі «вызваліцелі», называць **чорнымі**, але і па запрададзеных ворагу душах.

•••••

У маладой, прыгожанькай салісткі народна-акадэмічнага хору, з якою я гутарыў у Таварыстве дружбы, муж пчаляр, а мёд цяпер — трыццаць тысяч рублёў за кілаграм, жыць можна. Так яна прастадушна расказвае, упершыню са мною сустрэўшыся.

Пра сяброўку сваю, таксама салістку, што стаяла воддаль у чародцы гасцей, мая суразмоўніца сказала са спачуваннем, што ёй, сяброўцы, значна цяжэй. Адна, без мужа, і сын, а зарплата сто дваццаць тысяч,— «на хлебе з чаем цяжка, ведаеце, спяваць». А яшчэ ж трэба і прытанцоўваць, і, як казаў мне аднойчы знаёмы дырыжор, «забяспечваць усмешку».

Так падумалася, калі яны, кожная па сабе, выступалі неўзабаве ў канцэрце, такія небудзённа мілыя ў нацыянальных касцюмах.

•••••

**Выжываць** — гэта любой цаною, а **жыць** — гэта ўсё-такі менш ці больш сумленна.

Прызвычаіўшыся «выжываць» на брудных літаратурных спекуляцыях, пры сваіх «мерседэсах», «снікерсах»; каньяках, ці будуць яны калі-небудзь — маладыя ўсё ж дачакаюцца нармальнага часу! — не выжываць па прывычцы ды вопыце, а жыць па-чалавечы?..

•••••

Жыццё — у няспынным пазнаванні таго, што адразу не ахопіш розумам, не завучыш на ўсю глыбіню, шырыню.

Адчуў гэта ярчэй, чым гэта пішучы цяпер, учора перад сном, калі слухаў па радыё нейкага сур'ёзнага ўмельца, майстра сваёй справы.

Ён, між іншым, расказваў, што вярблюды ў пустынных краінах спакойна жуюць — з'ядаюць розных кобраў ды іншую поскудзь атрутную, якая баіцца вярблюдаў настолькі, што і паху поўсці іхняй асцерагаецца. Дзецям там вяжуць з прадзіва вярблюджай поўсці на́сілачкі, абвязачкі на рукі, на шыю — ад змей. Ніколі гэтага за ўсё жыццё не чуў, не чытаў такога, і яно ўражае з сілай першаадкрыцця, такою моцнай, як у маленстве бывала.

І шчасце тут у самім пазнаванні, няспынным і ўсямерным, бо тут жа і элінскае «я ведаю толькі тое, што ▪ нічога не ведаю», тут і біблейска-юдзейскае «ў многім веданні многа тугі», і іншае падобнае, з мудрасці іншых народаў, эпох.

У самавукаў яно яшчэ і без грунтоўнага ўступу да пажыццёвага пазнавання, што дае сістэматычная вучоба, своечасовая, у маленстве ды юнацтве. Аднак

паэзіі, шчасця адкрыццяў, магчыма, і не менш у іх, чым у тых, каму ў пару пашанцавала.

•••••

Зноў Гогаль. Тое, што само па сабе з маленства запамінаецца назаўсёды. Выйшаў пасля работы ў парк, і на хаду, у ціхай самоце згадаўся Жавакін:

«...Дай-ка, думаю себе, пойду. Погода же показалась хорошею, по дороге везде травка».

Хоць яна толькі яшчэ паказваецца.

А ўсё ж лягчэй на стомленай душы.

•••••

Братэрства...

У паломніцкіх нататках Мікалая Крыштофа Радзівіла*, чытаючы пра сярэднявечнае марское і сухапутнае зверства — ад Ерусаліма да Рыма, а потым па радыё слухаючы пра мярзоцце «дзедаўшчыны», пра крывавую тузаніну ў Закаўказзі, на Паміры, у былой Югаславіі, пра тэрарызм ужо і ў Маскве, пра разбой і гвалт і ў «лагоднай», «сінявокай», «спрадвеку талерантнай» Беларусі,— страшна і часам проста не верыцца, што калі-небудзь і ў нас, і ў суседзяў, і наогул на свеце можа стаць лепш...

•••••

Скула на клубе. Ляжу каторы дзень. Няма апетыту. Маці падала гарачай чышчанай бульбы і кавалак тлустага селядца, яшчэ смачнейшага ад таго, што (у газеце нядаўна чытаў) такое любіць сама Грэта Гàрба!.. А на завяршэнне шчасця гэтай беспра-

---

* Кніга жыцій і хаджэнняў.

цоўнай волі, пасля малацьбы цапамі, паездак у пушчу па дровы — «Давід Каперфільд», над некаторымі старонкамі якога ажно заплакаць можна ад захаплення.

Успомнілася гэта, юначае, вясковае, чытаючы Буніна, «Белую лошадь».

Пісаць пацягнула ад сказа:

«Как молод он был тогда, как восхитительна была даже болезнь!»

•••••

— Немцы тыя ў хату зайшлі з паліцаямі, а ў мяне малая ў калысцы. Дык яны кажуць, што мы такіх каля Слоніма ўверх падкідалі ды на штых! Перадрыжала я ўся, Божа мой!.. А ўжо калі яны ішлі ад нас, дык адзін, што ззаду ішоў, і кажа: «І кляйна твая будзе жыць, і ман* твой вернецца з вайны...»

Бабуля з пасёлка Даманава на Берасцейшчыне расказвае радыёкарэспандэнтцы пра сваё доўгае, нялёгкае жыццё. Як «цар у бежанства пагнаў», як там гаравалі, як потым вярнуліся, а ў іх быў фронт і нічога не засталося, як памерлі і мама, і тата, які сказаў, што ёй, найменшай, будзе найгорш. І было так, пакуль не ўзяла яе за няньку адна добрая жанчына. «Я ёй трох сыноў выгадавала, і яны мяне не цёткай звалі пасля, а мамай». І сваім дзецям рада бабуля, і ўнукам, асабліва аднаму з іх, што як прыедзе, дык і ў лазню яе правядзе, і ў хаце так глядзіць.

Шкада, што гэтае жыццё вельмі старой, паважанай на ўвесь пасёлак жанчыны расказана толькі па радыё, у ранішняй перадачы «Вясковыя ростані». Стараннем мілай па голасе журналісткі, прозвішча якое не запомнілася, як і бабуліна. Аднак у радыёзапісе

* Die Kleine — малое, der Mann — тут муж.

ёсць свая перавага — жывы голас, адкрытая душа добрага чалавека, што многа адпакутаваў, але галоўнае збярог, пранёс — тое, што называецца чалавечнасцю.

Усё можна забыць, назваць прыблізна, перablытаць, нават і па-прасцяцку пацешна, а памятаецца такое, народна-ўсенароднае,— як тыя кля̀йна і ман...

•••••

У студзені сорак сёмага года ў Лондане сабраўся першы агульны з'езд сяброў згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У галоўную ўправу быў выбраны, паміж іншымі, і спадар С. Серафімовіч.

Гэта я прачытаў у дыяспарнай кнізе «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

Летась таго Серафімовіча нечакана выкалупалі на адной з лонданскіх ускраінаў, старога ўжо, у тры эшалоны сямейнага чалавека, каб прыгадаць яму мардаванне яўрэяў у Міры і аколіцах, калі ён быў там камендантам паліцыі. Пра гэта пісалі маскоўскія газеты. А нядаўна наша карэліцкая раёнка змясціла і пераздымак здымка таго «патрыёта», і па спалоханагеглым твары яго можна меркаваць, што і судзіць ужо тым часам позна...

Цяпер наш Мір, перад вайной багаты, ладны гарадок, двойчы разбураны ў вайну, у сорак першым і ў сорак чацвёртым, становіцца модным з-за свайго замка, які памалу адраджаецца. Гісторыя!..

А я, калі еду ў родную вёску або вяртаюся адтуль, не магу не зірнуць туды, дзе на заходняй ускраіне мястэчка была і яшчэ стаіць бойня. Каля яе, за сцяной ад дарогі, расстрэльвалі і безыменна закопвалі, пераважна на досвітку, старых бацькоў і матак тых, каго вывозілі ў Нямеччыну «на работы», па больш-менш пэўным ці і не надта абавязковым падазрэнні ў сувязі

з партызанамі. Знішчалі так «унтэрмэншаў» з меркаванняў эканамічных, як лішніх там, дзе спатрэбяцца рукі і плечы іхніх дзяцей і ўнукаў.

Я ведаў некаторых расстраляных, памятаю іх...

Я не магу не думаць пра тое, што там, за бойняй, толькі цудам не расстраляна наша старэнькая калекамаці.

Па загаду таго члена ўправы, у выкананні тых некаторых, што таксама ж недзе лічылі ці і яшчэ ўсё лічаць сябе ці нехта лічыць іх «патрыётамі», «змагарамі»...

•••••

Як яна ў нас далёка, шырока, грунтоўна зайшла — русіфікацыя!.. Канцэрт па заяўках, мноства імён, назвы вёсак, раёнаў, а песні просяць перадаць больш, чым у пераважнай колькасці, рускія. Дыктары па службе з намаганнем беларушчаць і сваё, і цытуючы з пісьмаў, а вершыкі, радкоў чатыры ці трохі больш, альбомная шырпатрэбшчына або хатняе самапляценне, абавязкова даюцца па-руску.

А «адпачынак на канапе», які на добрай беларускай мове вядзе павольна-разважлівая спадарыня, складаецца, бадай, выключна з рускіх або рускамоўных песняў.

На колькі пакаленняў разлічана яно, наша беднае адраджэнне? Ды яшчэ пры нашай нацыянальнай энергіі...

•••••

«Скрыдлы», «згукі» — прыкра мне гэта, ненатуральна. Можна зразумець Максіма Багдановіча з ягоным пазнаваннем роднай мовы з кніжнай далечы. Але ж навошта гэта цягнуць ад яго, хоць і любімага,

у мову сучасную, маючы проста гукі, без пераклічкі са «звукамі», і такое прыгожае, лёгкае, зусім сваё, без польскіх skrzydeł — крыллі?..

•••••

«Ulissesa», калісьці падоранага мне Янам Гушчам, выдатна, пра што было ў польскай прэсе, перакладзенага Мацеем Сламчыньскім, я ўзяў сюды, у вясковую цішыню, каб, можа, адолець за гэтым другім разам. І па той, у нейкай меры, прычыне, што прачытаў неяк у «Нашай ніве» выказванне нашага перакладчыка гэтай рэчы Максімюка наконт таго, што, маючы гэты пераклад, Беларусь можа лічыць сябе культурна спелай нацыяй. Штосьці так. Але ж і з прыхаваным падтэкстам: а хто гэты пераклад зрабіў?!

Падобнае было і з Шупавым перакладам рамана «1984», і прэтэнзія, і крыўда па тэлевізары, што не выдаюць без чаргі...

Працуюць, стараюцца здольныя, адукаваныя хлопцы, і на здароўе, абы сур'ёзна, не калумбячы залішне ў нашай беднасці,— дай Бог, каб часовай!

З васьмісот з гакам старонак «Ulissesa» адолеў сто пяцьдзесят, яшчэ ўсё недаўмяваючы: а дзе ж яна, тая незвычайная значнасць гэтага шэдэўра? Чытаецца цяжка, многа замежных слоў без заўваг, а таксама і польскае напісанне ў арыгінале англійскіх прозвішчаў, імёнаў, геаграфічных назваў, якіх такое мноства, што ажно абрыдзела блытацца ў іх.

Ды трэба ўсё-такі дачытаць, тым больш што іншага тут нічога пакуль што няма.

•••••

На душы зачаста бывае цяжкавата, асабліва начамі... У будучыню заглядваць не прыходзіцца, а жыць днём сённяшнім мы не ўмеем...

Прахалода, холад і дождж. І камарэча, ад якое можна і знаравіцца. Пры кветках і салаўях. А ўчора раненька і жораваў пачуў. Ад радасці пераклікаюцца за Нёманам на лузе?..

•••••

Пачутае днямі па радыё, у процьме іншых жахаў і агіднасцей:

Хлопец, салдацік, радавы падышоў ад свайго стала да другога, дзе сядзелі сяржанты, і ўзяў лустачку хлеба, бо на сваім стале хлеба не хапіла. Пасля абеду два ці тры (не памятаю) сяржанты паклікалі хлопца ў туалет — абдумана! — і пачалі яго біць. Кавалачкам хлеба прымусілі падціраць унітаз і хлеб той есці...

Як гэта страшна — на месцы таго хлопца ўяўляць кагосьці найбліжэйшага!..

•••••

У жыцці Ефрасінні:

«И собрашася князи и силнии мужие, и иноки и инокиня, и простии людие, и бысть тръжество велие, и празновали дни многи, и разидошася кождо в свояси».

Падкрэсліў у тэксце сваё здзіўленне, што і тады, у канцы XIII стагоддзя (улічым і пераробкі ў XVI — XVIII стагоддзях), было ўжо яно, акрэсленне «простыя людзі». Няпроста пранікнуць у яго глыбінны сэнс, народны.

•••••

Калі мне трэба зноў угрунтавацца на сваім запаветным, добра бывае пагрэць душу нейчай прыязнасцю, разуменнем.

На вечары памяці Верачкі Палтаран, пакуль ісці ў залу да слухачоў, якія спакваля збіраліся, мы сядзелі з Машай Захарэвіч. Яна расказвала пра хваробу сваёй старэнькай маці, пра тое, як гэта цяжка цяпер — і самому лячыцца, і, можа, яшчэ цяжэй — лячыць найраднейшых: ні лекаў, ні шчырай спагады ад некаторых медыкаў. Над Машыным узгалоўем — палічка з кнігамі. «Добра так — руку працягнеш і ўзяла. Я перачытвала днямі ваша пра маці...» Тую старонку ў апавяданні «Ты жывеш», дзе ў мяне безназоўна прафесар Мялкіх, і сам ужо згорблены стары, пакратаўшы маю маму за нос, адцягнуўшы пальцамі пад адным і пад другім ніжнім векам, вяла-абыякава махнуў перад тварам ляжачай бабы сваёй вучонай рукою... Нешта падобнае было і ў Машы з яе мамай,— у дачкі свежы боль перагукнуўся з сынавым болем, маім, ужо такім даўнім...

А мне яшчэ і радасна было, што яна тады, дома, успомніла пра мяне. І цяпер вось патольна згадалася.

•••••

Пра якую культуру пахавання немцаў можна гаварыць, памятаючы напал нянавісці, з якой іх праводзілі з нашай зямлі?! Трупы, якія бачыў у тыя дні і я — на лясных, на палявых дарогах, уплаў на Нёмане. Могілкі каля мінскай Першай клінікі, густое, стракатае мноства бярозавых крыжоў, якія пасля вызвалення кудысьці зніклі...

А з другога боку — нямецкія могілкі ў Кабыльніку

над Нарачччу, з культурным «Unbekanter Rusischer Soldat»* на крыжы. І не адным.

Але ж гэта было ў першую сусветную!

•••••

«Карэліцкія чытанні».

Выступаючы першым, я гаварыў, што гэта ўсё-такі шчасце, падарунак лёсу — нарадзіцца ці змалку вырастаць, як я, паміж двума Міцкевічамі, польскім і нашым. На заканчэнні трохкласнай школы ў Загоры я чытаў баладу «Powrót taty»**, а праз паўтара гады, ужо з местачковай школай, быў з «выцечкай» на Свіцязі. Колас — родны вершамі і ўрыўкамі з «Новай зямлі», аднак таксама вельмі далёка-высокі, як Бог паэтычнага шчасця. Потым я перайшоў да хворага Танка, якому званіў напярэдадні, і ён паўспамінаў сваю падпольную маладосць, хораша звязаную з нашымі мясцінамі. Дазволіў я сабе таксама з удзячнасцю згадаць свой старт у літаратуру з партызанскай пушчы — як сведчанне беларускасці і таго асяроддзя. Гаварыў пра Валодзю Калесніка, які, як і Максім, прыехаў бы сюды, каб маглося. А закончыў Караткевічам: «На Беларусі Бог жыве». А ў Бога адна з лепшых беларускіх кватэраў — наша Карэліччына. З яе красою і людзьмі.

•••••

З намечанага ў запісах яшчэ крыху пра Броўку вазьму двух Алесяў,— іншае бачыцца лішнім пасля таго, што даў у «Пішу як жыву» і «Вячэрнім», і неяк няёмка стала больш таптацца па ім, і шкада ўжо чалавека, у якога было ж і добрае.

---

* «Невядомы рускі салдат».

** «Татава вяртанне».

Вясной 1966-га мне прыйшлося пагутарыць з Пятром Усцінавічам пра старэйшага з Алесяў, Адамовіча, пра яго ўладкаванне на працу ў Мінску пасля таго, як ён не падпісаў у Маскве тое, чаго не мог падпісаць (супраць Даніэля і Сіняўскага). Крута гаварылася, з вока на вока, і ён нарэшце сказаў: «Ну добра, перадай яму, хай зойдзе, пагаворым». Калі я паведаміў гэта Алесю, ён не сказаць — адмахнуўся, хутчэй нават выбухнуў: «Пайшоў ён!.. На паклон?..»

Пра Алеся Наўроцкага мы пагаварылі з Броўкам пазней, перад самым з'ездам пісьменнікаў, пасля абмеркавання прэзідыумам тэзісаў даклада нашага старшыні. Сугучна «думцы зверху», ён збіраўся рэзка пакрытыкаваць ціхманага, удумлівага Алеся, якому я сімпатызаваў як здольнаму празаіку і ў нейкай меры земляку, бо ён працаваў перад гэтым у адным з калгасаў Карэліччыны санітарным фельчарам. У той Броўкавай рэзкасці быў нават з'едлівы гумар: пра «мухі ў носе», бо штосьці такое было ў адным Алесевым вершы. Гумар таксама ішоў з ЦК. Тут ужо я не сам-насам, а пры членах прызідыума сказаў старшыні, што ніводзін разумны бацька не б'е дзяцей па галаве. І гэта падзейнічала: у дакладзе крытыка прайшла значна мякчэй.

Вось ён і плюс для Броўкі, адзін з тых, што і ў яго ж былі.

•••••

У блакноце запісана: «Масква. 25.IX.84». З натугай успомнілася, што гэта там, у людной крамлёўскай зале, на юбілейным пышным пленуме Саюза пісьменнікаў СССР пачуўся мне з памяці так яўна голас з вясковай хаты на зімовы двор, калі хтосьці хацеў зайсці да кагосьці:

«Пачакайце — купаюць малое!»

Бо гэта ж так важна.

•••••

І ў навеле «Уступленне ў рэквіем», і ў запісах я неаднойчы згадваў, безымянна і адкрыта, сябра маёй вясковай маладосці, старэйшага за мяне Міколу Смалянку, Тодаравага Колю з суседняй вёсачкі Чыжыноўцы.

І яшчэ адно трэба дадаць.

Пад восень трыццаць восьмага года, пасля таго як сталінскай чарговай мудрасцю была распушчана КПЗБ, камуністычная партыя Заходняй Беларусі, тыя з падпольшчыкаў, што сядзелі ў «панскіх» астрогах і павыходзілі з іх пасля смерці Пілсудскага, па амністыі, былі выкліканы ў паліцэйскую камендатуру ў Стоўбцах. Там перад імі выступіў сам пан павятовы камендант. Сабраным прапанавалася падпісаць дэкларацыі, адмаўленне ад усякай палітычнай — падрыўной, «выўратóвай» — дзейнасці.

— Я ведаю,— сказаў пан камендант, трохі перачакаўшы маўчанне,— што вы гэта не падпішаце. Ведаю таксама, што вы, панове, будзеце далей рабіць. Вы пойдзеце туды, у каханую саўдэпію. Проша бардзо і шчэнсць Божа! І вы там будзеце, шаноўныя, успамінаць мяне. Вельмі часта.

— І я яго ўспамінаў,— цяжка, з паўзамі гаварыў мне Мікола на сваім перадсмяротным ложы.— Хутка пачаў успамінаць. У мінскай турме... калі катавалі... польскага шпіёна... І ў лагеры ўспамінаў... І тады думаў... не адзін раз... і цяпер часамі думаю: як яны... ведалі ўсё, палякі... Нейкая змова была ў іх, ці што... у дэфензівы з энкавэдэ?..

•••••

На юбілеі ў паважанага чалавека мне давялося сустрэцца з яго сваяком. За сталом яго адразу не было, ён забег крыху пазней. З раскошным буке-

там ружаў. Павіншаваў, папрасіў прабачэння, што застацца, на жаль, не можа, і развітаўся, з гаспадаром пацалаваўшыся, а ўсім астатнім з усмешкай пакланіўшыся.

Букет ягоны заняў месца на сярэдзіне густа застаўленага стала, якраз насупраць мяне.

Ружы не вінаваты, што праз іхні чароўны выгляд і пах я баяўся пачуць, вось-вось пачуць пах зусім іншы...

Ад вартых даверу людзей я ведаў, як нямала «ворагаў народа» загінула па даносах гэтага ветлага віншавальшчыка.

І пах пачуўся б трупны — ад яго душы...

Больш за дваццаць гадоў прамінула, а як жывое.

•••••

На канцэрце раённай самадзейнасці, прысвечаным 50-годдзю вызвалення ад гітлераўскай акупацыі, і здалёк пажылая, вясёлая цётка ў нацыянальным касцюме, у будзень, вядома ж, работніца ў полі ды гаспадыня ў хаце, выступае з самаробнымі прыпеўкамі. Хоць бы адна з іх, няхай сабе і не новая:

Мужык кажа: я старая,
а мне ўсё не верыцца.
Ну якая ж я старая —
усё на мне шавеліцца!

Землякі натуральна смяюцца, і моладзь, і пажылыя, і мы, імяніннікі, ветэраны вайны.

А потым — банкет у адным з багацейшых калгасаў.

Маладзіца з раённых служачых, жонка кагосьці з начальства, так старалася ў сучасных танцах, што глядзіш і здаецца — ногі яе пад кароценькай сукняй то выкручваюцца, то закручваюцца, то зноў выкручваюцца ў каленях і клубах, не надта каб прыгожа, але

надзіва нястомна, пад гукі моднай песні з адпаведнай тэхнікі:

Два кусочычка колбаски
у тебя лежали на столе...

Не толькі радасць, відаць, нядаўна набытага наменклатурнага дабрабыту, дзе калбаска не кусочычкамі, і любаванне сабой у гэтым «заслужаным» шчасці.

•••••

Эстонію, як і ўсе прыбалтыйскія рэспублікі, планава, вялікадзяржаўна навадпілі вайскоўцамі, перш за ўсё і найбольш рускімі, мноства якіх цяпер на цёплых пенсіях. І вось ідзе вялікі торг наконт «правоў чалавека», як быццам па такому праву яны там апынуліся.

Як і на нашай безабаронна гасціннай ды — як гэта модна! — талерантнай зямлі.

•••••

Сонца і вецер за акном. А недзе па ўсёй Беларусі народ — на сваю галаву — выбірае найбольш верагоднага прэзідэнта, які ў сваім нахрапе не палічыцца ні з чым...

•••••

Перад ганкам у нас вялікі куст невымоўна чароўных светла-ружовых ружаў, якія нагадваюць маладосць, закаханасць...

•••••

Чытаючы ў часопісе «Семья» інтэрв'ю з артыстам Лявонцьевым, дзе ён расказвае, як быў у Рэрыхаў у Індыі, якое высокае ўражанне зрабіў на

яго Святаслаў Мікалаевіч, а яшчэ больш — Дэвіка Рані, я ўспомніў сваё.

Як яна адклікала мяне ад мужа і двух маіх спадарожнікаў і павяла ў сад, спачатку нават за руку. Каля вялізнага, незвычайнага дрэва, здаецца, баньяна, пачала мне тлумачыць па-нямецку, каб я загадаў у душы штосьці сваё запаветнае. На гэтай мове мы так і не змаглі належна зразумецца. Яна, якая пэўны час працавала на ўсходне-нямецкай кінастудыі «Defa», гаварыла куды лепш за мяне, а я... ну зусім разгубіўся. Добра, што весела нам было ад гэтай моўнай недастатковасці, што яна была на дваццаць пяць гадоў маладзейшая і мяне зачаравала — красуня індыйская — яшчэ больш, чым артыста. У сэнсе экзатычна-паэтычным, чыста-высокім... Лепш, чым я цяпер пра гэта напісаў.

•••••

Над старонкамі Міхайлы Лаліча, трохтомнік якога выдадзены па-руску ў 1989-м, сумнавата думалася пра тое, што мой трохтомнік тая самая «Художественная литература» планавала на 1992-гі, а мне тады, на дзевяць гадоў раней, гэта здавалася... нават і крыўдным — чаму так зацягваюць!..

Што там ні думай, што ні гавары, а гэта быў выхад у вялікі свет, да шматлікага, не толькі ж рускага, чытача.

...Чытаю свайго чарнагорца, і не-не дый успамінаецца дырэктар музея Негаша ў Цэцінье, вясною пяцьдзесят шостага. Унук ці праўнук паэта-асветніка, па сумяшчальніцтву і князя Чарнагорыі, быў настолькі за мяне, высокага, вышэйшы, што мы ажно пamerаліся. І весела нам было — групе беларускіх турыстаў і некалькім з тых, што нас прыязна прымалі.

•••••

Слоў няма — хамства, злачынства тое, што зроблена трэцяга ліпеня з тымі, якія неслі кветкі да помніка Перамогі пад бела-чырвона-белымі сцягамі, дзе ў першых радах былі такія франтавікі, як Васіль Быкаў, такія партызаны, як Мікола Крукоўскі (ягоны артыкул у «ЛіМе»!). Але сваё аднак ёсць і ў гэтай справе, пра што [redacted] не мог не ўспамінаць. Бяздумныя антыпартызанскія публікацыі, што з'яўляліся на старонках перыёдыкі, нядошлая «філасофія» вакол таго, трэба ці не трэба нам было змагацца «на баку сталіністаў», спробы адсвяткаваць пяцідзесяцігоддзе трагічнага «Саюза беларускай моладзі»... Многа нагаварылася, накрычалася лішняга, без належнага разумення стратэгіі і тактыкі змагання, што без патрэбы распальвала варажнечу, шкодзіла справе адраджэння...

•••••

На пяцідзесяцігоддзі вызвалення Карэліцкага раёна сівы, ссутулены Г., партызан нашага злучэння, відаць, мяркуючы, што і я былы член партыі, расказваў мне, што, пакуль у іх сабралася невялікая партарганізацыя, ён выпісваў самому сабе ўзносы і пасылаў іх у падтрымку «Праўды».

Расказвалі мне, што падобным чынам паводзіць сябе стары Азгур. Успомнілася гэта, калі ў чэрвеньскім «Полымі» чытаў яго «Працяг размовы». Упачатку ён піша, што ў яго пытаюцца: «Ці няма ў маім доўгім жыцці таго, аб чым я хацеў бы забыць», і адказвае: «Было. Але з біяграфіі не выкрэсліваецца нічога». Падумалася: вось і пачнецца шчырасць, споведзь. Няма. Ёсць жаль нават па дзвюх магутных галовах, што стаялі перад уваходам у ЦК партыі, па якой жаль павінен быць яшчэ большы, углыбіню ды

ўшырыню па ўсёй савецкай краіне, якую ён уставіў істуканамі.

Успамінаю, як ён хваліўся сваім Леніным у Махачкале, як вясной 1957-га, пабываўшы на падмаскоўным высока-дачным прыёме, з хвaляваннем расказваў у Саюзе пісьменнікаў, як асмеліўся там, на ўрадавай дачы, падысці да Молатава, папрасіў яго папазіраваць і «Вячеслав Михайлович согласился!..». Тут, праўда, не пашанцавала: неўзабаве з'явілася «антыпартыйная група».

Помніцца таксама, як пры жыцці Сталіна, узняўшы яго шынельны «вобраз» пад воблакі, ён выступаў зноў жа ў Саюзе пісьменнікаў і завочна дзякаваў Сяргею Селіханаву за тое, што ён яму тут дапамог — зрабіў левую нагу правадыра. Іменна левую...

Не ўсё з тое пыхі выветрылася на паваротах гісторыі і дагэтуль.

•••••

Пад раніцу сніў Івана Драча, ды вельмі ж ужо пяшчотна, з прытуленнем шчака ў шчаку.

Антон пазаўчора прысеў да мяне, заглыбленага ў Булгакава, а потым і прылёг галавой на калені, сказаўшы:

— Хачу, каб ты мяне пашкадаваў.

Блізка і ад сябра, і ад унука, і ад іншых прычын апошняга часу,— ярка ўявіўся летні расквітнелы дзень і сям'я, са сталымі дзецьмі і ўнукамі, якія ўжо многа і яшчэ чыста разумеюць галоўнае,— сям'я твая, чалавеча, і сам ты, і ўсім вось-вось прыйдзецца загінуць. Ад куляў і полымя, на тваю зямлю, у тваё жыццё прынесеных захопнікам...

Якое ж тут яшчэ можна шукаць і знаходзіць апраўданне фашыстам і іх памагатым?

•••••

Намагаючыся шукаць і знаходзіць для пераймання штосьці новае, суперновае ў сваёй і сусветнай літаратуры, мы рызыкуем выглядаць наіўнымі правінцыяламі, калі не міжвольнымі плагіятарамі, дык смешнымі адкрывальнікамі амерыкаў і вынаходнікамі веласіпедаў.

Прасцей, разумней, мэтазгодней быць кожнаму самім сабою, прапускаць сваё бачанне свету праз сэрца, думаючы не пра навізну, а пра шчырасць, якая адна можа ў той ці ў іншай меры гарантаваць нашу непаўторнасць, пэўнае папаўненне агульналюдскай скарбонкі вартасцяў.

•••••

Не пішацца. Чытаць «Ulissesa» далей не хочацца. Узяўся за двухтомнік Скаварады.

З цікавасцю прачытаў «Басни харьковскиє», дзе мараль — «сила», як ён піша — нашмат даўжэйшая за байку; прачытаў некаторыя вершы, успамінаючы Сімяона Полацкага, не менш сумнаватага мне, перайшоў, кажучы па-сучаснаму, да «круглых сталоў»...

...Калі прадоўжыць учарашні запіс, дык трэба сказаць, што пасля бяседаў, больш уважліва прачытаўшы адну з іх, перайшоў да пісьмаў Рыгора Савіча ягонаму вучню і другу Міхайлу Кавалінскаму і, можна сказаць, хораша зачытаўся.

...Там, дзе ў яго пра Лотаву жонку, ад калейдаскопнасці біблейскіх тэкстаў зноў успомнілася даўняе — Алеся, дачка нашага сваяка.

Якая сіла веры, гатоўнасць да незвычайнага, гераічнага! Здаровая вясковая дзеўка выйшла замуж за «брата во Христе», таксама пяцідзесятніка, і — маладая, гарачая — угаварыла мужа, што спаць будуць разам, як і трэба, але ж, «во славу нашего Господа»,

паўгода не пачнуць кахання. І захварэла «па-жаночаму», ледзь потым да дзяцей дайшло. Ужо ў Аргенціне, куды яны паехалі ў пачатку трыццатых гадоў ад сваёй заходнебеларускай бядоты.

...Яго біяграфія, добра напісаная Кавалінскім, адкуль захацелася выпісаць словы вандроўнага філосафа ў вучневым перказе:

«...Остаток египетского плотолюбия, которое не могши продлить жизни телесной, при всех мудрствованиях своих нашло способ продолжить существование трупов человеческих, известных у нас под именем мумий».

Падкрэсліў я сілу прастаты, падумаўшы: якое моцы дурман патрэбен, каб праз столькі стагоддзяў прагрэсу муміі зноў пайшлі ў моду — у марксісцкія маўзалеі!..

•••••

Нехта, дый не адзін, са смакам і нястомна хваліцца сваімі баямі, а па-сапраўднаму мужны Федзя Янкоўскі ў сваёй ціхай шчырасці ганарыўся перад сябрамі перш за ўсё тым, што ў тых мясцінах, дзе ён партызаніў, камандуючы разведкай, людзі ўспамінаюць дабром і самога яго, і ягоных бравых разведчыкаў.

Так было ў чэрвені восемдзесят другога, калі мы, група пісьменнікаў, прымалі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнага знака Сымону Рак-Міхайлоўскаму ў яго роднай Максімаўцы на Маладзечаншчыне. Людзей з наваколля сабралася многа, і нямала было сярод іх Федзевых знаёмых па днях і начах вайны. Яго сустракалі з пашанай, прыязна гутарылі з ім, і яму было вельмі прыемна, спакойна за перажытае ў народзе і з народам ліхалецце. Так ён, са сваёй натуральнай, дабрадушнай сціпласцю, і выступаў перад людзьмі

і там, перад бацькоўскай хатай Сымона Аляксандравіча, і ў іншы час, у іншым месцы — перад рабочымі камбіната мастацкай керамікі ў Радашковічах, дзе таксама былі мужчыны і жанчыны, што памяталі прафесара камандзірам разведкі, дзяліліся з ім успамінамі.

Часамі мне, трэба прызнацца, нават і думалася, што добры сябар мой трошкі зачаста ганарыцца гэтым і пасля нашых сумесных сустрэчаў з людзьмі ў яго былых партызанскіх мясцінах, і ўспамінаючы сустрэчы іншыя, без мяне, і пішучы пра гэта ў сваіх «абразках»... А цяпер вось, пяты ўжо год без яго, мне так добра прыгадалася тая яго заслужаная, высакародная гордасць, тое, чым можна, трэба ганарыцца.

Тым больш што ён бачыў і іншыя паводзіны некаторых партызан, як бачыў іх і я, і да таго, як пайсці ў лес самому, і там, у атрадах, і ў «раёне», дзе мы, таксама разведчыкі, амаль штоночы, бліжэй і далей бывалі. Пішучы слова «некаторыя», такое звычнае ў славутым колішнім сацрэалізме, усміхаюся разам з вялікім знаўцам роднага слова, згадаўшы мудра і церпка народнае: «За адным сёрам — усім сорам». І за тых «некаторых» прыходзіцца слухаць або чытаць тое, чым так ахвотна казыраюць руплівцы ачэрньвання партызанскай барацьбы, усенароднага супраціўлення фашызму.

•••••

Такая грэшная думка:

Чаму гэта тыя, што ў вайну пагінулі, абавязкова ўсе лепшыя за тых, што таксама мужна ваявалі, былі цяжкапараненыя, але ім проста пашчасціла вярнуцца жывымі?

А так жа гаворыцца, пішацца: лепшыя. З пашаны. «А всё же, всё же, всё же»? Усё так. Толькі ж, можа,

не трэба гэта механічна паўтараць, зачаста і нават бяздушна?..

•••••

Чырвоная нітачка залатой... проста разумнай сярэдзіны, якая ўецца, шукаючы, пульсуе паміж мноствам аднабокіх праўдаў, сцвярджаючы галоўную — пра чалавечнасць, мір, дружбу паміж народамі, клічучы толькі туды.

•••••

Ранішняя радыёперадача «Вясковыя растані». Іўеўскія жанчыны гутараць з журналісткай на такой свабоднай, натуральна прыгожай роднай мове, што люба слухаць. Каб не іх справядлівыя скаргі ды недаўменне... Адна сказала:

— На раніцы прачынацца страшна...

Такое настала жыццё.

•••••

У нагах бабулінай магілы — сталая ўжо, ладная бяроза, так нядаўна, здаецца, пасаджаная ўнукам, які быў тады студэнтам, а сёння ўжо і акадэмік. Ён гэта і паказаў мне яе, красуню-бярозу, каля роднай магілы.

А побач — другая магіла ў агароджы, чужая ў мностве незнаёмых. І надпіс на помніку, прозвішча — упершыню такое для мяне ды ледзь не да ўсмешкі, тут непрыстойнай,— **Татачка.** Нейчы, вядома ж, горка аплаканы бацька.

Бываюць жа такія дробязі, як для разрадкі ў спаважлівай сумоце. Як тыя чэхаўскія, у страшнай тэлеграме, «хохороны вторник»...

•••••

Учора позна ўвечары, па радыё — афрыканскія вершы Гумілёва. І лёгка-журботная думка-адчуванне: якая ж яна вялікая, Афрыка, а я ўжо яе не пабачу!.. Клічнік тут — ціхі, лагодны.

У пяцьдзесят восьмым годзе «Литературная газета» прапанавала мне паехаць на тры месяцы спецыяльным карэспандэнтам па трох краінах, калі не памыляюся, Гане, Малі і Конга, аднак разумны, прыязны Якаў Уладзіміравіч, галоўны лекар нашай літфондаўскай палікл інікі, рашуча запратэставаў: пасля маёй «блакады сэрца», з якою я пад кіраўніцтвам мілай Каці Цалуйка, спецыялісткі па лячэбнай фізкультуры, змагаўся ўвесь папярэдні год, ехаць у афрыканскую спякоту — легкадумна, небяспечна.

•••••

Салжаніцын, «Апрель Семнадцатого».

Будзь ты хоць тройчы нобелеўскі лаўрэат, але проза гэтая — не мастацтва. Толькі што працы было ў яго вельмі многа, што працаваў ён заядла. Але ж чытаецца ад гэтага не лягчэй. Хоць трэба, і буду. Каб і думку сваю мець, і інфармацыяй пакарыстацца.

...Кончыў!.. У гэтай прэтэнцыёзнай абэржы ёсць і жывейшыя раздзелы, аднак іх параўнаўча мала, і яны так завалены глыбамі мнагаслоўя, што нават і цярплівейшаму з чытачоў, ды ў дажджлівай вясковай сумоце, месцамі хацелася проста пераступіць цераз «тягомотину», тым больш калі яна надрукавана на шырокай часопіснай старонцы, дый не адной, бязлітасным петытам, які не для старых вачэй. Палавіну яго дваццацітомніка займае «Красное колесо». Цяжка ўявіць мноства мужных, якія ўсё гэта адолелі або калі-небудзь адолеюць. А ён жа як быццам і скардзіўся, у «Литгазете» ці ў «Известиях», гаворачы, што

вось прыехаў, а большасць расіян не чытала гэтых твораў...

Ажно Кірыла Арлоўскі прыпомніўся. Як ён абураўся на адной сустрэчы ў ягоным «Рассвете»: «Что же вы за журналисты — я говорю, а вы не записываете?!» І рука без далоні, пакладзеная на кнігу пра яго, напісаную нейкім, не памятаю, бойкім масквічом, і важныя словы: «Книга, на которой будут учиться поколения...» Маштабы, вядома ж, далёка не тыя — добры, мужны, заслужаны пісьменнік і распешчаны афіцыйнай славай сельгас-чэкіст... Тут больш падыходзіць Горкі са сваім «Самгіным», пра якія таксама можна сказаць: «тяжелый случай»...

Словам, як ні ўздымайся, сціпласць усё-такі абавязвае ўсіх.

...Разоў некалькі ён публічна абяцаў не лезці ў палітыку, а вось жа на сваім марудна-доўгім шляху вяртання,— нібы Майсей з Егіпта, сорак гадоў па пустыні,— у Маскву цераз Далёкі Усход, Сібір ды еўрапейскую Расію, прэ свой добранадзейны, тапорна даўні шавінізм, як быццам гэта — не палітыка...

•••••

Дзіўна яно — самотнасць, адзін на адзін з самім сабою, чаго аж лішне замнога.

А гэта ж наша доля, такая прафесія, хоць ты і любіш, разам з гэтым, і тое, што па-руску хораша называецца **общением** з людзьмі.

•••••

У маім «Проста і ясна» было трохі пра тое, што ў палавіне трыццатых гадоў адбывалася ў Савецах. «Там такое робіцца...» — штосьці так было ў мяне, у канцы трыццаць шостага. Было — бо тая ста-

ронка чарнавіка абачліва вырвана ў канцы саракавых або ў пачатку пяцідзесятых, калі я самацэнзураваў і гэтае апавяданне, цьмяна спадзеючыся калі-небудзь надрукаваць яго. Так і даў у кнігу «Ад сяўбы да жніва». Каб тое месца захавалася ў чарнавіку, можа, цяпер і вярнуў бы яго, хоць гэта і палічыў бы нехта модная мадэрнізацыяй.

Сумняваўся я і пасылаючы апавяданне, пераклаўшы яго на рускую мову, Вігдорчыку*, а ён на маё сумняванне пісаў у сваіх заўвагах: «Ты в этом случае нисколько не преувеличиваешь,— это буквально так и есть, за очень малыми и редкими исключениями». Датычылася гэта небяспекі ад сувязі з заграніцай і ўсенароднага збяднення,— таму дзедава дачка і пісаць стала рэдка, і грошай не слала. Мала пісалі тады і нам, брат Ігнат пасля свайго Беламорканала, а Валодзя яшчэ свабодны.

Вігдорчык ведаў больш за нас у Загоры. Пішу гэта, і ўспомнілася прысланая ім копія пісьма засакрэчанага сябра з СССР, рабочага, што скардзіўся на паўгалоднае выстойванне каля станка і так пісаў яшчэ, што мне запомнілася даслоўна:

«Солдаты и нужда маршируют по стране».

•••••

Жанчына ад мастацкай самадзейнасці гаварыла днямі па радыё:

— І сцэна раве, і зала раве, а трэба ж ціха спяваць, ад душы!..

Так яна пра поспех іхняга ансамбля, поспех, які ёй не падабаецца.

А ў адной з нашых мінскіх газет** днямі было

* Пра яго ў апавяданні «Над фотаздымкам».

** «Советская Белоруссия». 1994. 10 сент.

інтэрв'ю з Булатам Акуджавай. Адказваючы на пытанне, чаму ў яго, былога франтавіка, няма ў песнях батальных сцэн, ён адказаў:

«...Я скорее тихий поэт. Кто-то из литературоведов в свое время написал: «Высоцкий кричит, а Окуджава молится». Возможно, это верное определение».

Сціпласць уважым, а без «возможно» абыдземся.

•••••

З пачутага ад хлопцаў-землякоў у польскім войску і ў нямецкім палоне.

«Хам ты рубяжэвіцкі, ты за год два дзеці зрабіў!» Так лаяліся мясцовыя яўрэі. Успамінаў Пашка Буньчук, з якім мы разам сядзелі ў акопе.

Хтосьці з Валожыншчыны (ужо забыўся хто) падараваў сваё: «Танцуе, як валожынскі бугай на лёдзе».

Се́дач са Скідзельшчыны. Як сёння бачу: разбіваем гной на юнкерскім бязмежным полі, а гэты маўклівы, чарнявы дзяцюк успёрся на сахор, перадыхнуць, крыху задумаўся, а тады: «Так яно, браце, чалавечая жытка — што сарочка дзіцячая: кароткая і засраная...»

Вясёлы ён, такі рэгіянальны каларыт, такая зіхатлівая мазаіка на роднай карце. Нямала чулася ад берасцейскіх палешукоў, нашых наваградцаў, сяброў нядолі з Глыбоччыны, з-пад Беластока, Клецка... Што ўжо ў мяне і скарыстана ў напісаным, а што возьме ды зноў згадаецца, часамі як быццам не надта дарэчы, але ж і на пацеху.

•••••

Даўнейшае, заходнебеларускае, вясковае. Дасціпна вясёлая, дабрадушная руплівіца, што ўжо бярэцца на дзеўку, у нядзельку прыбіраецца на выхад у маладую кампанію. А яе старэнькая бабуля пытаецца з ляжанкі:

— Уходжваць пойдзеш? Усё вы ўходжваеце цяпер. Мы даўней не ўходжвалі...

Успамінаецца пушкінскае: «...в наши лета мы не слыхали про любовь» і тое ў Коласа, дзе пра маці, што помніцца са школьнае чытанкі: «Яна ўжо збольшага ўхадзілась, цяпер спаважней варушылась»... У старэнькай **уходжваць** — і ад рускага **ухаживать**, і, чаго добрага, ад свайго **ўходжвацца**. А зрэшты — «хто яго цяпер з усім усякім разбярэцца?». Яна ж яшчэ і хукала на электраліхтарык, па-вясковаму «батарэйку», каб патушыць яе. Унучка пра тое «ўходжваць», расказваючы мне, дабрадушна смяялася. А яе старэйшы брат, ужо нядрэнны майстар «уходжвання», з бабулінага хукання смяяўся з адчуваннем поўнай вышэйшасці.

А я ад смешнага колькі ўжо разоў выходзіў думкай да камп'ютэра, на які я таксама мог бы хукаць, не цямячы ў ім не толькі ў параўнанні з сынам-кандыдатам, але і з унукам-школьнікам. І мы ўжо — час ідзе! — таксама бываем камусьці смешнымі.

Абы толькі без фанабэрыі, а так дабрадушна, прыязна, як было ў маёй сімпатычнай сваячкі.

•••••

І да такога ў нас даходзіла зусім нядаўна: так аб'яднацца з багацейшай, мацнейшай суседкай, што і бюджэт ёй падпарадкаваць, і нацыянальны банк, зрабіўшы дзеля гэтага адпаведныя папраўкі ў нядаўна прынятай Канстытуцыі.

Згадалася даўно пачутае ад старое маці:

— Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя — абсек пальцы.

Няўжо і такая мудрая палітыка народам нашым даўно прадугледжана?

•••••

Ахвотна перачытваючы, праз трыццаць пяць гадоў «Блуждающие звезды» Шолам-Алейхема, яшчэ раз, ужо далёка не першы, не вытрымаў з ягоным гумарам — узяўся за аловак, каб адкрэсліць:

«Какой ты, с позволения сказать, Арчибальд? Какой Буэруэльс? Сказал бы просто, что тебя зовут Арчик, сын Береля,— и баста!»

Так у яго — пра рэпарцёра, якога можна было «принять за прирожденного американца»...

•••••

Вывад войскаў з Нямеччыны — ужо не «савецкіх», а «расійскіх» — няўдала стараліся і там, і дома паказаць па тэлевізары як нешта амаль-амаль святочна ганаровае... А праз увесь гэты парадны шык праходзіла міжвольнае пытанне:

«А чаго яны так доўга там былі?»

Тым больш — у Прыбалтыцы, без аніякай яе віны перад СССР?

Чарга за намі. Тут ужо справа зацягнецца, усё з-за таго ж «братэрства».

Уводзіць усё-такі куды лягчэй, чым выводзіць.

•••••

Гледзячы па тэлевізары перадачу пра балюча-страшны свет дзяцей, сабраных у прытулкі (па-ранейшаму) ад бацькоў (па-сучаснаму) алка-

голікаў, слухаючы гэтых нявінных пакутнікаў, што і як яны гаварылі пра сваіх мам і татаў, успомніў:

Nazywam się Milijon — bo za milijony
Kocham i cierpię katusze*.

I гэта высокае... убачылася рытарычным. Тут не мільёны, а сотні, дзесяткі, адзінкі цяжка дый немагчыма змясціць у душы...

•••••

Пазаўчора ноччу жа́халі на ўсё неба над пушчай маланкі, за якімі далёка ззаду пагруквала. Палавіна верасня, а там недзе навальнічыць, недабраўшы свайго за летнюю бязлітасна доўгую сухмень.

I думалася: ці маё **жа́халі** — толькі ад **жа́хнуць**, моцна ўдарыць, ці разам з гэтым і **жахну́цца**, вельмі спалохацца?..

А ўчора позна вечарам над маладымі бярозамі за дарогай заўсёды загадкава, ледзь не шчасліва-сцішнавата стаяў, амаль у поўні, месяц, а лявей, ніжэй — раз-поразу вухаў пугач.

Згадаліся гдыньскія ночы, ваенны верасень трыццаць дзевятага, самы пачатак яго. Калі яны крычалі, пугачы, у прыморскім букавым лесе на ўзгорках, ранячы нашы маладыя душы. Бо гаварылася ў акопах, што гэта яны — пачуўшы першую кроў...

•••••

«Трое на велосипеде» Джэрома К. Джэрома. Пасля яўрэйскага гумару Шолам-Алейхема — англійскі. Кніга цікавая яшчэ і таму, што я ж у пэўнай меры ведаю Германію, у якой адбываецца падарожжа. А які натуральны той гумар, што я, ва ўсёй яго на-

---

* Я называюся Мільён — бо за мільёны люблю і пакутую.
*Адам Міцкевіч. «Дзяды». Частка III. Імправізацыя.*

цыянальнай асаблівасці, смакаваў у альбіёнскай класіцы не раз і здаўна... І раптам такое сур'ёзнае (перакладаю):

«Мы ганарымся нашай гуманнасцю і цывілізацыяй, аднак, адкінуўшы набок крывадушнасць, усё-такі павінны прызнаць, што пад крухмальнымі манішкамі ў кожным з нас сядзіць дзікун, з нечаканымі дзікунскімі інстынктамі; ён ніколі не знікне; часам ён нам патрэбен — і тады з'яўляецца на першае патрабаванне; але падкармліваць яго — лішне».

Такое ў містэра Джэрома — пасля не толькі дасціпна-едкага, але і прыкрага дзікасцю традыцыі апісання нямецкіх студэнцкіх паядынкаў, мензураў.

А я, чытаючы, успомніў, як наш Юрка Багушэвіч, не толькі празаік, але і суддзя рэспубліканскай катэгорыі па боксу, угаварыў-такі мяне прасядзець побач з ім дваццаць дзве сустрэчы баксёраў з розных рэспублік. З суддзёўскага крэсла, зблізку бачачы ў тварах спартсменаў, амаль ва ўсіх, проста дзікасць. Асабліва ў аднаго беларуса, пра якога Юрка, апраўдваючы любімы спорт, шапнуў, што хлопец той «закончыў толькі тры класы» і ён «проста злосна б'ецца», і ў аднаго латыша, старэйшага, лысага, з распатланымі рэшткамі доўгіх валасоў і выразам твару, азвярэлым яшчэ больш, чым у нашага суайчынніка, бо акрываўленым ад разбітага носа. Ён таксама «проста біўся», і гэта было агідна.

Як яно часта бывае пры чытанні таленавіта цікавага, паралельна ўспамінаецца штосьці сваё, у нейкай бліжэйшай ці далейшай падобнасці.

Там, дзе адзін з герояў Джэрома зблытаў у нямецкім магазіне ein Kuss (пацалунак) з eine Kissen (падушка), мне згадаўся суд над нямецка-фашысцкімі ваеннымі злачынцамі ў канцы сорак пятага года.

Калі на апытанні радавога падсуднага перакладчык, бландзініста-губаценькі савецкі лейтэнант,

зблытаў die Küche i die Kirche. На пытанне суддзі, у якасці каго падсудны служыў у вермахце, той адказаў: «Bei der Küche», а лейтэнант пераклаў: «В кирхе». Суддзя не паверыў, перапытаў, падсудны яшчэ раз сказаў тое самае, лейтэнант пераклаў таксама. І тут падсудны не вытрымаў — па-свойму шапялява, але гучней вякнуў па-руску: «Кухня! Каптенармус!» І нават засмяяўся. Разам з усёй перапоўненай залай.

Паўтару: у снежні сорак пятага... Не памятаю, ці засмяяліся ў пагонна-важным прэзідыуме і ў загарадцы для злачынцаў рознага рангу.

Амаль праз паўвеку ў тым усплёску смеху адчулася мне жудасць справы, дзеля якое ўсе там сабраліся...

•••••

У «Роднай прыродзе» — перадрук маіх замалёвак «Перад яе красой».

Перачытваючы богведама каторы ўжо раз даўні запіс пра раніцу ў зімовым лесе, дзе: «Прыпадняўшы вуха трусінай шапкі, я спакваля настроіўся на калыханку ціхенькага пошуму ў вершняку», не ўпершыню бачу ўсмешку мілага Міхася Стральцова, калі ён мне гэтае месца хваліў.

•••••

З многімі — толькі па тэлефоне, не ведаючы, не ўяўляючы добра, што там ды як там у іх дома; за тэлефонным нумарам — толькі голас знаёмы, толькі ўяўленне, нібы бачанне знаёмага вобліку. І гэта ў сваім горадзе, у іншых гарадах, у некаторых іншых краінах...

Таксама ж дзіўна гэта, неяк нават па-дзіцячы, з наіўнасцю жадання пазнаваць, даведвацца як найбольш.

•••••

Прэтэнзіі значна большыя як на ўдзел у вырашальных гістарычных падзеях — бітвы пад Грунвальдам, пад Оршай,— і прэтэнзіі на беларускасць Касцюшкі, Міцкевіча, нават Дастаеўскага — раздражняюць і засмучаюць, вельмі падобна на «збеларушчванне», крыўлянне на «беларускі лад» песняў суседскіх — рускіх, украінскіх, польскіх, слухаючы якія, бывае і сорамна і балюча. Як сведчанне нашай беднасці, а можа, больш нашага жабрацтва пры сваіх нацыянальных багаццях.

•••••

У «Белым голубе» я разлічыўся з успамінамі пра «Кацюшу», упершыню пачутую пасля вяртання з палону. А яна мне нагадвае яшчэ і вясну сорак другога года, танец пад гэтую мелодыю на хутарскім падворку, з хлопцамі і дзяўчатамі з маёй даваеннай кампаніі і з маладзейшымі, што пасталелі за час маёй адсутнасці.

Калі супастаўляць гэтыя, на нейкі час бесклапотныя, нехта скажа — бяздумныя танцы ў той страшны час, з тым, што адбывалася на ўсходзе, дык ёсць тут і апраўданне, вечнае і агульналюдскае — маладосць, што патрабуе свайго і ў нікога не паўтараецца. Я быў пасля перажытага за тры гады, мне ішоў дваццаць пяты, з адчуваннем не ўзятага ў свой час, а да таго яшчэ тое было, што толькі маё, патаемнае — я, цяпер можна сказаць, актыўна пісаў, быў закаханы ў тое, што рабіў, не толькі, як усе іншыя, закаханы — проста ў жыццё, у кагосьці з дзяўчат, у радасць пачатку жыцця...

Недзе чытаў ці чуў, што Блантар унёс у гэтую, такую слаўную, мелодыю нешта яўрэйскае, як Любан у нашу «Бывайце здаровы». Адам Русак падмацаваў

яе беларускім словам, а Міхаіл Ісакоўскі «Кацюшу» тым больш арганічней, таленавіцей — словам рускім, і яна хвалюе многіх.

Можа, і таму яшчэ, што песня гэтая, як сонца, пранізвала жах вайны чысцінёю надзеі на лепшае, што мы, вясковая моладзь, адчувалі ў ёй, разам з ужо нешматлікімі «байцамі»-акружэнцамі, якія выкруціліся ад вывазу ў Нямеччыну і яшчэ не пайшлі ў партызаны, вядома, разам з нашымі.

•••••

Іван Франко, кніга апавяданняў «До світла!». Пачынаючы з «Вівчара», «Малого Мирона», «Мавки» ў прозу яго ўступіла паэзія. Бо перад гэтым, у цэлым раздзеле апавяданняў, падабраных у 1976 годзе, выразна па «сацыяльнай значнасці»,— вёска пасля скасавання прыгону, шахцёры, муляры, лесарубы,— больш розуму, развагі і, ад гэтага, строгай сухаватасці.

А потым я пачаў учытвацца ў раскошу прозы аўтабіяграфічнай, «успамінальнай», як сёння ў нас часта і з кпінкай гаворыцца, апавяданні «Оловець», «Мій злочин», «У кузні», «У столярні»...

Веданне польскай і трохі нямецкай моў добра дапамагае мне знаходзіцца ў асяроддзі яго герояў, у стыхіі яго «галіцыйскай» украінскай мовы.

Такая дробязь: «Обійдеться циганське весілля без марцепанів» весела нагадала польскае, вастрэйшае: «Obejdzie się psie wesele i bez marcepanów».

...«На дні» і «Панталаха», два вялікія турэмныя апавяданні, гэта ўжо суровая, па-філасофску важкая проза, літаратура.

...Дачытаў тры апошнія ў томе — «До світла!», якое спачатку, непрачытанае, вынесенае ў загаловак

кнігі, дарма здалося нібы плакатным, «В туремнім шпиталі» і «Будяки»,— і нават уголас падзякаваў аўтару, балазе быў адзін у пакоі.

А яшчэ ж у яго сорак дзевяць тамоў, на трох мовах — роднай, нямецкай і польскай,— з чаго я чытаў калісьці, у вясковым юнацтве, аповесць «Борислав сміється», у Мінску бачыў на гастрольнай сцэне «Украдене щастя» са славутым Амвросіем Бучмай, з якім меў тады прыемнасць пазнаёміцца, пагутарыць з яшчэ двума сябрамі ў рэстаране, чытаў, вядома, вершы магутнага Каменяра, стаяў перад яго магілай, хадзіў па залах музея... Мала!.. І ўсё тое зроблена ім, у літаратуры і ў навуцы, толькі (думаецца сёння) за шэсцьдзесят гадоў жыцця, што і нягодамі было багата, і закончылася трагічна.

Чытаў недзе, што ён перапісваўся з Арэшчыхай. Таксама ж гэта не так сабе, не абы-што, як і дружба пані Элізы з нашым Францішкам Багушэвічам.

...Чытаю ў Івана Франка: «На споховастім бляшанім да́сі». Праверыў у Грынчанкі: **спохово, спухово, спуховато** — з нахілам. Зноў нашы слоўнікі не памаглі, нават і тыя, дзе мясцовыя гаворкі. А ў роднай вёсцы і ў наваколлі слова гэтае жыве. Ці адкос дарожны папраўляючы, ці кроквы ладзячы, гаворыцца: «Бяры, браце, больш спахова». Хоць мы і не блізка ад Украіны.

•••••

Усе варыянты сааўтарстваў у нашых маладых, пра якія часта чытаецца і чуецца, гэта ўжо не літаратура, а гандаль ёю, пад нявінненькім покрывам неабходнасці выжыць.

•••••

У першым нумары абноўленай «Крыніцы» — многа і цікава пра Кірылу Тураўскага, ад якога і адхіляюся да запісу.

Рэлігійная дысцыпліна, «послушание» знізу даверху, падобная да дысцыпліны партыйнай: адмаўленне ад свабоды думак, уласнай волі, свайго сумлення.

Можна дадаць і пра жахлівую жорсткасць. Федарца́, якога «выкрыў і пракляў» наш святы паэт, перад сцяццем галавы асляпілі, у яго вырвалі язык і адсеклі «правіцу»...

Пераклічка, як і ў дысцыпліне, з нашай нядаўняй і шматгадовай партыйнай паслядоўнасцю.

•••••

Кіславатым адвячоркам, выйшаўшы з аднаго аўтобуса, каб перасесці ў другі, апынуўся ў густым, мітуслівым натоўпе. Падумалася: а як жа гэта — «любіць людзей»? Не ведаючы іх? «Не пажадай бліжняму твайму таго, чаго не жадаеш самому сабе». Дык гэта ж бліжняму, з веданнем яго... Нельга чытаць адразу бібліятэку, чытаць можна кнігу, з якіх бібліятэка складаецца.

Дома заглянуў у Даля. «Ближний... всякий человек в отношении к другому; все люди друг другу ближние».

Ды я ж тут толькі пра тое, што адбылося, адчулася, пра сцішнаватае адчуванне натоўпу, з герметычнасцю такога мноства невядомых, абсалютную большасць якіх ты ніколі не ўведаеш. А любіць трэба. Тут філасофія, найвышэйшая мудрасць, аднак і недастатковасць, адсутнасць яе таксама ж бывае, находзіць, і яна сумна-страшная, калі пачуцці твае ў атупенні злыбеднай стомы...

•••••

Учора пад вечар пазваніла Люда Вялюгіна і, плачучы, расказала, што Толя, як сказаў ёй доктар, безнадзейны — рак.

А я, наведаўшы яго... цэлых дванаццаць дзён таму назад, меркаваў, што ў яго, паколькі і ляжаў ён у неўралгіі, штосьці радыкулітнае. Дый не ляжаў ён тады, а сядзеў, апрануты, з апошнім нумарам «Полымя». І вось я столькі збіраўся пайсці да яго другі раз...

Зноў прыгадалася тое, як Толя любіў дзяцей. Нашы з ім колішнія, улетку пяцідзесятага, «спяктаклі» на паляне перад Домам творчасці ў Каралішчавічах. У «Чырвонай шапачцы» ён быў стральцом, а я воўкам,— «павалены стрэлам», ляжаў на спіне і аддаваў Богу душу, пускаючы ўгару папяросны дым, сабраны ў роце «напоўніцу». На вялікую, шматгалосую радасць малечы, сярод якое былі і нашы дзяўчаткі. І тое прыгадалася, з нарачанскага лета шэсцьдзесят чацвёртага, калі Андрэю было восем год і мы, на праходцы дзвюма сем'ямі, майстравалі яму з Толем дэтэктыўную аповесць, гаворачы на змену,— адзін расказвае, другі рыхтуецца. У сталоўцы над возерам, дзе мы часта абедалі, малому падабаліся «свекольник» і блінчыкі. Дык вось ён у дэтэктыве быў камандзірам баявога атрада з падвойным прозвішчам Блінчык-Свякольнікаў, а галоўным сувязным у яго быў пан Яцына, кульгавы дзядок, удавец, у хаце якога мы чацвёрты год жылі. Помняцца Толевы выгукі: «Стой! — закрычаў з-за куста Блінчык-Свякольнікаў.— Яцына, акружай!..» і шчаслівы смех майго хлопца.

...Учора блізу гадзіну прасядзеў у Толі. Ён, відаць, і сапраўды на адыходзе: і ледзь варочаецца, і хрыпіць праувесь, і вельмі невыразна гаворыць-мармыча, а перапытваць няёмка. Ён пытаецца пра навіны, я штосьці гавару, трымаючыся на жалю вартым аптымізме, а ў

ім жа, такім вясёлым калісьці Анатолю, столькі пакутаў, якія чортведама навошта даюцца чалавеку на адыходзе...

Разумны, відаць, з гранічным адчуваннем галоўнага, ён заўважыў паўзу ў маіх намаганнях сказаць яшчэ штосьці патрэбнае, падаў руку, нават пацiснуў маю, сказаў: «Будзь здароў! Калі выберуся — пагаворым яшчэ». А сам панурыўся ў пакуты, мяркуючыся павярнуцца тварам да сцяны. У светлай, залітай сонцам палаце,— як для кантрасту.

Цяжка гэта — **ілгаць замоўчваннем** блізкаму чалавеку вельмі, бо канчаткова, істотнае для яго — пра сапраўдную хваробу. Так у мяне і дагэтуль бывала — з Янкоўскім, Стральцовым, пляменніцай... А самі ж яны, калі не ведаюць, дык здагадваюцца пра сваю асуджанасць.

Спытаўся ў яго, развітваючыся, каму перадаць прывітанне. Назваў яму Танка, Панчанку, ён кіўнуў на згоду і буркнуў-дадаў: «І Вітку».

Дома я неўзабаве, трохі перадыхнуўшы ад цяжкага ўражання, пазваніў хлопцам, перадаў яго прывітанні. Максім, як заўсёды апошнім часам, увесь у стогне-нараканні на сваё і на агульнае. Пімен даволі хутка стаміўся гаварыць у трубку, папрасіў нават нумар майго новага тэлефона, сказаў дачцэ запісаць яго. Найлягчэй пагаварылася з Віткам, найстарэйшым і найбольш светла настроеным.

...Учора, належна выступіўшы на «Першай міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі дырэктараў літаратурных музеяў», перад нашымі, рускімі і ўкраінцамі, пайшоў у Дом літаратара, хоць туды было яшчэ ранавата.

Сонечны дзень, жаўталісце. Памалу ідучы, падумаў: а чаму ж гэта мне не выступіць на развітанні з Анатолем? Напярэдадні, калі Зуёнак па тэлефоне прапанаваў, я адказаў няўпэўнена, змагу — не зма-

гу... Але выступіў надзіва стрымана, у параўнанні з Васілём Васільевічам, які, адкрываючы паніхіду, расплакаўся.

Амаль усе, што выступалі — хто на паніхідзе, хто над магілай, хто на памінках, суседзі па дачах на славутай Лысай гары, гаварылі, як Толя ўмеў дружыць з малымі. Я тады, слухаючы кагосьці, успомніў прыгожую клетку з парачкай чачотак, якую ён прынёс нашай старэйшай на сёмы дзень нараджэння. Дома, калі сказаў пра гэта жонцы, яна нагадала мне мой цяжкі канец сорак дзевятага года, калі ён, Толя, быў адным з тых найбліжэйшых, якія не адхіснуліся...

Зуёнак і Гілевіч удзячна гаварылі ў выступленнях пра Вялюгіна — рэдактара паэзіі — іхняй і іншых сяброў. Я гаварыў пра гэта таксама, дадаўшы, як некаторыя з калісьці маладых, увабраўшыся ў сілу, заплацілі настаўніку-сябру чорнай няўдзячнасцю, пра што ім сёння варта падумаць... Намёк мой, як мне пасля сказалі сёй-той, быў зразумелы.

...Забыўся пра яшчэ адно. Гаворачы мне пра тое, што рэдактарам яго першага зборніка быў Вялюгін, Гілевіч сказаў, што такая ўдзячнасць — назаўсёды.

А я расказаў яму, як у восемдзесят восьмым годзе ляжаў у адной бальнічнай палаце з Крапівой і быў амаль санітарам старому, нямогламу, сляпому і глухому, памятаючы, як ён выратаваў мяне прадмовай да першай кнігі. Танк і Лужанін параілі Крапіве падтрымаць мяне закрытай рэцэнзіяй, а пазней, яшчэ раз параілі даць рэцэнзію прадмовай. Ніл здзівіўся, што прадмова — з закрытай рэцэнзіі, а мне як быццам дзіўна стала і гэта, і тое, што я дагэтуль не напісаў пра такі двайны ўдар аўтарытэтам старэйшага таварыша па тым гордзіевым, забаронна-цэнзурным вузле, які быў аблытаў, зацінуў мяне немагчымасцю друкавацца. Лынькоў пагаварыў у ЦК, а Крапіва секануў і дасек у выдавецтве. І сапраўды — такая ўдзячнасць назаўсёды.

...Увечары, не адкладаючы «на свежую галаву»:

Ужо ж відаць, з кожным днём выразней, што хутка, хутка, а ўсё роўна ашукваеш сам сябе, нейкая сіла ў табе гаворыць: «Не я... Не я...» Ну, а што было б, калі б інакш — «хоць жывы ў зямлю лезь»?..

•••••

Нечакана, як гэта і бывае заўсёды, засмяяўся ў вячэрняй самоце, успомніўшы: «Барбарами добре отшмаровав, в Сибирь на поселение сослать...» Так памятаю, а ў Мікалая Васільевіча (праверыў) трошкі інакш: «...добре барбарами шмаровать и в Сибирь на каторгу заточить». Добра яно — пасля нялёгкага, што назбіралася ў душы, асвяжыць яе смехам. Толькі ж я і ў адзіноце сваёй смяяўся не адзін, а з братам Мішам, жыва ўспамінаючы наша юначае захапленне Гогалем.

Што да поўнай дакладнасці ў цытаванні з памяці калісьці і неаднойчы прачытанага. Неяк міжвольна і часта бывае ў мяне такое: інтэрпрэтуеш любімае на свой лад. Але ж — і гэта галоўнае — застаецца, жыве ў табе адчуванне радасці ад па-сапраўднаму смешнага, што і ўпершыню ўразіла цябе і потым неаднойчы паўтаралася,— такое глыбінна-натуральнае і незнішчальна свежае сваёю аздараўляючай сілай.

•••••

Вучоны друг, якога шчыра паважаю, на памінках па ягонай маме гаварыў, як яна, усё жыццё цярплівая, маўклівая гераічная жонка «ворага народа», усё жыццё любіла людзей. Перад самым сваім, вельмі нялёгкім канцом казала сыну і нявестцы: «Я вас люблю». Тут штосьці ўзварушліва, светла дзіцячае — са старэча развітальным. «Я люблю цябе» — найболь-

шае, што можна даць, і «я не люблю цябе» — найбольшае пакаранне. Так у малых. Падобна і ў старых, нямогла-бездапаможных на адыходзе,— такое зближэнне самага істотнага.

•••••

У мастацкім музеі ройна ды шумна ад малодшых школьнікаў. Пазнавальная экскурсія. Розных памераў карціны на ўсіх сценах, а пасярэдзіне залаў скульптуры, паасобныя і групамі, бюсты, бюсцікі. Усяго выразна густа і не разлічана на малечу.

Некалькі дзяўчынак, не вельмі стрымана шчабечучы, праходзілі каля апошняй перад выхадам з залы скульптурнай групы, і адна з іх не вытрымала — стукнула пальчыкам у мармурова-белую, акуратна стуленую «попу» нейкай старадаўняй, вечна маладой грацыі — на развітанне і з падзякай.

•••••

Кандыдат медыцынскіх навук выступае па радыё, ушчэнт запалохваючы слухачоў чарнобыльскай павальнай згубай для ўсіх і раячы, як ад гэтага ратавацца.

Да навуковага па модзе прымешваецца і рэлігійнае — карысць ад пастоў, са спажываннем «жывога соку» з яблыкаў-паданак, «цем боляя што цяпер, як у народзя гаварыцца, спасаўка». Можна і ў царкву схадзіць, кажа ён,— «эта тожа няплоха».

•••••

Адзін з шумнейшых актывістаў адраджэння, перад гэтым член кампартыі з самых ранніх па ўзросце, пасля заядлы праваслаўны, кажуць, ужо збіраецца пераходзіць ва уніяты.

І хочацца спытаць у яго:

— А білеты ў вас таксама ж будуць?

Бо ўсё роўна ж палітыка тут, разнавіднасць яе, не надта замаскаваная.

•••••

Валодзя Ахла́п, сірата, вельмі рана пачаў гаспадарыць. Арэ падлетак, злуецца, лаецца на каняжыну, а пасля і на песню яго павяло:

Ой, палын, палын, зелле горкае,
а мая доля яшчэ горшая...

І не больш, відаць, яму з той песні запомнілася, ад кагосьці яе пачуўшы.

А вымаўляў ён па-свойму: **пайін, гойкая, Ваёдзя.**

Песню тую нехта ж пачуў ад бедака-аратага. Бо ў вёсцы потым смяяліся, прыгадвалі, калі ўжо ён і падрос. Нязлосна смяяліся. А ён на мянушку сваю, якая ад бацькі яшчэ, а можа, і ад дзеда, адгукаўся.

Адкуль яна? Ад чаго? Найбліжэй, відаць, ад польскага **ochłap**, аб'едак. Да беднасці спадчыннай падыходзіць, бо і маёнтак пана Лісіцкага быў блізка, і доля «гойкая» была яшчэ ў «Ваёдзевых» дзядоў, бацькоў, спачатку прыгонных, потым парабкаў, на ochłapach, аб'едках з панскага стала.

...Здзек з энтузіястаў.

Нашы загорскія пажарнікі (пры Польшчы) у найбольшы агонь пасылалі яго — Валодзю Ахлапа, хлопца гарачага і дружнага. А каб ён сам не загарэўся, лупілі па ім з брандспойта, рагочучы. А ён і не здагадваўся пра гэты вясёлы здзек і потым дабрадушна, заікаста не злаваўся.

•••••

Наша маці, нешта закончыўшы або растраціўшы патрэбнае, часам казала:

— Ну, па ўшысткім пшыказанні, паелі і палізалі.

На ўвазе мелася «дзесянцёра пшыказань», дзесяць Майсеевых запаведзей. Маміна маці з шаснаццаці гадоў служыла ў маёнтку пана Анцуты пакаёўкай, пані вучыла яе маліцца па кантычцы. Можна думаць, што прыгаворка адтуль. З дарobленай канцоўкай — каб весялей.

Дарэчы, і пра яўрэйскія філактэрыі, скураныя кубікі-скрыначкі з тымі запаведзямі на пергаменце, што для ранішняй малітвы прымацоўваліся вузкімі рамеçнчыкамі да лба і левай рукі, гаварылася: «жыдоўскае дзесянцёра». Моўныя сувязі ішлі і туды, шырэй.

•••••

Лаянка навоттабе — адно слова. Паказваючы хвігу або і нешта большае. Бо гэта ж бабскае, калі яны счэпяцца, дый на волі, на свежым паветры, маючы трохі часу.

•••••

Бабулі за восемдзесят. Адказваючы на пытанні радыёжурналісткі, успамінае сваё горкае маленства, як яны нават хадзілі з маткай жабраваць. Любоў, пяшчота наўздагон:

— Мама мая, пакойнічка, і кажа...

•••••

Сябар смяецца:

— У Беражне нашым расказваюць, што ў Жукавым Барку пры Польшчы быў малады, вельмі прыго-

жы поп. Дык на Вялікдзень бабы адна перад адной лезлі да яго хрыстосавацца.

Запісваючы гэта, я міжвольна, замест «адна перад адной», ужыў сваё загорскае **працёпам** лезлі. І зноў падаўся ў слоўнікі — дарма.

•••••

— Бульба сёлета благая. Дзіва што — такая сухмень была. А ад дажджу пасля яна ўжо цэху не ўзяла.

Само ў мяне так сказалася ў гутарцы. І адразу падумаў: адкуль жа ён, той загорскі цэх? У нашых слоўніках не знайшоў. У польскім cecha — уласцівасць. Тады яшчэ: cecha probiercza — пробная адзнака якасці. Бульба не набрала належнай спеласці.

Гаварылася так і пра чалавека, які, скажам, пагарэў або ў нейкую іншую бяду трапіў, што ён пасля гэтага ніяк цэху не возьме.

•••••

Элегантная спадарынька, інстытуцкая выкладчыца, і так прыемная сваёй мілавіднасцю, а як сказала зямлячка пра нядаўняе наведанне роднай вёскі, а там і пра такое: «Чую раненька — мамка мая шамоль-шамоль за перагародкай і пайшла...» — стала яшчэ мілейшай.

У слоўніках «шамолю» зноў жа не знайшоў. Ды ўжо ж і наракаць на іх, на слоўнікі, апрыкрала.

•••••

Яму трэба папрасіць прабачэння, а ён прыносіць прабачэнне, значыцца, сам прабачае.

І пішацца, і гаворыцца так нашымі журналістамі і пісьменнікамі,— ад рускага **приносить извинения, извиняться.**

•••••

Маем добрае, ёмкае слова: **збожжа, збажына,** адпаведнае рускаму **хлеб** у шырокім значэнні. А зноў жа пішам, гаворым па радыё і з тэлеэкрана з халуйскай руплівасцю: **збожжавыя** — ад рускага **зерновые.**

Чаму ж тады яшчэ і не **бульбавыя?..**

•••••

Дзень пачаўся (у 4.30) з палёгкі ў думках пра маю юнацкую двухмоўнасць у перапісцы нават з Мішам, пра што, можна сказаць, і нялёгка думалася днямі, калі парадкаваў яе. Вайскова-турэмная цэнзура патрабавала пісаць па-руску, каб лягчэй было цэнзураваць, а потым, у трыццаць дзевятым, салдат салдату павінен быў пісаць па-польску, бо ягоны, Мішын, 83-ці «карны» полк быў ужо «ў полі», кінуты з Кобрына пад Чанстахову, а мы ў Гдыні былі амаль на ваенным становішчы. Аднак жа і потым, з Мінска, я пісаў яму ўперамешку. Апраўданне, калі мне трэба апраўдвацца, такое: тут у нас і сямейная традыцыя, перапіска з савецкімі сваякамі, цесная і шчаслівая сувязь з рускай літаратурай, а потым яшчэ і перапіска з Віґдорчыкам, Булгакавым...

А палёгку я адчуў ад прасвятлення думкі, што двухмоўнасць, а дакладней, трохмоўнасць, улічваючы і польскую мову, любоў да польскай літаратуры, ішла, ідзе ад патрэбы ў братняй лучнасці людзей. Можна згадаць яшчэ і кнігі ўкраінскія, дзякуючы трашчыцкай бібліятэцы Гарошкаў, што мне да Гогаля дадало Шаўчэнку, Кацюбінскага і іншых.

Словам, патрыётам роднага я быў, а нацыяналістам, хоць у нейкай меры, ніколі. Што трэба было тады і трэба сёння.

Успамінаў сёння А. Г. Астроўскага і Уладзіслава Бранеўскага,— як яны ў палавіне пяцідзесятых гадоў, кожны па сабе, хвалілі маю рускую і польскую мовы, Арсеній Георгіевіч безагаворачна, а Уладзіслаў дадаўшы: «Jako kresowiak»*, на ўвазе маючы спеўны акцэнт.

Чытаючы, а тады і перадрукоўваючы пісьмы да Мішы ў турму, рады быў, як... ну, няхай сабе толькі як яны зусім нядрэнна гаварыць пра маё юнацкае самавуцкае веданне рускай мовы. З польскай было ўсё-такі інакш — школа. А з украінскай, якое не было бліжэй, чым Гарошкава камора, а потым месяцы вайсковай службы ў Хэлме, дзе я пасябраваў з украінцамі, да часу пасляваеннага было ў мяне значна бядней.

•••••

На гэтым тыдні двойчы прыйшлося цяжка пахваляваццa.

На паседжанні рады Саюза пісьменнікаў, калі Савіцкі, што любіць амаль на кожным сходзе даваць пад канец высакапафасны акорд, зачапіў і мяне,— што я, народны, нічога, маўляў, не раблю для справы адраджэння. «Я рабіў гэта яшчэ тады, калі ты працаваў у ЦК і не даваў мне гэтага рабіць». *(Апладысменты, смех.)* І хапіла б такога адказу, а я загарэўся, панёс і пра мітынг у падтрымку ўвядзення войскаў у Чэхаславакію, і пасылку ім Снечкусу стэнаграмы выступлення Пяткявічуса...

Ды тое пераняслося лягчэй. А вось учора, ка-

* Як жыхар «усходніх крэсаў».

лі М. другі раз пазваніў, каб прадоўжыць сватанне ў «Народную газету», я выказаў прадуманае — і пра двухмоўнасць газеты, і пра выступленні Будзінаса і Якубовіча... Дастойна, доказна, аднак пасля пяці гадзін за машынкай, перад гэтай тэлефоннай гутаркай, яна не прайшла для нерваў лёгка, хоць і прагуляўся па парку, па сонечным марозіку адвячорка, і нават паспаў гадзіну пасля гэтага. Галава балела, як ніколі дагэтуль, і сэрца таксама.

Трэба ўсё-такі больш думаць пра галоўнае.

Учора ўсмак папрацаваў над падрыхтоўкай сёлетніх запісаў для публікацыі. Цяпер прадоўжу перадрук, як быццам скінуўшы з сэрца лішне цяжкае ў дарозе.

•••••

Паўза ў рабоце. Па Гогалю: «Иду я — идет работа...» А я не іду наперад, дык і не ведаю, што рабіць. Чытаю.

У «Немане» — успаміны бацькі Багдановіча. Гэта цікава, так расказаць пра час і пра сябе ў тым часе, гаварыць, што табе хочацца. Пакуль што ў яго пра маленства, сям'ю, свой род. І «як найбольш падрабязнасцей», як вучылі вялікія.

Прачытаў «Масееву кнігу» Сяднёва. Штосьці падобнае на маю «Пішу як жыву», нават і выдадзена шэранька-падобна, і ў тым самым Маладзечне набрана-надрукавана. Зроблена зусім па-свойму, спачатку гэта здавалася дзіўным, але цэльнасць уражання атрымалася, і чытаў з цікавасцю.

...Чытаю далей Адама Ягоравіча. Трохі як быццам і рыхлавата пайшло і зацягнута, але пайду да канца.

Сёе-тое з нядаўна падараванага: «Радаводнае дрэва» Генадзя Кісялёва, «Пакуль не завялі кветкі» Алеся

Масарэнкі, «Ледніковыя валуны Беларусі», падараваную Радзімам Гарэцкім у Таргунах.

Добра было там, у роднай вёсцы Леанілы Усцінаўны*, у школе, душа якое выхаванка Федзі Янкоўскага, Ганна Парфёнаўна Корсак. Там і сказаць можна: жыве Беларусь!

•••••

Неяк быў жыва, выразна падумаў пра тое, як гэта некаторыя адраджэнцы час ад часу зноў падкрэсліваюць, што ўдзельнікі Дзядоў у кастрычніку 88-га, разагнаныя міліцыяй, ад Усходніх могілак і ад Курапатаў вярталіся «ўжо не як насельніцтва, а як народ». Ці не залішне гэта саманадзейна, перабольшана?.. Ва ўсякім выпадку, ёсць жа нямала і такіх, што сынамі народа, народам адчувалі сябе і «трохі» раней...

У пэўнай сувязі з такім наіўным патрыятызмам згадаем і тое, як на прыёме нашых маладых літаратараў у Саюзе пісьменнікаў яшчэ СССР адзін з іх патрабаваў для свайго выступлення перакладчыка з беларускай мовы; як на беларускім вечары ў зале імя Чайкоўскага, наладжаным для маскоўскай дыяспары нашым пасольствам, маладыя энтузіясты абураліся, што гардэробшчыца гаворыць з імі не па-беларуску; як на паседжанні рады ТБМ, куды я зайшоў, адзін з членаў рады, работнік Акадэміі навук, пералічваючы беды беларусізацыі, сказаў, як ён чуў у «Кнігарні пісьменніка», што адзін з народных «гаварыў з суседкай па-расійску». Аказалася, што гэта быў я...

---

* Чарняўская Л. У. (1893—1976), пісьменніца, жонка Максіма Гарэцкага.

•••••

Дробязь: на вечары памяці Семяжона я гаварыў пра яго ў маладыя гады як пра элегантнага афіцэра, згадаўшы «тонкага дасціпніка» Вялюгіна, што «абцасікамі лясь, ручку цмок!» — так пра нашага Юзіка.

І не дробязь тое, як [redacted] з ім у дзень юбілею правёў усю раніцу — над зборнікам выбраных перакладаў і адзінаццатай кнігай «Пана Тадэвуша»...

Аляксей Дудараў у сваім выступленні са шчырай пашанай гаварыў, а пазней, дагнаўшы нас з Гілевічам на вуліцы, дадаў, што гэтая пашана — да старэйшых, «старарэжымных», як яны ўмелі і ўмеюць сябраваць, быць паслядоўнымі ў гэтым, «чаго не скажаш пра маладых».

Лявон Баршчэўскі вёў наш вечар, папярэдзіў яго добрым словам. Потым выступіў належна і Алесь Разанаў. А больш маладых не было і ў зале. Зрэшты, як і на іншых вечарах, нават тых папярэднiц, пра каго было столькі нагаворана ў найвышэйшых танах — Геніюш, Арсенневай...

•••••

**«Героя навачаркаскай трагедыі праводзілі ў апошні шлях.**

Растоў-на-Доне развітваўся з Мацвеем Шапашнікавым — чалавекам, які цаною свайго лёсу 32 гады таму назад выратаваў тысячы людзей.

2-га ліпеня 1962 года, калі рабочыя Навачаркаскага электравозабудаўнічага завода выразілі масавы пратэст супраць рэзкага павышэння цэнаў на асноўныя прадукты харчавання, генерал-лейтэнант Мацвей Кузьміч Шапашнікаў адмовіўся выканаць загад страляць у народ.

Герой Савецкага Саюза Мацвей Шапашнікаў, які атрымаў Залатую Зорку за фарсіраванне Дняпра ў 43-м, быў звольнены з арміі ў першы ж пенсійны дзень і нізрынуты ў поўнае палітычнае забыццё. Яго выключылі з партыі, яму забаранілі з чым-небудзь выступаць. Аднак зламаць яго не змаглі».

Гэта — паведамленне «ИТАР — ТАСС», надрукаванае ў «Известиях» за 29 чэрвеня г. г.— 21 радок у тры калонкі на другой старонцы, дзе «События и комментарии».

Нешта ў пачатку ліпеня, у Крынічным*, у пазычанай у суседа для прагляду кіпе газет я заўважыў гэтую заметку, як належыцца. А потым і раз, і два, і больш прыходзіла думка, што такое толькі «прыняць да ведама» — мала. Знайшоў гэта ў бібліятэчнай падшыўцы ў Доме літаратара, выпісаў, а дома пераклаў і вось...

І вось нічога не хочацца дадаваць.

•••••

Пасля пахавання шаноўнай, мілай і гераічнай Ларысы Іосіфаўны Гарэцкай у мяне была гутарка з выпадковай суседкай у аўтобусе. Пра смерць, пакуты перад ёю. «Калі Бог, як вы кажаце, ёсць, дык як жа гэта жорстка з яго боку — так абыходзіцца з людзьмі! Няхай ужо старэйшыя — яны паспелі награшыць, а завошта ж так сурова, бязлітасна, несправядліва з дзецьмі?..»

А жанчына тая, незнаёмая, як пазней, на памінках даведаўся,— дачка «ворага народа», змалку пакутніца, цяпер веру ў Бога, адзінасуцяшальную, сумленна сумяшчае з навуковай працай.

---

* Пасёлак над Нёманам на Навагрудчыне, дзе лецішча Я. Брыля.



Пімен прыемна здзівіў званком. Пагаварылі — от сабе, пра нашу беднасць, павіншаваліся з Новым годам. Слабы ён ужо зусім, і па гаворцы бачна...

А праз дзень пазваніў і Максім. Між іншым, пасмяяўся з «прэстыжных» Усходніх могілак, назваўшы тыя помнікі «прэзідыумам». «Справа натхняльнікі, злева апявальнікі. Не, я паеду дахаты!..» Гэта — пра родную Пількаўшчыну, дзе ён увосені быў, выступіўшы ў Мядзелі, потым наведаўшы родную хату, магілы бацькоў...

Калі ўжо і пра гэта думаць, дык мне ні загорскія, пры дзядах, бацьках, браце і пляменніках, ні маласельскія, пры Мішу,— не ўсміхаюцца. Аголенасць, запушчанасць, панылыя, няўтульныя... А што інакш? А можа, і не трэба пакуль што пра гэта? Валодзя Калеснік, калі мы з ім развітваліся, сказаў, што выглядаю я добра, што пажыву яшчэ доўга, а мне і няёмка было пры яго крайней зблажэласці ды нямогласці, і нібы зайздрасць у яго заўважалася, і нібы адчуванне ў мяне віны за тое, што застаюся, столькі ўжо блізкіх перажыўшы...

Сёння збяромся, камісія па ягонай творчай спадчыне, і будзем раіцца, з якім варыянтам звярнуцца да міністра культуры: збор твораў у чатырох тамах ці добры трохтомнік выбранага літаратуразнаўства і, дадаткова, кнігу аўтабіяграфічнай прозы. І ў адным, і ў другім варыянце ёсць свае плюсы і мінусы, і цяжка прадбачыць, які з іх, варыянтаў, лепшы.

Праглядаў яго кнігі, прыкідваў. Нямала зроблена і добра, а што і выдатна, і бачыцца цяпер гэта ўжо як быццам выразней. Так думалася, калі перачытваў «Будзённы дзень з Максімам Танкам», а ў снежаньскім «Полымі», чытаючы артыкул пра Алеся Каско,— першае слова Валодзева пасмяротнае! — яшчэ раз убачыў ягоную глыбіню, шырыню і вобразнасць.

...Позна ўвечары ўчора пазваніў з бальніцы Вітка, упершыню назваўшы мяне Ваня. Як Траяпольскі калісьці, пасля майго слова пра Шырму, адзін толькі раз замест Івана Антонавіча. Ён ужо дзесяць дзён пад кропельніцай, але не званіў «у твой цяжкі час», на ўвазе маючы Валодзю...

•••••

Чачня?..

Як нізка гэта, неразумна, подла!..

Каб жа хоць не ўблыталі і нас, беларусаў, у гэта крывавае беспрасвецце!..

## ДЗЕВЯНОСТА ПЯТЫ

Залачоныя, абтыканыя каштоўнасцямі шапкі высокага і найвышэйшага духавенства на закладцы першага каменя пад аднаўленне храма «имени Христа Спасителя». Якое мноства іх, гэтых шапак! А найбліжэй на тэлеэкране паказана тая, што на патрыярху. Зарагатаў, уявіўшы: а каб зайсці ў такой у трамвай ці ў аўтобус?

Многа новых папоў. Замаскаваліся барадамі ды клабукамі — не дабярэшся да простага чалавечага выгляду. «Православие, самодержавие и народность» — зноў?..

Прыгнятаць іх па-варварску, знішчаць, вядома ж, не трэба было, але ж і верх над сабою даць па-ранейшаму — таксама ці варта?

•••••

Перакладаю «Залатую ружу» Паўстоўскага. І ўспамінаецца тое, што мне ў лістападзе семдзесят дзевятага, у пражскім тэатры, гаварыў паўшэптам

Сяргей Залыгін: «Ты эти свои сопли размазывай на своем лице, а нашему журналу они не нужны». Гэта — Твардоўскі Паўстоўскаму, бракуючы аповесць. Несправядліва, груба. Хоць і бачыцца месцамі, скажам так, жидковатость его обстоятельности.

Успомнілася, перакладаючы «заразную» любасць да лесу і веданне яго, як ветлівыя палякі-«пáксаўцы» ў канцы семдзесят другога званілі мне, пыталіся, ці прыму я іхнюю літаратурную прэмію, і, як галоўны козыр падаўшы, сказалі, што ў іх яе прыняў пан Канстáнты Паўстоўскі. Было прыемна згадзіцца.

...Зноў ад машынкі да сшытка, ад яго лясных паходаў з Гайдарам — да нашых з Валодзем Калеснікам гутарак каля рыбацкіх вогнішчаў, пра што я днямі, слухаючы, гледзячы па тэлевізары мотальскія «калядкі», да патаемных слёз шчасліва ўспамінаў і думаў, што пра такое трэба і яшчэ пісаць.

...Як і раней бывала разоў колькі, побач з тым, што расказаў Залыгін, успаміналася, як Алесь Адамовіч гаварыў мне калісьці, што для яго Паўстоўскі — такі пісьменнік, што «можа быць, а можа і не быць...».

•••••

Двухтомныя слоўнікі, беларуска-рускі і наадварот, пакінуў унукам. Нядаўна па тэлефоне далікатна спытаўся ў Волечкі, ці патрэбны яны ім, на што яна, васьмікласніца, пераканана адказала: «А як жа!» А самому перакладчыку нязручна без іх, асабліва калі ўваб'ешся ў кветкі ды ў зёлкі. Учора дастаў сабе выпадкова першы пасляваенны аднатомнік «Русско-белорусский словарь» з 1953-га, які калісьці мы — на бязрыб'і — радасна віталі, у тым ліку і я. Потым ён многа і справядліва крытыкаваўся, аднак... Я вось пра гэтае аднак, адхіліўшыся ад перакладу.

Робячы штосьці новае, вельмі патрэбнае, робячы яго (каб жа заўсёды!) лепш за папярэдняе, тое ранейшае, папярэдняе не кешкаць трэба з пагардай, а проста толькі адкласці, каб потым нават і вяртацца да яго, знаходзячы пэўную карысць. Бо не магло ж, як нам ні дрэнна было з гэтым у той час, столькі людзей займацца глупствам ці шкоднасцю, тым больш такіх людзей, як Колас, Крапіва, Глебка, Лобан, у патаемным, «сокровенном» усё-такі сапраўдных патрыётаў.

•••••

«Вы што робіце?.. Ага! А я што? Я раблю кнігі!» Можна і з клічнікам. Хопіць і аднаго.

Так падумалася, з адчуваннем усё ж такі годнасці, пазаўчора, на тэбээмаўскім вечары («Чаго вам хочацца, панове?»), дзе таксама трохі падпісваў кнігі, што асабліва прыемна — школьнікам старэйшых класаў, хлопцам і дзяўчатам. Выступленне зноў жа імправізаваў, маючы галоўную думку і два адпраўныя імені — Міцкевіч (пра нашу мову) і Талстой (Сяргей Львовіч пра бацьку: «Знал он и украинские и белорусские песни»). Здаецца, выйшла тое, што трэба.

Калі загаварыў пра школы, успомніў пра Янкоўскага і Калесніка, а таксама пра таргуноўскую школу. Потым да мяне падышла незнаёмая, і мы хораша пагаварылі пра яе настаўніка ў брэсцкім педінстытуце, Уладзіміра Андрэевіча. Няма ў нас, тубыльцаў, візітных картак,— вось і яшчэ адно безыменнае знаёмства, хоць яна і назвалася, чаго ў мітусні не запомніў...

Затое Ганна Парфёнаўна пазваніла з Таргуноў учора раней, чым я цяпер пішу, нешта ў восем з мінутамі. Глядзела вечар па тэлевізары.

•••••

Рэабілітацыя, кампенсацыя — усё гэта так, але ж і вам, паважаны за лагерныя пакуты і за шаноўны ўзрост старэйшы калега, таксама трэба падумаць, што не паэзія вінавата ў вашых пакутах,— завошта ж вы здзекуецеся з яе, нашай роднай паэзіі, бясконца друкуючы свае «пугі»?..

•••••

У апошнім нумары «Литгазеты» многа пра Чачню, як і ў іншых нумарах за студзень, але толькі адна масквічка з кіёска «Союзпечати», трэба думаць, немаладая і інтэлігентная, сказала аўтару нататкі:

«Зря они так, если считают себя умными людьми. «Хаджи-Мурата» Толстого почитали бы, прежде чем вводить войска».

Думаў днямі пра гэтых «если умных» і так: спачатку не ўлічылі англійскага вопыту ў Афганістане, а потым царскага на Каўказе...

•••••

Уздрыгваю і плачу. Ад прастаты і яснасці? Яшчэ ад нечага другога?..

Не ўпершыню такое ў мяне, чытаючы талстоўскія «Акулу» і «Саскок» — цяпер у добрым Скрыгановым перакладзе, які не перашкаджае мне яшчэ раз адчуць арыгінал.

•••••

Дайшоў аж да юнацкай радасці — пераклаў і, здаецца, удала цудоўны верш Буніна «И цветы, и шмели, и трава, и колосья...». Па тэлефоне прачытаў Сёмуху спачатку арыгінал, а потым пера-

клад, і Васіль сказаў: «Ну вось, а вы прыбядняліся!» Пра тое, што [redacted] хацеў, каб у «Залатой ружы» вершамі заняўся нехта іншы.

•••••

Учора, прыйшоўшы са школы, Антось пазваніў мне, каб пагаварыць на роднай мове, якой ён старанна заняўся. Калі я адказаў на яго пытанне, што цяпер раблю, ён сказаў, што («честно говоря») болей любіць чытаць рускае ў арыгінале. Ды ўжо і ўкраінскае таксама, пакуль што толькі «Кабзар». І тут філосаф на трынаццатым годзе здзівіў мяне здаровым разуменнем справы. Добра перакладаць на нашу мову і рускую класіку трэба для будучыні, калі нашы школы падрыхтуюць нацыянальна свядомага чытача. Так і я думаў днямі, гартаючы хараша выдадзены том расійскай дзіцячай літаратуры ў старанных больш і менш удалых перакладах.

•••••

Быў нарэшце ўчора ў Максіма, у бальніцы. Дрэнна ён выглядае і адчуваецца. Тым болей што дома Люба ў яшчэ горшым стане...

А ўсё ж, калі я з ціхага, светлага калідора, праз двое ашклёных дзвярэй, зазірнуў у палату — убачыў, што ён, у спартыўным касцюме, сядзіць наўпоперак на пасцелі і нешта піша ў агульным сшытку. Потым, з яго намёкаў, зразумеў,— новыя вершы збірае для «Полымя». «Апошнюю падборку»,— сказаў амаль зусім спакойна, па-свойму зноў жа ў вераснёўскі нумар, як неаднойчы бывала.

Вітка, які быў у Танка на тры дні раней, гаварыў мне, як яны з Максімам «добра пагаварылі пра галоўнае», пра што ніколі не было ўсё часу пагаварыць.

У нас з Максімам учора да гэтага не дайшло: такое не «арганізуеш» знарок, а да таго яшчэ вярнуўся з прагулкі яго супалатнік.

А чым пацяшаць, апроч стандартнага «папраўляйцеся»?..

Пішу, а ў акно ідзе светлае, цёплае сонейка,— можна сказаць і так, і не здаецца гэта сентыментальнасцю,— і згадалася, як днямі сустрэўся ў Доме літаратара з Навумам Кіслікам і звярнуліся мы да падобнага аптымізму: кожны дзень — падарунак. Бо і ён, ужо неўзабаве сямідзесяцігадовы, у раннім юнацтве цяжка паранены, адзінокі, адчувае сябе, як гаворыцца, не найлепш.

•••••

...Як ішлі мы раннім-раненька берагам Шчары ў свае запаветна-рыбныя мясціны,— міма надрэчных дубоў у спрадвечным спакоі, міма слупочка чорнага бусла воддаль на росным лузе пад лесам, міма павалочыстага туманца́, над рачною ціхасцю, дзе ў цёрпка-цёплай і непрыкметна-быстрай вадзе, як у беспамернай ванне, раскашаваліся ў кароткіх перапынках ад свае хітрае працы пашанотныя рабачаі-бабры.

З вамі ішлося ў тым шчасці — Валодзя і Федзя* — даўно ўжо, у сямідзесятым, і так неверагодна хораша.

•••••

На Алесевай магіле дзве экзальтаваныя па́нячкі, журналістка і скульптарка, пакінулі адкаркаваную бутэльку каньяку і чаркі.

На гадавінным вечары пра гэта абурана расказалі ўдовы абодвух братоў Адамовічаў.

---

* Уладзімір Калеснік і Фёдар Янкоўскі.

І тады, і цяпер вось, пасля Валодзі і Федзі, успомніў і гэта, і магілу Ясеніна, недапітую бутэльку «чарніла» каля помніка і хамскае на пісульцы: «Сережа, тебе!..»

•••••

На сустрэчы з «першацветаўцамі», студэнтамі і вучнямі старэйшых класаў, раіў ім вывучаць замежныя мовы, каб пасля самім несці роднае слова іншым народам.

Бо чакаць, што нашу мову будуць вывучаць, каб знаёміцца з нашай літаратурай, цяжка...

•••••

Назе спатрэбілася гарызанталь з пад'ёмам, бо ўжо і цяжка было хадзіць, і абувацца, дый балела. І вось я, па настаянні жонкі і ўласнага одуму, залёг на тахце, як калісьці выратавальна бывала, нагу прыладзіўшы вышэй. Вось запішу гэта за сталом, як і папярэдняе, урыўкамі, і зноў лягу. Бо і лежачы, можна чытаць і запісваць у блакноце.

Словам, не пусціўшы пагалоску, што «нядуж» (гэта Купалава любіў з усмешкаю закаханасці цытаваць Валя Таўлай), а з прыемнасцю ўвайшоўшы, так скажу, у творчыя дні хваробы.

•••••

Пасля таго як першага прэзідэнта СССР, што ўзняўся быў над усёй імперыяй, я ўпершыню і наогул адзін раз не з тэлеэкрана пабачыў у нашай Акадэміі навук незадоўга да таго, як ён сышоў са сцэны, учора на сустрэчу з другім прэзідэнтам, які ўжо над імперыяй паменшанай, ішоў ледзь не з усмешкай: ці не першае і апошняе спатканне зноў?..

Чаго варты сказ у святочна-важным запрашальным білеце: «Просьба не мець пры сабе сумак, пакункаў і іншых рэчаў». Пакуль дайшоў да акадэміі з тралейбуснага прыпынку... тройчы папрасілі паказаць гэты білет у спалучэнні з пашпартам, а потым яшчэ раз пры ўваходзе ў вестыбюль, і пяты раз — у залу...

Сябру, які дагнаў мяне потым, пасля гістарычнай сустрэчы, на вуліцы і спытаўся: «Ну, як?», я адказаў: «Шоу прымітыўнае і трывожнае...»

•••••

Днямі — жудасная тэлекарціна «Его зарыли в шар земной»: пошукі салдацкіх чарапоў у балоцістай «даліне смерці» на Наўгародчыне.

Стары ўжо, заплаканы сын, бацька якога загінуў недзе тут, калі сам ён быў дзіцем. Страшнае недзе!..

Успомнілася, як у семдзесят трэцім годзе на Вэстэрплятэ, дзе пачалася наша марская дарога па Скандынавіі (савецка-польска-нямецкі рэйс міру), Сярожа Круцілін... ну, не скажаш «здзіўляўся», лепш — недаўмяваў, колькі гістарычна-патрыятычна-музейнага шыку на месцы няпоўных сямі дзён супраціўлення, з пятнаццаццю ахвярамі. І расказаў мне пра тую «даліну смерці», дзе на балоце спынілі меліярацыйныя работы з-за жахлівага мноства чалавечых касцей. З балота наступалі на немцаў, якія заселі ў надзейнай абароне на вышынях...

•••••

Бібліятэкарачка, якой туга жывецца, як маці-адзіночцы, неяк вельмі ж па-сучаснаму, па-выжывальнаму страшна сваёю тупасцю ці «практычнасцю» з бяды і ледзь не з адчаю, расказвала, што муж яе

сяброўкі вярнуўся з Каўказа і расказваў пра нашу снайперку ў Чачні, што яна там... «вельмі добра зарабляе»...

Тут пераходжу думкай да такіх страшных... таксама ж людзей, розных грачовых, ельцыных і ім падобных, «явно и тайно образующе», якія таксама «добра зарабляюць»...

•••••

Сабралася ў мяне з падарункаў ажно чатыры польскія таміны пра нашы гдыньскія дні і ночы ў верасні трыццаць дзевятага года. Гартаючы адзін з тых тамоў, найпазнейшы па часу выдання, яшчэ раз спыніўся на тым, што там, на ўзбярэжжы, за дзевятнаццаць дзён яго абароны з пятнаццаці тысяч абаронцаў, улічваючы і апалчэнне, загінула больш як трэцяя частка. Як мне пашчасціла выжыць!.. Вось пішу, і ўспомніўся наш вясковы дэтэктарны прыёмнічак, з якога Коля, як ён мне потым расказваў, чуў і ўсім у хаце перадаваў, што «Westerplatte wciąż się bohatersko broni»*. І яны гэта звязвалі са мною. А пра Мішу хоць бы такога нечага не было.

Ці не зацерлася ў эпілогу да «Птушак і гнёздаў» тое, як наша маці выходзіла, цяжка кульгаючы, на гасцінец і выстойвала там, і пыталася — то ў польскіх салдатаў, палонных, якіх гналі на ўсход, то ў савецкіх, якія ішлі на захад:

— Хлопчыкі, ці не бачылі, ці не чулі вы пра маіх?..

•••••

Захацелася чамусьці перачытаць Сянкевічаў «Potop», які сяк-так памятаю са школьных гадоў.

* «Вэстэрплятэ яшчэ ўсё гераічна абараняецца».

Што ж, займальна, але не глыбока, абмежавана ў шляхецкім ды каталіцкім патрыятызме.

Кміціц нагадаў Дырлевангера, асабліва там, дзе ён, уварваўшыся ў нейтральную Прусію, распраўляецца з мірным насельніцтвам — з імем боскае маткі і караля на вуснах.

•••••

З прыемнасцю пазнаёміўся з Каратынскім у нашым акуратным (Федзева!) выданні, усё ж шкадуючы, што знаёмлюся не ў арыгінале. Ажно запісаць такое хочацца:

У карчме,— відаць жа, у нас, на Наваградчыне,— прыгожая маладая жыдовачка раскатвала на стале цеста на локшыну, а ён, барадач, любаваўся і ёю, і яе спраўнай работай, і падумаў тады пра свой намер пісаць пра родныя мясціны. Цытую:

«Калі я пачаў разважаць, што цеста пад качалкаю ўсё распаўзаецца, займаючы ўсё большую ды большую плошчу стала, але затое становіцца танчэйшае і яго маса не павялічваецца, мне здалося, што тое ж самае адбываецца і з многімі ідэямі, раскатанымі на некалькі кніг».

І вырашыў ён напісаць сваё не ў пяці кнігах, а карацей.

Можна дадаць: а мы, некаторыя з нас, усё-такі раскатваем сваё цеста, і намі не палюбуешся, як тою карчмароваю дачкой.

•••••

«Блажен муж да не йдет на совет нечестивых». Здаецца, так у Давіда. А муж учора пайшоў, запрошаны тэлефонным званком, на сход ветэранаў пры нашым домакіраўніцтве. Сумная публіка, ды не

выглядам pŀci obojga*, а запыленымі гарладзёрамі ў старым, яшчэ не зусім саржавелым бальшавіцкім узбраенні, якія з «вертыкальным» нахабствам агітуюць за прэзідэнта і яго рэферэндум... Толькі потым, дома, калі пазваніў А. Р., стала вядома, у якім «прэстыжным» кодле ветэранаў арміі ды партыі нам пашанцавала апынуцца: больш пяцісот пры адным домакіраўніцтве!

Ёсць ад чаго сапсавацца настрою, і ён у мяне быў паганы пасля вяртання...

•••••

Учора быў званок, зноў жа з нейкай «вертыкалі» — запрашэнне на чарговы «бамонд», які прэзідэнт наладжвае «цвету ветэранаў» Вялікай Айчыннай вайны, куды запрошаны і я. Адмовіўся з ходу і проста — тым, што мяне ўжо запрасілі на ўручэнне юбілейнага медаля ў іншым месцы. Сказаў нават, што «зашмат будзе медалёў». А на «бамондзе» тым, як падкрэсліваў у канцы запрашальнік, медалі будзе ўручаць Сам.

Успомнілася тэлехроніка пра ўручэнне ўзнагарод, дзе ён абдымаўся з узнагароджанымі, а яшчэ раней — ідыёцкая радасць «перамогі» на развітальным банкеце з дэпутатамі. Успомніўся і «совет нечестивых» пры домакіраўніцтве...

•••••

Няўжо хопіць аднаго няўдзелу ў подла-злачынным, што так агідна набірае сілы, няўжо мая актыўнасць у тым, каб належна рабіць тое, што па-сапраўднаму маё?.. Выключыўшы радыё, заснуў у пачатку дванаццатай ночы, а прачнуўся ў палавіне

* Абодвух полаў (*польск.*).

другой. І зноў да транзістара... Бізун і пернік — «спецназ» супраць галадаючых дэпутатаў апазіцыі і шампанскае для запалохана-згодніцкай большасці Вярхоўнага Савета — ва ўсёй цынічнасці. І сусветнае сведчанне нашай нацыянальнай нясталасці.

Што і як будзе?..

•••••

Цяжкія, горка тужлівыя абуджэнні — амаль кожны дзень. І паныласць зачастая. Адкуль брацца таму аптымізму?..

«Разам з вамі, дарагія сябры, ■ разважаю свой боль шчасліваю праўдай, што з намі застанецца ягонае слова і светлы вобраз...»

Так я пачаў сваё выступленне пра Пімена на паніхідзе, закончыўшы падзякай і спачуваннем ягонаму анёлу-ахоўніку — Зоі.

Ён званіў мне за пяць дзён да свайго адыходу, цяжка дыхаючы, абураўся на нашу галечу, прасіў пазваніць, як там будзе ў акадэміі, на двухдзённым сходзе.

А пакуль я там нудзіўся на дакладах і выступленнях, яго павезлі ў рэанімацыю...

Ад Піменавай труны дзяржаўнай, але чамусьці з крыжам, успомнілася і Алесева, яшчэ шыкоўнейшая, маскоўская. А найбольш сімвалічна, ці што, Анатолева,— танна-стандартная, халтурна збітая так, што маладых, апоўдні п'яны, кажучы па-адэску, «гробокопатель», доўга марудзіўся з перакошаным векам, пакуль сяк-так прымацаваў яго непаслухмянымі цвікамі. Не б'ючы малатком, а таўкучы ім той цвік, за ручку трымаючыся каля самага жалеза. А потым небяспечнае віхлянне той труны на паясах, нібы таксама п'яных, калі яе — з мудра-дасціпным жыццялюбам Анатолем — апускалі ў стандартна неглыбокую яму...

Сумнае гэта відовішча — бязмежжа гарадскіх могілак з безліччу зноў жа стандартных пірамідак і крыжоў, якіх усё больш ды больш з кожным месяцам, калі мне меркаваць па сваім тут быванні, за год — трэці раз.

•••••

Літаратурны ўнук гаварыў учора па тэлевізары, што калі б ён нарадзіўся рускім пісьменнікам — яму не было б чаго рабіць, бо там «усе нішы занятыя». А ў беларускай літаратуры, маўляў, жанравых нішаў поўна.

Згадаўся ягоны дзед, універсальны графаман, які на сваім пяцідзесяцігоддзі гаварыў пра сваю шматжанравасць: «Што ж, кожнаму жанру хацелася дапамагчы...»

•••••

Па радыё сёння выступаў вялікі мінскі абласны начальнік, з высокай заклапочанасцю народным лёсам гаварыў і доўга, і нібы шчыра. А я тым часам успамінаў, як увосень дзевяноста другога, калі наш дом засяляўся, я, шукаючы сантэхніка, які не закончыў, пакінуў работу ў нас і пабег у суседні пад'езд, застаў яго там, у шыкоўнай кватэры, дзе ён ладзіў у ванным пакоі ўмывальнік «цюльпан». Толькі спытаўся, калі ж ён закончыць пачатае ў нас. А ён мне трохі пазней, на прастадушным падпітку, расказваў, як на яго крычаў той начальнік,— чаму ён упусціў мяне за парог, хоць я, спыніўшыся на лесвічнай пляцоўцы ў адчыненых дзвярах, парог той не пераступіў. Я яму, ведаеце, гавару, што вы ж пісацель, а ён мне кажа: «Ну і што?!»

«Ну і што» застаецца і надалей.

•••••

Сёння ажно адмахнуўся ад астрабрыдлага — па Караткевічу — самаедства:

«Я грэшны? Ты ж мяне, Божа, такім і зрабіў!..»

А гэта — з «Хозяина и работника», што я заўважыў і перакладаючы гэтае апавяданне, на чым спыніўся яшчэ раз і чытаючы карэктуру. У Льва Мікалаевіча Мікіта думае так:

«Известно, грехи. Да что же, разве я сам их на себя напустил? Таким, видно, меня Бог сделал. Ну, и грехи! Куда денешься?»

Якая праўда, а так проста сказана. Калі не ўдумацца, дык, чытаючы, і пройдзеш міма.

•••••

Выпадкова сустрэўся на выдавецкай лесвіцы з Валодзем Васілевічам, і ён расказаў мне пра сваю радасць. Выняў з папкі тоўстую, на ўвесь захоп жменяй, карэктуру новай кнігі. Зноў родны фальклор, першы том трохтомніка. У акадэмічную серыю «Беларуская народная творчасць» не ўдалося падключыць — па ўсеагульнай нашай прычыне: грошай няма — ідзе трохтомнік у «Мастацкай літаратуры». Калі выйдзе — богведама, але ж ідзе! Гэтым свяціліся вочы харошага сына Лены Васілевіч, аднаго з нашых светлых рупліўцаў. А мне ўявілася — ужо дома — як ён будзе чытаць гэтую вялікую і нялёгкую карэктуру. Праца цяжкая дый радасная, як ворыва, як малацьба.

•••••

Ён мяне раздражняе, не раўнуючы, як N.,— не магу ні слухаць, ні бачыць. «Не раўнуючы»— таму, што ў выпадку з таленавітым паэтам, які губіць

сябе хамскім п'янствам, зло непараўнана меншае... Учора, уключыўшы «Рэзананс», новую, прэзідэнцкаалілуйную праграму, убачыўшы «ўсенароднага», пачуўшы першыя фразы самазахаплення, з болем выключыў тэлевізар...

Дробязь як быццам тое, што я адмовіўся атрымліваць медаль ветэрана з ягоных рук, але і не дробязь, бо ў справах галоўных дробязей няма. Адчуў гэта з задавальненнем двойчы,— чуючы пра тое «августейшее» ўручэнне па «Свабодзе», а потым чытаючы ў «Звяздзе».

Дарэчы, «Звяздзе» ён таксама не даруе, мяркуючы па тым, як у «свой чысты чацвер» іранізаваў над галоўным рэдактарам, з намёкам пра «нацыяналізм»...

Тады яшчэ «ЛіМ» застанецца, а потым ужо беларускімі,— няхай сабе і з прынцыповымі агаворкамі,— застануцца «Ніва» ў Польшчы, «Наша ніва» ў Літве, «Беларус» у Амерыцы... Бо і яго выкурыць прэзідэнт з Мінска. Найцяжэй яму будзе, відаць, са «Свабодай», якую апошнім часам і я чытаю ўсю, ужо значна менш звяртаючы ўвагу на некаторую правінцыйную грубаватасць, часамі ледзь не да гы-гы-гы.

•••••

Няўжо так звычайна, празаічна і памрэш, без нейкага вышэйшага заключнага акорда?..

Я — нейкі я — сяджу адзін у ціхай, светлай кватэры і друкую на машынцы, лезу ў шуфлядку стала па хустачку і — неяк дзіўна, збоку гляджу на чалавека — старога і самотнага ў сонечным святле з-за вокнаў...

•••••

I смех, і бяда ў тым, што пэўнае пакаленне новых, маладых, так сказаць творцаў — а мне іх даводзілася сустракаць і праводзіць у прозу цвярозай рэчаіснасці ўжо некалькі,— лічыць, што ўсё былое, нядаўняе — лухта і марнота, а вось яны прыйшлі — не проста прыйшлі як яшчэ адна змена, а прыйшлі назаўсёды! Такуюць, перабіваючыся ўзаемна, пакуль іх ззаду не падціснуць новым і такім самым па сутнасці такаваннем яшчэ адны прэтэндэнты на беспамылковую вечнасць.

•••••

Стары, энергічны, вясёлы доктар пра здароўе пытаўся так:

«Праздник обеда есть? Струя есть?..»

Было яшчэ штосьці сакраментальна трэцяе, не памятаю яго. Ды мяне, зрэшты, цікавіць тут толькі «струя». Малады, жарабцоўскі струмень смярдзючай мачы, якую сыны аднаго з нашых пазменна цурбалілі на лесвічнай пляцоўцы ў той, парваны імі нумар часопіса, у якім нехта пакрытыкаваў іх вялікага тату...

•••••

Былыя камсамольскія важакі самасільна кінуліся ў набожнасць.

Аднаго з іх, добра знаёмага, нядаўна паслухаў па радыё,— як ён, аказваецца, Біблію чытае «штодня і з алоўкам».

А другі, незнаёмы, але не менш энергічны, ні больш ні менш, а «изучил всю подноготную православной религии»...

•••••

Столькі цяпер гаворыцца пра карані. Само сабой было раней у Еўтушэнкі, які, зрэшты, раскараніўся і на Беларусі, і на Украіне. Потым пра гэта гаварыла з нашай сцэны гастралёрка Талкунова, пасля палітык Старавойтава.

А днямі — дзеля вялікай палітыкі — пра «беларускія карані» загаварыла нарэшце праз тры дзесяцігоддзі яраслаўскай рускасці Церашкова. А генерал Клімук, які ў космас лятаў з кнігай Коласа, пра карані свае чырыкае ў Мінску па-руску.

Слухаў іх у Таварыстве дружбы з заграніцай.

•••••

Таварыства дружбы прымала групу ветэранаў з шыкам і падарункамі, зноў жа нямецкага паходжання. Ужо і не саромеемся браць. Хоць і ўспомнілася тая старая жанчына, што плакала па тэлевізары:

«Каб не беднасць такая, дык я б ім кінула гэтыя трыста дойчмарак назад!..»

Пакаяльную кампенсацыю за два гады няволі колішняй маладое дзяўчыны, вывезенай «на работы».

•••••

Данута пераглядала выпадкова знойдзены ў іхнім капітальна-рамонтным безладзе нумар «Работніцы і сялянкі» за 1991 год і знайшла там прыемнае мне.

У нарысе Раі Баравіковай пра салігорскіх настаўнікаў пішацца так:

«...І Валянціна Аркадзьеўна ўжо запрашае да чаю, а Міхаіл Паўлавіч пачынае расказваць пра сябе. Сярод яго радні таксама ёсць настаўнікі, было каму запаліць

агеньчык у душы, але і было яшчэ адно. Бацькі жывуць на Гродзеншчыне, у Карэліцкім раёне, яны калгаснікі, простыя сяляне, усё жыццё пры зямлі. Але калісьці бацька, Павел Анісімавіч, вучыўся ў польскай школе ў мястэчку Турэц разам з Янкам Брылём. Гэтае асабістае з будучым вядомым пісьменнікам ён пранёс праз усё жыццё і, як мог, па-сялянску перадаваў дзецям пачуццё асаблівай павагі і любові да мастацкага слова, да літаратуры. Выпадковасцей у жыцці не бывае, і калі прыйшоў час выбіраць дарогу, Міхаіл Паўлавіч выбраў філалогію».

Цытую па часопісе, аднак тады яшчэ, калі ўнучка-настаўніца прачытала мне гэта па тэлефоне, першае, што я ўспомніў,— вясну сорак другога, калі Паўла Ястраба, разам з іншымі з іхніх Лыкавіч, сілай бралі ў паліцыю, ён адмовіўся, з яго здзекаваліся, білі, у халодніцы трымалі, а ўсё ж не згадзіўся.

З Лыкавічаў са мною вучыліся: ён, Ястраб, высокі, бялявы ды ціхманы хлопец, да якога на фотаздымку ў часопісе добра падобны сын, дырэктар школы; другі — Косця Рап'евец (паблізу вёска Рап'ёва), якога я, Лычыка па мянушцы, апісаў у «Сірочым хлебе» як Янку Цівунка; трэці — Коля Драб, Пу̀хця за паўнашчокасць, найменш цікавы з гэтай тройкі. Усе яны старэйшыя за мяне, Павел і Коля гадоў на некалькі (пасляваенныя перастаркі), а Косця толькі на год. Помніцца, як ён у сёмым класе быў абагнаў мяне, распуснага «першага вучня», бо вучыўся старанней, павodзіў сябе сціплей, і мне было непрыемна. Потым ён быў, відаць, звязаны з рэвалюцыйным падполлем, бо з войску, у форме і з карабінам, уцёк у «Саветы», а што з ім здарылася там (1937 ды 1938 гады!), я або чуў і забыўся, або, хутчэй, і нічога не чуў. Пухця быў у паліцыі і «па волі лёсу», як пішацца сёння і гаворыцца, «апынуўся на захадзе». А Павел, аказваецца, у дзевяноста першым яшчэ жыў; можа, і сёння яшчэ жывы,— трэба будзе распытаць.

•••••

Ваграм Калайджан, як сказаў мне нядаўна Сяргей Чубакоў, які родам з тых мясцін, усё-такі афіцэр унутраных войскаў. І гэта пра яго «дзейнасць» на Асвейшчыне гаворыць па-свойму. Партызаны не хацелі выконваць яго шалёны загад, дык выканалі «ўласаўцы», што нядаўна перайшлі да партызан і павінны былі давесці сваю адданасць.

•••••

Танк, якому я пазваніў, каб перадаць прывітанне ад Галі Гарэцкай, яшчэ раз падзякаваць ад яе за дапамогу двойчы — з выданнем «Віленскіх камунараў» і з палепшаннем іхніх, Галі з маткай, жахлівых кватэрных умоваў. Яму, вядома, было прыемна. Сказаў:

— Добрае ўспамінаюць радзей, чым штосьці іншае, за што больш лаюць, не надта разбіраючыся, вінаваты ты ці не...

І другое сказаў Максім, — пра тое, як цяпер думаецца, што зашмат было жыцця растрачана на пустое, замест таго каб паэту рабіць сваё асноўнае, галоўнае.

І я падобнае днямі адчуў, заглянуўшы ў маю бібліяграфію ў слоўніку «Беларускія пісьменнікі»,— колькі рабілася не свайго, па службе!..

•••••

У апошняй «Свабодзе» нататачка пра тое, што, калі «нашы» войскі вярталіся з юбілейнага парада, пад нейкую тэхніку — танк ці нешта іншае — кінуўся стары чалавек.

Гэта магло б і пачаткам быць для твора пра нашы дні...

Сорам перад людзьмі, якія прыехалі на кангрэс беларусістаў з блізу дваццаці краін, да Японіі ўключна, каб пагаварыць пра нашу мову, культуру, гісторыю, сорамна за тое, што пра нас пішуць у замежных газетах...

Цяжка на сэрцы і дома, і ў людзях.

Ахвотнікаў памерці пад бел-чырвона-белым, які вульгарна паганяць, пакуль што не відно... Смеласць, вера, упэўненасць — у выступленні на кангрэсе Радзіма Гарэцкага, і не толькі яго (Рагойша, які вёў адкрыццё); самаадстаўка і інтэрв'ю па «Свабодзе» Бураўкіна...

Можа, паразумнеем, задумаемся, памацнеем?.. У сэнсе нашай нацыянальнай маласвядомасці, дробязнай раз'яднанасці, наіўнасці і сектанцтве...

•••••

На кангрэсе, на «круглым стале» па беларуска-польскіх літаратурных сувязях, якія апошнім часам так ганебна перарваліся, выступіў у дыскусіі, гаварыў пра «лодзінскі перыяд» — актыўнае супрацоўніцтва нашай «Мастацкай літаратуры» з «Wydawnictwem Łódzkim»,— як пра красамоўны прыклад, што і ў часы, якія мы агульна бэсцім з абодвух бакоў, можна было рабіць патрэбнае. Што і рабілася, як цяпер бачыцца з чвэртвечнай дыстанцыі, добра і светла.

На тым «круглым стале», між іншым, добра згадваўся Танк як і дзіцячы паэт. І я туды трохі дадаў і прапанаваў ад нашай беларуска-польскай грамады перадаць яму прывітанне. Даручылі гэта Алесю Барскаму,— каб ад гасцей. Але ўчора, калі я ўсё-такі дазваніўся Максіму, зрабіць гэта прыйшлося мне, бо Барскі, як аказалася, «не званіў» яму, што азначае — не дазваніўся.

Як і Найдан Вылчаў, які перад ад'ездам пазваніў

мне ад Гілевіча, папрасіў перадаць Максіму прывітанне, бо і ён, наш шчыры балгарскі друг, ціхі, міла ўсмешлівы Найдан, не змог, як і я, за два дні дазваніцца...

•••••

«Душам умерших нужны воспоминания». Мікалай Канстанцінавіч Рэрых напісаў гэта, маючы трыццаць шэсць гадоў жыцця, пасля смерці свайго настаўніка — Куінджы.

І падумаў я, ужо ўдвая старэйшы, пра Улашчыка і Калесніка. Напісаць пра першага абяцаў Аляксею Каўку, але ніяк усё не знаходжу пачатку. А пра Валодзю думаў і думаю, на ўвазе маючы нашу перапіску, дзве папкі якое ўзяў сюды, у вёску.

Рэрыхава, пра ўспаміны, просіцца на эпіграф.

•••••

Вось што хочацца выпісаць-перакласці з «Wiadomości kulturalnych» за 5 сакавіка г. г., з запісаў дыпламата і публіцыста Аляксандра Малахоўскага, які, дарэчы, у лютым быў у Мінску, госцем нашай Грамады.

«На маіх сустрэчах часта задаю слухачам такую ці то загадку, ці то пытанне: што гэта такое — твор, напісаны пісьменнікам, які паходзіць з паланізаванай сям'і па крыві беларуска-жыдоўскай, а пачынаецца словамі (тут ужо лепш у арыгінале): «Litwo, ojczyzno moja!..»

Пра кроў жыдоўскую апошнімі гадамі ў палякаў чыталася, а вось пра спалучэнне яе з беларускай — дагэтуль не спатыкаў.

•••••

На паседжанні рады Саюза пісьменнікаў, паколькі прынялі ў Саюз адразу двух піцерцаў, Валянціна Грыцкевіча і Анатоля Кірвеля, жартавалася так, што можна ўжо там, у «горадзе над Нявой», адкрываць не проста аддзяленне нашага Саюза, але зноў суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца»,— каб зноў закручваць справу сваю ад пачатку.

•••••

Рэрыха думаў чытаць усё падрад, але пацягнула на выбарачнае чытанне, дзе менш — як гэта ні дзіўна для яго, для гэтай выдатнай сям'і — рускага звышпатрыятызму. З Гімалаяў расчульвацца тым, што рускія, маўляў, ніколі не былі шавіністамі... Такога нельга дараваць і Рэрыху. Або і такога таксама — у вялікія сыны Расіі амаль з аднолькавым пафасам уключаць і Талстога, і Суворава?..

Тэарэтычнае абгрунтоўванне агульналюдскай, сусветнай патрэбы, неабходнасці міру, чалавечнасці, свабоды часта ў яго кнізе «Зажигайте сердца» занудживае публіцыстычна-абстрактнай публіцыстычнасцю.

Яшчэ раз пераконваюся, што так яно было, ёсць і будзе — абсалютна бездакорных людзей не бывае.

•••••

У Міры, на «замкавым свяце», калі адшумелі прамовы наверсе і тосты ў адрэстаўраваным падзямеллі, калі схлынула спёка і ў розных месцах навокал замка забушавалі танцы, пастаяў каля дашчанай сцэны, на якой грымеў спевамі і музыкай чарговы самадзейны ансамбль, а ніжэй — на вытаптанай траве, дзе ўжо і пыл завёўся,— моладзь танцавала.

Асабліва хораша лютавала адна, крыху дзябёлава-

тая, бялявая, босая красуня ў міні-спадніцы,— то сола, то ў пары з агністым чарнявым дзецюком, хараша задрапіраваным у палотнішча бел-чырвона-белага сцяга.

•••••

Ранак быў учора, як і ўвесь дзень пасля, прыемна і здарава прахалодны, часамі зусім на грані дажджу.

Да снедання, на праходцы каля гасцініцы не вытрымаў — спытаўся ў дзвюх жанчын, якія ішлі з букетамі півоняў у бок белай царквы на ўзгорку, што ж гэта за свята сёння, апроч нядзелі? Бо мы з сябрам ледзь не паспрачаліся, што гэта сёмуха. Але адна з жанчын здзівілася бяззуба-весела: «Як якое? А шасцьсот гадоў Карэлічам!»

І нечакана спыталася, ці ж гэта я, і здзівіла расказам, што яна — выпускніца Валеўскай школы з лета пяцьдзесят восьмага, калі я з сям'ёю летаваў у свіцязанскім лясніцтве і сустракаўся з імі, найстарэйшымі школьнікамі.

«Памятаеце, вы ж нас, дзяўчат, пыталіся, ці ёсць у нас па хлопцу, з кім сябруем?..»

Падзівіліся разам, як даўно гэта было. І не спытаўся, як жа яна так апрасцілася, да бабскай бяззубасці, дзе жыве і што робіць.

На леташнім свяце пяцідзесяцігоддзя вызвалення нашага раёна з-пад акупацыі мы з сябрам не бачылі аніводнага бел-чырвона-белага сцяга, а тут — і на адкрыцці памятнага знака, і на мітынгу на плошчы перад домам райвыканкома,— яны былі. Яшчэ, здаецца, больш, чым учора ў Міры.

Адзін юнак, калі адкрывалі ды асвячалі знак-валун, стаў са сцягам за мною, і прыемна падумалася, ці не ведае ён мяне, ці не спецыяльна так зрабіў.

Выступаючы, я гаварыў пра наш цудоўны куток Беларусі, пра Стотысячную Грамаду, як мой першы ўспамін пра змаганне за родную мову, і пра тое, як мы, вясковая моладзь, змагаліся за гэта потым, у трыццатых, спектаклямі, кнігамі, песнямі, і пра партызанскія дні, калі наш падпольны друк быў на роднай мове. Пажадаў настаўнікам і дзецям родных мясцін поспехаў у родным слове, «каб жыла і квітнела наша мілая Беларусь!».

Глядзелі ў парку выстаўку народнай творчасці. Аплікацыі, рознакаляровыя, узорыстыя дзяругі-перабіранкі, разьбу па дрэву, жывапіс ды малюнкі. Цікава ўсё гэта, аднак зашмат яго на адзін раз ды мімаходзь аглядаючы.

Там разануў па душы з эстрады ў засені высокіх дрэў бойкі голас вядучага выступленне мастацкай самадзейнасці:

«А цяпер будзе выканана песня, як выдаць замуж гарбатую дачку!»

Фальклорнае жорсткае хамства, калі падумаць, што і ў гэтым шматлюддзі на паркавых схілах і ў даліне можа быць хоць адна такая няшчасная або хтосьці з родных такое...

•••••

Летась, на святкаванні вызвалення раёна, наваградскі партызан, яўрэй Гарэлік, расказваў мне пра сваю дружбу з Гаўрыілам Шутэнкам, пра тое, як гэты пакутнік і пры сваёй слепаце займаецца майстраваннем. Сказаў нават, што ён што-небудзь са зробленага прышле мне. Думалася потым: ну, пагаварылася. А ўчора мне ў Карэлічах перадалі пакуначак. Там разгарачка-калодачка і ўбітая ў яе малюсенькая сякера. А на паперыне, пяць на пяць сантыметраў, на

адным баку паэтаў адрас, а на другім малюнак: сякера ў калодцы, паміж двума чатырохрадкоўямі:

Топорики, топорики,
Помощники мои,
Вас мастерю во дворике,
Где я да воробьи.
Сверкнул топорик лезвием,
Вонзился [redacted] твердый сук.
С моею новой песнею
Прими на память, друг.

Так вось у навобмацнай вечнай цемры былога франтавіка-разведчыка.

А вераб'ёў мне захацелася падкрэсліць.

•••••

Ружы на шырокім кусце не толькі дружна расцвілі, але яшчэ і хораша памыліся пад спорным дажджом. Якое свежае, перадвячэрняе свята!

•••••

А ці будзе каму расказаць пра свет, з якога ты прыйдзеш у другі, які ён — сённяшні наш — прыгожы?..

•••••

Волечка прывезла сюды «Кароткую гісторыю Беларусі» Ластоўскага і «Историю культуры древней Греции и Рима». Пра першую прызналася, нядаўняя васьмікласніца, што цяжка чытаецца. І не скажаш што-небудзь у апраўданне, бо мы і сапраўды апошнім часам навалілі на вучнёўскія галовы сваё беларускае разнамоўе, з якім і сталаму, вопытнаму бывае нялёгка спраўляцца. Другую кнігу яна пачала чытаць выбарачна і вось пазычыла дзеду, які раз-

ныўся ад беспрацоўя. Таксама не надта лёгка чытаецца ў пана Казімежа Куманецкага, хоць пераклад і культурны, і мяне часам цягне да выбарачнасці, аднак — трымаюся.

Пачынаючы, успомніў Валодзю Калесніка, які любіў і ведаў антычнае, узяўшы старт у наваградскай польскай гімназіі. А таксама і Мішу ўспомніў, які зачытваўся Гамерам у перакладзе Жукоўскага яшчэ школьнікам. З чым я сябе не магу павіншаваць, і дагэтуль яшчэ абедзве паэмы цалкам не прачытаў, яшчэ ўсё збіраюся...

Стагоддзі, тысячагоддзі — ажно сцішната цікавасці і захаплення. Ведаю ж гэта і я,— скажам, па Прусавым «Фараоне», па Манавым «Іосіфе і яго братах». Грэцыя — менш, Рым таксама. «Quo vadis?» разоў два калісьці пачынаў і спыняўся на палавіне, заглянуўшы ў канец. А трэба ж, трэба ведаць багацце мінулага, і адтуль, з тых бяздонных глыбіняў часу, беручы вымярэнне напрамку.

Думалася над Грэцыяй пра рэлігію — пакуль дайшло да хрысціянства, колькі было ў чалавецтва пошукаў, і як тут важна галоўнае — маральны, этычны бок, тое, што называецца чалавечнасцю, інтэрнацыяналізмам. Узняцца над усімі веравызнаннямі на ўсю зямную шырыню, ад міфаў перайсці на глыбіню асноўнага для ўсіх.

«...Пабойваючыся паўстанцаў паняволенага насельніцтва заваяваных абласцей, якое стала ілотамі, спартняты кожны год аб'яўлялі крыпты — тайныя начныя забойствы ілотаў, каб унушыць ім страх і пакору».

Во як дзейнічалі тыя старадаўнія «ібэрмэншы».

...На ўкладцы — «Невеста Пейрифоя», фрагмент западного фронтона храма Зевса в Олимпии».

Прагная і ўладная рука мужчыны на левай дзявочай грудзіне, і выраз твару дзяўчыны,— і балючая

асуджанасць, і сумная пакорнасць, і прадчуванне шчасця кахання і мацярынства, што бачыцца ў яе строга прыгожым твары. Ён найлепш і захаваўся ад разбуральнага ўздзеяння безлічы стагоддзяў.

А над геніяльна красамоўным выразам твару гэтай нявесты я задумваюся, вядома ж, не першы і не апошні, некалькі разоў вяртаючыся да гэтай ілюстрацыі.

...Прыходзілі і школьныя ўспаміны — урокі старажытнай гісторыі. І тое, што ў ранні́м вясковым юнацтве чыталася ў Талстога,— кніжыцы «Посредника», «Путь жизни», «Круг чтения»,— адкуль помняцца Эпіктэт, Сенека, Марк Аўрэлій і іншыя з іх вечнай мудрасцю.

•••••

Тры дні па сорак пяць мінут Уладзімір Багамолаў талкова і шчыра гаварыў па маскоўскім радыё пра дурное і варожае аплёўванне ветэранаў антыфашысцкай вайны.

І тады мне, між іншым, успомніўся запіс з акупацыйных дзён, які не захаваўся. Пра тое, якімі нас лічылі недачалавекамі: у лістоўках з заклікам выдаваць «бандытаў» — з абяцаннем узнагароды тытунём і гарэлкай. А ў Міры за акуратную здачу пастаўкі — чарка гарэлкі са спіртзаводскай бочкі... Калі я выказаў абурэнне гэтым у гутарцы з суседам, ён, падумаўшы, так падтрымаў мяне: «Дзяйствіцяльна, што ж ты выпіць даеш, а закусіць чаму не даеш?» Такі зварот — да немца.

•••••

У ціхім, светлым ранні па верхавінах прыдарожных бяроз раптам прайшоўся ветрык — нібыта пальцамі перабіраючы па валасах кагосьці любімага.



У кожнага свой капрыз, ці як тут сказаць... Вось не люблю чытаць апавяданняў, тым больш урыўкаў у газетах, чытаю іх толькі зрэдку, тых аўтараў, з кім больш лічуся.

Апынуўся на сёння зусім без чытва, успомніў, што ў адным з апошніх нумароў «Звязды» прайшоў міма даволі вялікага апавядання, таксама і ў апошнім «ЛіМе». Прачытаў свежым ранкам, і лепей стала на душы ад добрага слова, ажно запісаць захацелася прозвішчы і назвы:

Мікола Сянкевіч, «Страшна заставацца...». Не ведаю, хто гэта, а вобразы маладой прадаўшчыцы сельмага і старой, самотнай настаўніцы бачацца жывымі, а сам аўтар — чалавекам з душой і думкай. Каб гэта не тут, дык пазваніў бы ў «Звязду», спытаўся б, хто гэта, ад каго можна спадзявацца далейшай таленавітасці.

Юры Станкевіч, «Гульня бронзавак у святле поўні». Здаецца, аўтар — член нашага Саюза і я сёе-тое ў яго чытаў. Сур'ёзная, спелая гаворка зноў жа пра долю сучаснай жанчыны, маладзейшай за папярэднюю, але, здаецца, яшчэ больш бяздольнай ад ліхалецця. Хоць тут і параўноўваць як быццам і грэшна, бяздушна.

Калі першага з гэтых таварышаў хочацца запомніць, дык да другога варта і трэба пільней прыглядзецца.



Jak wól, ryknął na ambonie:
Bogobojna trzódko moja, bądź spokojna,—
Co ma wisieć, nie utonie!..*

---

* Як вол, рыкнуў на амбоне: Мой набожны статачак, будзь спакойны,— што павінна вісець, не ўтопіцца.

Такое помніцца ў Славацкага. Узнікла яно ў памяці, калі чытаў у майскім «Полымі» пра касцюшкаўскае паўстанне, як у Вільні: «За супрацоўніцтва з царызмам тут, пад шыльдай «Чаму вісець — тое не патоне», урачыста павесілі гетмана княства Шымана Касакоўскага, а потым і маршалка віленскай канфедэрацыі І. Швыйкоўскага».

Так сказаць — два гумары.

У Славацкага, строга вялікага, якога са школы найлепш памятаю па «Ojcu zadżumionych» і «Balladynie», вол на касцельным амбоне ўспрымаўся як вельмі проста блізкае, вясковае. Зрэшты, і з «Balladyny» такім жа ладам прыняліся радкі:

Pracuj, jak koń pogański, pracuj całe lato,
A zimą śpij u chłopa za brudnym przypieckiem
Między garnkami, babą szczerbatą, i dzieckiem!*

А ў віленскага касцюшкаўскага палкоўніка Ясінскага — смех зусім іншы, да сцішнай незвычайнасці.

На скульптуру «krwawego Felusia» Дзяржынскага, у наш час узнятага над Варшавай, а потым нізрынутага на асфальт, задаволеныя патрыёты мачыліся, хто колькі мог, не ведаю, з якім фальклорным падмацаваннем.

•••••

Збожжа — у засеку, збажына — у полі. Так гэта мне ўбачылася днямі.

•••••

Улетку пяцьдзесят чацвёртага я наведаў Валодзю Калесніка ў Бабруйску і, пакуль нам выбрац-

** Працуй, як паганскі конь, працуй усё лета, а зімою спі ў мужыка за брудным прыпекам, паміж гаршкамі, шчарбатаю бабай і дзіцем.

ца на Беразіну («Званочкі» ў цыкле «Пад гоман вогнішча»), сядзеў на выпускных экзаменах у ягоным настаўніцкім інстытуце, дзень ці нават два.

Прыгожанька-чарнявенькая выдатніца, яўрэечка, здзівіла ды збянтэжыла строгіх педагогіцаў сваёй — ніколі не бывалай — непадрыхтаванасцю...

І тут, як разрадка, прагучала Валодзева:

— Пабойцеся Бога, жанчыны мілыя, яна ж учора выйшла замуж!..

Сказалася гэта, калі тая, да слёз расхваляваная маладзічка, выйшла.

•••••

Двойчы такое адчулася ці падумалася:

Першы раз — пасля страшэннага ветру пад вечар, калі затым хлынула навальніца, а тады настала цішыня. А другі раз — сёння, пасля начнога шчодрага дажджу:

Цішыня як быццам сарамліва-нявінная ды ласкавая, на шчасце жыць.

Можа, і паўтараюся, аднак жа і такое ўсё паўтараецца бясконца,— тры агародныя сонейкі рамонку, большыя за палявыя ды лугавыя, выстаялі начны дождж і хораша стаяць сабе ў мілаце ранне-ранішняй цішыні.

•••••

Юрка Віцьбіч, «Плыве з-пад Святое гары Нёман». Добра, сур'ёзна, а потым і праступае сям-там эмігранцкі звышпатрыятызм. У акупацыю, апынуўшыся ў разбураным немцамі Віцебску, ён прысеў на ганку «спаленай бальшавікамі хаты»; далей — «наступ расейска-мангольскай арды» ў 1920 годзе, як, дарэчы, пісалі і пілсудчыкі; пасля «забіты бальшавіка-

мі Пэн», «закатаваны ў 1941 годзе наш выдатны Змітрок Бядуля»...

Але ж, аддаючы належнае Коласу, ён узняўся да такога:

«Дарэчы, а можа, хто-небудзь з нашых праведнікаў прыгадае, што Якуб Колас двойчы сталінскі лаўрэат? Пэўне ж яны не маюць аніякіх грахоў, калі кідаюць камяні ў нашага народнага паэту».

«Праведнікаў» падкрэсліў я.

•••••

Гамерава сіла і вобразнасць слова, якія даходзяць радасна з такое далечы гадоў:

«Длиннотенные копья». «Мясо божественной солью посыпав». «Гнев душевредный». «Прекрасноланитная дева». «Черноводный ручей»...

•••••

З нашым чым болей, то ўсё горшым радыё і тэлебачаннем, слухаючы навіны, з сумнай прыкрасцю ўваходжу ў атмасферу брэжнеўскіх дзён. Калісьці той «другі Ільіч», а сёння першы Рыгоравіч падаюцца таксама шчодра, нягегла вар'іруючы імя ды па бацьку, каб трохі лягчэй глыталася...

•••••

Тыдзень у польскай прэсе. Асабліва змястоўная «Polityka», калісьці, помніцца, сухаватая ў польскім варыянце марксізму.

Свабода самакрытычнасці: «...My sami nabzdyczeni i skłóceni...»*

---

* «...Мы самі панадзіманыя і перасвараныя...»

Па-свойму праявілася гэтая «набздычанасць» у запавеце Пілсудскага за тыдзень да смерці. Сэрца пахаваць у Вільні, «дзе ляжаць мае жаўнеры, што ў красавіку 1919 года мне, як правадыру, Вільню падарункам кінулі пад ногі». Усіх, хто любіў яго, «заклінаю даставіць астанкі маёй маці з Сугінтаў Вілкамірскага павета ў Вільню і (тут зноў варта падкрэсліць) пахаваць матку найвялікшага рыцара Польшчы нада мною. Няхай гордае сэрца ў нагах гордай маткі спачывае».

•••••

Радыёперадача пра аб'яднанне маладзечанскіх украінцаў «Краяны».

Нечакана чыёсьці добрае слова пра Генадзя Каханоўскага. І так небывала хораша ўбачылася высакародная, шчырая ўсмешка гэтага слаўнага хлопца, выдатнага работніка адраджэння.

Як быццам толькі так, здалёк, можна адчуць нашу страту, чаго па-сапраўднаму не адчулася (мною), калі ён адышоў.

•••••

Паліцаі ішлі па загорскай вуліцы, і адзін з іх, цяльпук з суседняй вёскі, накіраваўся ў наш двор. Віліта, што была якраз у нас, толькі што мама пакарміла яе, шыбанула на печ, пад плёнкі цыбулі, яшчэ і накрыўшыся чымсьці. А было ёй тады, як маёй маладзейшай, сорак сем, і абодва сыны ў партызанах.

Калі той вялы «бобік», прысеўшы на лаве, спытаўся ў мяне, нібы між іншым: «Ну, дзе ж цяпер твае пляменнікі?», я, для адводу, вылаяўся, у тым сэнсе, што а чорт іх ведае. Вылаяўся пры маме — упершыню ў жыцці, на сваім дваццаць сёмым годзе. Было вельмі

прыкра, ледзь не таксама, як боязна за сястру, і прыкра помніцца дагэтуль...

Днямі ўспомніў гэта, калі гаварылі з Нінай, якія абазнаныя ў гэтым нашы ўнукі — не з дому, а са школы ды з вуліцы,— а як строга выхоўвалі нас. Пасучы каровы, я вылаяўся на адну з іх, адганяючы ад аўса за драцінай, і тут убачыў воддаль нашу Віліту. Не з намі ж яна жыла, амаль у другім канцы вёскі, аднак мне верылася, што яна вось пачула мой крык і абавязкова скажа пра гэта маме. Баяўся вечара, а потым рады быў, што сястра ці не пачула, ці забылася сказаць.

•••••

Пра кедры ліванскія (як хораша!), чаго я калісьці дарма шукаў у «Песні песняў», якраз у Псалтыры, і неаднойчы.

І ад Псалтыра ўражанне блізкае, як і ад «Іліяды», у адным,— паэзія была заўсёды, od zarania wieków*.

Яшчэ раз дзякую табе, белая плеценая карзіна на нашым гарышчы! Адтуль і радкі з «Адысеі», якія жывуць ва мне ад Мішынага захаплення, у ягоным голасе. Вось і сустрэўся адзін з іх:

Ели прекрасное мясо и сладким вином утешались...

І такое акрэсленне прыстойнай чалавечнасці, што падкрэсліваю:

Дикий ли, нравом свирепый, не знающий правды,
Или приветливый, богобоязненный, гостеприимный.

Тут ужо не пра Мішу падумалася, а пра Жукоўскага. На адвароце тытула значыцца: «Перевод с древнегреческого». А чытаў жа я, што ён перакладаў

---

* Ад зары стагоддзяў.

з нямецкага перакладу. І гэта дапамагае мне думаць пра чалавечую, міжнародную агульнасць.

І прелесть рускай мовы ў высокаадукаванага «незаконнага» сына рускага барына і палоннай турчанкі. Яго таленавітасць, працавітасць.

А тут і вобраз прыгоннага Шаўчэнкі далучаецца, з красою і сілай — зноў жа чалавечнасці.

•••••

Як састарэлы завочнік, ліквідую свае «хвасты»,— ад Гамера перайшоў да Вергілія.

•••••

Пісаць для сябе. Можна так дапісацца, што цікава будзе толькі самому сабе.

•••••

Стары шляхцюк, калісьці вясковы, расказвае: «Я ўзяў дзяўчыну і пайшоў танцаваць...»

Не так, каб запрасіў і пайшлі. Што ж — Я!..

•••••

Прачнуўшыся ў дзве гадзіны ночы, гартаў яго шыкоўны том 1987 года выдання. Зноў было адчуванне, што і яму, Максіму, я не дадаў таго, што павінен быў на апошнія дні — больш увагі, і не толькі па тэлефоне. Дарэчы, званіў яму ў папярэдні прыезд у Мінск, у ліпені, і ён сказаў мне тое, пра што потым, выступаючы на паніхідзе, гаварылі Шамякін і Зуёнак,— пра адчуванне, што да традыцыйнай вераснёўскай публікацыі ў «Полымі» ён не дажыве. Сказаў таксама, што напісаў казачку дзецям, здаецца, пра вожыка, і ў голасе ягоным зразумела адчулася ра-

дасць патрэбнасці. І атрымалася з гэтым нібы развітальная ўсмешка.

Гаварылася пра яго на паніхідзе як пра паэта вялікага. Я — з тымі, хто адчуваў гэта даўно, і я зноў з прыкрасцю думаў, як цяпер некаторыя з нашых свянцаюць адзін аднаго эпітэтамі «апостал», «геній»... Том ягоны гартаў, што асвяжаючы ў памяці, толькі ўбачыўшы на старонцы, а што і перачытваючы. Адчулася, што не procьма ягоных урадавых узнагарод патрэбна, бо застанецца тое, што застаецца ад сапраўднага літаратара, што не сам ён, а людзі называюць і потым назавуць вялікай паэзіяй.

Гартаючы, перачытваючы сёе-тое, спачатку здзіўляўся: хто ж гэта адкрэсліваў на палях мясціны, якія на той час бачыліся яму найлепшымі? Здагадаўся па почырку ў адным слове, што гэта Калеснік, які, быўшы ў Мінску, пазычаў гэты том у гасцініцу, рыхтуючыся да тэлеперадачы пра Максіма. Адчуў яго, Валодзеву, нязменную, даўнюю любоў да Танкавага слова. І сум адчуў, што потым сказалася Сашу Дракахрусту,— у нас ужо, апошнім часам, не падчыстка лесу, а проста бязлітасны лесапавал. Трошкі больш як за паўгода — Калеснік, Панчанка, Танк... Божа мой, хлопцы, што ж вы робіце?!

•••••

Пасля Адамовіча і Панчанкі ў Танка яшчэ больш раскошная казённая труна: белая, з «пазлацанымі» ручкамі, глыбокая ды шырокая, як наменклатурны санаторны «люкс», з карункамі па краях усярэдзіне, нібы для прынцэсы, а не для байца. Успомнілася Тувімава:

Przywróć nam trumny z polskiej sosny!*

* Вярні нам труны з польскай сасны!

У тым сэнсе яно тут, што габляваныя дошкі з нарачанскай сасны былі б раднейшыя роднай зямельцы. Аднак начальству,— а яно ж было зноў, як у Панчанкі, са сваімі здаравеннымі ахоўнікамі немаведама ад каго,— начальству гэтак зручней: выправіць з жыцця за бюджэтны кошт, чым перад гэтым падумаць пра людскае, дастойнае вялікага паэта і грамадзяніна дажыванне.

•••••

Відаць, таксама ў пэўнай сувязі з Максімавай радасцю ад нараджэння ў старэчых пакутах яшчэ адной яго светлай дзіцячай казачкі, успомніў вясковага белага, чорнагаловага цюцьку і малую Насценьку. Новая дружба нарадзілася ў вялікім свеце! У адну з раніцаў, калі малая яшчэ спала, а шчанюк быў адзін на панадворку, яму загадкава для мяне захацелася ў пусты кошык пад лаўкай каля плота, і ён залез у яго і ўсё масціўся там, шукаючы найзручнейшага месца. Ад суму адзіноты.

Пакуль я не быў у вёсцы, па малако хадзіла Ніна, і ўранні, і апоўдні. І апоўдні шчабятунка Насценька недаўмявала перад ёю, чаго гэта яе сябрук, калі яна што-небудзь есць, усё гаўкае на яе. Бабуля, яшчэ больш бабулістая за сваю, ледзь не казачная, растлумачыла малой гэтае гаўканне: спачатку злоснае, што з ім не дзеляцца тым, што самі ядуць, а потым, калі падзеляцца ласункам, удзячнае. Хораша мне расказала пра гэта, і ў гэтым у нас, старых, сваё шчасце.

•••••

Акно маё, гарышчанскае, увесь дзень адчынена. На ноч збіраюцца ў пакой матылі-крапіўніцы, з маленства прывычна-любыя, так звычайна прыгожыя. Ліпяць цёмнымі трохкутнічкамі на белай сто-

лі, два, тры і больш. На ноч акно я амаль зусім шчыльна зачыняю, каб не наляцелі на досвітку камары ці мухі, а то яшчэ горш — шэршні. А ўранні, адчыніўшы акно на свежасць, асцярожна паказальным і сярэднім пальцамі здымаю сваіх начлежнікаў з белай прасторы і выкідваю на волю. Яны адразу, нібы ажыўшы ці прачнуўшыся, лятуць над кустамі шыпшыны ў кветках, над травою двара, на фоне ліпавай лістоты ў сонцы, а мне бывае і боязна: ці не зарана праганяю, ці не холадна яшчэ, усё-такі палавіна жніўня.

•••••

Танк неяк даўно казаў, што Багдановіч пісаў адразу выбранае. І тут гэта не зусім справядліва: каб Багдановіч пажыў даўжэй — было б і для адсеву, бо і ў тым, што ім напісана, сёе-тое магло б і ў адсеў пайсці.

У Танка адсеву хапае, ён і сам займаўся ім пры перавыданнях. Аднак... Шчаслівае аднак! — у яго такое багацце адборнага зерня, што мякіна, якая адвеялася, бачыцца тым часова неабходным, што павінна адслужыць і адысці, як і ў спрадвечнай, вечнай малацьбе і веянні.

У Пількаўшчыне яго пахавалі ў нагах матчынай магілы. Пачуўшы гэта, я адразу ўспомніў, што ўжо і дваццаць чатыры гады, як мы з Піменам давалі Максіму з Масквы (нават з Крамля, бо са з'езда пісьменнікаў) спачувальную тэлеграму.

•••••

Пра смерць Георгія Папова мне пазванілі неўзабаве пасля Максімавага ад'езду на пахаванне ў родную вёску. І такая стомленасць душы была, што

ўжо і моцы на новы жаль не хапіла. Аднак на паніхідзе [redacted] палічыў абавязкам выступіць пра яго — і з удзячнасцю за пераклады, і пра яго чалавечую годнасць, і пра людскасць гэтага светлага, шчырага рускага сябра.

А дахаты ледзьве ішоў.

•••••

«Strou und Holz»*. Так гаварылі нам, палонным, з пагардай пра нашы вёскі старэйшыя баўэры, якім у першую сусветную вайну давялося пабываць у Беларусі.

Саламяныя стрэхі, сухенькія зрубы вельмі «дружна» гарэлі ў другую сусветную — разам з людзьмі.

Сухое гарохавінне і мноства сухіх галінак, якім быў абтыканы наш гарох, палыхнула так моцна, высока і ў шырыню, што полымя папаўзло па высахлай, даўно без дажджу, траве, а нас, унукаў і дзеда, адагнала ў бакі ад любага відовішча.

І тут я зноў адчуў злавесную сілу таго, ваеннага, генацыднага полымя,— «Strou und Holz»,— і сказаў гэта ўнукам. Ім трынаццаць, пятнаццаць, дваццаць пяты,— такія таксама душыліся ў дыме і полымі...

•••••

Засеў у памяці радок Бранеўскага:

Gryzą ziemię moi najmilsi...**

Хоць і салдацкае гэта, пра сяброў-аднапалчан, а ўсё ж не толькі суровае, але і больш чым з натуралізмам...

---

* Салома і драўніна (*ням.*).

** Грызуць зямлю мае наймілейшыя...

•••••

«У беларусаў баяцца залятання птушкі ў дом: гэта ўспрымаецца як прылёт душы продка па яшчэ адну душу. Найбольш з іншасветам у народнай свядомасці была спалучана зязюля».

Зязюля да мяне яшчэ не залятала. А вось пішу і адчуваю ў правай жмені спалохана-трапяткую маленькую душу маладое ластаўкі, відаць, з таго гнязда, што ў вільчыку шчыта над маім акном. Тыдні са два таму назад яна, свавольніца, памылкова ўляцела ў маё акно на гарышчы і пачала адчайна шалпатацца ў верхнюю, папярэчную шыбіну, пакуль не выпырхнула радасна з маёй рукі на сонечную волю.

А Таня Шамякіна, якую працытаваў, разумніца, хораша чытаюцца ў «Родным слове» яе міфалагічныя даследаванні.

•••••

Ганьбіць пацыфізм, пацыфістаў — гэта ў нас яшчэ савецкае, рэцыдыў таго часу, калі ўсё, што не з чатырох барадата-вусатых галоў, асабліва не з апошняй у гэтай профільнай квадрызе, тое варожае, яго трэба бэсціць.

А ён, Алесь Адамовіч, як быццам часамі апраўдваўся, выкручваўся ад гэтага высакароднага звання. Хоць і змагаўся за мір («не забі чалавецтва!»), хоць і мяне папікаў, што ў другім варыянце «Птушак і гнёздаў» я дарма, на шкоду кнізе залішне абтрэсваўся ад свайго юнацкага пацыфізму.

•••••

«Першае саборнае пасланне святога апостала Пётры».

Пачынаю чытаць, і вяртаецца маё даўняе недаў-

менне: як гэта ён мечам адсек вуха нявольніку,— толькі вуха, не зрабіўшы з маху большай шкоды, не крануўшы пляча, ключыцы? Трэба ўмець!

У Мацвея, Марка, Лукі з мечам быў «адзін з тых», што суправаджалі Хрыста, і толькі Ян піша, што гэта быў Пётра. Ахова? І хадзіў з мечам, і на тайнай вячэры з мечам сядзеў,— дзіўна гэта, як быццам упершыню пра яго падумаўшы...

І чаму нават у Сёмухі — Лука, а не Лукаш? А Ян што — католік? А Лука — праваслаўны?

•••••

Пра слівы, пасаджаныя дванаццаць год таму назад, што ўсё яшчэ, красуні ўпасвеныя, не родзяць, і мы пагаворваем, ці не ссекчы іх, сёння, абтросшы з іх некалькі спелых слівак, механічна сказаў: «А можа, разбу̀ркаюцца і будуць радзі̇ць?»

Так пра малых гавораць, якіх трэба пабудзіць: «Нічога, разбуркаецца і ўстане».

Яшчэ адно слова з маўклівай вясковай памяці.

•••••

Зноў падумалася пра Евангелле ў маёй брызентавай торбе ад «хобатнага» супрацьгаза. Кніжка малафарматная; густа надрукаваная на тонкай, моцнай паперы, і ўсё ў ёй, кожны абзац ды абзацык, так шчодра, акуратна пранумаравана, што̀ мне заўсёды не падабалася, ад чаго хацелася абтрэсціся, каб у цыфіры не хавалася, не прападала тая мудрая паэзія, што ў пэўнай меры была мне знаёмая, што непасрэдна, а што ў падачы Талстога і іншых вялікіх у сусветнай літаратуры. Кнігу гэтую, зручную ў паходным жыцці, падаравалі мне сябры з загорскіх пяцідзесятнікаў. Амерыканскае выданне.

Евангеллем маці блаславіла мяне ў войска, што аказалася блаславеннем і на вайну, і ў палон, і на ўцёкі з яго. Не прыпомню, як ні стараўся падступіцца да гэтага, як і колькі я чытаў яго... Раптам успомнілася, пішучы гэта, як адзін з найбліжэйшых — Валодзя Васілеўскі на арбайтскамандзе ў вёсцы Альтэнведаль захварэў, і я даваў яму сваю кнігу, каб лягчэй было аднаму за кратамі, на саломе. А ўцякаючы ў сорак першым годзе, пакінуў яе другому з найбліжэйшых, паэту Юліку Сяргіевічу.

Не памятаю, ці я, пасля нашай з Юлікам сустрэчы ў ягоных Ленкавічах, ажно ў шэсцьдзесят пятым годзе, спытаўся пра далейшы лёс майго блаславёнага амулета. Ці вынес Юлік яго з Нямеччыны, ці быў ён з ім у новай няволі, у савецкім Казахстане?..

•••••

Ад культурна-прыгожай прозы Галсуорсі — думкі пра дзве такія вялікія і ўпэўненыя ў сваёй несмяротнасці мовы, як англійская і руская, на якой чытаю.

Адзін з маіх сяброў шкадаваў, што не пайшоў у польскую літаратуру, другі пайшоў у рускую. Аднак раздвоенасць у іх засталася — паміж родным і чужым, да свайго ўсё-такі цягнула. А ў мяне падобная раздвоенасць аказвалася час ад часу ў тым, што вельмі зайздросна бывала да багацця і поўнай бяспекі літаратур мацнейшых, да польскай у меншай меры, больш да рускай, дзе мае куміры, у цэнтры якіх і найвышэй Леў Мікалаевіч.

Думкі, пачуцці такія — не толькі ў нас, беларусаў, але і ў іншых прамежкавых народаў і іхніх літаратараў, па сваёй і не па сваёй віне абдзеленых лёсам.

•••••

Мухі дарма намагаюцца вылецець з пакоя на двор, дзе сонечна, лепяцца да непераможнай празрыстасці. А маленькія шэра-зялёныя птушкі з бэзавых кустоў дарма намагаюцца хапаць тых мухаў, толькі дзёўбаюць ды дзёўбаюць у гэтае цвёрда ды гладка празрыстае, у што цюкаюцца іхнія дзюбкі, адкідаючы галоўкі ад такой жа блізкай спажывы.

Прыдумаў жа нехта гэтую таямнічую празрыстасць, для іх безназоўную — шкло.

А я, такі вялізны ды гомасапісты, так і не ведаю, што гэта за птушкі, і няма тут у каго пра іх спытаць*.

•••••

Пяць гадзін сну ў ніжнім пакоі з прыадчыненым акном, за якім, на ўсім нашымператомленым спёкамі свеце — свежасць, патоля, дзякуючы двум за двое сутак абложным дажджам. Пасля ўмывання пад ліпай — паход па малако. Дарога без апрыклага гарачага пылу, з лужынамі, з цвёрдай шырокай каляінай, па якой лёгка ідзецца. І не надыхацца свежасцю, не нацешыцца ўдзячнай за нябесную ваду зелянінай, што так цярпліва і доўга чакала гэтай вады... Потым снеданне з чорствым хлебам, маладою бульбай, сонечнымі памідорамі, не зусім астылым сырадоем. Ну, а тады — трэба ж і працаваць, каб адчуваць сябе нармальна.

Пакуль што ўсё яшчэ не пішацца, што, можа, і нармальна настолькі, каб не панікаваць. Чытаць — спачатку здаецца — зусім ужо няма чаго. Бяруся зноў за «Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей».

---

* Па Энцыклапедыі прыроды Беларусі ўдакладніў, што гэта малінаўкі, або — яшчэ прыгажэй — заранкі.

Пасля «Точинского манифеста» — Стàшыц. Пры ім чамусьці амаль заўсёды ўспамінаецца другое вялікае імя — Лелèвель, які тут пойдзе далей. Калі да другога імя я пасля школы вяртаўся неаднойчы, то з Міцкевічам, то з Герцэнам, то з іншымі, дык першае — высакародна мудры, сіва-прыгорблены Станіслаў Сташыц — помніцца з урокаў гісторыі, цьмяна помніцца, бо, відаць, нецікава было нам тое тады і ў памяці захавалася толькі імем вялікага паляка.

Дык вось чытаю. Цікава, карысна. А стома ўсё роўна падкрадаецца спакваля. Праўда, чытаю ўжо блізу чатыры гадзіны. І, можа, не дзіўна, што хочацца і пазяхнуць, і прылегчы, і пасядзець, адклаўшы кнігу з акулярамі на ёй, з надоўга заплюшчанымі вачыма. Ім дастаецца, даўгавата ўжо [redacted] папярэджаны пра катаракту ў перспектыве, я забываюся пра гэта, і кропель фінскіх даўно ўжо няма.

Аднак жа цяжка ўявіць, як гэта мне не чытаць.

Хоць яшчэ цяжэй, страшней, прыблізней уяўляецца і такое заканчэнне працоўнага жыцця, у якім пакутуюць, кожны па-свойму, і старэйшы — Мікола Ермаловіч, і маладзейшы — Віктар Карамазаў, слаўныя хлопцы, якім пры сустрэчы можна толькі бездапаможна паспачуваць...

•••••

Ніяк не адвыкну спяшацца жыць, хоць ужо дарэчы як мага больш прытарможвацца, разумна карыстаючыся мудрасцю — даражыць кожным днём. Ну, адбуду кангрэс ПЭН-цэнтра, вярнуся яшчэ на месяц сюды, потым — у Мінск, і што — ужо не трэба, не варта будзе спяшацца?.. Разоў колькі ацвераджаў самога сябе: ну, тут табе сумна ці нудна, а калі б ты быў цяпер у горадзе, дык што? Ад самога сябе не ўцячэш, і там будзе агідная злоба дзён, бездапамож-

ная панылаcard, самаедства. І будзеш, чаго добрага, як і бывала раней, успамінаць і гэты стол у вялікім спакоі, над якім было шчасце працы, глыбейшага роздуму, удзячнага захаплення жыццём...

•••••

Едучы з Мінска, узяў толькі дзве кнігі — тамы апавяданняў Бядулі і Галсуорсі, не больш, каб не было куды хавацца ад работы.

...Набядуліўся да пачатку пятай гадзіны. Пасля «Абразкоў» — апавяданні пайшлі цікавей. Казалі ці нават пісалі недзе, што ён быў пад уплывам Стэфаніка. Як быццам яму, па-свойму таленавітаму, не хапала горкіх сюжэтаў у нашым жыцці. Добрая мова, нямала ёмкіх, новых для мяне слоў, пачутых ім у родным наваколлі, і сакавіта-вобразных сказаў: «Вароны пачалі крычаць і крыліцца над зялёнай елкай», «тпрукнуў на каня і затуманіў люльку», «па пяцьдзесят капеек за аблізаны пудзік сена», «разнарослыя дзеці», «пыпкаць люльку», «казеліць вочы»... Нямала адчуваецца і роднага яму яўрэйскага, асабліва ў вершах у прозе, імпрэсіях, абразках, хутчэй узятага з кніг, чым пачутага.

Шчырая прыхільнасць да абяздоленых. І столькі надрыву, безвыходнасці!..

...Дзіўная ўсё-такі гэта з'ява — Змітрок Бядуля ў нашай літаратуры. Ажно ў яго Пасадзец захацелася, каб па нейкіх там рэштках мінулага яшчэ раз адчуць дзіўнасць такое з'явы. Ну, і ў той домік, што звязаны з яго сяброўствам з Багдановічам, даўно ўжо трэба было б заглянуць.

Успомніліся над кнігай Танк і Васілёк, Максімаў смех у рэдакцыі «Полымя», пасля сустрэчы дома з Міхасём, які ў яго і начаваў:

— Як расплачацца пра сваю долю — уся «Наша

ніва» перад табою!.. Не дзіва, што і ў нашага першага Максіма тады з'явілася:

Кінь вечны плач свой аб старонцы!..

...На польскай баначцы з pastą do obuwia* намалявана была прыгожая цыганачка ў чырвонай блузцы. Гэта мне абудзіў у памяці бядулеўскі Сцяпанка з «Велікодных яек», якому дзядзька салдат падараваў «бляшаную пушачку ад ваксы да ботаў» з дзівосным, як здавалася хлопчыку, малюнкам. Польскае puszka, баначка, у Пасадцы на пачатку севера-заходнага стагоддзя. А такія ж скарбы і мяне хвалявалі ў вясковым маленстве.

Столькі часу не ведаць пра такое апавяданне!..

...«Умарыўся», «Чараўнік», «Летапісцы» — таксама сапраўднае. Нездарма ж, відаць, мяне пацягнула да яго «малое прозы» ад недаравальнага верхаглядства.

...Вячэрняе, пры светлай лямпе.

Ужо калісьці, здаецца, запісваў гэта, пачутае ад Таўлая. Як ён, захоплены чытач роднай літаратуры, васемнаццацігадовы паэт-рэвалюцыянер, якога з Заходняй у Мінск «зялёным шляхам» прыслалі падвучыцца, увосені трыццаць другога года, пад вечар сустрэў на свіслацкім мосце Бядулю, з якім быў яшчэ не знаёмы,— проста пазнаў па кніжных ды часопісных партрэтах.

— Згорбіўся ён, браток,— расказваў мне з усмешкай, нават з пахіхіканнем,— паўмеха бульбы за плячыма, а ніжняя губа ад-вісла!..

Чаго добрага, і мы яшчэ так пойдзем,— дапісваю пасля паўзы-чытання.

...Апавяданне «Юлька».

Успомніўся «Пальчык» Крапівы. Як ён нібы збянтэжыўся, галоўны рэдактар перад літработнікам, калі

---

* Крэм для абутку.

я хваліў яму гэтае апавяданне, сам-насам у рэдакцыйным пакоі, зімой сорак чацвёртага — сорак пятага.

І ў Бядулі хораша пра маленства. Ажно самога мяне пацягнула «на пястоту», малых дзяцей, а потым унукаў успамінаючы.

Зірнуў у каментарый: «1917 г. Пасадзец». Ах, ах, чым займаўся ў такі час! — так усміхнемся. А надрукавана таксама ў нялягчэйшы час, у дваццатым. А мне прачытаць давялося праз семдзесят пяць гадоў.

Шчаслівa думаю, што і ў мяне ёсць пра дзяцей такое, ад чаго цяплей на душы самому.

...Як бондар ладзіць свой струмант перад вельмі важным заказам: «Трэба ведаць, як трымаць брусок, колькі разоў і як плюнуць на яго». Творчая кульмінацыя. Бядулева.

Наогул, апавяданне «Бондар» — цуд!

...Заір Азгур, які казаў нам з Танкам (у маскоўскай гасцініцы), што Кузьма Чорны ганарыўся сваім вучнёўствам у Бядулі, крыху, вядома, патрыятычна перабраў, аднак вось думаецца, пасля «Бондара» чытаючы «Дванаццацігоднікаў», што такіх і падобных твораў Чорны не мог ні цаніць, ні браць разумна ў навуку сабе.

...Бядуля мой увайшоў у савецкую рэчаіснасць, і адразу заўважаецца спад у мастацкасці апавяданняў. Што значыць не з душы, не па ўласнаму жаданню, а тое, «што трэба». Ды яшчэ калі страх падганяе...

Успамінаў самога сябе, як я наладжваўся, пачаўшы з лесу, на савецкага пісьменніка, як гэта цяжка было, колькі напісанага асудзіў пасля на адсеў. Добра, што прыйшло яно, тое пасля!

•••••

Учора па радыё выпадкова паслухаў пра Жэню Янішчыц.

І ўспомнілася і такая яшчэ харошая повязь добра-

га з добрым. Яна — вучаніца Калеснікавага студэнта з дзіўнаватым прозвішчам Цудзіла. Неаднойчы мне Жэня згадвала яго ўдзячным словам. А Валодзя пазнаёміў мяне з тым настаўнікам у Целяханах («Шчодрая Ясельда»).

Са светлым сумам, пад гукі яе вершаў у добрым чытанні Машы Захарэвіч — «нашай любіміцы», як гаварыў я, даючы ёй слова на адным з літаратурных вечароў — успамінаў і адну нашу доўгую гутарку з Жэняй у парку імя Купалы, і нашу паездку ўдваіх у Кіеў у восемдзесят чацвёртым, на юбілей Шаўчэнкі, і прастадушную скрынку яблыкаў, якую гэтае «Палесся мілае дзіця» прыслала мне калісьці са свайго роднага кута.

Здаецца, мы туды з Валодзем не дайшлі ў сваім шэсцьдзесят першым?

•••••

Штосьці рыхтуецца цёмнымі сіламі ў Мінску і ў Маскве, штосьці пляцецца, навісае над лёсам беднай Беларусі... «Северо-Западный край»?..

Малады, ужо не з восемдзесят восьмага, а сённяшні малады чалавек, таленавіты, відушчы публіцыст сказаў днямі па «Свабодзе», што ў нас няма такой партыі, якая магла б супрацьстаяць нацыянальнай небяспецы, узначаліць супрацьстаянне, няма, нягледзячы на ўсіх тых, што называюць самі сябе і адзін аднаго «сумленнем нацыі»...

І зноў думаецца пра гульню, якою мне часта за апошнія гады здавалася наша беднае адраджэнне. Многа, замнога гульні...

А гаварыць такое ўголас, няхай сабе ў нейкай меры і ясна, абгрунтавана — будзе сустрэта, чаго добрага, як здрадніцтва.

•••••

Том Галсуорсі пачаў з успамінаў пра Джозафа Конрада, тады перайшоў да пісьменніцкіх сілуэтаў, да іншых артыкулаў.

Падумалася: а як жа гэта я дагэтуль не ведаю Конрада?.. Ну, уведаю, думаецца далей, а потым што — не будзе ўжо такіх, якіх трэба ведаць, а я да іх не дабраўся?

Хацеў знайсці ў кнізе штосьці наконт гэтага ў самога Галсуорсі, але не знайшоў, бо не падкрэсліў учора, з усмешкай падумаўшы, што ў яго можна падкрэсліваць усё падрад — у кожным сказе, у кожным абзацы: так густа ад цікавых думак.

А вось і думаю, што два выказванні ўсё-такі выпішу, нават перакладу.

З эсэ пра Конрада:

«Ён заўсёды пісаў крывёю і слязьмі, а гэта патрабавала адзіноты».

А другое з выступлення-артыкула «Литература и жизнь»:

«Каб не дарма есці свой хлеб, нам трэба быць цярплівымі, дастаткова сціплымі і незалежнымі, заўсёды захоўваць пачуццё гумару і меры і жар душы».

•••••

...Канчаючы апавяданне «Cafard» — хандра, успомніў Бядулю, яго лепшыя, дарэвалюцыйныя рэчы. Добра пісаў бы і ён, каб не страх («Чырвоны д'ябал камунізму набліжаецца з усходу») ды не «сацыяльны заказ».

А колькі такіх загінула — і не ў лагерах, і не ад наганаў, а «на свабодзе», у адносным «шчасці»!..

•••••

Такія «праблiскі», што засталіся ў памяці і паўтараюцца сяды-тады:

З камедыі Крапівы «Пяюць жаваранкі» — абрывак дыялога паміж сакратаром абкома партыі і старшынёй калгаса:

«Паланевіч. Больш вы нічога не лічыце патрэбным сказаць?

Пытляваны. Тут жа, мусіць, трэба памылкі прызнаваць?»

Так у тэксце, у які я цяпер, гадоў праз сорак з гакам, зглянуў. А з памяці выблісквае толькі так: «Ага, трэба ж каяцца!» І ў непаўторнай падачы Валодзі Дзядзюшкі.

Алёша Карпюк наладзіў сабе шыкоўнае шасцідзесяцігоддзе — прыехаў з сакратаркай абкома партыі па ідэалогіі, з групай артыстаў, якія паказалі ўрывак са спектакля па яго «Вершалінскім раі», запрасіў на вядучага Быкава, запрасіў польскага генеральнага консула з сармацкімі «завесістымі» вусамі, якому не было чаго больш сказаць, як толькі двойчы ці тройчы адно: «Піш, браце словяніне, піш!..»

А з усяго гэтага шыку запомнілася фраза, якая ўпершыню так асвянціла новую залу Дома літаратара з раскошнай жырандоляй і яркімі вітражамі,— прагучала сакавіта выразнае, падкрэсленае з вуснаў артыста-мужыка ў адрас артысткі-жонкі: «Пацалуй ты мне ў с...!»

Ужо не памятаю, дзе было надрукавана апавяданне Сяргея Дубаўца «Дзік», у якім нядаўна хтосьці з маладых знаходзіў нейкі містычна-філасофскі падтэкст ці нават увесь сэнс, а мне помніцца толькі адно — як гэты лясны кнырышча трапіў ноччу на калгасную свінаферму і быў па-моднаму эратычна ўражаны тым, што свінні-самкі там ужо адразу голенькія, без піжамаў...

•••••

Чытаючы любамудрыя выкрунтасы некаторых маладых і не надта ўжо маладых празаікаў, паэтаў і філосафаў, часам успамінаецца жаночая чарга ў паліклініцы былой і сённяшняй «лечкамісіі». Сядзячая чарга, у светлай выгодзе, у няспешнай гамане з больш ці менш выразным спаборніцтвам у свабодным веданні мудрагелістых назваў хваробаў і лекаў, з усёй эквілібрыстыкай замежных спецыяльных словакамбінацыяў, якія мне і да сценкі пастаўленаму не запомніць...

•••••

З маміных расказаў за прасніцай. Як бедны ды мнагадзетны жыдок, дарэшты зталелы, пабег тапіцца, а жонка — следам за ім з пытаннямі:

— А ці табе Ісроліка не жаль?

— Не жаль! Не жаль!

— А ці ж табе Ханачку не жаль?

— Не жаль! Не жаль!

— А ці ж табе Гітачку не жаль?

Дабегшы да ракі, ён спыніўся на крутым беразе, пастаяў.

— Жаль, жаль! Усіх жаль!..

І падаліся дахаты.

•••••

Модная дамачка, малодшы рэдактар, перад адыходам з выдавецтва сказала супрацоўніцам, сумленным работнікам на вельмі сціплых зарплатах:

— Пайду туды, дзе маладыя, вясёлыя, хораша апранутыя.

А неўзабаве была газетная нататка пра хабарніцтва на працы яе мужа ў міжнародным аэрапорце.

Двойчы за год яна пабывала на Кіпры, з дачушкай, у адпачынку. Муж, вядома, выкруціцца па-сучаснаму, гэта так толькі журналісцкае паказытванне. Працвітанне красуні пойдзе далей.

•••••

Сябар па вайне, вясковы настаўнік, дваццаць гадоў таму назад быў тваім жаданым госцем, ты яго шчыра прымаў, а ён, пры сустрэчы, смяецца, гаворыць пра клапоў у тваёй кватэры,— што яму найбольш запомнілася з гасцявання-начлегу.

У вёсцы ён адказвае толькі за сваю хату, а ў нас тыя клапы качавалі з паверха на паверх, уцякаючы ад дэзінфекцыі.

•••••

Праўда, і ў дзеўках яна, дачка, засядзелася, і жаніх, якога прывезла паказаць бацькам, чалавек, можа, і праўда людскі, але ж маці ўсё роўна не вытрымала, шапнула дачцэ на кухні:

— Нейкі ж ён, Стасячка, вельмі маленькі!

•••••

Цыбаты юнак з гітарай, яшчэ адзін бард, для большай перспектывы рускамоўны. Рэфрэн у «гарадскім рамансе», як ён яго аб'явіў:

...И шампанского брызги,
и девушек визги...

I захацелася — за нейкім чацвёртым ці пятым разам — дадаць:

...и талантливо вдрызги!..

•••••

Маладое, ахвотнае падкрэсліванне чужое старасці — у адрозненне ад сваёй маладосці — бяздумнай грубасцю нагадвае лагернае: «Памры ты сёння, а я заўтра». А яшчэ ж і гы-гы-гы!..

•••••

Прозвішчы паноў-памешчыкаў, што калісьці мільгалі ў гутарках са старэйшымі, прапускаліся — натуральна для маладых — без цікавасці і ўвагі. А цяпер, калі тыя прозвішчы спатыкаеш у друку, яны ўспрымаюцца не проста з большай цікавасцю, але і з пэўнай настальгіяй па тым, што вось яно прамінула, а я, дурань малады, не замацоўваў яго запісваннем. Розныя там брахоцкія, анцуты, ёдкі... Для бацькоў нашых гэта было змястоўным. Чым жа? Пытанне прыкра адкрытае.

•••••

«З гора не ўсрацца, з бяды не паесці». Груба? А ў народзе ў гэтым вясёлая бездань горкага аптымізму. І часта яно ўспамінаецца мне з усмешкай, ад якое нават лягчэй.

•••••

Дзяўчынка, якая іграла на флейце ў музеі Янкі Купалы, дзе мы спраўлялі юбілей Міколы Аўрамчыка. Сціпла адзетая, у клятчастай сукеначцы, відаць, з небагатай сям'і. З душою ў сваёй музыцы, з хапаннем і прыцісканнем губкамі, асабліва верхняй, муштука, выводзячы і ў маю душу чароўна просценькую мелодыю, пад акампанемент піяніна. Я любаваўся ёю ў профіль, пакуль іграла, а потым, калі яна пад

апладысменты сыходзіла з узвышэння, і стомленая, і, вядома ж, шчаслівая,— ужо, відаць, не ўпершыню.

•••••

У тэлеінтэрв'ю адна адраджэначка — пра другую, юбілярку, яшчэ ў святочным настроі:

— З яе дома выходзіш не толькі са смачнай ежай у шлунку, але і з высокай радасцю ў душы!..

•••••

Пра «непорочное зачатие», або «niepokalane poczęcie», можна было б і так, як цяпер у вёсцы культурна гаворыцца: «істучнае абсемяненне».

•••••

На стыку саракавых і пяцідзесятых гадоў і мне давялося папрацаваць на выбарах у Вярхоўны Савет. Пашанцавала на Ленінскую бібліятэку, дзе мы з Нінай Барысаўнай Ватацы выпускалі насценную газету. А больш за ўсё многа перагаварылі, што мне было цікава і карысна — ад яе багатай абазнанасці выдатнага бібліёграфа і сімпатычнага прагрэсіўнага чалавека.

•••••

Сціплая, як здавалася, метадыстачка ў Доме культуры на сваім саракавым годзе раптам захацела прайсці ў Вярхоўны Савет. Калі я выняў з паштовай скрынкі яе кандыдацкую, як цяпер, на польскі лад, гаворыцца, улётку з малавыразным партрэтам, прыпудранай аўтабіяграфіяй і абяцаннем таксама ашчаслівіць Беларусь,— адразу ажно не паверылася,

што гэта — яна, наша Жана!.. А потым успомніўся адзін загорскі анекдот.

Мужык пазнавата вярнуўся з вясковага сходу, а цікаўная жонка спыталася, пра што ж там сёння гаварылася. Вячэраючы, мужык адказаў, што вырашылі выбраць новага солтыса (пры Польшчы гэта было). І ўжо на гэты раз, удакладніў ён, жуючы,— не мужыка, а бабу. Аднак толькі такую, што зможа залажыць нагу за галаву.

Назаўтра ўранку гаспадар штосьці корпаўся ў хаце, а гаспадыня пайшла ў грады, палоць. А потым убягае ўшчэнт перапалоханы сынок:

— А татачка, а нашу мамку душыць тхор!..

Пабег чалавек, а там яна — у баразне, заголеная — аніяк не можа вярнуць нагу з-за галавы назад!.. Адратаваў.

•••••

З дзён вайны і яшчэ жыве, паўтараецца прапагандысцкі штамп: «У перапынках паміж баямі яны спявалі песні, расказвалі смешныя гісторыі...» Перш за ўсё павінны быць баі. І тых баёў, як і пабітых ворагаў у справаздачах, было вельмі многа.

Нешта падобнае раздражняла мяне ў сябра-партызана, які, прыехаўшы з горада, смакаваў красу маіх родных мясцін, дзе і ён партызаніў. «Тады гэта не заўважалася»,— гаварыў ён у сваім захапленні. Відаць, **перапынкаў паміж баямі** ў ягонай брыгадзе зусім не было, што і лесу, і лугоў, і Нёмана не бачыў.

•••••

Здаецца, случчанка, галасістая вясковая маладзіца, хораша спявае па радыё незнаёмую мне народную песню, у якой дзяўчына ідзе побач з па-

ходнымі салдатамі, «маскалямі», бядуючы, як ім цяжка, а ў іх жа «толькі сухары ды вада». Салдат адказвае на гэтую жаласць, суцяшае дзеўку на хаду:

...Слязьмі мора не напоіш,
і мне службы не ўкароціш.

Бог мой, і такое хаваецца ў народнай памяці, не выходзіць наверх!..

•••••

У нас не было так многа багатых, адукаваных людзей, якія мелі шмат вольнага часу, «досуга», як гаварыў у гэтым аспекце Талстой, і для вучобы, і для творчасці, і для пазнавання свету ў падарожжах. У нас толькі фальклор багаты, у які таленавітыя людзі з беднага, бяспраўнага народа з гора ці з радасці заганялі сваю таленавітасць — песнямі, казкамі, жартамі, прыказкамі — у народную памяць, у якой тое багацце праходзіла адбор, прасейванне ў пакаленнях іншых талентаў — таксама безыменных.

•••••

Пад старым, неадрамантаваным «газікам», у цяньку, схаваўшыся ад спякоты, адпачываюць куры. Пажылы чырвоны певень, найбольш высунуты з ценю на сонца, і на сямейнай варце дрэмле так смачна, што ажно я, гледзячы на яго са свайго цяньку на лаўцы каля плота, пачаў падрэмваць.

Тым больш што паблізу ў хляве рытмічна цыркаў у вядро паўдзённы сырадой, якога я чакаю.

•••••

Па-старэчы гаманкі паэт, выступаючы па радыё, захоплена кажа, што ён «страшэнна любіў сваю маці». І хоць час перадачы канчаецца, пачынае яшчэ адзін рытарычна-сентыментальны верш.

І ўспамінаюцца маскоўскія дамачкі — з радыё і ў газеце: «Такой безумно вкусный суп!..»

•••••

Бабка Матруна і заўсёды не надта да працы руплівая, на старасць так разленавалася, што і падпусціць на печы, падмочыцца і кажа:

— Ат, усё ў моры будзе.

Філасофія глабальная.

•••••

Чалавеку стварылі такую славу, што цяпер яму трэба думаць, як жа гэта не паказацца меншым...

Зрэшты, і тыя, што слухаюць, і ён, што вяшчае, над гэтым не вельмі задумваюцца.

•••••

На тэлеэкране — новая дыктарка. З выгляду прыемная і даволі культурная ў роднай мове. У канцы перадачы яна з усмешкай паведаміла, што ў праваслаўных сёння вялікае свята, нараджэнне Дзевы Марыі, якая — во свецкасць! — «мела гонар быць божай маці»...

•••••

Федзя Янкоўскі аўтографы на сваіх кнігах падпісваў так сціпленька, што часам трэба было яшчэ знайсці яго, той аўтограф, не раўнуючы, як пад па-

хай, у якім-небудзь куточку тытульных старонак. Прыгожы і дробненькі, цяжка чытэльны почырк.

•••••

Цудоўны майскі ранак пяцідзесятага года. Максіму Танку — трыццаць восьмы. Магутны і вясёлы прыгажун. Штосьці дасціпна гаворачы, ён стаіць на ганку драўлянага, двухпавярховага Дома творчасці «Каралішчавічы».

А ніжэй, на ўжо няроснай траве, стаю я, разам з некім яшчэ, не памятаю ўжо, з кім. Дый патрэбен тут адзін Максім. Як для партрэта.

Па лясной дарозе падыходзіць да нас не старая яшчэ, босая цётка са збаночкам. Вітаецца і прапануе купіць малачка. І тут адбываецца тое, з-за чаго гэты мой успамін.

Максім бярэ той збаночак вялікай жменяй за шыйку і нагбом, спакойна ды няспешна п'е. На здзіўленне і цётцы, і нам. Момант... Чаканне... Перамог!

— Эх, здорава!..

Пытаецца, колькі з яго, плоціць па-свойму шчодра, дзякуе, па-вясковаму выціраючы верхам далоні губы.

Мы смяемся. А цётка пайшла ў свой бок, калі злосная па натуры, дык і падумаўшы, чаго добрага: «Во прорва!» А то і з прыязнай усмешкай панесла навіну дадому.

•••••

Калі ў нас па-беларуску, па-коласаўску пякуць аладкі, можна па-біблейску, па-сусветнаму сказаць, што і сапраўды «не хлебом единым жив человек». Тым больш калі яшчэ і яечня сквірчыць, і далоні можна пацерці ад належнага настрою.

•••••

Успамінаю весела.

Азгур запрасіў Вялюгіна ў грыбы. У лагойскім лесе яны надыбалі старога дзядзьку, з якім і пагаманілі, а потым і перакусіць прыселі. Узяўшы чарку, дзед пасмялеў і спытаўся:

— А вы гэта, хлопцы, відаць, пісьменнікі?

— А што? — з усмешкаю спытаўся Анатоль.

— Бо вось жа і жыдок па-беларуску клепіць.

Ці смяяўся Заір,— Анатоль мне, здаецца, не сказаў. А гаварыў па-беларуску паважаны маэстра рэдка, нібы каб паказаць, што ўмее.

•••••

У вучоным артыкуле, надрукаваным у газеце «+Plus — Minus», якую бачу ўпершыню, аўтар, таксама незнаёмы, дабраўся і да беларусаў з іх двухмоўем. Перакладаю яго прыязнасць:

«Культура ператвараецца не цераз элімінацыю таго, што ёсць, а толькі цераз узгадоўванне таго, што павінна дадавацца. Таму моладзь трэба вучыць мовы Янка Калясы, але не трэба закрываць перад ёю мовы Льва Талстога».

Расчульвае гэты гібрыд — Kolasa, зроблены з літаратурных імён двух нашых класікаў, тым больш ужо без коласа — kłosa, а з kolasą — экіпажам.

•••••

Прынёс з пасёлка ранішняе малако (туды — лесам, назад — па дарозе, яшчэ ўсё без пылу пасля дажджу), падышоў да ўмывальніка пад старою ліпай і пастаяў.

Такі дзянёк пачаўся, такая сонечная, яшчэ ўсё — у канцы верасня — зялёная краса. А на стале такая

любая работа — вычытванне пасля машынкі новага, чаго пяць дзён не чапаў, каб трохі пасвяжэла вока.

І чаго табе трэба, куды ты спяшаешся? Сёння ж тут тое, што потым успамінаецца як вялікае шчасце.

•••••

Гуга Калантай, «Стан асветы ў Польшчы ў апошнія гады ўладарання Аўгуста III (1750—1764)». Перакладаю з рускага перакладу:

«Пагарда чытачоў да літаратуры на польскай мове адбівала ў пісьменнікаў ахвоту ствараць карысныя творы або рабіць пераклады замежных твораў, і справа дайшла, нарэшце, да таго, што польская мова стала служыць толькі для казанняў, для рэлігійнага пісання, для панегірыкаў, для вясельных ці пахавальных прамоў, для прамоў на сеймах і сейміках і зрэдку можна было ўбачыць вельмі дрэнныя пераклады на польскую мову замежных твораў».

Вынік моды на лацінскую, а пасля на французскую мовы.

Як гэта падобна на тое, што ў нас цяпер! Праўда... на дзвесце з гакам раней. Калі ўжо быў вялікі Ян Каханоўскі, калі можна было прадчуваць яшчэ большых — Міцкевіча і Славацкага.

•••••

Апавяданне ў газеце — сум бацькоў па сыне, на якога пасля вайны прыйшло, што ён прапаў без вестак. І — нá табе! — зноў ад чужога сваё: згадалася, як увосені сорак першага, неяк дачуўшыся, што ў Загоры хлопец вярнуўся з палону, да нас з Прылукаў, якія за пашай, за лугамі, за Вушай і «казённым» лесам і таму здаваліся мне змалку вельмі далёкімі, прыйшоў пажылы чалавек, у якога сын таксама з

польскага войска ў палоне. Павітаўшыся, сеўшы на запрашэнне, ён урачыста звярнуўся да мяне:

— Сынок, як перад Богам скажы: пусцілі цябе ці сам ты ўцёк?

Я засмяяўся:

— Як перад Богам?

І трэба было ратавацца маной, што пусцілі, што неўзабаве пусцяць і іхняга...

•••••

Ні з таго ні з сяго вечарам убачылася, як жывое:

Стары вясковы дзядзька на сваяцкім застоллі ўзяў ды няспешна з'еў сабе цэлую шакаладную цукерку. Ціха, сціпла прыгорбіўшыся.

Ці гэта ён сам сябе пашкадаваў? Ці яшчэ і падумалася потым, што зрабіў гэта, як малы? Ці таму — зусім ужо прасцей — што чужое?..

Толькі не гэта.

Бо калі і трапляласся ў ягонай хаце такая, сёння нятанная, смаката, дык усё ж для гасцей-унукаў. І сват жа таксама, не толькі ты адзін.

•••••

Сніў, што разам з Танкам пераносіў з месца на месца вялікія, пазвязваныя кіпы пісьмаў — жаль і спачуванне вельмі многіх у сувязі з яго, Максімавай, смерцю...

У сне такое не бачыцца дзіўным: як быццам усё так і трэба, нармальна.

•••••

Выступаць у інстытуце, перад студэнтамі, мы прыйшлі з гасцініцы невялікай групай адразу пасля снедання. А тут нас, «пакуль што» — адразу да

самавара, з пытаннямі: «Вам чаю? Ці кавы?» Адмаўляемся шчыра ды ветліва, а мілавідная, не вельмі ўжо маладая жанчына, што гаспадарыла каля стала ў дырэктарскім кабінеце, з усмешкай сталай прастаты сказала:

— Мама мая гаварыла: не дай Бог галодных карміць.

І тут падтэкст народнай мудрасці.

•••••

Над трэцім томам Багдановіча.

Ён, Багдановіч, і Талстой,— падабенства грамадскай дзейнасці: у старога па барацьбе з «мірным» голадам, а ў маладога з ваенным, бежанскім ліхалеццем. І там, і тут гэтая дзейнасць, з усёй сваёй суровай, шэрай прозай, дадае воблікам любімых літаратараў чалавечай і пісьменніцкай абаяльнасці.

«Непаэтычная» талковасць маладога, хворага Максіма. І выдатнае валоданне рускай літаратурнай мовай. Я не пярэчу самому сабе, таму ранейшаму запісу, дзе гавару, што яго руская мова менш натуральная ў слове мастацкім. Як і Шаўчэнкава — у прозе. У валоданні культурай рускай мовы — адукацыя, а ў мове роднай у яго самавуцтва, а на радзіме з ёю — самы толькі працэс станаўлення, сіламі самавукаў або патрыётаў з рускай адукацыяй.

...«Образы Галиции в художественной литературе», з аповесці Франко «Великий шум»:

Збірная днинонька субота,
Збирала Галюня подружки...

Згадалася, што ў апавяданне «Марыля» песню пра пляценне вянка мне напяяла мама, а то, хутчэй, песенніца-сястра. І як падобна:

Зборная субота настае,
Марылька дружыну збірае...

І гора такое падобнае:

На мене ся, молоденьку, не дивить,
В мене туженька не мала...

І наша:

Схіліла галованьку з касою,
Паліліся слёзанькі ракою...

Захацелася праверыць, як справіўся з гэтым Сэнюх:

Schyliła głòweńkę z warkoczami,
Napełniły się oczęta łzami...

Тут ужо толькі пераклад. Хоць, напэўна ж, у народным вясельным штосьці блізкае ёсць і ў палякаў.

...Як гэта мала ў яго, Багдановіча,— тры тамы,— і як многа, калі чытаць, нават вяртаючыся да знаёмага!..

...Тое, што ў нас друкуецца ўпершыню, што друкавалася ў рускай перыёдыцы пад псеўданімамі.

Я нібы толькі што даведаўся — ён жа юрыст, і таму судовыя справаздачы. А праз дзелавую, строгую сухасць юрыста ў замалёўцы «В гостях у детей» прабіваецца паэт і добры, высакародны юнак:

«Дом чист и просторен, комнаты большие, светлые, потолки высокие; на стены из гладко оструганных сосновых бревен, не заклеянных опротивевшими обоями, просто приятно поглядеть».

«Я не знаю, есть ли на русском языке слово «обуютить», но оно бы мне очень пригодилось. Надежда Ивановна обуютила, насколько возможно было, детей».

А дзеці, убачыўшы ў «кладовой» мяхі з рознымі крупамі, мноства мяхоў, здзіўляліся: «Неужели мы все это съедим?»

Гэтыя сцены сасновыя, гэтае «обуютить» (у Даля толькі «уютничать») і здзіўленне малых, у большасці

нездараўчаных, каланістаў — з роднай душы, якую мы любім.

...Яшчэ да яго выступленняў у «Голосе» — «В с.(еле) Крест»:

«День выдался ясный, погожий, и с тем большей охотой начал я per pedes Apostolorum отмеривать путь по широкому пригородному шоссе. По обеим сторонам — трава, в ней протоптаны тропинки, и два ряда тянутся старые березы — в их тени идти не трудно и не скучно».

Тут ужо проста хораша бачыцца ён, наш цудоўны Максім Адамавіч — з яго лацінскімі «слядамі апосталаў», — хораша і журботна, за няпоўны год да адыходу...

•••••

Сяднёў у сваёй «Масеевай кнізе», нямала добрага сказаўшы пра мяне, у адным месцы як быццам пасмейваецца:

«Аўтар зрабіў вялікую паслугу чытачу: ён можа ўжо не чытаць тых кніг, якія прачытаў Брыль, — у кароткіх, часам трапных азначэннях ён раскрывае іхнюю сутнасць, і такім чынам як бы адпадае патрэба чытаць тыя кнігі зноў. Ты ўжо прачытаў іх вачыма Брыля».

Калі і мне ўсміхнуцца, дык можна спытацца ў Масея, хоць здалёк: ці не дагадзіў я яму, амерыканска-беларускаму чытачу, яшчэ лепш, чым аўтары коміксаў, якія ўмеюць уціскаць у свае міні-кніжыцы нават і эпапеі?..

•••••

І Ельцын, і Грачоў, кожны па-свойму і ў розны час, нібыта каюцца, што пачалі ў Чачні, а то й нібыта лічачы сябе не вінаватымі, шукаюць на гэта

нейкую камандную сілу, вышэйшую за іхнюю. Першы нешта пад восень стагнаў, другі ў пачатку зімы не ўсміхаўся — абодва жалю і агіды вартыя.

Па тэлевізары, вядома, усенародна і ўсясветна.

І працягваюць рабіць сваё...

...Расійскія тэленавіны, як заўсёды цяпер і так даўно ўжо, або пачынаюцца з Чачні, або ніяк не могуць без яе. Учора сказалася на экран: «Боже мой, как это скучно!..» І ў гэтым «скучно» і наш сум, і туга, і нуда, і ныццё балючае, сардэчнае, і атупенне, ледзь не быдлячае, на чужы боль, чужое гора, раны, смерць, жахлівыя здзекі з палонных. І канца гэтаму не відно... Дзе там! — колькі яшчэ затоена жадання, колькі назбірана і збіраецца сілы на тое, што гістарычна, здалёк называецца потым грамадзянскай вайной, без чаго немагчыма вярнуцца да нядаўняга мінулага — Савецкага Саюза ці рускай імперыі ў нейкай іншай форме, да таго, што нібыта хтосьці разваліў, а не само яно развалілася...

•••••

Не выходзячы з-за прастуды, уважліва прагледзеў за тры дні пяцітомнік «Энцыклапедыя прыроды Беларусі», спачатку — нібы ратуючыся ад беспрацоўнай нудоты. А яно цікава і карысна. Сёе-тое простае нібыта ведаеш, а трэба і ахвота ведаць лепш, дакладней. Бо гэтае выданне не толькі даведнік, у які здаралася і яшчэ будзе здарацца заглядваць з патрэбы, але і цікавае чытво (як шытво ды пітво). Тым больш, маючы час, як Салжаніцын для Даля ў лагеры.

Жывая карта Беларусі — амаль дваццаць адна тысяча рэк, больш за дзесяць тысяч азёраў, за дзвесце тысяч даследаваных валуноў...

І нямала назваў смачных ды вясёлых. Скажам, азёры: Ячмянец, Лапухі, Мурагі, Негразя, Янка. Рэкі

ды рэчкі: Сікунка, Сікуня, Сярмяжка, Хлеўня, Ведзьма, Цепленька, Нехрысць, Мужычок!.. І адкрыцці — такія, як трытоны (па-польску, са школы traszka), якіх мы, хлапчукі, лавілі прыгаршчамі ў мачуле каля маста на гасцінцы; як англійскае паходжанне назвы глею (gley), якога і я столькі намясіў у панылa гразкім Загоры; як «атрыка́нка», цаца́рка, што з Гвінеі трапіла і ў нашу вёску; як боб, што спрадвеку карміў беларуса, разам з рэпай, да прыходу заакіянскай бульбы быў героем нашых казак («рос, рос да нябёс»), таксама побач з рэпай, пры дапамозе якое наш мужык ашукваў мядзведзя; як лацінскае Bombus, ледзь не бамбавоз, на гугнілу-чмяля, слова, якое цяпер будзе мне ўспамінацца, абы зноў убачыў яго на кветцы...

«Найбольшыя рэкі, якія дрэніруюць Баранавіцкую раўніну...» Якое вобразнае слова! А ў Тлумачальным яго няма.

Як будуюцца берасцянкі: ён носіць будматэрыял, гняздо робіць Сама.

Птушкі, змалку любімыя па-веснавому, як і шпакі.

•••••

Па маскоўскім радыё — харавая песня пра Тамбоўшчыну. І, як маланкавы зігзаг памяці ў даўняе,— «Казначэйша» ў вялікафарматным, па старасці растрапаным аднатомніку Лермантава. Дзіцячае, чыстае адчуванне непарушнай вечнасці слова. Не толькі замацаванага друкам, але ж і яшчэ па нейкай прычыне. Відаць, па той, што называецца божаю іскрай у табе, адчуваннем красы, наканаваным прызваннем.

•••••

У разумным, усхваляваным выступленні па нашым радыё Музы Сняжко, украінскай сяброўкі Караткевіча, прыемна і сумнавата было пачуць, як

Валодзя любіў Паўстоўскага, як марыў і збіраўся напісаць кнігу, падобную на «Залатую ружу», аднак, вядома ж, яшчэ лепшую...

## З РОЗНЫХ ГАДОЎ

Цётка Уладзя расказвала: Купала курыў так многа, што ў доме ўсе навалачкі былі папрапальваныя.

Думи мої, думи мої,
Лихо мені з вами!..

•••••

У камандзіроўцы ў Віцебску. У вольны вечар гуляем у гасцініцы ў «дурня». Да Толі Вялюгіна прыйшоў нейкі сваяк. Сядзіць каля яго і гаворыць пад руку, пытаецца, як жонка, як дачка.

— А нічога,— адказвае заняты справай Анатоль.

— А як там твае галубы?

— Дзякуй, брат, дзякуй! — болей ажыўлена.

І мы смяемся. Бо ўсе мы па-сяброўску ведаем галубінае гарышча ў драўляным доміку ягонай цешчы, мноства розна- і высокапародных галубоў, тонкую мачту над старым гонтавым дахам, на якой яго любімцы адпачываюць пасля дружнага, найбольш белакрылага па-анёльску палёту.

Так, па-анёльску. Бо ўспомніўся яго радок: «дзярэ анёла ястраб», а пакуль знайсці яго ў вершы «Спелы бор», у ранейшым, пад назвай «Бясстрашша», бяру прасцейшае ў шчырасці:

Не адступаючы, за мною
ідзеш, далёкая любоў,—
над шэрай матчынай страхою
чародка белых галубоў!

•••••

Ганю футбольны мяч па траве. Травы навокал бясконца многа, а я вельмі рады. Ганю, падганяю да варот, прымерыўся і — цяў!..

І загалёкаў, прачнуўшыся... Пальцамі босай нагі з размаху — у белы тынк сцяны. Цераз маленькага сына, што ў вёсцы, калі мама паехала ў горад, спаў побач са мною.

Большым дзецям было весела, і цяпер яшчэ, праз восем гадоў, успамінаюць. А пальцы не зажывалі доўга.

Якую драбніцу запісваю!

•••••

«Уже не говоря о таких литературах, как украинская и белорусская, литературы других советских народов...» — піша ў «Литгазете» адзін з вядомых рускіх крытыкаў. Чытаю гэта ў рэдакцыі ўголас.

— «Уже не говоря»...— смяецца Танк.— Яны ж і не гавораць.

...Ён жа, у іншы час — пра Машэрава:

— Калісьці, адразу пасля вайны, я ў іх быў у Вілейцы. Жонка яго аладкі нам пякла, а мы іх, гарачыя, елі, смяяліся. А цяпер я іду да яго на прыём і там часамі, як тая аладка на скаварадзе, сам варочаюся — то на адзін, то на другі бок!..

•••••

Таджыкскі прыгажун, распешчаны не толькі літаратурным поспехам, уздымае тост у кампаніі, на дастархане над ракой Кафірніган, дзе была з намі толькі адна жанчына, даволі нотная масквічка:

— Один бык, умирая, просил: «Снимите с меня кожу и накройте ею самую лучшую корову». Ваше здоровье, дорогая Зоя Михайловна!..

Гадоў праз некалькі, сустрэўшыся са мной у Маскве, ужо ў яшчэ большым начальстве і з дзяржаўнай прэміяй, ён з паўнацэннай важнасцю сказаў:

— Очень приятно! Следим за ваших успехов!..

•••••

Добрага, ціхага хлопца ўпраўная маці ажаніла сама, па-даўнейшаму. І ён спакваля, неўзабаве пачаў у іншых шукаць таго, чаго ў сваёй яму не хапала. У вёсцы не надта многа выгоды для гэтага,— хутка накрылі іх, раз і другі раз. Жонка тая расказвае гарадскім сваякам:

— Пайду, кажа, утаплюся! А [redacted] яму: ідзі! А потым думаю: а Божа мой — гэта ж і даставаць трэба, і хаваць — колькі клопату!.. І памірыліся мы, жывём.

•••••

Бабы гамоняць пра сваіх дрэнных мужыкоў. У першай ён «успыльчывы», другі сваю б'е, а трэці робіць нешта на двары, але ж не можа, каб не забегчы ў хату, не пераставіць у печы гаршкі — як лепш...

Па агульнаму заключэнню — такі найгоршы.

•••••

Пісьменнік Збігнеў Жакевіч казаў:

— Найбольш мы, палякі, не можам немцам дараваць таго, што яны прымушалі нас хадзіць не па тратуары...

— А шэсць мільёнаў знішчаных? — пытаюся ў яго.

Ён акупацыі, можна сказаць, не ведае: малы быў, жыў у беларускай вёсцы... Лепш скажам: не бачыў ён

яе ў Польшчы. І гаворыць цяпер «з аб'ектыўнай, гістарычнай дыстанцыі». Плюс або і перш за ўсё — славутая мэгаляманія, традыцыйны гонар.

•••••

Стары паэт вельмі любіць выступаць са сваімі вершамі. У адной вясковай школе дзверы настаўнікі на ўсякі выпадак загарадзілі сталом, і госць пачаў тую паэзію, адно за адным і — бясконца.

Старшакласнікі непрыкметна выключылі святло, і ў цемры ўся тая вольніца рванулася да дзвярэй. Перавярнулі стол і добра-такі пагрузілі госця-паэта.

Дома ён не вытрываў, расказаў жонцы, маладзейшай за яго, і яна цяпер гэтым прыкладам супакойвае яго, нібы працвераджае. Калі ён часамі зноў хваліцца, як яму хораша недзе выступалася.

•••••

Спёка і «горы», як называлася ў нас поле на ўзгорках. Цяжка жнецца нізенькі, рэдкі ячмень, ажно спіна калом становіцца. І тут з недалёкай палоскі гукнуў на мяне нехлямяжы сусед Зімавей: «Іван, а во!..»

Трымае зайца за вушы. От дзе шэры даспаўся!.. Ды вось ён прачнуўся — ці не ад гэтага воклічу — трэпнуў нагамі, пстрыкнуў з пальцаў і даў лататы.

А ты сабе жні далей.

Або пайдзіце да збанка ў цянёчку ад снапоў, хлебаніце сабе — хто з жалю, хто са смеху.

•••••

Вясной пяцьдзесят шостага года ў Будапешце, на дунайскім востраве Святое Маргарыты нас, невялікую групу мінскіх турыстаў, здзівіла тое, што

ў гэтым цудоўным парку зусім няма таго, што называецца «нагляднай агітацыяй» — ні партрэтаў, ні лозунгаў...

— Во! — засмяяўся Танк.— А ў нас? Ідзеш з дзяўчынай, хацеў бы пацалавацца, але ж няма дзе,— з-за кожнага куста цікуе член палітбюро!..

•••••

«Грубка халодная, як мёртвая дупа», — казала калісьці наша маці. Усё-такі далікатней.

А ў Валодзі Караткевіча — яшчэ лепш: радзіска з белымі дупкамі.

•••••

Спачатку проста сакратарачка ў раённым судзе, потым, упадабаная найвышэйшым у рэспубліцы, спачатку нарком, а потым, пасля гадавой школы савецка-партыйнага актыву, яшчэ і намеснік прэм'ера па культуры, і, нарэшце, асабліва заслужаная пенсіянерка.

Сустрэла Максіма Танка ў клініцы (ён мне расказваў):

— А вы что здесь?

— Ды вось хварэю трохі...

— Смотрите за собой, вы нам еще нужны.

Голас са сметніка гісторыі. Аднак яшчэ ўсё ўпэўнены.

•••••

Рыгор Бярозкін гаварыў мне, што на вызваленай Куршчыне, у ацалелай хаце, гаспадыня расказвала яму, як адзін немец, што зайшоў да іх, не спяшаўся ўцякаць. Усё гартаў школьны падруч-

нік нямецкай мовы, які ляжаў на стале, усё пра нешта маўчаў...

•••••

Алесь Асіпенка расказваў, як адна іхняя партызанка, дамачка ідэйна падкаваная, расказвала яму пры сустрэчы:

— Спачатку думалі абмежавацца адным рабёнкам, а потым селі з мужам, пасавяшчаліся і вырашылі мець яшчэ аднаго.

•••••

Дырэктар добрага палескага саўгаса, змоладу баявы партызан, а пасля яшчэ і франтавік, паказвае нам, тром знаёмым пісьменнікам, мемарыял на скверыку і стрымана расказвае:

— Пакуль не было ў нас гэтага помніка з прозвішчамі ўсіх землякоў, што загінулі ў партызанах або на фронце, бабка тая ці іншая не ведала, дзе ён ляжыць, яе сынок. А цяпер нясе яму кветкі сюды.

•••••

Мой аўтограф Івану Драчу на «Золаку, убачаным здалёк»:

«Поэзия вся — в детстве. Для меня по крайней мере».

Працытаваўшы Вас, Іване Фёдаравіч, дадаю:

І для мяне — таксама.

•••••

З пастушынага фальклору:

«Ганем каровы дадому, не кажэм нікому,— маці есці наварыла, чым, чым забяліла? Жабу, жабу

растаўкла. Хто першы акажацца — таму жабіна плеўка!..»

І маўчым, сцяўшы вусны, пакуль не выбухнем смехам.

•••••

Малазнаёмы, а расказаў мне на санаторнай праходцы, як у сорак першым годзе перад фронтам расстрэльвалі «баптыстаў», што не бралі зброі.

— Толькі адзін з іх млеў і крычаў... А потым мы, маладыя, ішлі строем у свае казармы, апусціўшы галовы...

•••••

У музеі славацкага невялікага гарадка:

Bože mój, otce mój
z vysokeho nieba,
ked si mi dal zuby,
daj že mi aj chleba!

•••••

Гумар без смеху:

«Сваццявая такая ўжо згорбленая, што як памрэ, дык і не выпрастаць будзе. Хоць ты ў цэбры яе хавай».

•••••

Маладыя з загса едуць дзе да Вечнага агню, дзе да магілы Льва Талстога... А ў Нарыльску — у прафілакторый, да мядзведзіцы Машкі, якую

там пояць шампанскім. Нап'ецца і ляжыць, спіць, ачмурэлая.

Такую мы яе і засталі — пасля чарговых вясельнікаў.

•••••

У нас на сіфіліс кажуць **пранцы**, а ў палякаў, у Кялеччыне, ён **фра́нса.**

Пры панскай Польшчы там таксама калолі запалкі на чатыры часткі.

•••••

У гарадку мужчына зайшоў у аўтобус — такі здаровы ды сыты, што адразу ўявілася, як ён сам выгадаваў, сам закалоў і сам з'еў доб-ра-га парсюка.

•••••

Спозненыя маладажоны — яму сорак пяць, ёй трыццаць шэсць. Адзін пакойчык. А толькі парасапісаліся — шусь у хату ягоная маці. З вёскі, пасварыўшыся са сваім дзедам. Надоўга да іх — бо з валёнкамі ўлетку. Дачакалася бедная дзяўчына сямейнага шчасця!.. Бо ён ужо быў жанатым да яе.

•••••

Вясёлая Клаўдзя Каліна расказвала:

— Мая старэнькая мама гаворыць пра сябе: «Я салдат шаснаццатай роты». Такая няросленькая. Усё жыццё яна з маім татам за ручку і прайшлі. Ён ёй Косцік, яна яму Надзька. І аднагодкі, толькі ж ён памёр у семдзесят пяць, а ёй цяпер восемдзесят, і

ўжо зусім слабенькая. Але як што, дык і скажа: «Ідзі ты, дочка, ведаеш...» Або: «Закруці той гэз,— газ, значыцца,— а то гнілой капустай смярдзіць!..»

•••••

Як гэта дзіўна, горка,— гледзячы даўнія фотаздымкі, ведаць, усведамляць, што з гэтых мілых дзетак хлопчык стаў алкаголікам, дзяўчынка патаскухай...

•••••

Адзін з траіх дзяцей, што ўсе «выйшлі ў людзі», старэйшы сын, дырэктар тэхнікума ў далёкім горадзе, заязджае ў жончыну вёску, а ў сваю, толькі за тры кіламетры, не хоча, кажа, што не можа.

Бацька быў гаспадар, усё было ў поўным ладзе. Але бацькоў ужо даўнавата няма, хату купілі чужыя прыблуды і вельмі ж усё запусцілі...

•••••

П'яны сусед пасля бяседы кавэнчыць каля парога перад гаспадыняй:

— Дай буську, тады і пайду!

А яна, пры мужыку і іншых мужчынах, смяецца:

— От я табе зараз чапялы як дам — адразу выскачыш!..

•••••

Алесь Адамовіч па тэлефоне, вярнуўшыся з падарожжа:

— Палез у Волгу, а ўжо холадна было, і вось хварэю.

Я:

— А толькі ж пісаў, што ў пісьменнікаў найбольш цэніш розум.

Смяемся.

•••••

Пятро Глебка, Мікола Ворвулеў і я гасцявалі вясной пяцьдзесят чацвёртага ў сям'і Багдана Чалага, у доміку ў садзе, на ўскраіне Кіева. Калі на ўтульным дворыку пачаліся танцы, Ворвулеву не хапіла партнёркі. Ён пакланіўся таўшчэзнай, вясёлай Багданавай бабусі, пачаў угаворваць яе: «Вы сабе стойце, а я буду каля вас укругаля!» І так у іх пайшло: яна дабрадушна смяялася на адным месцы, а ён пацэтна вытанцоўваў кругам.

Пасля таго, як цешыў нас сваім магутным голасам у песнях — украінскіх і нашых.

Ужо і яго, Міколы, больш за трыццаць гадоў няма, і танцы тыя богведама калі былі, а светла помніцца.

•••••

Да электрычкі, сустрэць мяне, «іхняга дэпутата», на машыне з пасёлка прыехала маладая настаўніца, што «ведае госця ў твар», бо мы ўжо аднойчы бачыліся.

У дарозе, дваццаць пяць кіламетраў, пагаварылі. Восем год была замужам, пяты год удавою, а сама яшчэ як маладзічка. Румяная, акуратная, сціплая. Гадуючы двое дзяцей...

І не сказала мне, іншыя потым сказалі, як яе муж памёр. Упаў у калодзеж, задалёка перахіліўшыся. Нецвярозы.

Таму, вядома, і не сказала. Такая культурна-прыязная.

•••••

Вядомы медык, інтэлігентны Танкаў сваяк расказвае мне ў дарозе, як на Максімавым юбілеі яму прыйшлося сядзець на банкеце побач з сакратаром ЦК па справах ідэалогіі.

— Звярнуўся я да яго: «Вось вы кажаце, што ён вялікі паэт. Дык разгрузіце ж вы яго ад лішніх службовых ды грамадскіх абавязкаў,— хай больш піша!» Ветліва так сказаў, а сакратар, панура памаўчаўшы: «Нам нужен Танк такой, какой он есть!..»

Дзівіцца гэты сваяк — прафесар, доктар медыцыны,— што Максім зусім сур'ёзна гаворыць пра сваё сацыялістычнае геройства — як пра аванс, які яму трэба яшчэ адрабляць.

— Дарагі мой,— кажу яму,— авансаў у нас не даюць!..

•••••

«Маскоўская бабця», як яна сама сябе называе, мая выпадковая, ліпкая карэспандэнтка, абруселая ганарлівая полька, якую я, як гаворыцца, і ў вочы ні разу не бачыў. Просіць кніжак, пасылаю.

І вось, пасля яе чарговага пенсійна-вольнага пісьма, з какетліва-недарэчнымі заўвагамі «шэптам» (яе слова), успомніў я другую бабцю, беларускую, з раённага гарадка. Сувязная майго сябра-партызана, калі мы разам у яго абедалі, прыстае да гаспадара з недаедзенай бульбай-пюрэ са свае талеркі — з поўнай упэўненасцю, што гэта яму павінна быць прыемна...

•••••

Колішні партызан-сэрцаед, а цяпер стары валацуга. Завітаў у пасёлачак і пачаў падладжвацца да ўдавы, колішняй знаёмай дзяўчыны, каб ім цяпер

сысціся. Першая «гаспадарская» прапанова — карову прадаць. Разлік вельмі просты — і пра сена не трэба будзе думаць, і грошы будуць на першы пачатак. А далей ужо славутае «Бог—бацька».

Яшчэ адно нікчэмнае «перекати-поле», якога і я памятаю — у п'яную прысядку, з трыма гадзіннікамі: два на руцэ, а трэці ў кішэньцы, з выпушчаным ланцужком. Цяпер ён пры гальштуку, пад капялюшам. І гаварыць нам няма пра што...

•••••

Каля сядзібы на далёкім водшыбе ад пасёлка — многа толькі што наколатых альховых дроў, чырванаватых на зрэзе. На добрым полымі, што вельмі дарэчы халоднай раніцай, грэецца чорны кацёл пад накрыўкай, з-пад якое відно, як варацца яблыкі свінням. Побач чародка белых курэй. Сабака, нейкі аж надта будзённы, сустрэў мяне леным брэхам, а цяпер маўчыць. Гаспадыня пачулася здалёк ад ганка. Прывітанне і расказ пра новы клопат:

— Каршун во пеўня прыбіў. Дарэзала.

Голы певень ляжыць у вялікай місе.

— Куры да Нёмана ідуць, а ён сядзе на дрэве і цікуе, ліха яму, чакае. Ледзьве адабрала.

Добра пагрэцца гутаркай. І я кажу:

— Трэба было і каршуна сюды. Удвух аскубсці.

Яна прымае маё:

— Калі ж стрэльбы няма...

Найлепшая ў вёсцы рыбачка, яна, чаго добрага, і са стрэльбай справілася б.

Як і многія цяпер, прапануе ўзяць яблыкаў — во, кошычак ці вядро. Дзякую, адмаўляюся, і прыемна думаецца, што яна гэта не ад вельмі шчодрай сёлета садавіны, але і ад сваёй дабрадушнай гасціннасці.

Пайшоў далей, па сцежцы над Нёманам, пад дубамі.

•••••

Успамінаецца сяды-тады, як Ігар Шклярэўскі ў маскоўскім ЦДЛ, Цэнтральным Доме літаратараў, па-зямляцку прысеўшы да стала, дзе я абедаў, загаварыў пра сваю любоў да Броўкі:

— Ён адзін зрабіў больш за ўсіх вас там, разам узятых. Я яму на пахаванне кветкі вазіў, і я не кожнаму павязу!..

Трэба было, як потым падумалася, сказаць яму:

— Ах, Ігар Іванавіч, а я ж так спадзяваўся!..

Тым больш што прычына той яго закаханасці амаль адразу ж і выявілася:

— Ён мне кватэру даў!..

Калі дзяжурыў там, у Маскве, як сакратар Саюза пісьменнікаў СССР.

•••••

Як нечакана і як прыемна было заўважыць у гушчары дваццатага тома Поўнага збору твораў Дастаеўскага выказванне, якое, чаго добрага, упершыню вось будзе перакладзена на нашу мову:

«Усякая здаровая і зямная сіла верыць у самую сябе і ў сваю праўду, і гэта найпершая адзнака здароўя народнага. Гэтая народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, залог жыццёвасці і энергіі жыцця і аніяк не выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў саміх сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі».

•••••

Трыццаць чацвёрты год пайшоў, а памятаецца сентыментальна-рамантычная руская дамачка, што пісьмы нам пісала даволі доўга пасля знаём-

ства ў гагрынскім Доме творчасці. І муж яе памятаецца, маўклівы лейтэнант, што быў у Мінску ў камандзіроўцы, пазваніў ды зайшоў. Выпіў, пераначаваў, пазычыў сто рублёў — і «был таков». Можа, яшчэ і рады быў,— рэаліст!..

•••••

А чым не тыпы тыя молада-тлустыя браты, што, закончыўшы вучылішча на скульптараў, халтураць на помніках? Добра мяне памарочыўшы, добра ўзяўшы, на развітанне запрашалі прыязджаць і потым... Калі мы ездзілі з Анікейчыкам глядзець на «палігоне» валун для Караткевіча, яны зноў «ветліва» спыталіся, чаму я так доўга не быў...

•••••

Мікалаеўскія грошы. Наша маці хавала іх ад унучкі, якая выкрадала з яе старога куфра тыя прыгожыя паперкі, каб пазабаўляцца. Праз чвэртку веку пасля рэвалюцыі. Няўжо ўсё верыла, нястомная векавая руплівіца, што «яшчэ пойдуць»?

Нарачанскі кульгавы дзядок, пан Яцына, з турыста-нумізмата патрабаваў рубель за злоты: «Едын за едын!..» Бо столькі ж укладзена працы і ў тыя, польскія паперкі!

Мама пра бацьку нашага гаварыла: «На ўсё разумны быў, а вось на золата не памяняў тады, у Адэсе, пазапіхаў паперкі ў бутэльку ды сургучом заляпіў...»

•••••

Танк нядаўна расказваў, што Лужаніна калісьці білі не так за навершаванае ў «Вожыку» («Была ў сабакі хата»), а таму, што Панамарэнка на

адным вожыкаўскім малюнку ўбачыў як быццам самога сябе на трыбуне стадыёна і яму здалося, што гэта падкарыкатурылі яго. Зрабілі з Лужаніна «беларускага Зошчанку». Яшчэ больш адпаведна: Агняцвет — «беларуская Ахматава».

•••••

Васілій Бялоў з трыбуны ўсесаюзнага пісьменніцкага з'езда, з найвышэйшай, з крамлёўскай трыбуны сказаў, што яму як рускаму зусім не патрэбна, каб была адна толькі мова для ўсіх,— «это было бы очень скучно...».

•••••

«Здохнеш сам, і дзеці будуць хварэць!..» — так бабы крычалі на таго, што прыйшоў узарваць у іхняй вёсцы спрадвечны валун. І не далі.

•••••

Адзін з начальнікаў на нашым радыё, журналіст старое вывучкі, не хацеў калісьці дазволіць пастаноўку маёй «Галі».

— Нет никакой современности. Тракторист и тот только под конец появляется...

•••••

Пажылая прыбіральшчыца ў літфондаўскай паліклініцы глядзіць, як тэрапеўт і медсястра вяла збіраюцца ехаць па хуткім выкліку, а потым проста, па-народнаму:

— Ды едзьце ж вы ўжо! Бо дзед той сканае, не дачакаўшыся!..

Сюды ж — пытанне пры кожным выкліку «хуткай» па тэлефоне: «Колькі гадоў хвораму?» З падтэкстам. Які быў і ў пытаннях змрочнага прафесара да мяне: «Колькі гадоў?» Разоў са тры спытаўся на аглядах маёй нагі, ажно хацелася адказаць пытаннем: «А вам колькі?» Хоць і відно, што не стары, як я.

•••••

Два дажджлівыя дні, а потым распагодзілася. І я здзівіўся радасна, што за гэты час у цёмна-зялёным, лапушыстым жыце насторчылася процьма свежанькіх каласоў.

•••••

Нізкае ранняе сонца асвяціла граду сасняку, што стаіць пры палявой дарозе. Меднаствольныя — правільна гэта, бо і ствалы, і таўсцейшыя галіны бачацца здалёк, цераз жыта, іменна такімі, нават з медным праблескам. Яшчэ больш — ад ствалоў і голля медны водсвет ідзе і на іглiцу.

•••••

Прывезенага мамай з горада на дачу Ёжку, лялечна-чалавекападобнага вожыка, малыя сястра і брацік усцешана абнасілі па ўсіх пакоях, бо ён, іхні зімовы друг, тут упершыню. Зайшлі ў найменшы:

— А тут жыве твая прабабулька!..

•••••

Намеснік міністра знешняга гандлю атрымаў трынаццаць гадоў турмы, бо «зарабіў» на сваёй пасадзе 127 тысяч рублёў. Жоначка ўзначаль-

вала нейкі блізкі да мужавай службы аддзел і аказалася больш руплівай: «зарабіла» 322 тысячы рублёў. Адзінаццаць гадоў турмы.

Колькі людзей, чытаючы такое, падумае: «Дык мы ж, у параўнанні з вамі, якія намі кіруюць, проста святыя!..»

•••••

Пагодлівым кастрычнікам пяцьдзесят чацвёртага года я частаваў Шамякіна і Макаёнка Навагрaдчынай. На новай, ці не першай у маладых пісьменнікаў, Андрэевай «Победе», з саюзным шафёрам за рулём.

У Навагрaдку мы зайшлі ў сталовую. Іван, нядаўна выбраны на з'ездзе намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў, уваходзіў трэцім. Спыніўся на парозе, прынюхаўся і спытаўся ў бліжэйшых за сталамі:

— У вас тут, у горадзе, нічога лепшага няма?

Усё-такі мы паабедалі там, а потым, на скверыку, Андрэй, па-свойму горача і проста, накінуўся на Івана:

— Калі ты стаў такім панам? Даўно ты дзяцей на печы рабіў?..

Можа, таму, што мы былі крыху ўзяўшы, Іван ледзь не расплакаўся:

— Я вас люблю, а вы мяне тут...

Тады ён быў яшчэ ранімы.

Мы з Андрэем нават цішком змаўляліся купіць яму на дзень нараджэння спартыўную «кабылу», зацягнуць на ягоны пяты паверх — няхай зганяе свой пачатак панства. Але не вытрымалі да студзеня, прагаварыліся і падарунка гэтага не купілі.

Андрэй быў тады таксама ў першай славе. Пасля фельетонаў у «Вожыку» і сякіх-такіх аднаактовак добра пайшло сатырычнае, «Выбачайце, калі ласка!». Прымерваўся і на яшчэ вастрэйшае. А сам быў просты, свойскі, вясёлы.

Потым яны з Іванам спакваля зрасліся ў светапоглядзе, як сіямскія блізнюкі. Папулярнасць робіць сваё.

Згадаю толькі падарожнае.

Увосень семдзесят трэцяга, калі нас, тры вялікія аўтобусы работнікаў культуры, вазілі па Віцебшчыне, натхняючы калгаснай паказухай, на кожным прыпынку, дзе нас да непрыстойнасці святочна віталі хлебам-соллю, «блізнюкі» вылучаліся вельмі выразна, смеху сяброўскага ці намёкаў не заўважаючы. Ніхто не паспяваў раней за іх выйсці з першага аўтобуса, прыняць, пацалаваць той каравай. Нават яшчэ і пыталіся ў асцюдзянелых ад доўгага чакання бедных піянерчыкаў ды ў адарваных ад працы, пераапранутых, як на канцэрт, дзяўчат і маладзіц, ці ведаюць яны, хто перад імі,— пыталіся адзін пра аднаго...

Нават сатырыка можна давесці да такога росквіту.

Ды што хацець, калі на Андрэевым юбілеі прывітанне ЦК партыі чыталася так: «Наш дорогой, уважаемый...», а тады, адарваўшыся ад паперы: «...я сказал бы: наш обожаемый Андрей Егорович!..»

Обожаемый начальствам сатырык — з'ява, трэба сказаць, унікальна-гістарычная. Адзнака доўгага перыяду застою, пра які мы сёння ўжо гаворым. Як-ніяк, а другі год перабудовы.

•••••

На пісьменніцкім з'ездзе ў шэсцьдзесят шостым годзе старшынёй падліковай камісіі быў абраны Алесь Бачыла. Потым расказваў, як адзін памяркоўна-ціхманы саюзапісьменніцкі чыноўнік сам-насам, па службе ўгаворваў яго замяніць Броўку трыццаць бюлетэняў з адзнакай «супраць» — на чыстыя. Каб не Алесь, а яшчэ адзін паслухмяны рахманец, дык і зрабілася б так.

Пасля ў пакой, дзе працавала падліковая камісія, ткнуўся сам загадчык аддзела культуры ЦК партыі, відаць, з падобным намерам. Але Бачыла папрасіў яго, як староннягa, выйсці. Што яму, вядома ж, у далейшым не забылася.

Пазней на нашых з'ездах — асабліва ў 76-м і ў 81-м — над такімі камісіямі добраахвотна віселі сам сакратар ЦК па ідэалогіі і два прыдворныя веселуны, Празаік і Драматург. Таварыш сакратар браў на сябе права праводзіць першы пленум толькі што абранага праўлення асабіста, замест новага старшыні праўлення, як належыцца па статуце, сам называў кандыдатуры загадзя зверху намечаных сакратароў ды членаў прэзідыума. І супраць яго ніхто не асмельваўся ці не хацеў выступаць — тут жа славутая думка «адтуль»!..

•••••

Такое трэба забыць, выкрасліць з памяці, а яно ўсё жыве там...

Два нашы і прыезджы госць запрасілі мяне па тэлефоне ў гасцініцу, дзе яны святкавалі сустрэчу. Пайшоў, стары дурань, бо гэта ж добрыя хлопцы, таленавітыя, бо з моладдзю добра і трэба дружыць.

Свае яшчэ трохі трымаліся на нагах, а госць, колькі яго ні адмочвалі пад халодным душам, так з тое ванны і не выйшаў...

І яшчэ:

Маскоўскі медык паглядзеў там, у сталіцы, спектакль па нашай п'есе, выпадкова даведаўся, што аўтар на адным з ім курорце, спецыяльна знайшоў яго і наведаў. А потым скардзіўся мне:

— Пагаварыць хацелася, падзякаваць, а ён і лыка не вяжа. І дзве бойкія бабы пры ім смярдзяць перагарам...

Такое трэба забыць, ахоўваючы памяць таленавітых. I так жа нямала гэтага, што трэба ўтойваць!

•••••

Пасля мюнхенскай змовы 1938 года Польшчу ў Заходняй Еўропе называлі шакалам Германіі. Пішуць пра гэта — самі палякі. («Пшэглёнд тыгоднёвы», 7. VI.1987 г.) Трэба вучыцца такому позірку на сваю гісторыю.

•••••

Маладзенькіх герояў скідзельскага падполля вешаць прывезлі ў родны гарадок.

Маці аднаго з іх, пакуль дабегла з дому на плошчу, ссівела.

•••••

Схематычная, з псіхалагічнымі правамі аповесць — нібы адзін каркас, які прыязныя крытыкі запоўняць у артыкулах сваімі домысламі.

•••••

Брэсцкі раён.

Перагружанасць вясковых дзіцячых садоў разьбою па дрэве. Заблудзіць можна малому паміж тымі фігурамі. I раскоша такая ўсюды, ужо ўсярэдзіне, што дзеці, чаго добрага, дахаты ўвечары дамоў ісці не хочуць.

Дома бацькам, хоцькі-няхоцькі, трэба падцягвацца да ўзроўню садзіка.

•••••

Старая, нямоглая Танкава Люба поле грады, а курортнікі ідуць нарачанскім берагам каля іхняй дачы — і гаспадыня чуе — гавораць:

— Во, наймічцы і выхаднога не даюць!

А потым і другое:

— Што вы, у яго ж толькі кухарак дзве!..

«Голас народа — голас божы».

Хоць і катарга ў гэтай бабулі Любові Андрэеўны з дзецьмі-ўнукамі-праўнукамі, хоць і дзеду, народнаму паэту-акадэміку, штодня хапае таўкатні на гаспадарцы. Апроч вершаў. Асноўная рабочая сіла — дзед і баба.

•••••

Раней і нам, і мы самі далдонілі пра ідэйнасць. Цяпер — пра праўду. А ў чым яна? І колькі яе можна?

Слухаючы даклад.

Што гаворыцца і што застаецца ў падтэксце?..

•••••

Бабка — прыбіральшчыца каля грамадскага туалета над ракою. Восьмае сакавіка, і я, праходзячы міма, кажу ёй:

— Са святам вас!

Яна, і рукой не махнуўшы на гэта, толькі з нейкай трохі ўсмешкай:

— Тут маё свята...

•••••

«Таварыш — Гаўнаварыш». Груба. Але і справядліва, калі пра чалавека пустога, які толькі што жыве, існуе, «варыць»...

•••••

У добрага ўкраінскага пісьменніка ў абласным цэнтры свой дом і цэлых пятнаццаць сотак саду-агарода. Паказвае нам, беларусам, свае любімыя дрэўцы, якія ўжо хораша родзяць.

— Гэтыя сліўкі заўтра можна будзе есці,— гаворыць ён гасцям, а ў падтэксце нам весела чуецца: калі вас не будзе...

•••••

Мой першы медаль, найпершая ўзнагарода — «За доблестный труд в годы Великой Отечественной войны». Я нават і калодачку купіў. А госць далёкі — нашмат старэйшы брат, выкладчык рабфака з Урала,— усміхнуўся і сказаў:

— У мяне такі самы ёсць, але я не нашу.

Пра калодачку.

Успомніў гэта смешнае пра самога сябе — нібы збоку. Ужо таксама нашмат старэйшы сёння за брата ў тыя пасляваенныя гады. І з правам на іншыя калодачкі, якіх так і не сабраўся дагэтуль набыць.

•••••

Пра акуратную гаспадыню хораша: «У яе кожны дзень — Вялікдзень!..»

І тым больш прыемна, што гаворыць гэта жанчына пра жанчыну.

•••••

Абедаем, і ён расказвае, як яны з Барысам арганізоўвалі ў недалёкіх Прылуках калгас. Сабралі сход, пачалі выступаць. А тут з двара: «Пажар!..» Усе хацелі рвануцца са школы, але Барыс

выхапіў пісталет і да дзвярэй. Не выпусціў. Бо і пажару ніякага не было...

Успамінаў ён і пра «народную медыцыну». Як загнаў быў у партызанах застрамку ў вялікі палец на назе. Босаму на прывале прайсціся захацелася. А Шура дастаў яе зубамі, бо пальцамі было не ўхапіць, а потым памачыўся на ранку — для дэзінфекцыі.

І пра тое згадаў, як мы на саракагоддзі вызвалення нашага раёна лавілі ў «неманінах»-старыцах рыбу крыгай, а зачэрпалі ў зеллі бабра. Парваў нам сетку і ўцёк.

Вясковы настаўнік з Магілёўшчыны, пасля франтавы афіцэр, камандзір мінамётнай роты, у адзін час з пісьменнікам Уладзімірам Карпавым, потым Героем, кнігу якога «Полководец» нядаўна прачытаў, закончыў Ташкенцкае пяхотнае вучылішча, паўтара гады ваяваў, двойчы паранены. А ў партызанах быць камбрыгам не змог.

— Ніякай дысцыпліны! — усміхаецца мне.— Акурак на губе і мат за кожным словам. Ён, бачыш, і сам камандзір! І пакамандуй такімі!..

Напісаў рапарт камандзіру злучэння, і той паслаў яго ў другую брыгаду начальнікам штаба. Там мы яго і любілі за добры, людскі характар.

Не змог быць потым і старшынёю калгаса: «няма камандзірскай жылкі», «залішне мяккі»...

З далёкай Свіслачы быў у Міры ў сваячкі і, дзякуй яму, не паленаваўся наведаць мяне — за семнаццаць з гакам кіламетраў. І нам вось добра сядзіцца, гамоніцца то на верандзе, то пад ліпай. Яшчэ ўсё выглядам ён нагадвае мне сваю лясную спраўную маладосць, яшчэ ўсё хораша ўсміхаецца. Наш Міхась Маскалёў.

Успамінаю, як ён быў абнасіўся, ды так, што боты вось-вось папросяць кашы. Тыя, у якіх ён у групе прытопаў сюды з «Вялікай зямлі». Да нас, разведчы-

каў, звярнуўся — з просьбай, не з загадам: «Хлопцы, памажыце». І прыйшлося дапамагчы. Зайшлі на хутары каля Міра ў ладную хату, а яны стаяць сабе ў кухні на зэдліку — і падмазаныя, і вушкі з халяваў тырчаць, і дзядзька такі ветлівы:

— Калі трэба, таварышы, дык трэба...

Дарэчы, з год перад гэтым таксама паехалі ў пушчу і мае юхтовыя, тыя, што брат заказаў мне пасля майго вяртання з палону, набор сабраўшы загадзя, калі мяне чакалі.

•••••

Малады празаік, ён жа і мастак, таксама з прэтэнзіямі на наватарства. Абмахвае сяк-так рэальнае жыццё вялізным веерам недаспелай абстрактнасцю выдумкі. Герой яго купіў сабе чырвоны капялюш і прайшоўся па пляжы. Ну і што? А нічога. Ні больш, ні лепшага.

•••••

Старая, што ў домакіраўніцтве ЦК партыі, дамагалася ветэранскага святочнага пайка, хоць і не мела на гэта дакументаў.

— Калі я працавала ў ЦК, з мяне даведак не патрабавалі!..

Праўда, сказала без клічніка, а ледзь не са слязьмі як быццам справядлівай крыўды.

•••••

Мікола Мікалаевіч Улашчык, «Была такая вёска».

Уражанне — сумесь цікава-значнага з пашанай, — нібы ты ў добра наладжаным скансене. Якія мне давялося бачыць каля Рыгі і каля Осла.

•••••

Ануар Алімджанаў у «Дружбе народов» піша пра яшчэ адну хрушчоўскую «навацыю»: у мусульманскім Казахстане — конска-свіная каўбаса з палітычна прыцэльнай назвай «Дружба».

•••••

Два царскія штабс-капітаны, у Турцы і ў Чыжыноўцах.

Турэцкага мне, вучню, даводзілася бачыць у царкве. У яшчэ нязношана-элегантным, светла-шэрым шынялі без пагонаў, у акулярах-пенснэ. А ў будзень неяк вёз ён гной, і пуга, збоку на возе ўваткнутая, неўпрыцям згубілася на брук. Наш сусед, вясёлы дзядзька Паўлюк, які і ў арміі царскай служыў, і вайну ўсю адваяваў, рады быў гэта заўважыць і гукнуць яму:

— Ваше благородие, шашку потеряли!..

Расказваў пра гэта ў нашай хаце і ўсмак рагатаў.

Чыжыноўскага штабс-капітана я бачыў часцей у полі, пры дарозе, за плугам ці бараной. Вечна непаголены, рыжы, зубаты, маўклівы, але з патаемнай усмешкай. Чытаючы ў Леніна, як пад канец першай сусветнай вайны быў выбіты афіцэрскі корпус царскай арміі і пачалі яго папаўняць з радавых або унтэраў, якія закончылі хоць бы «гарадское вучылішча», я якраз і ўспомніў яго.

Дарэчы, ён разам з маімі найстарэйшымі братамі закончыў «гарадское» ў Міры.

Пры немцах, калі ў жніўні сорак другога была аб'яўлена першая «беларуская» мабілізацыя, спроба стварыць нейкае войска, штабс-капітана знайшлі ў яго Чыжыноўцах (турэцкі быў ці застары, ці ўжо і памёр — не помніцца) і паставілі ў Міры раённым ваенкомам, здаецца, неяк інакш назваўшы гэтую пасаду.

Я спачатку па выкліку не з'явіўся і не думаў з'яўляцца, хаваўся, а потым пагутарыў з сябрам з акружэнцаў, які ўжо быў у партызанах і зайшоў пераднявацъ у нашым гумне,— параіліся, і я пайшоў у Мір — пасля ўсіх, крыху нават з трывогай.

Штабс-капітан, той самы вахлакаваты дзядзька Кастусь, пра спазненне нічога мне не сказаў. Такое ўражанне было, што ўсё гэта яму аніяк нецікава. А калі тая спроба мабілізацыі распалася, спадар ваенны начальнік зноў пешкі падаўся дахаты, зноў абрастаць ды маўчаць. Ці чапалі яго ў другую мабілізацыю, у сакавіку 1944-га, не памятаю. Але ж і не каралі потым, ён сабе ціха памёр у сваёй мнагагадзетнай бядоце.

•••••

Яйкі ў адной цане, здаецца, роўненькія, а дамачка перабірае іх у «сотах» доўга, марудна. Чарга хвалюецца, пачынае абурацца. А яна:

— Чего вы все шумите? Теперь же все можно!..

Зноў жа пра перабудову, пра «дэмакратыю».

•••••

Чытаю ў палякаў, што ў дваццаць шостым, пасля «майскага перавароту», зладжанага Пілсудскім, у Варшаве было забіта чатырыста і паранена каля васьмісот.

А ў «Лодзінскім выдавецтве» патрыёт-рэдактар Хрусцялеўскі выкрасліў з майго «Сонечнага зайчыка», без усякага ўзгаднення з аўтарам, завочна, пра тое, як адзін з пажылых падафіцэраў успамінаў пры мне ў палоне расстрэл каля варшаўскай цытадэлі бунтароў-падхаронжых.

— Чатыры кулі, проша вас, у адну патыліцу.

А хлопцы ўсе маладыя, чубатыя. Як жарнем, дык валасы і закрылі ўвесь твар!..

Трэба думаць, што сярод тых чатырохсот забітых такія бунтары былі.

•••••

Пастушынае ўспамінаецца. Адзін есць яблыка, а другі: «Дай укусіць». Да самых зярнят ў асяродку дагрызуцца на змену, і аніякай грэблівасці.

А жабу ў рот узяць за заднія лапкі — у заклад на карабок запалак?

•••••

Самой ужо добра за пяцьдзесят, а гаворыць са мною, яшчэ вунь як старэйшым, і вось нібы сарамліва паправіла на каленях, седзячы на ўслончыку, свой халацік на голых каленях. Спрацаваная, затурканая, а — жанчына...

•••••

У канцы трыццаць дзевятага, на чарговай сустрэчы з нейкім упаўнаважаным, дзядзька Паўлюк спытаўся ў яго:

— А колькі ж стаханавец скошвае за дзень?

Той, разгублена:

— Ну, видимо, соток двадцать, тридцать...

— Тады закройцеся вы, таварыш, са сваім стаханаўцам — мы скошваем па паўгектара!..

Людзі нашы былі яшчэ непалоханыя.

•••••

У пяцьдзесят сёмым годзе арыштаванага за «белорусский национализм» Барыса Ржэўскага, майго партызанскага сябра, выкладчыка гродзенскага педінстытута, следчы, спакойна-сыты яўрэй, на ўсе Барысавы шчыра-гарачыя словы пра чалавечае права на родную мову з усмешкай пытаўся:

— Кому это нужно?

Той гаворыць, каб яшчэ больш пераканальна, а ў адказ усмешачка і зноў сыта-спакойнае:

— Кому это нужно?..

•••••

Шасцідзесяцігадовая жонка, шчодра поўная і энергічная, пра свайго хвараблівa-нягеглага мужа-юбіляра, якому семдзесят пяць:

— Я купалась в его ласках!..

І на сходзе ў вучылішчы так, і дома потым, на цесным застоллі.

Ён цярпліва маўчыць, нават не ўсміхаючыся. А я ўспамінаю, як ён мне неаднойчы скардзіўся, што жыцця няма з-за яе хваравлівай рэўнасці.

•••••

На юбілейнай вячэры ў райцэнтры абруселая дамачка цераз стол:

— Иван Антонович, ведь в Белоруссии националистов нет? Правда ведь, нет?

— Ёсць,— адказваю.— Толькі, на жаль, малавата.

Назавём іх, патрыётаў, так.

•••••

Падумалася пра красу тых мясцінаў на Беларусі і на ўсім свеце, у якіх [redacted] не буду...

•••••

Пасляваенны расказ паэта Дзімы Кавалёва, як яны, група паўночных марачкоў, не маглі прабіцца ў кінатэатр. І прыдумалі выхад — усе ордэны і медалі, якія ў каго былі, начапілі аднаму, і ён, ушчэнт абвешаны ўзнагародамі, важна прайшоў да касы і, на вачах усёй здзіўленай чаргі, узяў білеты, колькі іх трэба было.

Можа, і зусім не нова гэта, як выдумка. Ды мне помніцца перш за ўсё Дзімаў смех — шыракаротахлапчукоўскі.

•••••

Бабулі за восемдзесят, і шкада яе, і не надта прыемна слухаць, а яна расказвае выпадковай, інтэлігентнай суседцы ў міжгароднім аўтобусе пра свайго мужыка:

— Ён у мяне другі. На сем гадоў малодшы. Нічога дрэннага не скажу. І бульбы намые, і чыгун паставіць на прыпек. Глядзіць мяне. А тады гэта, ведаеце, хоча, каб я пад яго ішла. А мне ўжо яно і не трэба...

•••••

Злосны шэпт над магілай, у якую апушчана труна:

— Куды ж вы ўжо сыплеце тымі жменямі пясок?! Бацюшка ж яшчэ магілу не запячатываў!.. Божа, які дурны народ пайшоў!..

Папу далі рыдлёўку, ён намеціў ёю крыжыкі з усіх чатырох бакоў ямы — магіла ўжо і «запячатавана».

Сучаснікам трэба каму вучыцца, а каму і перавучвацца. А той, што шэпча, і зверху нарэшце пабыць.

•••••

Тое, што значна пазней стала ў «Птушках і гнёздах» скарочаным раздзелам пра маленства («Падарожжа ў найлепшае»), напісана было ў сорак трэцім годзе. Пасля вайны я хацеў гэта выдаць у асобнай кніжыцы па дзіцячай рэдакцыі. Яе спаважны, акулярысты загадчык даў мой рукапіс на «закрытую» рэцэнзію памочніку сакратара ЦК партыі, вядомаму п'яніцы і бабніку. Рэцэнзія тая, літаральна палавіна старонкі машынапісу, была мне паказана і нават растлумачана самім румяным рэцэнзентам. Прычэпка толькі ў двух месцах — да слоў «стаў ракам», а ў іншым месцы «напёр», пра якія ён, заслінена смеючыся, выклаў свой сэнс.

— Нічога, ты чалавек здольны, напішаш яшчэ!..— такая пацеха на будучыню. А ён сваё ўзяў адразу.

З першай кнігі маіх апавяданняў той раздзел-апавяданне пад назвай «Маленства» зняла цэнзура. Там у мяне бацька, нядаўні чыгуначнік, прыехаўшы з лесу, у адказ на сыночкаў стук у акно і крык радасці, прыціснуўся да шыбы з двара сваёй старой адэскай каракулевай шапкай.

— Что, у крестьян в Западной Белоруссии были каракулевые шапки?! — абурылася цэнзарка.

І так вучылі нас пісаць.

•••••

Каля вялізнай стадолы «шпікняра», гандлярскага свірна збожжам, злосны яўрэй Ка́смай, гаспадар стадолы, тузаецца з наравістым канём, які

не даецца ў аброць. Нашы загорскія мужчыны стаяць паблізу, спыніліся, ідучы ў царкву, пагаманіць са знаёмымі з іншых вёсак. Вусаты, ганарысты Данька, унтэр з царскай арміі, гаворыць Касмаю: «Взнуздай его, взнуздай!» Выразна задаволены веданнем гэтага слова. Той «взнуздал», нарэшце, і спытаўся: «Вы, видимо, жили в городе?» — «Да, жил»,— адказаў наш вусач, нічога не падазраючы. А Касмай, яшчэ ўсё чагосьці злосны: «И я тоже там жил, и таких дураков, как вы, видал очень много!..» І пайшоў.

Даўнюю гэтую сцэнку, расказаную мне старэйшым братам, я днямі прыгадаў, пачуўшы ад N. пра іхняга лацініста. І я ж знаёмы з ім, вітаемся пры сустрэчы. Неяк нават ён расказаў мне, што бацька яго, на былой Станіслаўшчыне, дружыў з навелістам Стэфанікам. А сам ён закончыў Кракаўскі універсітэт. Дык вось у яго разам з маёю N. вучыўся, паступіўшы па блату, цераз сястру-выкладчыцу, кучаравы здарапа тупы Калупан. Глядзіць на яго няроcлы выкладчык свяшчэннай лаціны і кажа:

— И что я скажу вам, Калупан. У нас с моей женой, к большому сожалению, нет детей. Мы так горюем от этого! Но как только я подумаю, что они у нас были бы, и что они пошли бы в школу, и что у них учителем были бы вы, Калупан, так мне становится легче, что их у нас нет...

Два прыклады яўрэйскага гумару — местачковага і сталічнага.

•••••

Сын аднаго з нашых пісьменнікаў, былы «афганец», перад тэлевізарам. Там пакалечаныя афганскія дзеці. І хлопец расплакаўся:

— Я ж быў мінёрам!.. Можа, і гэта мая работа!..

•••••

«Гуртам добра і тату біць».

П'яніца і лайдак часта біў жонку. І вось сыны падняліся і так нядаўна ўтраіх з мамай аддубасілі бацьку, што ён адразу хораша пацішэў.

І што ты зробіш з гэтым фальклорам!..

•••••

З кожнай бліжэйшай вёскай звязаны нейкі мясцовы фальклор.

Праязджаючы каля Залужжа, якое, цераз Мір, васемнаццаць кіламетраў ад нашага Загора, успамінаю часам такое:

Як старая дзеўка Адара выйшла замуж у гэтую вёску, але неўзабаве вярнулася, нават уцякла. Калі бацькі яе пасля сватання ездзілі на «гледзіны», жаніх той папераварочваў у свіронку «пасы», вялікія бочкі на збожжа, дагары дном і на донцы панасыпаў дзе жыта, дзе ячменю, дзе пшаніцы. А потым аказалася, што ён і гультай, і жулік, і, ад гэтага, галадранец...

Другое, што ўспамінаецца,— псаломшчык, дзіўнагалосы ды мнагадзетны, барадаценькі Шыбут, якога ў Залужжа перавялі з Турца. Неяк зімою ў трыццаць чацвёртым годзе мы разам з ім ішлі ад Загора да Міра, адзін за адным узбоччам гасцінца, і ён, голас якога змалку хваляваў мяне, школьніка, у царкве (маці мая пра той тэнар: «Ліецца, як вална»), ён мне, ужо як дарасламу, нягучна скардзіўся, ідучы спераду, на долю:

— Как заяц, бегаю вот по снегу!..

Гэта я нават тады запісаў у адным з тых сшыткаў, якія ў вайну прапалі.

І яшчэ адно — на ўзгорку, трохі наводшыбе ад Залужжа, стаяў перад вайной вятрак, які пасля камусьці спатрэбілася зняць. А з памяці — не вымеш.

•••••

Надзяваючы наручны гадзіннік, як апошні штрых ранішняга туалета: «Вось і запрогся на новы дзень!»

•••••

«Ці з вашых, ці з нашых — як слаб, то слаб!» — з маленства чутае ад местачковых яўрэяў.

•••••

Прачытаўшы, што N. на восьмым дзесятку выйшаў з партыі, смешна падумалася: колькі ўсяго ўсялякага ён набраў ад яе?! Лаўрэацтва, геройства, акадэмічнасць, прэзідыумы, замежныя паездкі, бясконцыя выданні! Пара і адпачыць. З удзячнасцю?..

•••••

Ілья Гурскі, спачатку драматург, пасля празаік, таксама без поспеху, стомлена-флегматычна абараняўся ад крытыкі:

— Ат, хлопцы, усе мы добра пішам!..

Бадай што так яно ў нечым у нас і сёння.

•••••

«А гэта ў іх адна сральня!» Зноў жа груба па-народнаму, у сэнсе — адно кодла. «В Москве необходимо прежде всего иметь свое кодло!» — першае, што ўцяміў, перабраўшыся туды, адзін з нашых «рускамоўных».

•••••

На юбілейным банкеце, у прасторнай зале прыёмаў гансцініцы «Беларусь» пачаліся танцы. Ансамбль «Купалінка» выступаў перад гэтым, быў, так сказаць, на працы. Пасля артыстам прапанавалі перакусіць каля стала (фуршэт), вядома ж, і прыгубіць. Адтуль хтосьці запрасіў бойка галасістую артыстачку на вальс.

Пасля рабочага спявання ды бясконцага выбівання чачоткі яна святочна расслабілася і, хораша адкінуўшыся торсам на руку кавалера, так свабодна і лёгка пайшла ў сваім палескім нацыянальным касцюме пад слаўную мелодыю «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы!..», што вось і помніцца мне, час ад часу міжволі бачыцца, ужо больш за год.

•••••

Унуку толькі дзевяць гадоў, а ўспамінае з паблажлівым смехам, як ён тады, калі быў малы, маляваў чалавека і спытаўся ў мяне: як гэта вусы — над губою ці пад губою?

•••••

Тарбахвацтва кіношнікаў.

Алесь Адамовіч расказваў, як на здымках фільма па яго раманах падвяла даччына тэлеграма, колькі той дзень нараджэння каштаваў яму — на такую кампанію! — цяля і скрынка гарэлкі. А карціна ўсё роўна выйшла слабая.

Збіраючы матэрыял для кнігі «Я з вогненнай вёскі...», мы за чатыры гады разоў са тры згадзіліся ў людзей на перакуску. А Віктар Дашук, зняўшы тое, што нам расказвала Вольга Мініч, заказаў ёй — «для карціны»! — цэлую трызну: доўгі стол з вульгарнымі паўлітрамі і шчодрай вясковай закускай.

•••••

Зноў прыгадаўся бяздарны і напышлівы А. С., з яго пасляваеннай юнраўскай янотавай «шубай»,— як ён у выдавецкай бухгалтэрыі ідзе да касы без чаргі, а Толя Вялюгін гучна кажа:

— Во як, чрез головы поэтов и правительств!.. Бо ў чарзе той былі і народныя, і дэпутаты. А ў яго ўсяго тых «творчых» заслугаў, што з пасады інструктара ЦК партыі быў прысланы ў Саюз пісьменнікаў перад вайной, каб лячыць нашу недабітую літаратуру ад «нацдэмаўскага ахвосця» — так пісаў ён пра гэта ў «Літаратуры і мастацтве».

•••••

Часта ўспамінаецца зімовая ноч, калі партызаны грамілі загорскую самаахову. Як пятнаццацігадовы суседаў сын крычаў у цемру: «Та-та-а!!», не ведаючы, куды падаўся або дзе апынуўся бацька, з паліцыяй ён ці з партызанамі, і куды ж дзявацца яму, падлетку, калі яшчэ і мама, і меншых трое, якія ад страляніны пахаваліся ў пагрэбніку...

Забіты салдат пры дарозе, няхай сабе і нямецкі, які цяпер, у маім уяўленні, калі і мой сын у прыблізна такім узросце, выглядае зусім інакш...

Як я «расту» ў сваёй любові да хлопчыкаў, хлапчукоў ды хлопцаў — па меры таго, як расце, сталее мой сын. Народнае: «Выгадуеш свайго — паглядзіш!..»

•••••

Прыязна ўсмешлівы Іосіф Варановіч, аграном яшчэ дарэвалюцыйнай вывучкі, да якога я прыехаў у былы «Кашчычаў двор», не зусім разбураны вайной магнацкі маёнтак, ператвораны ў сядзібу

МТС. Прыехаў — каб напісаць для «Праўды», па заказу, нарыс пра новае пасля славутага верасьнёўскага пленума пяцьдзесят трэцяга года. Былі цікавыя гутаркі з ім, [redacted] таксама з найлепшым трактарыстам, Каціным Шурай з нашага Загора, нядаўнім франтавіком, сціплым хлапчынай з працавітай вялікай сям'і.

Нарыс, як мне пасля пазванілі з рэдакцыі, «удаўся», аднак [redacted] «сёмы ў чарзе, у якой нават Максім Рыльскі». Падзеі тады, у першую пасьлясталінскую адлігу, нагрувашчваліся адна на адну вельмі хутка. І неўзабаве мне знаёмы праўдзінец прыслаў карэктурны адбітак нарыса, які, «на жаль, не паспелі выкарыстаць». Няёмка было перад Варановічам, а яшчэ больш перад Шурам, сябрам маладосці, і той адбітак я паслаў яму. Пазней, сустрэўшыся з ім, спытаўся, ці атрымаў, а ён, не надта разумеючы маё тлумачэнне, спытаўся з яшчэ ўсё свежым недаўменнем:

— А чаму ж гэта, Ваня, напячатана толькі на адным баку?

Ён, Шура,— бацька майго маладога сябра, артыста і паэта Пятра Ламана, з якім мы нядаўна хораша пасмяяліся, успомніўшы тое недаўменне.

•••••

**Майсей, прыемны мірскі жыдок, які на працягу многіх гадоў неаднойчы купляў у нас то цяля, то быка, перад гэтым доўга і пацэтна для мяне, хлапчука, таргуючыся са старэйшым братам Мікалаем. Сустрэў мяне пасля ўцёкаў з палону, увосень сорак першага, і ледзь не шэптам пытаўся, што з імі будзе — з яўрэямі? Як быццам я мог ведаць!.. Пасля прыйшлі пагромы ў нашых мястэчках, адзін за адным — у Турцы, Міры, Ярэмічах. І вось мне зноў чуецца той ягоны шэпт, жудасна недагаворанае пытанне...**

•••••

На пахаванне майго сябра-партызана з Дона прыехала са спазненнем яго сястра. Пайшла туды са сваякамі, некаторымі, і папрасіла, каб яны пакінулі яе над магілай адну. І яны чакалі доўга і цярпліва, пакуль яна там, воддаль, адвылася ў галашэнні...

І натуральны жаль, і звычай яго родных мясцін.

•••••

Улетку сорак чацвёртага з адным супрацоўнікам мірскай раённай газеты мы зайшлі ў Мінску да нашай нядаўняй штабной машыністкі, якая кватаравала ў знаёмых ёй партызан. Там і пераначавалі.

Уранні гаспадар некуды пайшоў, мы засталіся з жанчынамі. Па кавалерскай дурноце я ўзяў са сцяны гаспадароў аўтамат, праверыў, што ён незараджаны, і лузгануў на вясёлую, кампанейскую Гіту: «Я вось табе!» І — гахнуў стрэл!.. У патронніку быў патрон, чаго я, «знаўца», не заўважыў.

Дагэтуль помніцца горка і страшна, як нас «Бог усцярог». І мяне, і яе, тую шматпакутную разумную дзяўчыну, якая і з гэта ўцякла, і, між іншым, пад маю дыктоўку цэлымі днямі перадрукоўвала ў пушчанскай зямлянцы мае рукапісы для пасылкі іх на Вялікую зямлю.

•••••

Адзін з маіх украінскіх сяброў, Леанід Навічэнка, едучы машынай, з жонкай і падлеткам-сынам на Рыжскае ўзбярэжжа, спыніўся ў Мінску. На вячэры ў мяне я меў прыемнасць пазнаёміць гасцей з Фёдарам Янкоўскім, і той запрасіў нас, мужчынаў, парыбачыць заўтра на Астрашыцкім возеры.

Спачатку трэба расказаць, як ён, Фёдар Міхайла-

віч, аднойчы быў пазваніў мне, таксама ўлетку, калі абодва мы былі дома адны, без сямейнікаў,— папрасіў абавязкова і неадкладна прыехаць да яго. Заінтрыгаваны, я паехаў. І ён — пры ўсёй сваёй сціпласці — ледзь не па-напалеонаўску паказаў мне на кухні два вялікія тазы вялізных, як на падбор, ляшчоў. «Астрашыцкія!..» Браць больш, чым аднаго ляшча... ну, няхай сабе два на мой адзін дзень у горадзе, я адмовіўся, і трыумфатару прыйшлося званіць іншым сябрам. Клопат... Бо некаторыя таксама ж у горадзе не сядзяць.

І вось два высакакласныя рыбакі і шаноўныя навукоўцы пагодлівым адвячоркам селі на возеры ў адну лодку, а мы з Лёневым шафёрам у другую. Неўзабаве сёе-тое пачало брацца — у шафёра, толькі ў яго... Так сабе драбяза. Вучоныя мужы маўчалі воддаль. Напуста. Выкарыстоўваючы такую ціхамірнасць, да нас падплыла ідылічная чародка чысценькіх, не надта гаманкіх гусей. Чамусьці ім спадабалася наша з шафёрам лодка, яны акружылі яе няспешна, блізенька каля яе, дабрадушна пагегваючы.

І тады я цапнуў цераз борт гусака за шыю, узняў над вадой і спытаўся:

— Федзя, а такую будзем браць?!

Было трохі смеху. А потым пустое вяртанне.

•••••

Танк з сямейных успамінаў пра «мікалаеўскую» вайну, пра іхняе бежанства ў Маскве, расказваў, як два пількаўцы, салдаты, выпадкова сустрэўшыся ў той Маскве, вельмі ж усцешыліся. Селі чысціць бульбу. Зірнуць адзін на аднаго, засмяюцца і абіраюць далей. Зноў зірнуць, засмяюцца і абіраюць. А гаварыць як быццам і няма пра што...

Бывае і такое пры сустрэчах. А потым добра помніцца.

•••••

Па радыё — поп пра нашу Ефрасінню, што яна не беларуска, бо маці яе з нарманаў, так сказаць, варàжка.

А ўчора, па тэлевізары, віншуючы мінчан з пяцідзесяцігоддзем вызвалення ад фашысцкай акупацыі, другі баця барадата даводзіў, што «раньше была Русь, которая называлась СССР, опять будет Русь, единая и неделимая».

•••••

У «Спадчыне» (№ 4 за 1994 г.) спадар Малэцкі ва ўспамінах «Пад знакам Пагоні» піша, што канцлагер у Калдычэве быў пераходны. Дваццаць дзве тысячы закатаваных — пераходна, як між іншым, на хаду.

•••••

Мезальянс па-сучаснаму. Сын закончыў інстытут, а нявестка толькі тэхнікум. І маці-свякроў у адной асобе, хоць у самое толькі сем польскіх класаў, са злосцю ў падтэксце бядуе: «Не з тае нагі ён пайшоў!..»

Ад гэтага і пачалася варажнеча — паміж самімі маладымі і ў нявесткі са свякроўю.

•••••

Зноў і зноў сустракаючы ў маладога празаіка пра так званы секс, успомнілася пастушынае: «Міша х... піша». Тут яно, няхай сабе і па-дурному грубае, зусім дарэчы. Бо не розумам, не сэрцам піша новы кандыдат у геніі.

•••••

Саліст вядомага ансамбля і так няросленькі, а яшчэ ж у яго пад нармальным мужчынскім корпусам — кароткія, неймаверна быстрыя ножкі, якія ў танцы пытлююць да нейкай няёмкасці ненатуральна, нібы ў такой мультыплікацыі, ці што. А да нармальнага мужчынскага стану — яшчэ і вусы, і рускі «картуз» з вялікай чырвонай кветкай, і нерухомая важнасць у выразе твару. Кажуць, што ён ужо на пенсіі, а вось жа яшчэ ўсё пытлюе боцікамі. Незвычайнае — не абавязкова прыгожае.

•••••

Ранняя раніца ў пасёлку. Чуваць: у суседа за агародамі-садамі гыркае, не заводзіцца трактар. Малады шафёр з гарадка, талковы мужчына, што начаваў у мамы, смяецца мне:

— Сам ён учора выпіў, а яму не даў!

Пра трактар і трактарыста.

Музыка тэхнічнай сучаснасці тэрарызуе грукатам вечна-ўрачыстую цішыню вераснёўскай пагодлівай раніцы.

•••••

Дзеду Ролічу, славутаму нарачанскаму рыбаку, улетку пяцьдзесят сёмага было ўжо за восемдзесят. У доме адпачынку частавалі абедам гасцей-пісьменнікаў, удзельнікаў дэкады ўкраінскай літаратуры на Беларусі. Хтосьці з абласнога начальства дадумаўся, а можа, і калектыўна такое вырашылі ці нават з Мінска была падказка,— паказаць братам-украінцам удзельніка дый героя гістарычнага рыбацкага паўстання пры панскай Польшчы. Не адразу

паказаць, а так — па ходу справы, даўшы яму слова. І пралічыліся, бо дзед тым часам, пакуль іншыя выступалі, і выпіў сабе ў ахвоту, і закусіў, і калі яго паднялі на тост, амаль адразу пачаў адхіляцца ад таго, што яму папярэдне ўтлумачылі.

— Як было ў нас тое ўставанне,— гаварыў ён, узвышаючыся над шматлюдным сталом,— дык і мяне пагналі ў пастарунак, давай ластажыць бізунамі. Ты, кажуць, камуна, халера ясна! А які ■ камуна? На чорта мне тая камуна?!

Таварыш сакратар абкома па прапагандзе і агітацыі, дзедаў сусед цераз два чалавекі, адчуў небяспеку, пачаў дапамагаць яму падказкамі:

— Нет, вы им тогда говорите...

— Я ж і кажу: на чорта мне тая камуна?!

Прыйшлося дзеду падзякаваць без пары, пакрыць накладку іншым тостам. А неўзабаве дзед, кульнуўшы за шчаслівае заканчэнне такой непрывычнай работы, ціха шуснуў пад стол. Усё-такі стома, гадочкі. Паднялі, з пашанай вывелі адпаведныя хлопцы.

А мне пасля, калі пісаў з яго старога рыбака ў апавяданні «Надпіс на зрубе», даўшы яму і прозвішча іншае, і любую ўнучку ў лодку, расказ пра ўдзел у паўстанні прыйшлося выкарыстаць з папраўкай — без таго беспартыйнага, цёмнага чорта.

•••••

Сама спаважная, хто яе не ведае, дык нібы і злосная заўсёды немаведама чаго, а вось расказвае і смяецца:

— Адзін вып'е, дык біцца лезе, плявузгае, што сліна вярзе, другі ўжо і спіць, сапе-храпе за сталом, а мой... Мой усіх бабаў на той бяседзе перацалуе!..

*(Паўза на смех.)* І сваіх, і чужых, каторую дык першы раз бачачы... *(Зноў паўза.)* І няхай сабе!.. Бо ж і спявае яшчэ, заўсёды адно: «Бацька добры, бацька добры, а маці ліхая!» Што пра сябе, што пра мяне... Смех, дый годзе!

•••••

Як жа даўно гэта было! — вясною сорак сёмага. Можа, таму і помніцца так светла, што гэта была маладосць, дый не толькі мая, але і ў нашмат старэйшых сяброў, з якімі і я прыехаў у Брэст, праводзіць нараду маладых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Прыехалі мы даволі вялікім гуртам, і здарылася так, што месцаў на ўсіх у гасцініцы не хапіла і нас трох — Піліпа Пестрака, Васіля Вітку і мяне — памясцілі ў нейкім доме пры абкоме партыі, у вялікім светлым пакоі.

Вітку я тады ведаў меней, ён мне нават здаваўся залішне строга маўклівым, і ў жыцці, і ў паэзіі. А Пестрак не даваў нам дапозна заснуць сваімі, амаль заўсёды цікавымі, апавяданнямі з падпольнай, турэмнай, партызанскай і проста палескай мінуўшчыны, на што ён быў майстрам, з тых, у каго на паперы тое самае выглядае значна сушэй і шарэй.

У нядзелю раненька мы вырашылі, па дарозе ў гасцініцу, да ўсёй грамады, збочыць на рынак, балазе недалёчка. Сонечны дзень, зеляніна, росквіт. Каля базару прыгожая царква. Людзей ужо сабралася.

Піліпу Сямёнавічу мала было таго, што дзеля свята ён купіў сабе букецік ландышаў,— пачаў агітаваць нас выпіць у вясковай цётачкі смятаны. Свежай ды нашча — цуд!.. У цёткі шклянка была адна, пачостак мы пачалі з найстарэйшага, тым больш іні-

цыятара. Толькі ён тую поўную шклянку важна прыклаў да вуснаў — чыста паголены, з белым адкладным каўняром кашулі, пад светлым капялюшам — да нас падышла маладая, бойкая барынька. Спыталася пра цану, паспытала пальчыкам на кончык языка і папрасіла намераць ёй дзве шклянкі ў слоік.

— Ой, мілая! А ў мяне ж шкляначка толькі адна. Вось ужо, можа, пачакаеце, пасля іх.

Яе гаворку я, за даўнасцю, перадаю з мясцовага па-свойму, толькі па сэнсу. А вось абурэнне той барынькі, хутчэй за ўсё афіцэрскай жонкі, дагэтуль чую дакладна:

— Как это — после него! А если у него сифилис?!

З ландышамі ў адной руцэ, з толькі што ўрачыста прыгубленай шклянкай у другой, Піліп Сямёнавіч тыя рукі прыўзнята развёў, гладкі твар саракатрохгадовага сангвініка, што перамог больш за дзесяць гадоў панскай турмы, твар ускінуў у вясёлым здзіўленні, па-свойму непаўторна вымавіў «пс-с-ст!» і зарагатаў, паспеўшы сказаць:

— У мяне — сіфіліс?!

І столькі было ў гэтым здзіўленні натуральнай шчырасці, столькі неадпаведнасці ў такім недарэчным меркаванні тое барынькі, што ўсё гэта помніцца мне... ну, жыва стаіць у вачах, ажно, нарэшце, вырашыў запісаць.

•••••

У канцы сорак сёмага года Вялюгін, Кірэенка і я былі на з'ездзе таджыкскіх пісьменнікаў, тады — у Сталінабадзе. Гасцей з розных рэспублік раскошна размясцілі на прыгараднай дачы Савета Міністраў.

Быў у тым ліку і Абулькасім Лахуці, які прыехаў з Масквы, дзе ён жыў. Дарэчы, на развітанні ён падарыў мне сваю кнігу на мове фарсі, з аўтографам па-руску: «Дорогое Янко Брил, милий как Минск...» У якім ён перад вайною бываў. Нехта нам сказаў, што падоранае яму Сталіным фота стаіць у яго на стале не тварам правадыра, а адваротам наперад,— каб бачылася напісанае. Пайшла была чутка, што гэтаму, як нам думалася, старому класіку якраз спаўняецца шэсцьдзесят гадоў. А Саюз пісьменнікаў Таджыкістана да гэтага абыякавы. Паэт Турсун-задэ, ён жа і старшыня Саюза пісьменнікаў, потым, калі мы, тры беларусы, у падарожжы машынай на поўдзень рэспублікі, спыталіся ў яго, чаму гэта так, не надта выразна і ахвотна адказаў: «У него уже несколько раз был этот юбилей...» Словам, абышлося з юбілеем без Саюза, сіламі гасцей. Пашаптаўшыся, госці з ініцыятывы аўтарытэтных масквічоў — Луцыяна Клімовіча, Сяргея Барадзіна, Паўла Лукніцкага, вядомых знаўцаў Сярэдняй Азіі, і з'едліва вясёлага дэмакрата Паўла Ніліна, які нам найбольш з масквічоў спадабаўся,— тое шасцідзесяцігоддзе вырашылі экспромтам адзначыць у саўмінаўскай сталовай, на вячэры, балазе такі банкет нічога нам не каштаваў.

Былі высакапышныя прамовы, тосты. Збоку юбіляра былі па-ўсходняму юрлівыя прапановы: «Выключыць святло, кавалеры цалуюць дамачак!» Потым — наадварот. Дамачак — дэлегатак з'езда не хапала, былі падключаны афіцыянткі, нават і пажылая бухгалтарка.

А дырэктар урадавай дачы, малады, знешне прыстойны беларус, аршанец, раз-поразу ірваўся сказаць тост. Калі ж, нарэшце, дамогся, дык і сказаў:

— Дорогие товарищи, я предлагаю почтить память нашего дорогого товарища Лахути вставанием!..

І тут узвіўся адчайна-вісклівы крык юбіляра:

— Сволошь! Я еще жив!..

Гэта мне — да рогату ясна — прыгадалася днямі, калі ў групе сяброў паныла гаварылася пра нашу беспрасветнасць. Прыгадалася з думкай пра таго, чортведама як зменліва-калектыўнага і разам з тым нібы сабранага ў адну асобу, хто давёў, даводзіць нас да гэтага, мне захацелася крыкнуць — дома ўжо, за рабочым сталом:

— Сволошь! Я еще жив!..

# Жывыя пісьмы

За паўстагоддзя сябравання іх сабралася дзве пакоўныя папкі, яго і маіх. Хораша і сумна было мне перачытваць іх, а часам яшчэ і балюча. Няхай сабе мы, хто старэйшы, і прызвычаены лёсам да розных udaраў, няхай сабе неўзабаве будзе цэлы год пасля яго адыходу, а ўсё ж балюча дакранацца да раны, якая яшчэ ўсё свежая...

Так сказаць, рэгулярная перапіска ў нас з Каляснікам пачалася з прыходам разлукі, пад восень 1952 года, калі Валодзя быў пасля аспірантуры накіраваны на працу ў бабруйскі настаўніцкі інстытут, а праз два гады ў брэсцкі педагагічны. Там ён, у «горадзе над Бугам», і ўгрунтаваўся на ўсё жыццё, там і спачыў пасля доўгіх, цяжкіх пакутаў.

Разлука наша не была, вядома, суцэльнай. Я наведваў яго ў Бабруйску, ён прыязджаў у Мінск. За сорак наступных гадоў мы даволі часта сустракаліся то ў Брэсце, то яшчэ часцей у Мінску. Былі ў нас сумесныя падарожжы і адпачынкі. Падарожжы бліжэйшыя, па роднай Наваградчыне, і далейшыя, то ўдвух, то сем'ямі, то ў сяброўскай кампаніі. Па Літве і былой Усходняй Прусіі; па Валыні, Львоўшчыне і Закарпацці; па Узбекістане, ад Ташкента да Самарканда; па Волзе ад Масквы да Астрахані і назад; па

Карэліі, з Кіжамі і Салаўкамі ўключна. На працягу 1970—1973 гадоў летнімі тыднямі мы сустракаліся з ацалелымі жыхарамі беларускіх «вогненных вёсак». Адпачывалі разам над Нёманам і Шчарай, на Нарачы і Свіцязі, у Юрмале і Каралішчавічах. А яшчэ ж і паходы і выезды на рыбалку: Нёман, Прыпяць, Ясельда, Рыта, Лясная, Сервач, Кромань...

Колькі было перагаворана — каля надрэчнага вогнішча, на лясной дарозе, на свежым сене гумнаў, у хатняй утульнасці, пры настольнай лямпе і без яе, у начной цішыні то ў яго, то ў мяне, то ў нейкай незнаёмай да таго сціплай гасцініцы. Мужчынская шчырасць дружбы. «Падабенства сэрцаў», як напісаў мне на сваёй першай кнізе яшчэ адзін наш Валодзя, Караткевіч.

І чыталася, і чулася, і самому думалася так: раней людзі хадзілі, ездзілі на конях і ўсюды паспявалі. Тэлефонаў таксама не было, былі пісьмы. Былі і засталіся. Больш у вялікіх папярэднікаў, менш у сучасных.

За дзевяць месяцаў апошняй разлукі я двойчы пераглядаў нашу перапіску: спачатку па зразумелай душэўнай патрэбе, а потым, паабяцаўшы «Крыніцы» зрабіць для яе публікацыю. Не адступаючы ад гэтага намеру і абяцання, я ўсё ж то турботна думаў, што такое лепш было б зрабіць камусьці трэцяму паміж намі, з зацікаўленым позіркам збоку, то зноў шукаў адпаведнага падыходу, памятаючы, што сам я павінен тут гаварыць перш і больш за ўсё пра яго, а гэта якраз і нялёгка, калі думаць пра патрэбную паўнату паказу.

Была ў мяне публікацыя перапіскі з Караткевічам, аднак там знайшоўся той неабходны трэці, дакладней трэцяя,— закаханая ў родную літаратуру, талковая, кваліфікаваная Людміла Мазанік. Я памагаў ёй толькі патрэбнымі заўвагамі. Дый пісем там было значна

менш, і былі яны менш складаныя, даць іх у альманах «Шляхам гадоў» за 1990 год было значна лягчэй, чым бачыцца ў гэтым выпадку.

Словам, выходжу да чытача з пэўнай трывогай, спадзеючыся на прыхільнае зразуменне.

Перапіска наша, мне думаецца, творчая, у тым сэнсе, што яна была своеасаблівым, дадатковым працэсам творчай працы нас абодвух. Мы дзяліліся задумамі, чыталі адзін аднаго не толькі перад здачай таго ці іншага матэрыялу ў рэдакцыю часопіса, газеты ці ў выдавецтва, [redacted] ў самых першых варыянтах, не скажу сырых, але першапачатковых, яшчэ гарачых ад аўтарскай рукі.

Найменш было ў нас, а то і зусім не было нейкага тэарэтызавання, тым больш павучання адзін аднаго. Праўда, і з некаторымі зрывамі, якія пагоды не рабілі.

І не толькі па-дзелавому пісалі мы адзін аднаму,— і паскардзіцца на цяжкае ці крыўднае таксама ж трэба было, няхай не пад бацькаву дужую і цёплую далонь падстаўляць галаву, але ж далонь сяброўскую адчуць у поціску — гэта ж таксама патрэбна, нармальна. Амаль усе мае творы, чытаючы іх у розных варыянтах машынапісу, ён сустракаў не толькі прыязнасцю, але і крытыкай, часамі суб'ектыўна завострай, па дружбе з поўнай свабодай слова, аднак у сутыкненні з маёй самастойнасцю ён, па натуры гарачы, не ганарыўся і прызнаць сваю памылку ці памылкі. Часамі нават і залішне каяўся, наракаў на самога сябе.

Так, напрыклад, было з першым варыянтам аповесці «Ніжнія Байдуны». У маі 1975-га я пісаў яму:

«...Дарэмна Ты папракаеш сябе. Дагаварыўся нават да ... дыскваліфікацыі... А чаму не прасцей, што кожны мае права на сваю думку? Апроч Цябе, чыталі

Саша*, Федзя**, Скрыган, Ніна***, Якуб****, Бярозкін, Караткевіч. У кожнага былі свае заўвагі. Саша і Якуб лічаць лепшым пачатак, першую палавіну. Ты і Ніна — другую. Скрыган, Караткевіч і Бярозкін хваляць усю рэч. А мне прыйшлося яшчэ трохі з ёю памарочыцца — і ў кампазіцыі, і ў дробязях. І ўжо вось зноў зманлівае адчуванне, што ўсё, можна здаваць у часопіс... Апроч таго, што і людзей добрых паслухаць хочацца і трэба, дый прывык я да гэтага, трэба ж яшчэ і не згубіць таго, што бачыцца самім сабою, невыказанае да канца. І гэта не ўсё яшчэ,— я пісаў паралельна апавяданні, таксама не да канца ўпэўнены ў тым, што гэта сапраўднае, [redacted] рабіць хацелася, чаго я даўно так шчасліва не адчуваў... Словам — я пра тое, што Ты дарма сябе папракаеш. Мне добра, што ёсць з кім дзяліцца, ёсць каго паслухаць, ёсць каму па-сяброўску падзякаваць. І добра, што ёсць трывога на душы, калі дасі таварышу, а потым слухаеш яго. З Федзем, які другі, пасля Сашы, прачытаў, мы даўгавата хадзілі па парку, і пэўная стрыманасць яго пайшла мне на карысць таксама».

Так нядаўна гэта было, дваццаць гадоў таму назад, калі мелася каму даць на суд толькі што зробленае, калі ў цябе, скажам з журботнай усмешкай, быў свой «уласны саюз пісьменнікаў», саюз сяброўскага ўзаемаразумення. Імёны, якія я назваў вышэй — Бог мой, якая гэта талака, якая помач!.. А цяпер?.. Выходзіш да чытача старонкамі часопіса ці кнігі, і сцішнавата на душы, як неапранутаму ў золкі дзень, як выштурхнутаму з-за кулісаў на зыркае святло рампы,— такі вось мінус старасці, сяброўскай адзіноты.

---

* Саша — Алесь Адамовіч.
** Федзя — Фёдар Янкоўскі.
*** Ніна Міхайлаўна — жонка Я. Брыля, педагог.
**** Якуб Герасімовіч Міско (1911—1981) — журналіст.

Адарванасць ад маладзейшых па сваёй віне? Тут цэлы комплекс віны-нявіны, а перад усім — халодная заканамернасць, асіраценне ў сваім пакаленні...

Над старонкамі нашых пісьмаў думалася:

Не, не мне ж самому пісаць пра ўсё тое добрае, што ў яго пісьмах сказана пра мяне, маю працу!

Дадам: а што ж рабіць, калі тое добрае здаецца табе не проста справядлівым, але ж, магчыма, патрэбным для кагосьці іншага, хто прачытае гэта са шчырасцю, блізкай да тое, з якою ты прапануеш наша ягонай увазе.

Тут будзе пісьмо Уладзіміра Андрэевіча ад 2 студзеня 1966 года, у адказ на маё, якое ў яго багатым архіве пакуль што не знойдзена. Там я пісаў яму, што рыхтую прапанаваны мне выдавецтвам чатырохтомны збор твораў, падзяліўся з сябрам гэтым клопатам.

«...Тваё пісьмо мяне ўзрушыла і ўсхвалявала той глыбінёй і святасцю adносін да літаратурнай справы, якая ў наш час, на жаль, не ўсюды і не заўсёды сустракаецца. Вульгарызатары вельмі шмат нарабілі зла, унушыўшы пасрэдным рамеснікам погляд, быццам літаратура і ёсць рамяство, сутнасць якога заключаецца ў лоўкасці пераказу агульнавядомых палажэнняў сацыялогіі на мову наглядных вобразаў. Гэты погляд і зручны, і выгадны для людзей, якія робяць творы «без божества, без вдохновенья», бо ён аблягчае ім занятак і заробак, а галоўнае — ураўнівае пасрэднасць з талентам, рамяство з творчасцю. І ніколі гэтая катэгорыя літаратараў не адступіцца ад мілых іхняму сэрцу прынцыпаў. Барацьба за сапраўднае мастацтва заўсёды была і будзе барацьбой супраць рамяства, якое заўсёды гатова на кан'юнктурныя «подзвігі». Гэта горкая праўда, але ад яе няма куды дзецца. Такое жыццё. Мне думаецца, у гэтай сітуацыі трэба асцерагацца лішняй уражлівасці, хваравітасці, а старацца весці барацьбу сістэматычна

і з такім напружаннем сіл душы, якога вымагаюць абставіны, каб не растрачваць пачуццяў па-дурному. Варта ўлічваць і тую акалічнасць, што такія Карпавы маюць моцныя нервы і самыя сур'ёзныя адносіны да іх тактыкі — гэта іронія. Іронія, на мой погляд, якраз найлепшая зброя, бо яна наносіць удар праціўніку і зберагае агонь душы, псіхічную энергію, якая ў адрозненне ад фізічнай затрачваецца беззваротна.

Я разумею, што Ты перажываеш вельмі адказны этап жыцця і творчасці, падводзячы вынікі здабыткаў напярэдадні пяцідзесяцігоддзя. Шчыра дзякую Табе за давер і жаданне параіцца пры складанні чатырохтомніка выбраных твораў. Мне здаецца, Ты паступіў правільна, падбіраючы творы па прынцыпу найбольшай шчырасці і эмацыянальнасці нагрэву. Адчуваецца еднасць стылю ў шырокім сэнсе гэтага слова — стылю адносін аўтара да жыцця і адбору пэўнага тыпу чалавечых характараў, адлюстраваных у творах...

Адносна «Забалоцця» можна згадзіцца, што там ёсць пэўны налёт ілюстрацыйнасці і тэндэнцыя адбору блікаў, а не ценяў, што прывяло да паслаблення канфліктнасці, а віны тут Тваёй няма, бо сам дух жыцця таго перыяду праяўляўся ў затушоўванні канфліктаў. Канфлікты заганяліся кудысьці ўглыбіню, г. зн., што самыя людзі баяліся ў тую пару быць шчырымі, асабліва ў афіцыйнай абстаноўцы. З другога боку, Ты браў жыццёвы матэрыял у раёне не зусім, можа, тыповым,— сілы, якія маглі б абвастрыць сацыяльны канфлікт, былі зломаны ў нас у час партызанскага руху, і гэта абумовіла адносна лёгкі пераход да калектывізацыі. Так што для раёнаў, дзе ідэі савецкай улады мелі багатыя традыцыі, Твая рэч застаецца праўдзівым адлюстраваннем жыцця. Вобразы, створаныя ў гэтай аповесці, пластычныя і запамінальныя. Па мастацкіх і ідэйных вартасцях яе можна было б уключыць. Толькі, можа, сапраўды распаў-

сюджанасць папярэдніх выданняў гэтай рэчы створыць такое ўражанне ў пакупніка, што гэта свайго роду «дагрузка».

Я хацеў бы параіць Табе ўсё ж заказаць прадмову ці ў Сашы, ці ў Каваленкі, бо Твае аўтабіяграфічныя нататкі не могуць замяніць прадмовы. Ты спасылаешся там на манаграфіі і г. д., але ж, наколькі я ведаю Тваю думку пра гэтыя працы, яны не раскрываюць у поўную меру Твайго пісьменніцкага аблічча. А падругое, не кожны чытач будзе мець мажлівасць і ахвоту чытаць манаграфіі. Яму захочацца проста даведацца, якое месца займаеш Ты як пісьменнік у сучаснай савецкай літаратуры, і параўнаць свае ўражанні і ацэнкі ад прачытаных твораў з ацэнкамі крытыка-прафесіянала. Так што ўступны артыкул абавязкова патрэбны, ён дапаможа фарміраванню больш дакладнага і граматнага пагляду на Тваю творчасць у чытача і будзе спрыяць агульнаму росту чытальніцкай культуры...»

Уздыхнем, падумаўшы: быў жа час, не ваенны, а мірны, калі на адным тыдні, адпісаўшы сябру, можна было атрымаць і ягоны адказ.

Гэта і пра другое пісьмо, ад 8 студзеня 1966-га, вакол той самай справы.

«...Я рады, што Ты згадзіўся са мной наконт прадмовы да чатырохтомніка, і «польщен», што Твой выбар паў на мяне. З прыемнасцю я б заняўся гэтай працай, адлажыўшы на потым Таўлая, але думаецца мне, што я не зраблю таго, што трэба зрабіць і што можа зрабіць Віктар Каваленка. Тут патрэбна, на мой погляд, пэўная дыстанцыя паміж аўтарам і крытыкам, якое мне не хапае ў сілу нашай дружбы. Я буду пісаць пра Тваю творчасць паміма волі залішне інтымна, асабіста, уплятаючы розныя дэталькі і ўражанні, якія мне здаюцца дарагімі з прычыны нашай дружбы, а чытачу яны не абавязковыя ў даным выпадку і мо-

гуць паказацца не да месца. Так што з канчатковым рашэннем падумай.

Я пішу зараз, выбіраючы хвіліны (калі набрыдзе), такое эсэ — не эсэ на тэму «Як і чаму пісаўся раман «Птушкі і гнёзды». Раблю свабодныя экскурсы і адступленні, накрэсліў папутна партрэцік Паўла Жалезняковіча, як мецэната «Жывога і гнілі»,— адным словам, такое маляванне ўпрытык. Не ведаю, што з гэтага выйдзе, але, можа быць, сёе-тое атрымаецца. Закрану і пытанне: матэрыял жыцця — змест твора, чыркану пра прататыпы.

Другая мая патаемная работа пра Тваё і наша — гэта кароценькія эцюдзікі, якія маюцца быць тэкстам да альбома «Сустрэчы з пісьменнікамі цераз аб'ектыў», або «Здымкі без папярэджання», або «Фотасустрэчы з майстрамі слова», або...— назвы канчатковай не прыдумаў. Накрэмзаў першы эцюдзік пра наша гасцяванне ў М. Лынькова, сустрэнемся — пакажу.

Улічыўшы ўсё гэтае, падумай, ці варта мне, настроенаму на легкадумны лад, даручаць такую сур'ёзную працу, як прадмова да этапнага выдання. Чакаю Твайго рашэння».

Я ўсё-такі настояў на сваёй просьбе, і той збор твораў выйшаў з прадмовай Уладзіміра Калесніка.

Як, дарэчы, не згадзіўся з тым, што аповесць «У Забалоцці днее» можна ўключыць у чатырохтомнік.

Трэба, відаць, не ў заўвагах, а тут сказаць пра Паўла Жалезняковіча, нашага старэйшага сябра з партызанскіх дзён. Пра яго мы ўдзячна пісалі з Валодзем абодва,— ён у «Блакадзе», апублікаванай летась часопісам «Беларусь», а я, за трэцім разам, у эсэ «Заказ і просьба», змешчаным у зборніку «Пішу як жыву». У пісьме сваім Валодзя згадвае той факт, што мая аповесць «Жывое і гніль», якая пазней увайшла

ў «Птушкі і гнёзды», у партызанскім лагеры, дзякуючы, у першую чаргу, Жалезняковічу, была перадрукавана штабной машыністкай і самалётам, з акацыяй, паслана з Налібоцкай пушчы ў Маскву, Максіму Танку.

А што да фотаальбома пра сустрэчы з пісьменнікамі — задума гэтая, на жаль, не здзейснілася. Хочацца быць упэўненым — пакуль што. Мноства таленавітых фотаздымкаў у Валодзевым архіве захавалася і чакае свайго часу.

Калі ж яшчэ пра яго шчырую сяброўскую зацікаўленасць у маіх поспехах, дык варта спыніцца на дзвюх рэчах, так сказаць, этапнага характару — на маіх «Птушках і гнёздах» і ягонай манаграфіі пра маё жыццё і творчасць. Да манаграфіі мы вернемся крыху пазней, а пра «кнігу адной маладосці» скажу, што тузаніны ў нас з Валодзем вакол яе было шмат, пакуль не дайшло да канчатковага варыянту гэтай рэчы ў мяне, а ў майго сябра-крытыка да ягоных ацэнак у артыкулах і ў манаграфіі. Тут не месца для апублікоўвання вялікіх дыскусійных пісьмаў, і я хачу даць вытрымку толькі з аднаго пісьма, датаванага канцом снежня 1962 года.

«...Сапраўды, мы нібыта развучыліся пісаць (дакладней сказаць, я развучыўся, і гэта будзе правільна ва ўсіх адносінах). Уласна кажучы, не набралася яшчэ такіх балючых пытанняў, каб карцела сесці за стол ды шкрэбаць гадзіну-другую, адводзячы душу. Мне проста хацелася пачуць Твой голас ды сказаць: жадаю поспехаў, рад, што Табе пішацца!..

Па тону Твайго пісьма бачу, што ў Цябе алімпійскі настрой і алімпійская форма. Вельмі прыемна мне гэта, хоць і пабойваюся, каб не лішне дабрадушны тон запанаваў у мелодыі рамана. Мне хацелася б пачуць у ім адценне іроніі (прадмету духоўнай сталасці літаратуры), накшталт тое, якая ўлоўліваецца, скажам,

у рамане Джузепэ ды Лампедуза «Леапард». Нядаўна я прачытаў гэтую кнігу і хаджу пад яе глыбокім уражаннем. Такой тонкай праніклівасці ў жыццё людзей я не сустракаў у літаратуры. Тым больш выглядае ўсё гэта фенаменальна, што аўтар яе, нейкі італьянскі арыстакрат, напісаў адну-адзіную кнігу ў канцы жыцця. Хочацца пачуць Тваю думку пра гэтую кнігу.

Думаючы пра Твой раман, хацеў бы пажадаць, акрамя пэўнай дозы халодных таноў, яшчэ і суровай прастаты талстоўскага тыпу, якая, на мой погляд, дужа свежа прагучала ў аповесці Салжаніцына, адкрываючы самыя глыбокія закамаркі славянскай земляробскай летуценнай душы. На мяне яна зрабіла такое ўражанне, нібы прайшоў за адзін вечар жыццё ўсіх продкаў ад скіфскіх часоў да нашых дзён, убачыўшы ў перспектыве гісторыі народнага духа ўсе грандыёзныя эксперыменты з іх нялюдскай жорсткасцю — дарэмнымі, наіўнымі і смешнымі. Тут паказана перад судом гісторыі нават не эпоха культу асобы, а само ўсходняе славянства з яго рахманай недалужнасцю і страшэннаю, нялюдскаю вынослівасцю.

З нецярпеннем чакаю завяршэння Тваёй вялікай працы...»

Дзяліцца радасцю ад прачытаных кніг — гэта ж таксама сяброўская дапамога.

Вось і яшчэ пісьмо, характэрнае ў гэтым сэнсе. Напісана яно з Дубултаў, у студзені 1977 года.

«...Убіўся быў у чытанне тэарэтычных работ найноўшага перыяду, каб падабраць адпаведны матэрыял пад фундамент для артыкула пра філасофскую лірыку, але наткнуўся на такую занудлівую мудрагельшчыну, што ледзь не ўцёк дамоў, махнуўшы рукой на такую навуку і сваё служэнне. Да чаго ж заархадокшана наша беднае літаратуразнаўства! І няўжо тытулаваныя знамянітыя літсаноўнікі не разумеюць, што такое літаратуразнаўства нічога нікому не дае,

што гэта нейкае кланавае абслугоўванне вучоных вытворцаў нудоты...

Дзякаваць богу, што натрапіў тут на ўспаміны Пабла Нэруды «Wyznaję, że żyłem»* — і адвёў душу, вярнуў сабе адчуванне карыснасці літаратуразнаўчай прафесіі, калі яна скіравана на людзей, а не на артадаксальных склеротыкаў, якія бясконца адзін аднаму напамінаюць агульнавядомыя цытаты з класікаў ці адпаведных пастаноў і каменціруюць, і каменціруюць да атупення. Між іншым, наш паважаны Леанід Мікалаевіч** таксама ўзяўся за настаўленні на шлях ісціны свавольных крытыкаў. Уніфікацыя літаратурных ацэнак і густаў... А пасля гэтага застаецца толькі ўвесці знак якасці і даручыць Дзяльцу*** ставіць на вокладкі кніжак. Толькі і выратаваў ад гэтай мерцвячыны Пабла Нэруда. Калі Ты яшчэ яго не чытаў — дастань абавязкова і атрымаеш вялікую асалоду...

Вялікі мастак, арганічны мастак гаворыць пра мастацтва, жыццё, пра мастакоў і простых людзей, пра свае інтымныя справы і праблемы сучаснага складанага свету. Чытаецца кніга як паэма, нават мова так насычана вобразнасцю, метафарычнасцю, што пераносішся ў свет паэзіі, у яго паэтычны свет. Колькі трагізму ў гэтай кнізе, колькі балючых штрыхоў веку: Гарсія Лорка, Сікейрас, Гевара, Альендэ і многія іншыя трагічныя постаці, героі вызваленчай барацьбы трэцяга свету. Крыўдна толькі, што з савецкіх пісьменнікаў адзін Ілья Эрэнбург зрабіў на яго ўражанне, астатнія, у тым ліку Сіманаў, хоць і сустракаліся, і гасцявалі — прайшлі як салдаты на маршы — міма і міма.

Прызванне паэзіі ён бачыць у тым, каб не даць

* «Прызнаюся, што жыў» *(польск.)*.
** Л. М. Навічэнка — украінскі літаратуразнавец.
*** М. І. Дзялец — у той час старшыня Камітэта па друку.

заарганізаваць жыццё і не ператварыць чалавека ў механізм, хоць бы і добры. І яшчэ што пакарае — магутная сіла любові да роднага краю, народа. Хоць тэрмін народнасць яму і не ўласцівы, але ўласціва вышэйшая форма сувязі з народам. Апісанне выступленняў паэта перад рабочымі і на вялікіх сходах, на мітынгах кранаюць нейкай незвычайнай узнёсласцю. Нам усё гэта вельмі блізка — і лёс, і баявы дух паэзіі: як многа пераклічкі з Купалам, Танкам. Нават прыгадваюцца неаднойчы «Лісткі календара», на жаль, маштабы ў нас больш сціплыя. Народная спецыфіка — родная зацялёпістасць...»

Абедзве Валодзевы падказкі былі выкарыстаны. Раман «Леапард» мне давялося прачытаць толькі праз два гады, але затое пабачыў і цудоўны кінафільм па ім,— у Варшаве, бо ў нас ён, здаецца, не праходзіў. А кнігу Нэруды, зноў жа праз два гады пасля рэкамендатара, і я прачытаў у бібліятэцы Дома творчасці ў Дубултах, па тым самым, што і Валодзя, экземпляры польскага выдання, пра што пісаў у «Сваіх старонках».

Яшчэ крыху пра ўражанні ад прачытаных паасобных твораў і кніг,— тут нібыта зусім між іншым у яго, а бачыцца і значным і сімпатычным.

«...Канчаю артыкульчык у «Литгазету» пра Платона Галавача. Атрымліваецца нейкае неканкрэтнае разважанне,— можа, такое ім і патрэбна.

Як пісьменнік Галавач сыраваты, скрозь чуецца нейкая паспешлівасць, эскізнасць і побач з моцна напісанымі сцэнамі — шаблонныя, побач з усхвалявальнымі роздумамі — прапісі палітграматы, побач з яркімі дыялогамі — агіткі.

Добра, што ў цэлым адчуваецца чэснасць і шчырасць» (13.VII.67).

«...Чытаў «Авиаэтюды» Межэлайціса і пазайздросціў лётоўцам — сапраўды касмічная вышыня, аж дух займае.

Адначасна купіў «Радиус действия» Раждзественскага — многа наігранага, жаданне быць глыбакадумнейшым за самога сябе.

Панчанкава шыпшыністая лірыка куды больш натуральная і праўдзівая. Раблю накід рэцэнзіі на яго зборнік» (20.V.66).

Тут ужо я і сам на абзацы пабіў, для большай значнасці, і слова адно падкрэсліў,— так жыва ўявілася густая зелень лістоты, пяшчотныя фарбы і водар, і абаронная, і наступальная калючасць — не толькі кветак, але і вершаў.

Ён быў шчодры ў сяброўстве. Згадваецца мноства цудоўных фотаздымкаў, якімі ён закідáў сяброў, у тым ліку і мяне, можа, больш чым каго. А мне тут хочацца дадаць пра шчодрасць у іншым.

Для апавядання «Званочкі» з рыбацкага цыкла «Пад гоман вогнішча» ён мне ў пісьме расказаў пра цыганоў, як яны, ратуючыся ад гітлераўцаў, задыбáлі табарам у партызанскі атрад, дзе іх накармілі, за што яны «падзякавалі», пакраўшы тол, які палічылі за мыла, і паўцякалі, калі атрад пайшоў на заданне, пакінуўшы ў лагеры аднаго вартавога. Валодзя не толькі расказаў мне гэты свой успамін, а прапанаваў яго, як устаўку. Што ж, гісторыя літаратуры ведае прыклады такога сяброўскага супрацоўніцтва. Прыгадаўся «Пан Тадэвуш», у які адзін з сяброў Міцкевіча, паэт Вітвіцкі, напісаў некаторыя фрагменты — нават такому аўтару! Аднак праз некалькі гадоў, калі Валодзя даў мне прачытаць пачатак сваіх партызанскіх успамінаў, мне стала няёмка, прыгадаўшы тую ўстаўку ў «Званочкі» і падараваныя ім для ўсяго цыкла яшчэ два невялікія эпізоды. Успаміны яго спадабаліся мне,— густая, вобразная проза,— я неаднойчы пасля падштурхоўваў яго працягваць гэту працу, замест залішняй газетнай публіцыстыкі, якая адбірала ў яго нямала часу і нерваў. Няёмкасць мая паўтарылася,

калі чытаў «Блакаду», працяг успамінаў. Застаецца задавальняцца тым, што яго «цыганскі» падарунак не бачыцца ў «Званочках» лішняй латкай з чужога палатна,— бо і апавяданне гэтае ён любіў, пра што пісаў у адным з лістоў, і нагадвала яно яму, як і мне, наш цудоўны выпад з Бабруйска на Беразіну ў чэрвені 1954 года, бо і Андрэй у цыкле — гэта ён, Валодзя, бо ёсць і яшчэ адна акалічнасць,— асабліва прыемна бывае падараваць іменна тое, чаго пасля шкада. Ці шкадаваў ён — не ведаю, хутчэй за ўсё не. А няёмкасць мая яшчэ раз паўтарылася, калі я перачытваў для гэтага слова яго пісьмо ад 26 лістапада 1961 года, у якім ён піша:

«...Можа, варта, пішучы пра цыганоў, даць адзін халодны мазок — паказаць не толькі хараство, бязмежную паўнату дзікай свабоды, але і яе беднасць, «нищету». Скажам, мог бы Андрэй расказаць з іроніяй выпадак, як цыганоў ганялі немцы, жадаючы вынішчыць,— нібыта яны памагаюць партызанам. А яны не дараслі, каб памагаць каму-небудзь. Я Табе, здаецца, расказваў, як у блакаду...»

А далей — амаль даслоўна тое, што ў «Званочках».

Зрэшты, цяперашнюю маю няёмкасць ён — бачу гэта з журботнай удзячнасцю — назваў бы «миндальничаньем», а то і прасцей, мацней,— «я даў, ты ўзяў — і на здароўе!..».

Цяпер вакол яго манаграфіі пра мяне.

«Народная асвета» заказала яе яму ў пачатку 1981 года. У адпаведную серыю, дзе такія кнігі строга па дзесяць аўтарскіх аркушаў. А ён з творчай свабодай, што з ім здаралася неаднойчы, зрабіў ім амаль удвая больш. І тут пачаліся складанасці. Пра гэта ў далейшых фрагментах з яго пісьмаў. А ў першым — ягоны адказ на маю прапанову даць яму для прачытання некалькі цікавейшых чытацкіх пісьмаў, у тым ліку і замежных.

«...Пісьмы мне будзе цікава і карысна прачытаць хоць бы для таго, каб не меў адразу вялікай механічнай перавагі той біёграф, што будзе пісаць пасля маёй смерці.

Між іншым, пішучы кніжку пра Танка, я ўвесь час адчуваў гэтую сваю недаінфармаванасць, і гэта мяне раззбройвала. Мажліва, таму, што Максім прачытаў мне некалькі дзесяткаў пісьмаў, падшытых у гросбуху, цікавых, але не запрапанаваў перачытаць і зрабіць патрэбныя выпіскі. Біяграфія пасляваеннага часу ў кніжцы пра яго зусім перасохла, гэта заўважылі і чытачы, і рэцэнзенты. Але там была кніжка вучэбная, так што неабавязкова было яе абсталёўваць усімі ветразямі і вёсламі, а кніжку пра Цябе я хачу зрабіць больш раскавана і не паўтараць таго, што ўжо надрукавана, хіба ў парадку палемікі ці спасылкі».

Напісана гэта было ў снежні 1982-га, калі Валодзя яшчэ ўсё здалёк прымяркоўваўся да працы над кнігай. Наступнае пісьмо — праз тры гады, калі работа ўжо ішла.

«...Пасылаю Табе незакончаны варыянт першага раздзела. Прабач, што ён яшчэ ў такім сырым стане, але я баюся, што Ты паедзеш на ўзмор'е і я не змагу давесці гэтага матэрыялу да нейкага ладу, бо ён насычаны біяграфічнымі фактамі і патрабуе гаспадарскага вока. Ведаю сваю слабасць — абыходзіцца з фактамі вольна, г. зн. эмацыянальна. Напэўна тут знойдуцца недакладнасці,— папраў, «поправи мя, Господи!».

Праз адзінаццаць дзён пісьмо наступнае:

«...Прачытаў Твае заўвагі, часам саромеючыся за сырасць матэрыялу, які Табе паслаў, але часцей расчароўваючыся і ў памяці жывой, і ў пісанай, і ў мажлівасцях фантазіі пры апісанні біяграфіі мастака. Збіраў я, як Ты мог заўважыць, крупіны фактаў з розных сваіх нататак, зробленых на хаду, калі Табе ў размове

прыгадваўся нейкі біяграфічны эпізод. Наша дзелавая гутарка летам у Крынічным запісана досыць дакладна. Твае расказы дапамаглі збольшага выстраіць біяграфічны ланцуг, але аказалася ў ім багата недакладнасцей, часам, пэўна, я не ўлоўліваў кантэксту, часам Ты гаварыў не зусім выразна... Не ўсё, напэўна, з напісанага варта даваць у друк, і ■ ўстаўляў спрэчныя ці неабавязковыя моманты, каб пачуць Тваю думку... Дык перастань вагацца,— усё гэта давядзецца-дацягнецца да ладу.

Але не магу пагадзіцца з Табою, што трэба пісаць нейкі утылітарны варыянт манаграфіі, прымальны для настаўнікаў-дыетыкаў, чые страўнікі не змогуць пераварыць матэрыялу, напісанага на ўзроўні сучаснага літаратуразнаўства. Я не хачу і нізавошта не стану пісаць шпаргалак для настаўнікаў. На гэта хапае спецаў, якія ведаюць, што трэба, а чаго не трэба, што можна, а чаго не можна. Няхай яны і пішуць, а я пагарджаю ўсёю тою вульгарнай катавасіяй, якую вядуць знаўцы ідэалагічнай лёгкастраўнасці вакол літаратуры.

У новым праекце праграмы, які меўся адпавядаць рэформе школы, адведзена ўсяго тры гадзіны на «непонятную» старажытную беларускую літаратуру, прытым палавіну часу трэба аддаць на старажытнарускі перыяд, а ў беларускім убіваць у галовы вучняў ідыёцкую думку, што беларусы як нацыя яшчэ ў чэраве гісторыі жылі адзінай марай і мэтай, каб з'яднацца з вялікім рускім народам. Манія з'яднання была такой вялікай у нашых продкаў, што яны не зважалі нават на татара-мангольскае ярмо — хоць у ярме, абы быць запрэжаным разам з братам.

Я пісаў рэцэнзію на тую праграму і выказаў свае адносіны да такога роду утылітарызацыі гісторыі ў імя «высокіх мэт» навучання і выхавання пакалення бязродных Іванаў...

Не паспеў я адаслаць тое рэцэнзіі, як дайшла з гары Сінай звестка, што рускія «вучоныя»-метадысты наогул адмянілі гістарычны прынцып пабудовы школьнага курса літаратуры і «предписали» ва ўсіх класах вывучаць адначасова і класікаў, і сучасных пісьменнікаў уперамешку. Літаратура, такім чынам, аддзяляецца ад гісторыі і ператвараецца ў набор займальных сюжэтаў, вумных маналогаў, прыдатных для «возбуждения положительных чувств». Калі ісці за такою метадычнай навукай і практыкай, якая накшталт Івана-дурня сячэ сук, на якім не паспела яшчэ толкам усесціся пасля кувыркання ў 20-я гады, у эпоху лабараторнага метаду і брыгаднага пражэкцёрства, дык увогуле трэба страціць павагу да сябе.

Тое, якую кнігу захоча выдаваць «Народная асвета», мяне неасабліва цікавіць. Мне хочацца напісаць кнігу сур'ёзную, прафесійна напісаць, лічачы настаўніка літаратуры разумным і падрыхтаваным чытачом, які б знайшоў у гэтай кнізе нешта новае, каб яна абудзіла яго думку і павярнула яе ў рэчышча адказнага грамадзянскага, эстэтычнага і філасафічнага мыслення. Упэўнены, што ў такой кнізе ёсць сапраўдная патрэба. Сам жа я вяду штогод практыку студэнтаў у школах. А выдавецтва?.. Не захоча «Асвета» выдаваць, запрапаную «Вышэйшай школе» ці іншай фірме. Выдадуць, абы кніга была добрай. Зрэшты, няхай лепш ляжыць, чым мае жыць на правах пабірахі ці ўгодлівага прыслужніка нейкага баламута, які сам не ведае, чаго хоча, і не ўяўляе, колькі каштуе фунт творчай працы ды мастацкага густу.

Баюся, што не паспею ў час здаць рукапіс: работа сур'ёзная і цяжкая. Бачыш, нават біяграфічны раздзел зрабіць нялёгка. Праўда, ён мае быць па задуме не проста біяграфічным, але і светапоглядным. Не ведаю, ці гэта адчуваецца...

Даруй, што тлумлю Табе галаву праблемамі, якіх

магло б і не быць, каб я сядзеў у акадэміі і памаленьку (па паўстаронкі ў дзень) мог сабе пісаць манаграфію пра пісьменніка. Хачу верыць сабе, што далей такіх заўвагаёмкіх раздзелаў будзе менш, хоць, як Ты мог заўважыць, па плану кнігі (наклееным на вокладцы той папкі, якую я Табе пасылаў), і ў далейшых раздзелах будуць з'яўляцца кавалкі біяграфіі, характарыстыкі жыцця, зробленых праз прызму Твайго і Варшай брылёўскай сям'і. Усё гэта будзе праецыравацца на творы. Бо дасюлешнія манаграфіі ўсё ж будаваліся па прынцыпу: ад твора да твора. Мне хочацца ісці ад этапа да этапа. Будзе нялёгка. У тых выпадках, дзе давядзецца мець справу з раманам ці цыклам апавяданняў, кніга сама павінна стаць і этапам, цыкл нарысаў — таксама».

Як пастскрыптум — з майго пісьма яму ад 28 студзеня 1986 года:

«...Што да нашай з Табой «старэчай» забыўлівасці і памятлівасці — не думаю, што яны «злосныя» ці «зласлівыя». І мяне ў сім-тым памяць падводзіць, і трэба правярацца. Да пэўных промахаў Тваёй памяці я не магу быць абыякавым: нашы сяброўскія адносіны ў літаратурным свеце (дый шырэй) вядомы многім, і тое, што Ты пра мяне скажаш,— будзе лічыцца самым дакладным.

Так што, дружа, не злуйся і не «казнись».

Ну, а далейшы лёс манаграфіі быў нялёгкі. Аўтару ўсё-такі прыйшлося скарачацца да абавязковага серыйнага памеру, а гэта прывяло да балючых страт...

Мне асабіста з таго, што не ўвайшло ў кнігу, было найбольш шкада Валодзевых разваг пра маё любімае — мініяцюры. Праўда, гэта ён выкарыстаў пазней у грунтоўным артыкуле, змешчаным у яго апошняй прыжыццёвай кнізе «Усё чалавечае».

Усё пра мяне ды пра мяне... А ён жа пісаў мне і пра іншых.

«...З прыемнасцю прачытаў Тваё слова пра Адамовіча, кранае яно гуманістычнай азоранасцю, пераканальна-шчымлівым выяўленнем каштоўнасці жыцця і балючай дыялектыкі, што існуе паміж дружбай, найбольшай блізкасцю і адзінотай, непазбежнасцю адзіноты. Да гэтага далучаецца высокае адчуванне маштабнасці справы, якой мы служым. Апошняе адчуванне дазволіла Табе ўзняцца над юбілейным этыкетам (цяпер розныя віды таварыскіх і службовых этыкетаў знаходзяць масу служак) і гаварыць пра юбіляра, як пра слугу справы і праціўніка ўсякіх этыкетаў, свядомага і прынцыповага працаўніка. Гэта ў Сашы ёсць, і гэта бадай што галоўнае сярод многіх рыс яго характару. Трапна і не назойліва прачытаў Ты раман яго цераз жывы светлы вобраз (прататып) Ганны Мітрафанаўны*, добра, старанна ацэнены і яго літаратурна-крытычны набытак, удала вырашыў сітуацыю досыць клопатную,— што Твая творчасць знаходзіла ў ім прапагандыста і прыхільніка — не абмінуў і не звёў гаворкі ізноў да этыкетнай удзячнасці.

Змог я заўважыць толькі пару драбнічак і азначыў іх на палях рукапісу. Ты іх разбярэш і, калі захочаш, вырашыш, дакладней — улічыш» (26 лютага 1977 года).

Ён любіў моладзь, умеў знаходзіць сярод сваіх студэнтаў дзяўчат і юнакоў з божаю іскрай, шчыра апекаваўся абласным літаратурным аб'яднаннем, па прэсе цікавіўся маладымі талентамі ва ўсіх кутках Беларусі, радуючыся поспехам і смуткуючы ад непажаданага.

У наступным фрагменце з пісьма пра аднаго маладога паэта я, нібыта і ўзгодніўшы гэта з Валодзем,

* Ганна Мітрафанаўна (1904—1979) — маці Алеся Адамовіча.

прозвішча маладзёна апускаю з педагагічна-прыязных меркаванняў.

«...Хлопец вельмі здольны, начытаны, памятлівы і ахоплены прагай паэтычнай славы, усё гэта было б цалкам добра, калі б захоўвалася нейкая мера суадносін творчасці з жыццём, а ён, як мне думаецца, так напорыста выціскае з сябе ўсю душу, што не застаецца часу, патрэбы, сіл, каб проста жыць, зносіцца з людзьмі. Пару вечароў толькі прагаварылі з ім над лёгкім віном, дык і размовы, і інтарэсы ў яго ўсе ў літаратуры. Я ўжо не ведаю, што думаць. Спрабаваў яму заўважыць, але ён і слухаць не збіраецца. Сам усё ведае ад «а» да «я». А дакладней — гэтае Я з'яўляецца пачаткам і канцом ведаў. Прачытаў яго вершы — ёсць цікавыя, хоць і кніжнасці хапае, між іншым, перайманне ў Караткевіча. Пакуль не магу разабрацца з гэтым хлопцам — і здольны, і па-свойму апантаны паэзіяй, і супярэчлівы, не самакрытычны. Можа, гэта сучасная сталічная норма характару і паводзін творчай адзінкі? Я ўжо толькі назіраю збоку і маўчу» (студзень 1977 года).

Траплялася і радасць, толькі радасць:

«...Двойчы быў у Брэсце Карпюк, адзін раз заехаў пагутарыць з нашымі абкомаўскімі спецыялістамі па сектантах, другі раз Алёша быў з Вольгай Іпатавай, выступалі тыдзень па лініі бюро прапаганды. Волечка зрабіла на мяне ўражанне таленавітага, прагна-дапытлівага дзіцяці, прытым за гэтай дзіцячай свежасцю душы прыхавана разумная дасведчанасць сапраўднага інтэлекту. З'явілася радаснае адчуванне, што яна далёка пойдзе ў літаратуры і асабліва, відаць, у прозе. Дарэчы, гаварыла, што закончыла і здала ў друк аповесць пра Ефрасінню Полацкую. Слаўнае дзяўчо!» (18.X.71 года).

І ўдзячнасць бывала ў радасці:

«...Атрымаў два лісты ад Веры Сямёнаўны і яшчэ

раз шчасліва адчуў, якое гэта шчасце для нас, крытыкаў, што над усходамі нашай крытычнай руні стаіць такая звеннявая — добры дух ураджаю. Клапоціцца, дабіваецца і, відаць, даб'ецца, што мой Жылачка выйдзе без купюраў і без асаблівых страт» (студзень 1977 года).

Вера Палтаран узначальвала тады рэдакцыю крытыкі выдавецтва «Мастацкая літаратура». «Жылачка» — манаграфія Калесніка пра жыццё і творчасць Уладзіміра Жылкі, «Ветразі Адысея». Выданне гэтае, згодна з цэнзурнымі нормамі часу, як ні змагалася светлая, мужная Вера Сямёнаўна, на жаль, выйшла з бязлітасна-недарэчнымі купюрамі. Валодзя вельмі перажываў гэта. А манаграфію ён рупліва дапрацоўваў да сваіх апошніх дзён.

Ён быў заўсёды вельмі перагружаны працай, абавязкамі, у нервовым напружанні, часта хварэў. У вайну — два раненні, з вайны вынес туберкулёз, лячэнне на цэлы дзесятак гадоў, потым язва і, нарэшце, цэлы букет...

А ўсё роўна з Мінска ён, амаль да апошніх дзён, вяртаўся з новымі заказамі, як нейкі навукова-літаратурны трактар (так я тады жартаваў), абчэплены кожны раз новым мноствам розных агрэгатаў. Варта паглядзець у шасцітомным Слоўніку беларускіх пісьменнікаў ягоную бібліяграфію, каб пераканацца, колькі паспеў зрабіць гэты да канца нястомны руплівец. А колькі хацелася зрабіць, давесці да ладу тое, што цяпер, на жаль, засталося ў накідах або толькі ў задумах...

Для ілюстрацыі — два фрагменты з розных пісьмаў:

«...Атрымаў ліст ад Чалмаева з «Дружбы народов», прапануе некалькі тэм. Перспектыва прывабная. І хочацца, і колецца... Не ведаю, ці спраўлюся напісаць, бо планы і так пераўзыходзяць мае мажлівасці. Ніяк

не давяду да ладу Салагуба, а за акадэмічны артыкул, можна сказаць, не браўся. Незакончаны ляжыць палемічны артыкул аб перыядызацыі старажытнай літаратуры і дапаможнік па выразнаму чытанню. Уклініўся ў мае планы даклад аб эстэтычным выхаванні, які я прачытаў на абласным семінары настаўнікаў мовы і літаратуры. Асноўная думка: сувязь эстэтычнага выхавання з жыццём, г. зн. з роднай прыродай, грамадскім і бытавым укладам нашага нацыянальнага раёна і нацыянальным (рэгіянальным) мастацтвам,— так быў захапіўся працай, што хацеў давесці даклад да кандыцыі журнальнага артыкула, але зараз гляджу на здабыткі гэтага даклада скептычна, магчыма, пазней, сабраўшы больш матэрыялу, давяду гэтую справу да нейкага канца».

Гэта — са снежня 1960-га. Тады, калі ласка, з лістапада 1973-га:

«...Вісіць на шыі яшчэ раздзел для акадэмічнай гісторыі літаратуры на рускай мове і рукапіс Серафіма Андраюка (на рэцэнзіі) — дай бог закончыць да канца наступнага месяца... Каб як збавіцца ад палячуцця затумканасці — нічога не хацеў бы. А то налятае адно на другое, і бегаеш у вечных даўжніках, уцякаеш ад крэдытораў...»

Такія фрагменты з пісьмаў можна было б трывожна, прыкра множыць...

Забанальненым словам «хобі» мне не хочацца называць ягонае захапленне жывапісам, разьбой па дрэву, мастацкай фатаграфіяй — усё гэта было ў яго не толькі адпачынкам ад навукі і літаратуры, усюды ён дамагаўся прафесійнасці.

У падрыхтоўцы да выдання кнігі «Я з вогненнай вёскі...» у нас былі два выдатныя памочнікі — рэдактар Васіль Сёмуха і мастак Арлен Кашкурэвіч. Процьма работы, якая несправядліва называецца «чарнавой». Гэта тая работа, якой пасля не відно,

відаць толькі промахі, недапрацоўкі, памылкі. А каб іх не было — патрэбна нямала цярплівасці, як з пчоламі, цягавітасці, як у аратага, дадамо яшчэ светлую думку, відушчасць і творчае азарэнне, якое не адразу ўспыхвае на жары ці прыску. Калі з Васілём Сяргеевічам працавалі мы ўдвух з Адамовічам, дык з Арленам Міхайлавічам Калеснік адзін. Пакуль ішла яго работа з мастаком, якога адрознівае і належны густ, і плённая практыка афарміцеля, а таксама і мяккая, але паслядоўная настойлівасць, Валодзя, і сам мастак, пісаў мне зрэдку і пра цяжкасці, і пра ўдачы ў пошуках належнага вырашэння той ці іншай формы падачы матэрыялу. Прычым трэба памятаць, што яму трэба было і ў Мінск прыязджаць неаднойчы і што ўся тая процьма за чатыры леты назапашанага матэрыялу ў падачы для кнігі рыхтавалася ім не ў больш-менш прыстойнай фоталабараторыі, а проста ў цесным ванным пакоі, і не ў поўнай свабодзе для гэтай работы, а дзённымі ды вячэрнімі прыхваткамі, нібы між іншым, пасля лекцыяў, паседжанняў, дакладаў, літаратуразнаўчых работ, якія ў сваю чаргу, а часцей без чаргі патрабавалі належнай увагі.

І ён усюды паспяваў.

Кніга ў таленавітым афармленні выйшла ў арыгінале, потым яна ў перакладах на рускую, англійскую, балгарскую мовы паўтарылася цалкам па Калесніку ды Кашкурэвічу, а ў іншых выданнях — украінскім, чэшскім, венгерскім, польскім, калі так ці інакш мяняўся фармат і вокладка, фотаілюстрацыі заставаліся яго, Валодзевы. І кожная з іх для нас, трох яе аўтараў, мела, а цяпер ужо для мяне аднаго мае сваю інтымную гісторыю, наводзіць на ўспаміны і нязбыўны, хоць і светлы, і цёплы часамі, а ўсё ж самотны сяброўскі сум...

Дваццаць гадоў таму назад, у Маскве, знаёмячы Валодзю з маім рускім сябрам, добрым пісьменнікам

і чалавекам Васілём Субоціным, я назваў яго, Калесніка, а мой Васіль Яфімавіч, па-свойму сціпла ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Как же не знать! «Володя сказал», «Володя пишет», «Если бы Володя это видел». Очень приятно, Владимир Андреевич!..

І мне было прыемна ўдвая,— і што знаёмлю сяброў, і што Вася, якога цікавяць мае лірычныя запісы, аб чым ён і ў друку гаварыў, ведае пра нашу дружбу.

Гэта праўда,— у запісах маіх, і ўжо надрукаваных, і яшчэ не, пра Валодзю гаворыцца часта. А штосьці большае пра яго як чалавека, пісьменніка, сябра мне пакуль што — спакусліва-зманлівае «пакуль што»! — напісаць не прыйшлося. Калі не лічыць скупаватага нарыса «Першы прыпынак», слова да яго пяцідзесяцігоддзя.

Нямала дадала б і, можа, калі-небудзь дадасць наша перапіска.

А пакуль што — аптымістычна паўторымся — няхай штосьці скажа і гэтая публікацыя.

*1995*

# Слова з нагоды

## АД ПЕРАКОСУ ДА ПЕРАКОСУ*

Здаецца, яшчэ зусім нядаўна наша крытыка вельмі прыкметна і настойліва галоўную ролю ў літаратуры ваеннай-антываеннай адводзіла прозе дакументальнай. Цяпер, яшчэ больш прыкметна, з дружным націскам гаворыцца пра «палітычны раман» як галоўную зброю ў справе літаратурнай барацьбы за мір. Да таго ж — пра раман, толькі пра яго, пра «палітычную аповесць», тым больш пра «палітычнае апавяданне» не гаворыцца.

І вось раманы гэтыя паспешліва пішуцца, лёгка і шчодра выдаюцца, пахвальна рэцэнзуюцца ледзь не па карэктурных гранках. Некаторыя спрытныя аўтары такіх раманаў і радаслоўную гэтага, так сказаць, панацэйнага жанру самі, з зайздроснай раскаванасцю выводзяць ад самога Гамера, па дарозе падключаюць у той рад Талстога, Стэндаля, яшчэ каго-небудзь з вечнасці, а затым, таксама па асабістым выбары, пераходзяць да некаторых сучаснікаў...

Чытаеш, слухаеш такое, і ўспамінаецца высокае: «служенье муз не терпит суеты». А як жа з гэтым быць? Няўжо гэта абавязкова не для ўсіх, не ў любым часе?..

---

* На «круглым стале» часопіса «Литературное обозрение».

Мне думалася, што я першы за нашым «круглым сталом» назаву слаўнае імя Міхаіла Прышвіна. Уладзімір Піскуноў і Віктар Каваленка апярэдзілі мяне, кожны па-свойму назваўшы і Прышвіна своеасаблівым змагаром за мір. А мы, хто старэйшы, памятаем жа тое пасляваеннае, што ішло ад самага верху, пытанне: «А вы, товарищ Пришвин, все о собачках?..»

Пра сабачак, яшчэ менш — пра сабачку і ў нашы дні напісана кніга, што не так сабе прысвечана светлай памяці Аляксандра Твардоўскага. Я гавару пра аповесць Гаўрыіла Траяпольскага «Белы Бім Чорнае Вуха». Толькі зрэдку, між іншым, прамільгне ў друку скупая нататка пра тое, колькі выданняў гэтая невялікая па лістажы аповесць вытрымала за мяжою, якою прэміяй зноў жа адзначаны яе аўтар. А гэта ж, калі па-сапраўднаму, вялікая кніга пра чалавечнасць, яна настолькі сучасная, сугучная трывозе і надзеям усіх людзей Зямлі, настолькі агульналюдская ў самым высокім значэнні гэтага слова, што невыпадкова яна, можна сказаць, трыумфальна ідзе па ўсім свеце без лішняга шоламу, робячы сваю вялікую справу яднання людзей добрай волі, цудоўна дапамагаючы найважнейшаму з важнага — нашай барацьбе за мір.

Слухаючы выступленні, я ўспамінаў Талстога — вялікі прыклад ягонай творчасці, у якім — калі ўзяць толькі апошнія гады Льва Мікалаевіча,— выдатна сужываліся на адным рабочым стале і палымяны памфлет «Не магу маўчаць», і непераўзыдзены сплаў дакументальнага і мастацкага — аповесць «Хаджы-Мурат», і абаяльнае сваёй празрыстасцю, сонечнай прастатой апавяданне пра ўрачыста-пераможную красу прыроды, пра вечную мудрасць маленства — «Ягады»...

Хто там будзе адмаўляць значэнне дакументальнай прозы, публіцыстыкі! Вось ужо шмат гадоў я жыва памятаю высокі душэўны настрой, з якім быў

і мной успрыняты ромаўскі «Звычайны фашызм»; і я з радасным адчуваннем жыццёвай праўды зачытваўся лепшымі старонкамі дакументальнай прозы пра вайну; як беларус і ■ ганаруся нашым укладам у гэтую вялікую тэму, шчаслівы сваім пасільным удзелам у працы маіх сяброў. Мне толькі прыкра бачыць шараханне ад моды да моды, ад перакосу да перакосу, непатрэбнае шкоднае захвальванне адных, замоўчванне другіх, усялякую закулісную тузаніну, у той час — вялікі і трывожны час! — калі ўсе нашы намаганні павінны быць накіраванымі на галоўнае, на адно. І гэта галоўнае ўсе мы абавязкова павінны рабіць таленавіта, сумленна і, па магчымасці, сціплей.

*1985*

## ЗАЛЕЖЫЦЬ І АД НАС*

Пачну з таго, што і я, дарагія сябры, усёй душою з тымі, хто не траціць надзеі на перамогу ленінскіх нормаў у справе нацыянальнай палітыкі, хто верыць, што гэта вельмі патрэбна і неадменна. Як ні прыкра бывае часамі з прыступамі духоўнай стомленасці, нават нейкага песімізму, пасля чаго зноў верыцца, хочацца працаваць, адчуваеш сябе дома, у родным народзе, самім сабой у нашай вялікай савецкай сям'і. Тады ў адказ на беспадстаўны давер, няслушныя падазрэнні, здзекліва-пошлыя кепікі і халоднае мудрагельства палітыканаў хочацца сказаць:

Не, не трэба лішне баяцца, што наша любоў да рускага слова, рускай літаратуры, рускага народа можа паменшаць або пахіснуцца ад таго, што мы любім і сваё, роднае — слова, літаратуру, песню, мінулае і сучаснасць. Шуканне ў сённяшняй Беларусі,

---

* На пленуме Саюза беларускіх пісьменнікаў.

у тым ліку і ў нашым літаратурным асяроддзі, нейкага нацыяналізму — гэта мне асабіста бачыцца, адчуваецца мною то горка-смешным, то крыўдна-несправядлівым. Мы не гэтага заслужылі.

Так, нам патрэбна родная школа, патрэбен патрыятычна свядомы чытач, нам патрэбна законнае месца ў гісторыі братніх народаў, патрэбна здаровая, інтэрнацыяналісцкая гордасць сваім народам, не горшым за іншыя ў працы, у барацьбе за светлыя ідэалы, за мір і дружбу, за чалавечнасць.

Усё гэта вельмі сугучна нашаму часу, вялікай, надоўга разлічанай мудрасці.

Вельмі істотна і тое, што́ ў нашы дні паўтараецца часта, што́ патрабуе ажыццяўлення ў справах,— маю на ўвазе неабходнасць перабудову пачынаць перш за ўсё з самога сябе, са свайго найбліжэйшага калектыву.

Пра гэта хочацца сёе-тое сказаць.

Гадоў з чатыры таму назад я чуў такое акрэсленне тагачасных грамадскіх настрояў: суцэльная млявасць і абыякавасць. Гэта, на жаль, не надта хоча адыходзіць у нябыт, у нечым яно стасуецца і да нас.

Згадваюцца тры вечары ў нашым пісьменніцкім клубе — зусім нядаўнія і сумна характэрныя. Вечар Уладзіміра Караткевіча, з нагоды выхаду яго кнігі «Быў. Ёсць. Буду». Дзевяностапяцігоддзе Рыгора Раманавіча Шырмы. І вечар памяці Аркадзя Чарнышэвіча. Тры вельмі значныя імёны, тры светлыя вобразы: Караткевіч — арыгінальны, яркі паэт, празаік, драматург, публіцыст, слаўны таварыш, што так балюча без пары пакінуў нас; Шырма — чалавек подзвігу, жыццёвага і творчага, асоба з высокім маральным аўтарытэтам; Чарнышэвіч — таленавіты апавядальнік і раманіст, які зрабіў бы намнога больш, каб не бязлітасны цяжар несправядлівага лёсу — бясправае далёкай ссылкі.

А ў зале на тых вечарах, даволі людных, дзякуючы прыхільнікам роднага слова, нашага брата пісьменніка было тры-чатыры, ну пяць чалавек, амаль заўсёды тых самых. Такое паўтараецца і часта, і даўно. Ні старэйшых не ўбачыш, ні маладых. Цяжка ўявіць, што гэта іменна тады, у тыя вячэрнія паўтарыдзве гадзіны, недзе за мноствам пісьмовых сталоў ствараюцца суцэльныя шэдэўры, і працэс той ніяк немагчыма спыніць,— больш падстаў згадваць славутую млявасць і абыякавасць, сумна думаць пра нашу незразумелую, ганебную непавагу да зробленага іншымі, непавагу да нашых папярэднікаў.

Калі ж мы збіраемся гуртам, на сходы, колькі панылай дробязнасці, бяздарных прэтэнзій, узаемных прыдзірак, недастойнай помслівасці, халастой балбатні то пра нядаўнюю «духоўнасць», то пра новае «мысленне» даводзіцца сяды-тады пачуць!.. І гэта ў той час, калі мы як быццам сабраліся дзеля таго, каб займацца галоўнай, адзінай справай свайго жыцця, калі ў краіне рэвалюцыйны ўздым перабудовы, паварот да доўга і нялёгка чаканай галоснасці, калі ва ўсім свеце трывога не проста за мір, а ўжо за выжыванне чалавецтва!.. А ў нас часамі так нудна, нізка, так няёмка на душы... Рэдка бывае інакш, па-сур'ёзнаму, калі і дадому са сходу ідзеш чалавекам, і назаўтра працуецца ахватней.

Мы вельмі мала чытаем адзін аднаго, мала радуемся поспеху таварыша па прызванні, зачаста не заўважаем, што побач з намі жывуць, працуюць добрыя пісьменнікі, што некрыкліва, сумленна робяць сваю справу.

Мы вельмі недастаткова паважаем роднае слова. У працы сваёй. Моўная шэрасць, прыблізнасць, неахайнасць, спешка — нібы на злом галавы. Такое асабліва непрыемна і трывожна назіраецца ў нашай змены. Чуў нядаўна, у адказным выступленні адной

паэтэсы: «Маладыя навучыліся пісаць». Яны, бач, навучыліся, а бедны Талстой да самай смерці вучыўся. Семнаццаць пачаткаў рамана «Воскресение», сто дзесяць варыянтаў філасофскай кнігі «Путь жизни». А некаторы наш скараспелы, лёгка-крыўдлівы ўмелец ледзь паспявае вычытаць свой рукапіс пасля машынкі, першы экземпляр, на другі ўжо цярплівасці не стае, трэба бегчы ў рэдакцыю, у выдавецтва. З плеч ды ў печ, як пра сырыя дровы гаворыцца. Хай сабе — скідка на маладую гарачку. А колькі ж пажылых ды сталых сяк-так трухціць або паўзе на свой прысядзібны Парнас з папушчанымі лейцамі, з поўнай свабодай у правілах руху або хутчэй зусім без павагі да іх. Правінцыяльная гігантаманія ў спалучэнні з вялым драбнатэм'ем і, разам з тым, спрактыкаваная рухавасць у прасоўванні ў друк сваёй, так часта ацеслівай, прадукцыі. Прачытаўшы нешта цікавейшае ў часопісе, парой захочацца сказаць таварышу шчырае слова, якое магло б, чаго добрага, і прыдацца яму, але дзе там, позна — кандыдат панёс ужо гэты новы самашэдэўр у цвёрды пераплёт — і дома, і ў Маскве...

Даўно мне помніцца тупое, сытае: «А што там мова, мову паправяць у рэдакцыі». А ўжо ж і ў рэдакцыях, часопісных і выдавецкіх, правіць, працаваць з аўтарам у добрым сэнсе гэтага слова, не надта ўмеюць і хочуць. Збольшага толькі, у асноўным стыліст ды карэктар. Нават і так гаворыцца, што «друкаваць трэба — як аўтар напісаў». Толькі цэнзураваць стараюцца, многіх штатных апераджаючы ў сваёй палахлівай звышпільнасці.

У гэтым сэнсе ўспамінаецца горкі лёс трэцяй кнігі трылогіі Міколы Лобана «Шэметы». Добрая проза, грунтоўная ў сваёй праўдзівасці і майстэрстве, яна была так пільна зарэдагавана ў «Полымі», што толькі рэбры адны засталіся, дый то не ўсе цалкам. Выда-

вецтва, у сваю чаргу, палічыла за лепшае, спакайнейшае пайсці ў асноўным за часопісам. Блізкія да Міколы Паўлавіча людзі ведаюць, колькі ўсё гэта каштавала таварышу ў гадах, хваравітаму, двойчы цяжка параненаму франтавіку, абаяльнаму ў сваёй змястоўнай сціпласці чалавеку, які гэта быў фінал сумленнага пісьменніцкага шляху... Міколы няма, ён не можа пакарыстацца свежым паветрам галоснасці, сам не верне страчанае, і я лічу, што тут фармальна падыходзіць нельга,— маўляў, апошняе прыжыццёвае выданне, тэкст, так сказаць, кананічны,— можа, варта стварыць аўтарытэтную камісію па творчай спадчыне Лобана, каб камісія гэтая мела права дамагчыся памагчы таленавітай трылогіі загучаць на поўны голас, так, як яна была напісана.

Ненармальным бачыцца мне і тое, што паэт і празаік Алесь Наўроцкі, які гадоў дзесяць таму назад напісаў раман, быў загонены звышпільнікамі ў такі тупік, што не выйшаў з яго і дагэтуль. Працуе недзе лекарам, у Саюзе не бывае, яго і сёння, відаць, няма. А помніцца, як ён заплакаў ад крыўды над гэтай самай трыбунай, якая ўжо нямала чула абстрактна-высакародных слоў. Трэба было б зірнуць свежым вокам на той раман,— можа, ён не такі ўжо залішне смелы, як у свой час сяму-таму здавалася. Днямі я перачытваў даўні ўжо зборнік апавяданняў Наўроцкага «Валун» і яшчэ раз пераканаўся, што таварыш мог бы добра працаваць, што такімі кавалкамі божага дару кідацца грэх, як гаварылі нашы бацькі-хлебаробы.

Толькі два прыклады. І агаворка, што справа не ў тым, каб з прыстрасным ментарствам вінаваціць кагосьці персанальна, ад іншых патрабаваць перабудовы. Як член рэдкалегіі «Полымя» і рэдсавета «Мастацкай літаратуры» і я нясу сваю частку віны перад светлай памяццю Лобана. Той недарэзаны трэці том

я чытаў у рукапісе, па просьбе аўтара і рэдакцыі, абараняць прыйшлося тое ўжо, што засталося, каб хоць яно прайшло, а на добры лад мне трэба было прыдаць гэтай справе розгалас, паваяваць за ўвесь аўтарскі тэкст, за права пісьменніка на шчырасць. Тым больш што і сам я, у сваёй працы, на сваіх нервах даволі-такі адчувальна знаёмы з усялякай звышпільнасцю. І ў крыўдзе Алеся Наўроцкага зноў жа нельга было абмежавацца маўклівым спачуваннем.

Гэта ўсё праўда, і не толькі ў гэтых двух выпадках ды ў адным толькі часопісе. Аднак праўда і тое, што нашы рэдкалегіі і рэдсаветы далёка не заўсёды запрашаліся для вырашэння складаных пытанняў. Калі ж такія пытанні і выносіліся на калектыўнае абмеркаванне, як было, напрыклад, з дзённікавымі запісамі Івана Мележа, то за купюры ў іх галасоў аказалася вырашальна больш, чым супраць. І за купюры ў большасці былі якраз тыя ахоўнікі законнасці, якія рукапісу не чыталі, затое добра і даўно ўжо ведалі і ведаюць, што купюры заўсёды і ўсюды вельмі патрэбны. Класічнае, жывучае «трымаць і не пушчаць»!.. Дарэчы, так адбылося раней з дзённікам Кузьмы Чорнага — у апошняй кнізе яго васьмітомніка дзённік, выдатны творчы і грамадзянскі дакумент свайго часу, пайшоў у злачынна абскубленым выглядзе. Запісы Мележа — таксама. У сакавіцкім нумары «Немана» надрукаваны фрагмент з дзённіка ссыльнага Барыса Мікуліча. Цікавая, патрэбная публікацыя. Мала хто ведае, аднак, што дзённік гэты, падоўжаны пісьменнікам на адносная волі, ужо ў Беларусі, меўся быць надрукаваным у тым самым «Немане» гадоў пятнаццаць таму назад, але стараннямі зацікаўленых ён свету тады не пабачыў. Мікуліч рэабілітаваны, ён друкуецца, і дзённік яго, яшчэ адна споведзь чыстага сэрца, трэба аддаць чытачу. Памятаем мы і тое, як наш «ЛіМ» прымушаны быў перадрукаваць са «Звязды» вялізны,

злосны, блізарука-дылетанцкі артыкул супраць адной з аповесцей Васіля Быкава, і тое, як на выдавецкай вазé, таксама ў шасцідзесятых гадах, калі вырашаўся лёс гістарычнай прозы Караткевіча, голас прыдворнага рэбэ ад крытыкі Якава Герцовіча мог або намагаўся беспакарана пераважыць любы́ «вокс популі»... Нямала можна было б прыгадаць.

Што было — тое было. І не ва ўсім яно залежала ад аўтараў, рэдактараў і рэдкалегій. Толькі б такое не паўтаралася!..

А тое, што можна выправіць,— трэба рабіць неадкладна. Беларускаму і ўсесаюзнаму чытачу трэба вярнуць Алеся Гаруна, Усевалада Ігнатоўскага, гісторыя якога вартая навуковага перавыдання. Дарэчы, як і гісторыя беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Па добраму прыкладу нашых рускіх братоў, якія з мудрым гаспадарскім клопатам вяртаюць чытачам нашай вялікай краіны беспадстаўна забытыя ці неразумна адкінутыя скарбы народнай культуры.

А што да новага, дык тут вельмі надзённа і важна даць выйсце і дапамогу рэвалюцыйнай шчырасці ў слове.

Наконт найбольш модных апошнім часам ацэнак. У нас не ў пашане простыя, натуральна змястоўныя, разумна стрыманыя словы «таленавіты», «здольны», «сур'ёзны», «удалы», «нядрэнны». Даёш «вялікі», «цудоўны», «надзвычай таленавіты»! Нельга даўмецца, што па сутнасці азначае тое «надзвычай» — геній гэта ці яшчэ больш? А ўжываецца лёгка і шчодра. Ёсць у творы больш-менш прыкметная думка — ён ужо «філасофскі» або хоць «інтэлектуальны». Выдаемся — хто больш, хто менш — за мяжой — ужо і «міжнародныя», «сусветныя». Сціплей як быццам і нельга. А трэба. Як у саліднай, сталай літаратуры.

Залішне лёгка праходзіць у нас часамі і прэміраванне, не заўсёды з належнай прынцыповасцю, без

умяшання збоку ці зверху, без патаемнай думачкі пра кандыдата як пра чалавека «свайго», «патрэбнага», «пры пасадзе». Так бывае з дзяржаўнымі прэміямі, з прэміямі Саюза пісьменнікаў і рэдакцыйнымі. Калі так пойдзе далей, дык нелаўрэатаў у нас неўзабаве будзе нікчэмная меншасць. Што ні напісана — на прэмію!..

Справу з прыёмам у Саюз таксама трэба паправіць. Не паўзводна прымаць, як здаралася апошнім часам, а па два-тры прэтэндэнты на адзін раз, з большай грунтоўнасцю калектыўнага абмеркавання. А то ж у нас амаль кожны другі акандыдачаны філолаг і кожны больш-менш прыстойны журналіст лічыць не лішнім займець яшчэ і пісьменніцкае званне. І прымаем. Бывае, што нават проста з літасці, за кампанію з папярэднімі нялепшымі або каб адчапіцца ад чарговага прабіўнога назолы. Некаторыя з маладых таксама, на жаль, любяць моднае паняцце «выбіць», могуць і выенчыць. Зборнічак яшчэ цёплы ад друкарскай машыны, а ўжо нясецца подбегам у камісію па прыёму. Тут зноў жа скідка на гады. Але ж успомнім і святлоўскае: «Маладосць — гэта не заслуга, а ўсяго толькі ўзрост». І ў маладых таленавітасць вельмі прыемна бачыцца ў спалучэнні са сціпласцю.

Незразумела доўга мы не заўважаем, здараецца, вартых прыёму таварышаў з немаладых. Такіх, скажам, здольных, актыўных работнікаў, як Мікола Ермаловіч, як Янка Саламевіч, а пашукаўшы,— і яшчэ хтосьці з людзей надзейных, правераных часам і працай, знойдзецца.

Трэба штосьці кардынальна рабіць і з нашым бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Колькі яно існуе — столькі і клопату з мастацкім і этычным узроўнем гэтай прапаганды. Залішне часта, трапіўшы ў тым ці іншым раёне рэспублікі на мокрыя сляды паасобных прапагандыстаў, паслухаўшы людскія вод-

гукі, і сораму можна паспытаць, і падумаць, што карысці і гонару нашай літаратуры такая, з дазволу сказаць, прапаганда не прыносіць,— наадварот!

А ў нас жа, сябры мае, добрая літаратура. І людзі кажуць, і самім гэта радасна бачыць. Нам ёсць каго паважаць, ёсць чым і кім ганарыцца, ёсць на каго спадзявацца. Толькі б усім нам — старэйшым, сталым, маладым і пачынаючым — памятаць як след, што многае і вельмі многае залежыць і ад нас саміх. І гэтага — галоўнага — ніхто за нас не зробіць.

*1987*

## ПУНКТ АПОРЫ І ЗАПАС СПАКОЮ*

На нашу сустрэчу, дарагія прыхільнікі міру і дружбы, я прыехаў з прылясной маляўнічай глухамані Верхняга Наднямоння, дзе ўжо нямала гадоў жыву з ранняй вясны да позняй восені.

Усім і ўсюды з прытчы пра матчына імя вядома дзіцячая мудрасць, заключаная ў простыя, неабвержныя словы хлопчыка, які заблудзіўся ў натоўпе і ў адказ на пытанні, хто яго мама, ад якой ён адбіўся, паўтараў адно: «Мая мама лепшая за ўсіх!..»

Пра сваё месца на планеце Зямля кожны з нас, у тым ліку і я, мае права сказаць таксама — лепшае за ўсе другія.

Я, да таго ж яшчэ, ганаруся высокім зямляцтвам з двума Міцкевічамі, польскім і сваім. Роўна сто шэсцьдзесят гадоў таму назад вымушаны эмігрант Адам Міцкевіч у сваім «Пане Тадэвушы» маліўся красе нашай роднай Наваградчыны, так званай «Беларускай Швейцарыі», з парыжскай бядотнай далечы:

* На кангрэсе беларускага ПЭН-цэнтра.

«Сёння бачу красу тваю і апісваю, бо тужу па табе». А ў пачатку нашага стагоддзя апальны вясковы настаўнік, палітычны вязень царскай турмы ў Мінску Кастусь Міцкевіч, ён жа, па псеўданіму, Якуб Колас, адзін з высокаталенавітых пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, эпапею «Новая зямля» пачынаў з сыноўняй тугі праз краты: «Мой родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе не маю сілы!»

Я пакуль што не эмігрант і не вязень, па родных мясцінах тужу толькі зімой, у гарадскім выраі, і туга мая светлая, яшчэ ўсё, дзякуй Богу, поўная творчых спадзяванняў. Я не люблю называцца дачнікам, я там жыву сярод сваіх працалюбівых землякоў-сялян, і сам працую, удзячна ўспамінаючы і нашага вялікага сярэднявечнага асветніка Скарыну, з яго гаюча-мудрай ласкай да родных мясцін, і яшчэ больш даўняга, усечалавечнага эліна Архімеда — з яго славутым **пунктам апоры,** які і мне дапамагае калі не Зямлю, крый Бог, перавярнуць, дык проста лепей бачыць сваё месца на ёй, як стартавую пляцоўку — ад свайго роднага — у агульналюдскае.

Калі ўжо цытаваць яшчэ, і не шчыруючы ў вучонасці, як юны дысертант, але адпаведна ўзросту чалавека і літаратара на восьмым дзесятку гадоў, удзячна звяртаючыся да вопыту папярэднікаў, згадаю Райніса і Твардоўскага.

У сваёй «Кастаньёле» светлы латыш Ян Райніс гаворыць: «За гэтыя нялёгкія гады,— ён мае на ўвазе гады сваёй эміграцыі,— мы паглынулі столькі сонца, прынялі ў сябе столькі красы і сілы,— тут мне трэба падкрэсліць ягоныя словы,— **краса таксама сіла,** і, магчыма, найбольшая з найбольшых».

Гэтую шчодра-вечную сілу шчасліва чэрпаў, чэрпаю і я — ад мноства сустрэтых у полі, у лесе, над ціхай ракой усходаў сонца, ад мудрай чароўнасці зорных або паўнамесячных начэй, ад неаглядна-хва-

люючай прасторы хлебнага поля і расквечанага лугу, ад пяшчотна блакітнага, белавоблачнага неба над імі... Краса мацавала, мацуе і мяне, яна натхняе на сціпла глыбіннае, шчырае слова, на жыццядайныя мары пра мірную будучыню чалавецтва, — яна дапамагае жыць як мага больш разумна.

Ну, [redacted] вялікі рускі паэт, і мне асабіста знаёмы сучаснік Аляксандр Твардоўскі часта згадваецца сваім выказваннем пра абавязковы літаратару запас спакою,— спакою не для бяспечнай дачнай ляноты і абыякавасці, а для штодзённай пісьменніцкай працы, пажыццёвай вучобы.

Я вельмі люблю падарожжы, я адносна нямала пахадзіў, паездзіў, палятаў па белым свеце. Што за карысць ад гэтага каму іншаму — пра гэта мне трохі гаварылі і пісалі чытачы маіх дарожных эсэ пра Польшчу, Германію, Канаду, Індыю, Крым, Арменію, Волгу, Амур... А што мне самому яны, падарожжы, як чалавеку і пісьменніку, карысныя — гэта і перш за ўсё, і бясспрэчна. А колькі ж трэба яго, такога шчасця? Тут мне ўспамінаецца таўшчэзны том пад назвай «Было», у якім адзін з модных у свой час паэтаў, вандроўнік з пераважна афіцыйнымі заданнямі, пералічвае шматлікія краіны і сустрэчы так, што, прачытаўшы нейкую — па цярплівасці беручы — частку гэтай сухой справаздачнасці, узнікае пытанне: ну і што? А ў пытанні прысутнічае і адказ: а нічога! Проста было, і не больш. Спажывецкая мітусня, што не ратуе ад самога сябе, павярхоўна самаздаволенага пустадомка, не дае магчымасці паглыблення ў жыццё таго ці іншага народа, у спакой неабходнага роздуму, непасрэднасці адчуванняў.

Тое, што мне апошнім часам — нашым няпростым, нялёгкім часам — удалося зрабіць, гэта дзве кнігі дзённікавага характару. Адна з іх нядаўна з цяжкасцю выйшла, другая знаходзіцца ў нямогла-запаволе-

ным вытворчым працэсе. Мала гэта ці многа — не мне гаварыць. Я магу сказаць толькі адно: у гарадской ды палітычна гаманкой, а то часцей крыклівай мітусні я не зрабіў бы і гэтага. Не асуджаю нікога з тых, хто можа, умее добрасумленна і плённа спалучаць у сабе мастака слова і відушчага палітыка,— я проста ведаю, што сам на гэта не здольны, і не лічу, што лёс мяне такім чынам пакрыўдзіў. Згадаем англійскую прыказку, што кожная бочка павінна стаяць на сваім уласным дне, дбайна падумаем пра сапраўдны прафесіяналізм, якога цяпер не стае асабліва нам, беларусам. Нас абавязвае вялікая, нялёгкая праца адраджэння нацыянальнай свядомасці, пабудовы дэмакратычнага грамадства. Нашу мову, сярод славянскіх моў адну з найстарэйшых і найчысцейшых, скажам гэта ўслед за Адамам Міцкевічам, выкладчыкам у Калеж дэ Франс, ведаюць у свеце — спадзяемся: пакуль што — вельмі нямногія, літаратура наша перакладаецца на іншыя мовы надта ж няшчодра. Многа працы, многа цярплівасці ў паглыбленым творчым спакоі патрэбна нам, беларускім рупліўцам роднага слова, шчырым удзельнікам чалавечага паяднання.

Нават самае чулае, спагадлівае сэрца не здолее ахапіць усё гора людское, дома і на свеце, пра якое так бязлітасна шчодра расказваюць сёння штодня, штоночы прэса, радыё, тэлебачанне... А каб ахапіла тое сэрца, дык, відаць, і не вынесла б такое процьмы болю. Значыцца, дарагія сябры, трэба крыху пашкадаваць яго, сэрца пісьменніка, паашчаджаць яго, асланіць адзінотай, не такою ўжо і грэшнай, падмацаваць кантактамі з людзьмі нялёгкай палявой працы, даць сэрцу магчымасць засяродзіцца на найважнейшым. Нагрузак хопіць сэрцу і ў адзіноце, у магчымым спакоі, найважней тут узяць, перажыць, паказаць найбольш сваё...

У адказ на маю шчырасць мне, магчыма, можна і сказаць, што крэда маё — маё, і я магу ім на здароўе карыстацца, так пацяшаючы сваю творчую сталасць ды старасць, ■ для іншых, маўляў, тым больш для маладых, яно не абавязковае. Ды мне чамусьці здаецца, так адчуваецца, што і для тых, хто таксама шчыра, кожны ў родным кутку на такой неспакойнай сёння планеце, пад адным для ўсіх нас сонцам, служыць для нас усіх і ўсюды найважнейшай справе міру, дружбы людзей і літаратур, маё таварыскае слова і мой сціплы пісьменніцкі вопыт — не зусім лішні, можа, каму і спатрэбіцца, пачуецца блізкім у пераклічцы. Бо я сумую па дружбе даўно і чым далей, то ўсё больш. І ад душы жадаю ўсім вам дабра!

*1994*

## «З БОГАМ У СЭРЦЫ»*

Прыгадалася даўно прачытанае ў Льва Талстога пра тое, што чытанне — гэта жывая сувязь з душамі людзей, якія жылі раней за нас.

Падобнае можна сказаць і пра літаратурныя музеі, асабліва пра дамы-музеі, у якіх жыве мацнейшае адчуванне прысутнасці любімага пісьменніка, да якога вы прыйшлі, адчуванне працягу яго жыцця, несмяротнасці створанага ім свету вобразаў, пачуццяў, дум ак.

У Яснай Паляне я быў улетку пяцьдзесят другога года з жонкай і напрадвесні шасцідзесятага з братам. І абодва разы мы сустракаліся там з апошнім сакратаром Талстога Валянцінам Булгакавым, які нам усё паказваў і многа чаго расказаў. Прыемна сказаць,

* У Музеі гісторыі беларускай літаратуры.

што з Валянцінам Фёдаравічам я перапісваўся яшчэ ў перадваенны час, калі ён жыў у Чэхаславакіі, працуючы ў збраслаўскім рускім музеі, а я ў сваёй заходнебеларускай вёсцы. Перапіска наша ўзнавілася пасля першай яснапалянскай сустрэчы і працягвалася да смерці гэтага высакароднага чалавека і таленавітага літаратара. А яднала нас адна вялікая любоў, уласцівая многім і ва ўсім свеце. Пра свае ўражанні ад наведанняў Яснай Паляны, як і ад маскоўскага дома-музея ў Хамоўніках, я пісаў неаднойчы, аднак і дагэтуль здаецца, што ўсёй глыбіннай паўнаты і жыццядайнай свежасці перажытага ад сувязі з душой Льва Мікалаевіча як след не перадаў.

У Міхайлаўскім я быў у жніўні шэсцьдзесят другога, праездам з Эстоніі, з жонкай і дочкамі, школьніцамі старэйшых класаў. Даехалі мы туды пад вечар, з цяжкасцю ўладкаваліся на начлег у турысцкай палатцы ў недалёкім Трыгорскім. Міхайлаўскае з яго своеасабліва, па-пушкінску блізкімі ды маляўнічымі аколіцамі аглядалі мы раннім ранкам, а ў дом Аляксандра Сяргеевіча ўдалося без пары пранікнуць трохі злачынным спосабам. Нам конча трэба было вярнуцца ў Мінск у той дзень, ды па магчымасці як найраней, мы не маглі чакаць да адкрыцця музея. Пажылая прыбіральшчыца, уласкаўленая сціплымі рублёўкамі, упусціла нас у пакоі, якія якраз асвяжала, і мы асцярожненька, ціхенька пахадзілі ў тым ясным, раннесонечным храме, кожны са сваім Пушкіным у душы.

Калі б у мяне было цяпер крыху больш часу, я ахвотна завёўся б на любае хваляванне, расказаў бы і пра адчутае ў чэхаўскіх дамах-музеях у Маскве, у Таганрогу, у Ялце, у лермантаўскім казачым доміку ў Пяцігорску, у палтаўскім доме-музеі Уладзіміра Караленкі, ніжагародскім Максіма Горкага, старакрымскім Аляксандра Грына, уладзівастоцкім Уладзіміра Арсеньева...

Мне шанцавала ў жыцці на сяброўства з выдатнымі людзьмі, у тым ліку з пісьменнікамі, значна старэйшымі за мяне. Пачаўшы з Валянціна Булгакава, я мог бы назваць і другіх, ды не толькі рускіх.

Тут прыгадаю завалены чысцюткім снегам Галасіеўскі лес пад Кіевам, пустыя пакоі закрытага на рамонт дома-музея Максіма Тадэевіча Рыльскага, з якім [redacted] рады быў сустракацца і на Украіне, і ў Беларусі, і ў Маскве і зрэдку перапісвацца ды абменьвацца новымі кнігамі. У дом ягоны, дзе я бываў і ў дамузейны час, той сакавіцкай раніцай восемдзесят чацвёртага года мы завіталі ўдвух з маім чэшскім сябрам Вацлавам Жыдліцкім, выдатным навукоўцам і слаўным таварышам, што так нямала зрабіў для творчых сувязей Чэхаславаччыны з Украінай і з Беларуссю як перакладчык і папулярызатар нашых літаратур. З сынам Рыльскага, Багданам Максімавічам, руплівым і талковым ахоўнікам бацькавай багатай літаратурнай і навуковай спадчыны, мы правялі там у гутарцы нямала шчаслівых хвілін.

А колькі высокіх пачуццяў пеpажыта ў музеях Тараса Шаўчэнкі,— у Кіеве, на гары Чарнечай у Каневе, у канадскім Палерма над морападобным возерам Антарыё,— у львоўскім музеі Івана Франко, у днепрапятроўскім Дзмітра Яварніцкага!..

Наша канферэнцыя названа «першай міжнароднай», і гэта хораша. Прыемна бачыць тут нашых рускіх і ўкраінскіх гасцей, з цікавасцю слухаць іх выступленні.

Аднак жа толькі такой міжнароднасці ў нас яўна малавата.

Гаворачы гэта, я думаю пра дамы-музеі і Яна Райніса ў Юрмале, і Антанаса Венуоліса ў Анікшчай, і Уладзіслава Бранеўскага ў Варшаве, жыва і ўдзячна ўспамінаючы іх, пра літаратурныя музеі Абавяна ў Арменіі, Хаяма ў Таджыкістане, пра Веймар Гётэ,

Абленгорак Сянкевіча, Цэціньe Негаша, Калофер Боцева, пра святыні Слова ў тых іншых краінах, дзе мне пашчасціла пабываць.

Думаю я, вядома ж, і пра сваё роднае.

Пра вязынскі дом, дзе нарадзіўся Янка Купала, пра яго мінскі музей, да арганізацыі якога я меў гонар сопэўным чынам далучыцца, працуючы там улетку сорак пятага года пад кіраўніцтвам энергічнай ды чалавечнай цёткі Уладзі, а пасля, на працягу ўжо і многіх гадоў, ахвотна бываць у ім, сустракацца з яго наведвальнікамі розных узростаў.

Дом-музей Коласа. Дзядзьку Якуба я светла памятаю жывым-здаровым, паважаным ды абаяльным у сваёй народнай прастаце гаспадаром таго гасціннага дома каля Акадэміі навук, які таксама даўно ўжо стаў домам-музеем. З Данілам Канстанцінавічам, старэйшым сынам народнага песняра, арганізатарам і першым дырэктарам дома-музея, добрым другам беларускіх пісьменнікаў, і маім у іх ліку, неаднойчы прыемна было наведваць Акінчыцы, Альбуць, Смольню, Мікалаеўшчыну, у якіх вы, дарагія нашы госці, будзеце мець прыемнасць пабываць, парадавацца залатою восенню коласаўскага Наднямоння, адкуль пайшла ў свет яго паэзія.

Пабываеце вы і ў Цімкавічах, роднай вёсцы нашага выдатнага празаіка Кузьмы Чорнага, на адкрыцці яго музея.

Шкада, што планам вашай работы на гэты раз не прадугледжана наведанне дамоў-музеяў нашых славутых землякоў у іхніх родных мясцінах — Адама Міцкевіча ў Наваградку і Элізы Ажэшкі ў Гродне.

А ёсць жа ў нас яшчэ і вёска Дастоева на Берасцейшчыне, а ў ёй пакуль што сціплы літаратурнакраязнаўчы музей, дзе па-зямляцку шчыра шануецца памяць Дастаеўскага.

Кожны з нас мае права на нейкія асабістыя ня-

шкодныя дзівацтвы. Я, напрыклад, не вельмі люблю хадзіць на адкрыцці музеяў. Няхай сабе там тады і ўрачыста, але ж і тлумна ды шумна, цяжка і даступіцца да цікавага, і засяродзіцца над ім.

Здарылася так, што на адкрыцці музея Максіма Багдановіча, у якога і я закаханы яшчэ са школьнага маленства, мне з-за хваробы не давялося папрысутнічаць. Затое крыху пазней я меў вялікае задавальненне аглядаць гэты цудоўны храм паэзіі толькі ўдвух з яго маладым паважаным дырэктарам, энтузіястам і знаўцам свае справы Алесем Бяляцкім, якому хочацца яшчэ раз ды прылюдна падзякаваць за тое свята. Калі, між іншым, у высокім суме прыгадваліся неаднаразовыя наведванні Максімавай магілы ў Ялце і таго белага дома ля сіняй бухты, дзе так заўчасна і трагічна абарвалася вялікае жыццё.

Добрае слова хочацца сказаць і пра нашых гасцінных гаспадароў, супрацоўнікаў Музея гісторыі беларускай літаратуры, стараннем якіх гэты нядаўна створаны музей і так ужо багата, прыгожа наладжаны, а будзе яшчэ багацейшы, чаго яму хочацца ад душы пажадаць. І сказаць таксама дзякуй за добрую ініцыятыву арганізацыі нашай канферэнцыі.

Наогул, дарагія сябры, як гэта высакародна ды сімвалічна, што ў наш такі нялёгкі час, у бязладдзі, пры катастрафічным збядненні, якому не відно прасвету і канца, у злачыннай пагоні за доўгім доларам, ёсць у нашых краінах людзі, як у народзе здаўна гаворыцца — «з Богам у сэрцы», якія не забываюцца пра разумнае, добрае, вечнае, пра актыўную, самаахвярную службу яму, у чым я жадаю ўсім нам як найбольшых поспехаў.

*1994*

# ЗНАК НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ*

Так яно было і будзе, заўсёды і ўсюды, што самае першае слова ў кожнага чалавека, на якой мове яно ні гучала б, па сутнасці аднолькава змястоўнае і сардэчнае — **мама.** З ім мы, людзі, уваходзім у жыццё. А многія з гэтым словам і адыходзяць,— хто ў пакутах хатняй ці бальнічнай немачы, а хто на полі бітвы, калі паспее падумаць яго ці сказаць.

І гэта не проста слабасць, гэта малітва — на дапамогу.

Волат сусветнай літаратуры Леў Талстой у глыбокай старасці, як сведчаць яго запісы, маліўся сваёй маці, нібы дзіця, называючы **милой маменькой** тую, якое зусім не памятаў, да якое не звяртаўся з першым словам, асірацеўшы ў немаўлячым узросце, ведаючы яе толькі па расказах старэйшых ды па адзінай сямейнай рэліквіі, мініяцюрным сілуэце.

Алесю Адамовічу, нашаму незабыўнаму Сашу, у жыцці пашчасціла перш за ўсё тым, што ў яго была цудоўная маці. Праўда, і ён быў добрым сынам,— і я гэта бачыў, і я гэта ведаю. І ён, Алесь, не толькі як чалавек у жыццё, але і як пісьменнік у літаратуру ўваходзіў з гэтым непараўнальным словам. Ён і гаварыў сябрам, у тым ліку і мне, і пісаў, што пісьменнікам зрабіла яго маці, што першыя яго творы, раманы «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой», раней чым былі напісаны ім, былі перажыты, створаны ёю, яе жыццёвым подзвігам, а яму ўжо трэба было гэта запісаць.

Многія з прысутных тут памятаюць апошні шлях Ганны Мітрафанаўны. І я таксама бачыў, як урачыста-жалобнае шэсце спынілася каля глушанскай аптэкі, гаспадыняй якое Яна была ў гады падпольнай барацьбы, як каля гэтага сціплага будыначка, аднаго

---

* На адкрыцці надмагільнага помніка Алесю Адамовічу.

з пунктаў апоры ўсенароднага супраціўлення фашызму, былыя партызаны, што неслі дамавіну, паднялі яе на ўзнятых руках і так трымалі некалькі малітоўна ціхіх мінут. Хвалюючы момант нашай гісторыі.

За гады сяброўства з Алесем я даволі часта бачыўся, гаварыў з яго мамай, быў сведкам яе апошніх пакутаў. І вось ужо семнаццаты год у маёй памяці жыве светлы вобраз гэтай жанчыны — разумнай і мужнай, па-народнаму няпроста простай, шчыра, спагадліва ўсмешлівай, справядлівай і добрай.

У сваім апошнім з апублікаваных пры жыцці твораў — у аповесці «Віхі» («Пражыта») — да вобраза маці Алесь вярнуўся яшчэ раз. І гэта ў яго не спад жыццёвай траекторыі, не праяўленне расчулена-патольнай слабасці, зрэшты, так зразумелай у старасці кожнага чалавека, не паўтор пройдзенага ў творчасці,— гэта далейшы ўздым яго быстрага розуму, светлай душы, самабытнага таленту. Гэта, нарэшце, і яго своеасаблівае вяртанне да жыццядайных родных каранёў. Вобраз маці з партызанскай дылогіі, і там па-свойму моцны і абаяльны, у спавядальнай аповесці «Віхі» загаварыў з хвалююча большым пранікненнем у матчыну душу, з яе агульналюдскай і, разам з тым, арыгінальна беларускай глыбінёй чалавечнасці, якою яна, яго мама, жыла і ў вайну, і пасля, і будзе жыць у сынавым новым, дасканалейшым паказе, у апошнім, сакраментальным слове яго, якое — спадзяемся — паўторыцца на іншых мовах свету.

Здаецца, нядаўна гэта было, калі і я, па праву дружбы з сынам і глыбокай пашаны да маці, прымаў удзел у развітанні з гэтай выдатнай жанчынай, прамаўляў каля яе магілы, у той дзень побач толькі з мужавай.

А сёння хочацца сказаць:

Мілая Ганна Мітрафанаўна, як жа зарана вы прынялі сюды вашых любых сыноў, і медыка, і літаратара!.. Нам, паплечнікам па жыццёвай справе вашага меншага, не хапае яго і будзе далей не хапаць у нашым трывожна-шалёным часе, у нялёгкай пісьменніцкай службе народу,— Алесевага дужага пляча, яго энергіі і яснасці думкі...

Пацяшае, радуе тое, што ён не толькі жыве і будзе жыць у памяці многіх як чалавек, але і тое, што засталіся, ёсць і будуць яго творы. Учора, калі ўручаліся прэміі ягонага імя, было прыемна пачуць, як адзін з наймаладзейшых лаўрэатаў, журналіст, шчыра і ўдзячна гаварыў пра тое, як ён чытае Адамовіча, якім сучасным, патрэбным бачыцца яму гэты сапраўдны пісьменнік. Будзе чытацца ён і далей, і многімі. Гэта і ёсць яго найлепшы помнік.

А гэты, які мы з вамі, дарагія Алесевы родзічы, сябры, землякі, святочна адкрываем, магутны валун з беларускага поля, хай будзе вечным знакам на матчынай, на бацькавай зямлі, да якое ён, пашыбаваўшы па вялікім свеце, па-сыноўняму пажадаў вярнуцца.

*1995*

## У СВЕТЛАЙ ВЕРЫ*

І мне, дарагія сябры, прыемна быць сярод вас, беларусаў або прыхільнікаў беларушчыны з розных краін далёкага ці блізкага замежжа, зноў сустракацца з вамі, бачыць і чуць вашу шчырасць, заклапочанасць далейшым лёсам нашай мілай, шматпакутнай Радзімы, нашай мовы, нашай будучыні.

І ад учарашніх выступленняў, і ад сённяшняга

* На сустрэчы кіраўнікоў беларускіх суполак у блізкім і далёкім замежжы.

«круглага стала» ёсць у мяне і такое ўражанне,— амаль усе мы, па-свойму, значна лепш ведаем, што і як павінны рабіць другія, а менш пра тое, што павінны рабіць мы самі, прытым рабіць як найлепшым чынам. Была, вядома, крытыка і справядлівая, якое нельга не ўлічваць, аднак было і тое, што можна назваць то наіўным, то дробязным патузваннем, у тым — і кіраўніцтва нашага згуртавання...

І [redacted] з належнай пашанай адношуся,— пачнем з жанчыны,— і да энергічнай ды талковай, абаяльнай у сваёй шчырасці Ганны Сурмач, і да дастойнага прадстаўніка славутага роду Гарэцкіх, змагароў і пакутнікаў, выдатнага беларускага вучонага Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага. Абое яны, як гаворыцца, на сваім месцы, і добра прыйшлося б падумаць, кім іх сёння можна адпаведна замяніць, калі наогул варта апускацца да такое недарэчнай думкі. Ім проста трэба добра памагаць, а крытыкаваць — канструктыўна, у імя нашай агульнай справы.

Два дні мы працуем пад гасцінным дахам Дома літаратара, што таксама ж пэўным чынам сведчыць пра ўдзел пісьменніцкай супольнасці ў барацьбе і працы нашага адраджэння. Чатыры сотні членаў Саюза беларускіх пісьменнікаў не складаюцца, вядома, з адных геніяў ці класікаў,— такога не бывае ў ніводнай літаратуры на свеце. Ёсць і ў нас нейкая колькасць людзей выпадковых, інертных ды кан'юнктурных. Аднак жа большасць у нас, што прыемна падкрэсліць, гэта людзі, якія, як той коласаўскі Сымон-музыка, пачыналі з прызвання, а потым ужо набывалі прафесійнасць, хто з большым, хто з меншым поспехам, колькі ўжо каму з нас дадзена.

Страшная яна — гісторыя нашай пісьменніцкай супольнасці, пачынаючы з канца дваццатых гадоў, калі стаў па-д'ябальску разгойдвацца гулагаўскі генацыд, які давёў калісьці шматлюдную арганізацыю да

сарака членаў, якім быў наш Саюз пісьменнікаў адразу пасля вайны, калі ўжо і я меў гонар быць прынятым у яго.

Праўда, у мяне, як у «заходніка», была і свая нацыянальная перадгісторыя. Вясной трыццаць восьмага года, калі я ўжо не толькі актыўна пісаў, але і пачаў друкавацца ў віленскім «Шляху моладзі», на вайсковай камісіі ў славутым сёння Міры польскі ўжэнднічак спытаўся ў мяне: «Народовосць?» Адказваю: «Бялоруска». Ён глядзіць на мяне, потым запісвае і зноў пытаецца: «Мова мацежыста?» Адказваю: «Бялоруска». Зноў глядзіць, зноў запісвае... А менш чым праз год мяне, радавога марской пяхоты ў Гдыні, як аднаго з больш пісьменных у роце, узялі на часовую дапамогу ротнаму пісару. Са зразумелай цікавасцю я перш за ўсё заглянуў у свой «зэшыт эвідэнцыйны», салдацкую кніжку. І там стаяла — замест «бялорусін» — «тутэйшы», а замест «бялоруска» — «папрастэму». Вось так далікатна рабілася.

Працягам асіміляцыі і для мяне былі пасляваенныя дзесяцігоддзі служэння роднай літаратуры, генацыд зацяжны, больш прадуманы, партыйна, дзяржаўна планамерны, разлічаны на поўную і канчатковую ліквідацыю і роднай мовы, і свайго вобліку. І сумна, балюча бывае ад легкадумных ці злосных незаслужаных папрокаў у адрас нашай літаратурнай супольнасці, у той час, калі, гаворачы пра творчую інтэлігенцыю Беларусі, якраз амаль на адных пісьменніках і ляжала нялёгкая адказнасць за родную справу, і мы з гэтай адказнасцю як мага стараліся спраўляцца. Скажам гэта не без гонару.

Цяпер усе мы апынуліся ў новай атмасферы антыбеларускасці, смярдзючай і па-старому, і па-новаму. І я хачу, з вашага дазволу, звярнуцца да народнай мудрасці, народнага аптымізму, дзе ўсё называецца сваім імем і ў перапрошванні за грубасць не мае

патрэбы. Даўно [redacted] чуў гэта ў сваёй вясковасці і ўсё часцей успамінаю гэтую прымаўку цяпер, у навайняновай атмасферы: «Перажылі лета гарачае — перажывем і гаўно сабачае». Беларусь — з яе слаўнай гісторыяй, з яе прыгожай і надзейнай у жывучасці мовай, з яе працавітым, мужным, сумленным і мудрым народам — жыве і будзе жыць!

У фальклоры, на гэты раз рускім, ёсць і такая мудрасць: «Нет худа без добра». Трагікамедыя рэферэндуму вучыць нас не раздрабняцца на па-секстанцку слабасільныя групоўкі, не фанабэрыцца кожнаму сваім выключным патрыятызмам, а разумна аб'яднацца дзеля святое справы адраджэння і працаваць, працаваць. Вучыцца гэтаму нястомна і самааддана.

Яшчэ крыху асабістага. У маіх бацькоў я дзесятае дзіця, змалку прывык быць меншым. А вось гляджу, што і тут, сярод вас, я ўжо найстарэйшы. А ўсё ж і мне хочацца жыць, працаваць, хочацца верыць! І я ад душы жадаю ўсім вам, мае дарагія, светлай веры ў нашу будучыню і плённай працы ў добрым здароўі.

*1995*

## МУЖНАСЦЬ І МУДРАСЦЬ*

Днямі, калі мне быў прапанаваны высокі гонар выступіць перад вамі, дарагія сябры, калі я ўваходзіў у клопат, што̀ і як сказаць, у памяці ўсплылі радкі незабыўнага Пімена Панчанкі, напісаныя ў франтавым сорак другім, далёка ад паняволенай Беларусі:

І адна у мяне — пра Радзіму —
Сягоння трывога.
І адна у мяне — на Радзіму —
Сягоння дарога.

---

* Уступнае слова на Кангрэсе ў абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры.

Які балючы парадокс, якая сумная рэальнасць, — у мірны час, у сталіцы суверэннай дзяржавы, у цэнтры Еўропы трэба збірацца ў вялікай патрыятычнай трывозе за сваю сапраўдную незалежнасць, за сваё права на родную мову, школу, культуру, за права на дэмакратыю, за найбольш адпаведную ёй Канстытуцыю, за найвярнейшую дарогу ў светлую будучыню роднага народа.

Не бачаны раней нахрап злачыннасці, афіцыйнай ілжы, дзікае падзенне спрадвечнай чалавечай маралі, катастрафічна няспынная хада ўподбежку дарагавізны і ўсеагульнай галечы. А над усім — жахлівы прывід дыктатуры!..

Як быццам наш народ мала яшчэ нацярпеўся, напакутаваўся за вякі. Агонь і меч разнамасных «вызваліцеляў», крывавы бізун прыгону, Курапаты і Трасцянец, і «божы палец», як называлі ў даваеннай Польшчы паліцэйскі гумавы кій, што ў нашы дні зноў уварваўся ў моду...

І самі дзівімся, і людзі дзівяцца, высакародна дзівіўся і наш вялікі зямляк — Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі: як ён выжыў, як захаваў сябе — беларускі народ?!

Дзівіцца трэба яшчэ і з таго, колькі было іх, ахвотнікаў намі пакіраваць, пакрасавацца неабмежаванай уладай на фоне нашай славутай рахманасці, па-невуцку панастаўляць нас, як трэба жыць дома, у межах краіны, дзе сабралася столькі моў і веравызнанняў, як трэба сябраваць з вялікімі і меншымі суседзямі.

Мы ведаем і самі, каго нам і як ды завошта трэба паважаць і любіць на поўначы і поўдні, на захадзе і ўсходзе, перад нікім не стоячы ў агіднай позе беднага, прыгорбленага сваячка, з ліслівым выскалам мангурта, гатовага за нішчымнае сачавічнае пойла на любое ахвярнае слугаванне.

Нам трэба вольная, мірная, нейтральная, дэмакра-

тычная Беларусь. Права на гэта яна заслужыла сваімі пакутамі, сваёй гераічнай барацьбой з нацызмам, сваёю верай у чалавечную справядлівасць. Нам трэба раўнапраўная дружба з усімі народамі, мы любім і ўмеем дружыць. Мы хочам быць не лішнімі, не смешнымі, не жалю, а то і пагарды вартымі ў прагрэсіўнай сям'і чалавецтва, мы хочам, каб нас паважалі, каб з намі лічыліся.

Грубай, нахабнай сіле сваёй і чужой рэакцыі, шавіністычнай ды прафашысцкай дэмагогіі, як бы яе шматвопытныя ці дылетанцка-шустрыя вяршыцелі пад любое святкаванне ні перабельвалі свае хаты-палаты, як бы слінява ні абдымаліся ў патайных нячыстых задумах ды намаганнях, трэба і неабходна бескампрамісна супрацьпаставіць нашу цярплівую беларускую мужнасць, абавязкова спалучаную з абачлівай мудрасцю — на сёння, на заўтра і назаўсёды. Трэба не проста пагаманіць, паахкаць, пакрычаць, сабраўшыся, а сур'ёзна, дзелавіта параіцца, актыўна і разумна вырашыць, што і як трэба рабіць.

А прыгадаўшы, як гэта нашы бацькі, дзяды і прадзеды шанавалі шчырую, справядлівую, святую працу, давайце самі сабе і ўсім добрым людзям і ў гэтай, на жаль, не надта прасторнай, зале, і за сценамі яе, бліжэй і найдалей, па-людску, па-мазольнаму паўторым народнае:

Памагай Бог!

*1996*

## ВОБРАЗ І СІМВАЛ*

Верасень пяцідзесятага года. Залатая свіцязянская восень...

Дзіўнае робіцца з памяццю,— праз сорак шэсць

* На 75-годдзі С. Александровіча.

гадоў не магу прыпомніць, чаму я тады так паехаў: спачатку ў Баранавічы цягніком, затым аўтобусам у Наваградак, чаму не адзін, а з Раманам Сабаленкам, яшчэ не празаікам, толькі паэтам і работнікам абласное газеты?..

Затое ярка і ўдзячна памятаю тую восеньскую красу, а яшчэ і легенду, у той дзень пачутую, ■ пасля і запісаную ў эсэ «Родны кут». Пра тое, як землякі-наваградчане нібыта чулі ад свайго дэпутата — Якуба Коласа, што ён перад смерцю хацеў бы прайсці пехатой па абочыне гасцінца Баранавічы — Наваградак, каб яшчэ раз палюбавацца хараством тых лясоў, палёў і вёсак.

Легенду гэтую мне прыемна згадаць іменна тут, у доме-музеі Якуба Коласа, дзе мы сёння святкуем юбілей аднаго з ягоных былых актыўных ды таленавітых супрацоўнікаў.

Не памятаю, як мы з Раманам Карпавічам выступалі ў наваградскай сярэдняй школе № 1, што размясцілася ў камяніцы былой беларускай прыватнай гімназіі, пабудаванай на складкі небагатага мясцовага насельніцтва, закрытай пілсудчыкамі ў 1934 годзе, як нас там прымалі, як вёў сустрэчу настаўнік роднай мовы і літаратуры, знаёмы нам па выступленнях у перыёдыцы Сцяпан Александровіч.

Добра помніцца затое, што зусім пад вечар мы са Сцяпанам Хусейнавічам засталіся толькі ўдвух і пайшлі да яго на кватэру. Спачатку, праўда, пахадзілі ды пастаялі на замчышчы, каля гістарычных руінаў, любуючыся зверху маляўнічым наваколлем, потым спусціліся з гары па-маладому, ледзь не потырч па крутым зялёным збоччы.

І гаварылі ўсё, гаварылі...

Мне, вядома ж, не ўзнавіць у памяці той нашай гутаркі, памятаецца толькі яе галоўная накіраванасць, дзве асноўныя тэмы — вайна і літаратура. Ад-

ну мы нядаўна перажылі, а без другое не ўяўлялі свайго жыцця. Вайна ў нас была падобная тым, што абодвум — і польскаму марскому пехацінцу, і чырвонаармейскаму горнаму стралку — давялося пабываць у нямецкім палоне, я з-пад Гдыні ў 1939-м, ён з Крыма ў 1942-м, абодва ўцякалі, удзельнічалі ў антыфашысцкім падполлі, партызанілі, абодва ў сувязі з палонам ды ўцёкамі былі на адпаведным падазрэнні... У літаратуры я, на тры гады старэйшы, крыху апярэдзіў Сцяпана, у мяне ўжо выйшлі да таго часу ажно чатыры кнігі,і толькі што, у верасні, «Полымя» надрукавала аповесць «У Забалоцці днее», а ён са сваёй настаўніцкай аддаленасцю ад Мінска то пасылаў туды свае артыкулы, то зрэдку наязджаў у сталіцу з рукапісамі асабіста.

Да гэтай навагрудскай сустрэчы мы былі збольшага знаёмымі, а з таго вечара ўва мне жыве пачатак нашага сяброўства.

Па ходніку доўгай забрукаванай вуліцы, таксама ж у бясконцай гутарцы, дайшлі мы да доміка, дзе Сцяпан кватараваў. А там аказалася, што малады гаспадар — сябар па нямецкім палоне майго старэйшага брата Міхася. Пра што Сцяпан мне загадзя, яшчэ ў дарозе, расказаў. Увосень трыццаць дзевятага хлопцы пабылі ва ўсходнепрускім лагеры каля двух месяцаў, а потым іх, згодна з нямецка-савецкім пагадненнем, якое сёння кваліфікуецца як злачынная змова Сталіна з Гітлерам, адправілі «за Буг», адпусцілі дахаты. Шчасце, якога сам я чакаў два гады і дарма, да небяспечнай рызыкі ўцёкаў... Цёпла помніцца той вечар, шчырае застолле трох бывалых мужчын.

І яшчэ адно помніцца добра,— як мой Сцяпан зусім ужо даверліва паказаў мне сам-насам фота чарнявай беларускай красуні ў белым берэціку касячком, па модзе, «на левае вуха». Дзяўчына вясковая, з-пад Ляхавічаў, працуе ў Навагрудку акушэр-

кай. Ну, і з усмешкай, празрысты намёк на блізкі канец халасцяцкага бытавання.

Як вы здагадваецеся, дарагія сябры, гэта была тая Сцяпанава абранніца, якую мы ведаем, і даўно, хто як Марыю Лукінічну, а хто як проста Марыю, якую мы і вітаем сардэчна на нашай юбілейнай сустрэчы.

Яшчэ адзін успамін.

У польскай Зялёнай Гуры на штогадовым фестывалі савецкай песні і паэзіі мне давялося пабываць вясною 1979-га. Там у мяне, сярод іншых сустрэчаў ды новых знаёмстваў, пераважна з палякамі, адбылося і знаёмства, якое спачатку дзіўным здалося, крыху насцярожыла... Старэйшыя з вас памятаюць, як гэта, нават і ў пасляталінскія гады, няпроста было паехаць за мяжу, колькі гэтаму папярэднічала цягучай марокі, як у Варшаву і з Мінска — за нейкіх семсот кіламетраў, і з Брэста — зусім за няпоўных дзвесце, ехалася толькі цераз Маскву, колькі пачулася ўступных інструкцыяў наконт паводзін з пільнай асцярожнасцю, колькі нябачных праведнікаў сачыла за табою... І вось там, у далёкім заходнім кутку польскіх «вернутых земляў», да мяне раптам падышоў стрымана ўсмешлівы мужчына сярэдніх гадоў, назваўся супрацоўнікам савецкага пасольства. І гэта — заўважце — на добрай беларускай мове... Дні праз два, ужо ў Варшаве, пасля польска-савецкай літаратурнай сустрэчы, мой новы знаёмы запрасіў мяне дахаты. Зноў прыйшлося здзівіцца,— у прасторным кабінеце пустой кватэры, бо сям'я гаспадара ў Маскве, паліцы беларускіх кніг!.. У гутарцы, што спакваля рабілася ўсё шчырэйшай, было, між іншым, названа імя, якое прагучала пэўным сімвалам большага ўзаемаразумення, далейшага яднання землякоў у замежжы. Таварыш дыпламат, аказваецца, пакуль у яго дайшло да адпаведных інстытутаў, навучаўся ў Мінскім бібліятэчным тэхні-

куме, і ў яго быў любімы выкладчык роднай літаратуры Сцяпан Хусейнавіч Александровіч.

Мне зноў прыемна сказаць, што той шаноўны работнік пасольства — наш паважаны маскоўскі госць, адзін з найбольш асвечаных ды актыўных работнікаў нашага адраджэння, вядомы навуковец Аляксей Канстанцінавіч Каўка, сустрэчай з якім мы зноў жа шчыра задаволены.

У пачатку пяцьдзесят восьмага года я выступаў у названым бібліятэчным тэхнікуме, спецыяльна прыехаўшы туды з Дома творчасці «Каралішчавічы». А пасля выступлення і гасцяваў у Сцяпанавай сям'і. Хораша помніцца той зімовы вечар з поўным наборам сямейнай утульнасці, простага ды законнага чалавечага шчасця. З маладою беларускай гаспадыняй — тою, вядома, з таго навагрудскага фотаздымка,— з малымі дачушкамі, са старэнькай бабуляй-татаркай, капыльскай мамай вучонага сына, з добраю гутаркай нетаропкага застолля.

Былі ў нас сустрэчы і іншыя, і нямала, то ў Саюзе пісьменнікаў, то ў якой-небудзь з рэдакцый, то ў сумеснай паездцы на выступленне ці на які юбілей, то ў актавай зале філалогіі БДУ, дзе Сцяпан працаваў, куды і [redacted] даволі часта запрашаўся.

Былі шчырыя гутаркі сам-насам і паміж найбліжэйшымі сябрамі, калі гаварылася і пра трагічны лёс «нашых святых пакутнікаў» (гэта Сцяпанавы словы), яшчэ задоўга да рэабілітацыі вельмі нямногіх жывых і жудаснага мноства закатаваных. Гаварылася пра наша надзённае і нашу надзею на прасвятленне, што дапамагала верыць і працаваць. Былі радасці адліжных гадоў пасля XX з'езда партыі, а потым зноў прыйшлі трывогі, калі новым наваратам пайшлося пад адхон, у панура-мляўкія гады застою з планамерным нахабствам русіфікацыі. Помніцца радасць, з якою Сцяпан, вярнуўшыся ў красавіку 1968-га з Чэ-

хаславакіі, дзяліўся весткамі з «пражскай вясны». Потым была польская «Салідарнасць». Прыйшла наша «перабудова», павеяла адраджэннем. Помняцца іншыя смуткі і радасці...

Я ўжо думаў пра гэта раней і неаднойчы, крыху пісаў пра такое, але дазволю сабе паўтарыцца. Як гэта добра, як хораша ўжыліся ў нашу беларускую літаратуру і яўрэй Рыгор Бярозкін, і рускі Генадзь Кісялёў, і татарын Сцяпан-Мустафа Александровіч.

Першага з названых мы часта згадваем і ў гутарках, і ў друку як добрага сябра і выдатнага крытыка, пераважна паэзіі.

Другі — сярод нас і сёння, па-ранейшаму творча актыўны, гатовы належна выступіць тут, на нашым свяце.

А трэці — наш юбіляр, жывая памяць пра якога сабрала нас тут, светлы вобраз якога прыгожа і сімвалічна гаворыць пра беларускую дружбу яшчэ і з татарамі, шчырую, традыцыйную дружбу, з якою радней, утульней на нашай агульнай, такой шматпакутнай, такой цудоўнай зямлі.

*1996*

## ЗМЕСТ

Над фотаздымкам . . . . . . . . . . . . 5
Пра наіўнасць . . . . . . . . . . . . 25
З пявучай памяці . . . . . . . . . . . 29
Тэма . . . . . . . . . . . . . . . . 36
Іскрынкі
Дзядок . . . . . . . . . . . . . 39
Пястота . . . . . . . . . . . . . 42
Дамаўнік . . . . . . . . . . . . 45
Глыбіня . . . . . . . . . . . . . 48
Пехатою . . . . . . . . . . . . . 49
Гімнастыка . . . . . . . . . . . 52
Почырк . . . . . . . . . . . . . 54
Здалёк . . . . . . . . . . . . . 57
Пісулька . . . . . . . . . . . . 60
З людзьмі і сам-насам
Дзевяноста трэці . . . . . . . . . 64
Дзевяноста чацвёрты . . . . . . . 105
Дзевяноста пяты . . . . . . . . . 168
З розных гадоў . . . . . . . . . . 233
Жывыя пісьмы . . . . . . . . . . . 278
Слова з нагоды
Ад перакосу да перакосу . . . . . . 302
Залежыць і ад нас . . . . . . . . . 304
Пункт апоры і запас спакою . . . . 312
«З Богам у сэрцы» . . . . . . . . . 316
Знак на роднай зямлі . . . . . . . 321
У светлай веры . . . . . . . . . . 323
Мужнасць і мудрасць . . . . . . . . 326
Вобраз і сімвал . . . . . . . . . . 328

Брыль Я.

Б89 Дзе скарб ваш: Лірычная проза.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 334 с.

ISBN 985-02-0328-5.

У новую кнігу народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля ўвайшлі апавяданні «пра час і пра сябе», эсэ на вострыя тэмы сучаснасці, лірычныя запісы і мініяцюры, дзе і роздум пра найгалоўнейшае ў жыцці, і шматфарбныя замалёўкі прыроды, сцэнкі з народнага побыту, і здаровы, іскрысты гумар.

ББК 84(4Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

***Брыль Янка (Іван Антонавіч)***

Дзе скарб ваш

*Лірычная проза*

Рэдактар Т. М. Турчыняк
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова
Карэктар Я. А. Бебель

Здадзена ў набор 21.11.96. Падп. да друку 01.04.97. Фармат 70×100 1/32. Папера афс. № 1. Гарнітура тып. Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 13,65. Ум. фарб.-адб. 13,65. Ул.-выд. арк. 13,46. Тыраж 3500 экз. Зак. 1004.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.